АЛЕСЬ
КАЖАДУБ

# ЛЕСАВІК



АЛЕСЬ
КАЖАДУБ

# ЛЕСАВІК

Аповесці
і апавяданні

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1987

# ВЫСОКА СОНЕЙКА, ВЫСОКА

Баба Зося, выйшаўшы з двара свае хаты, заўсёды любіла на яе азірнуцца — і азірнуцца ўжо з такое адлегласці, каб убачыць яе ўсю разам, ад падмурка да буславага гнязда на страсе. Гэтая звычка з'явілася даўно, яна і не ўспомніць калі, аднак здаецца — што якраз з бусламі. Буслы абралі саламяную страху яе хаты недзе адразу па вайне. Яно і не дзіўна. Тады тутэйшыя лясы з балотамі былі добра-ткі папалены, а іхнія Валюхі найбольш, бо стаялі ў прыдатным месцы, недалёка ад чыгункі, вёў праз іх і старадаўні шлях — як бы тутэйшыя палешукі ні пільнаваліся, як бы ні сцерагліся, а наканавана ім было ў вайне гарэць. Яны і гарэлі колькі разоў, жанкі з дзецьмі ўцякалі да Тамашэўскага лесу, за імі ледзь сунуліся дзяды — і пасля першага пажару як бы прывыклі, што гараць. Да ўсяго прывыкае чалавек, здавалася, прывыклі валюхоўцы і да гэтага, аднак вось апошнім разам, калі толькі нямногія кінуліся ратавацца — нямногія і засталіся. А Зося тым часам жыла як напятая перасцярогай: як што якое, адразу хапала Колю з Пецем і кулём кацілася ў лагчыну за гародам — дзякуй богу, што ўкрывалі хмызнякі тую лагчыну, што цурчэў у ёй раўчучок, і галоўнае шчасце — што пачыналася яна адразу за іхнім гародам. Яны тады разам з Радзюковай Маняй і Тэкляй Хмаручыхай выратаваліся. І другое вялікае шчасце — не згарэла хата, засталася, мусіць, з-за таго, што адышлася крыху ад астатніх, стаяла не тварам да вуліцы, а як бы адвярнуўшыся ад яе. Дык вось буслам тады не вельмі было выбіраць, дзе сяліцца. Зосіна хата не надта высока ўзносілася грэбенем страхі над зямлёй, не магла раўняцца з вяршалінамі явараў і таполяў, якія, праўда, скрозь былі папалены і тырчэлі з зямлі,— аднак буслы прыляцелі на яе і зрабілі гняздо. Там, дзе ўпіраўся рагацінаю ў неба вільчык, цяпер мацавалася вялікае, акуратнае гняздо, яно ўжо зраслося з хатаю, і з яго штолета раскочваўся над вёскай гулкі пошчак,

так далёка, што Зосі здавалася — чуць яго павінны паўсюль.

Колькі гадоў назад сын Пятро ўзяўся перакрыць ёй страху. Калі старую страху скідалі — яна ўжо і не з саломы была, а з чагосьці іншага, невядомага, няйнакш — са спрасаванай трухі. Пятро і ўсе суседзі гаварылі, каб накрыць хату шыферам, аднак Зося не захацела. «Хата з дрэва — і страха хай драўляная будзе!» — сказала Зося, як сякерай адсекла. Пятро трохі паўпарціўся, бо дэфіцытны шыфер у яго быў, застаўся яшчэ з таго часу, калі ён стаўляў сабе новую хату, вялікую, як стайня, але здаўся. «Уперлася, як чорт у межу!» — махнуў ён рукой і паехаў у раён па гонту. Ледзь не месяц прасядзеў ён на страсе, тутукаючы малатком не горш за дзятла — страха ў бабы Зосі засталася драўляная. Аднак больш, чым з шыферам-гонтай, набраўся бяды Пятрусь з гняздом. Спачатку маці проста прасіла, каб ён, крый божа, не кранаў гнязда, потым, калі Пятро пачаў падбірацца да вільчыка, сачыла за ім з зямлі, закрываючыся рукой ад веснавога сонца, крычала: «Гняздо, кажу, не чапай!.. Глядзі, яно, можа, сядзіць нямоцна, то абыдзі... Зусім там страху не чапай, хай там такая і застаецца!» Пятро крактаў, але не абзываўся, адно мацней, чым заўсёды, ляскаў малатком. Ды ў нейкую хвіліну не хапіла і ягоных нерваў — са страхі долу паляцелі гонтачкі, цвікі, вяроўка, за імі скаціўся і ён сам, падрапаны і злы, як чорт. «Хай яе пярун бярэ, гэтую тваю страху з гняздом,— крычаў ён,— не палезу болей! Жыві з дзіркаю, хай дажджом зальё!.. З мяне хопіць, во дзе ты ў мяне са сваёй буслянкаю!..» Але пабег не з двара, а ў хату. Зося трошкі перачакала, таксама зайшла туды, і пакуль Пятро нагбом піў з гладышкі малако, лагодненька, лісліва, не гаворачы, а буркочучы, бы варкун, голуб лясны, пачала даводзіць, што няможна гэтак на старую злаваць, можа, што і сказала пад руку, але ж ёй буслянкі шкода, бо калі буслы сваё гняздо кінуць — звядзецца і хата. Пятро яшчэ колькі часу наравіста круціў галавой, потым сказаў: «Яшчэ што скажаш — і астатняе раскідаю». І хутка зноў палез на страху, зноў зацюкаў малатком, баючыся і дакрануцца да тое буслянкі, хай яна згарыць, цьху!

Як бы там ні было, буслы прылятала штогод, і баба Зося надта любіла паглядаць на іх — менавіта паглядаць, не таропіцца вачыма, як на дзіва дзіўнае, а проста абгладжваць іх позіркам, як бы неўпрыкмет, не назаляючы. Буслы ж, канечне, былі не дурнейшыя за чалавека, яны ўсё

ведалі, зусім не зважалі на людское глупства, калі далятала да іх п'яная песня ці дурны посвіст, а жылі па аднаму закону — жыць як трэба. Каб маглі і хацелі, яны б, мусіць, і запыталіся ў каторага з людзей, навошта ён займаецца глупствам — ды, зрэшты, на гэта ў іх і часу не было. Дальбог, бабе Зосі буслы здаваліся такімі ж разумнымі, як і яна сама, ніяк не меней. Яны і жылі з ёю ў адной хаце, і вядома, што яна аб іх клапацілася. Як і яны калі-нікалі падказвалі ёй, што трэба рабіць і чаго чакаць. Ды пра гэта, увогуле, ніхто не ведаў, нікому і не трэба было гэта ведаць.

Вось і зараз баба Зося азірнулася — у гняздзе быў толькі адзін бусел, пэўне, бусліха, яна выразна вымалёўвалася ў нябеснай яснасці, стаяла нерухліва, як на варце. Баба Зося ведала, што ў нагах бусліхі куёўдзіцца бусляня, растапырвае крылы і разяўляе чорную дзюбу, але відаць яго не было. Бусліха павяла дзюбаю сабе пад ногі, нешта, мусіць, сказала, і адразу пачулася слабое і кароткае трашчанне — бусляня не ўмела яшчэ спяваць свае песні, песня прыходзіла толькі тады, як убіраліся ў моцу крылы. Баба Зося ўжо шмат разоў бачыла бусляня, яно, у рэдкія хвіліны застаўшыся адно, узбівалася на самы край буслянкі і пазірала долу, спрабуючы асэнсаваць зямлю пад роднай хатаю, велізарную прастору, што разляглася на ўсе чатыры бакі. Але пазірала яно без страху, яно проста прымервалася, распраўляючы крылы і як не закідваючы на спіну галаву — так рабілі ягоныя бацькі, калі збіраліся аб сабе абвясціць. Пошчаку ў бусляняці яшчэ не атрымлівалася, але ён ужо спеў.

Сёлета, дзякуй богу, у буслоў было толькі адно бусляня. Баба Зося надта шкадавала, калі ёй іншым годам даводзілася падбіраць пад гняздом мёртвае бусляня. Гэта здаралася тады, калі выводзілася не адно птушаня, а больш і буслы не маглі іх пракарміць. Тады яны ці самі выкідвалі з гнязда слабейшага, ці гэта рабіў адзін з братоў, той, хто вылупіўся першым. Буслы выкідвалі птушаня — значыць, ці быў, ці чакаўся няўрод. Часцей за ўсё стаяла альбо збіралася здушыць зямлю сухмень, і тады буслы да яе рыхтаваліся. Касцерскае балота хоць было яшчэ вялікае, аднак у вялікую гарачыню ўсыхала і яно. Тым больш апошнім часам ускрай балота ўсё мацней раўлі трактары і экскаватары, якраз з боку іхніх Валюхоў паўзлі яны, і балота адступала, падавалася назад,— значыць, і буслам даводзілася лятаць па корм далей, як заўсёды.

Буслы, праўда, мералі не адно Касцерскае балота, яны добра прызвычаіліся і да сенакасілак, хадзілі за імі, як навязаныя, хапалі жаб і мышэй, якіх распуджвалі машыны. Аднак у сухмень корму на дваіх птушанят ім усё адно не хапала.

— Стаіць, сцеражэ,— сказала баба Зося.— Ну то і я пайду.

Гэтыя аглядкі на сваю хату з буслянкаю на страсе для бабы Зосі даўно ўжо былі тым жа, што калісьці жагнанне набожнага чалавека. Чалавек, на нешта наважыўшыся, нешта прыдумаўшы, нешта зрабіўшы, жагнаўся, прасіў ці дзякаваў,— баба Зося аглядалася на сваю хату. Хоць і быў у яе хаце абраз, вісеў у куце, акуратна ўбраны набожнікам, доўгім вышываным ручніком, аднак яна так і не прывучылася гаварыць з ім і жагнацца. Абраз вісеў, бо ён вісеў у яе бацькоў, у даўнейшай яе хаце, а баба Зося амаль усё ў жыцці рабіла так, як людзі рабілі да яе. Канечне, многае ў жыцці памянялася за тыя сем дзесяткаў гадоў, што пратупала баба Зося па зямлі, аднак яна ніколі не думала пра тое, што гэта і яна нешта мяняла, на нешта ўплывала,— яна проста жыла, стараючыся жыць па-людску, як тыя людзі, якія былі побач з ёй, а цяпер ляжалі на могілках — і якіх ніколі не ўспаміналі благім словам. Благі чалавек на вёсцы, зрэшты, быў рэдкі, яго таксама маглі ўспамінаць — ды ўспамін успаміну не пара. Баба Зося ўспамінам называла толькі тыя словы, якія прыходзілі да людзей на радуніцу. Чалавек жыве ўсё ж не благой памяццю, баба Зося ў гэта верыла.

Сённяшні дзень быў з тых, якія ў чалавечым жыцці пракідаюцца рэдка. Сёння жаніўся ўнук бабы Зосі Ігар, Пятроў сын. Ці даўно сам Пятро пабраўся з Нінаю, ці даўно будаваў сваю хату, вялікую, на чатыры пакоі,— а вось ужо і ягоны сын знайшоў сабе пару. Давялося і Пятру зазнаць: малыя дзеці — малы клопат, вялікія дзеці — вялікі. Вяселле — гэта якраз той дзень, калі бацькі маладых мітусяцца, лётаюць, галаву згубіўшы, не ведаюць, за што рукі зачапіць, бо столькі ўсяго валіцца на іхнюю галаву, пра столькі неадкладных спраў трэба памятаць, што не цяжка і разгубіцца. Дальбог, во ў такі дзень каторы з бацькоў скамянее на імгненне, бы яго пярун працяў, утаропіцца перад сабой невідушчымі вачыма і зразумее — во ён, сапраўдны клопат, во яно, бацькоўскае гора, гэта табе не смаркаты нос выцерці. А зразумеўшы — яшчэ барзджэй пабяжыць з хаты ў склеп, са склепа да суседзяў, ад іх

яшчэ некуды — туды, куды і не бегаў ніколі. Такі сёння быў дзень — вясельны.

Баба Зося выстраілася, зразумела, у лепшае, у тое, што лічыла лепшым у сваім маёнтку, як гаварыла яна, смеючыся, пра нажытае. Але які-ніякі — а маёнтак быў, баба Зося ўсе гэтыя сукні, хусткі, абрусы, накрыўкі з ручнікамі берагла больш пільна, чым грошы. Праўда, тых грошай амаль ніколі і не было, ды гэта ўжо іншая рэч. Яна была ў святочнай спадніцы і кофце, падоранай нявесткай, Нінаю, пад кофту паддзела кашулю, якую калісь вышывала сама, на плячах — апінка, каляровая хустка з доўгімі кутасікамі. Выходзячы, яна доўга вагалася, браць ці не браць плюшавую жакетку — і ўсё ж узяла. Хай і добрае зараз надвор'е, і сонца амаль не спаўзае з неба, а ўсё ж бабе яе веку не да твару ісці ў людзі без жакеткі. Няхай хоць у руках — а будзе.

Канечне, за гэтыя дні, асабліва за апошні тыдзень, баба Зося столькі перарабіла работы, што і падумаць страшна. Яна нават у сваёй хаце стыкалася адно ўрыўкамі, а больш таўклася ў сынавай. Вяселле — вяселле і ёсць. Яна і варыла, і парыла, і тушыла, і смажыла, нешта чысціла, штосьці парадкавала, загадвала сама і выконвала чужыя загады, трымала ў галаве столькі драбніц, што іншы раз здавалася — зараз тая галава трэсне, як пераспелы кавун,— і пагатоў. І ўсё думалася, што на нешта важнае яны з нявесткай Нінай забыліся, баба Зося ажно поначы прахаплівалася, бо снілася пра тое самае забытае. Яно, праўда, было каму памагаць — не заставаліся ўбаку суседкі, ледзь не начавала ў хаце сястра Ніны — Тамара, аднак галоўны цяжар ляжаў на Ніне і на ёй, бабе Зосі. Калі падумаць, то гэтае вяселле ладзілася бадай для паловы вёскі, а вёска іхняя не маленькая, паўтары сотні двароў. Пятро сказаў, што абавязкова прыйдуць старшыня калгаса Кунцэвіч, дырэктар школы Левашоў, прыедзе гарадская радня маладой, таксама не простыя людзі. І Гасцілы (Пятро Сямёнавіч Гасціла, яго жонка Ніна і баба Зося з імі, Зося Гасціліха) стараліся. А ім і нельга зрабіць кепскага вяселля. Адно — як гэта ты будзеш абы-якім да вяселля роднага дзіцяці, другое — Пятро Гасціла ўсё ж брыгадзір, чалавек вядомы і паважаны, вяселле ягонага сына павінна было запомніцца вяскоўцам. Пра гэта было ўжо не раз перагаворана — найбольш Нінаю,— і гэтак ужо лічыла не толькі яна, а ўсе ў сям'і. Ніна ўмела давесці свайго, гэта яна рабіла не крыкам, а ўгаворам. Баба Зося іншы раз дык

здзіўлялася, як гэта Німіны думкі непрыкметна і лёгка рабіліся яе ўласнымі. Але гэта якраз было і добра, бо з яе Пецем па-іншаму нельга. Той быў вельмі ўпарты, і калі што ўлазіла ў галаву — адразу бег рабіць, не хацеў слухаць ніякіх пярэчанняў. Ніна ж з ім не сварылася, аднак рэдка што без яе сапраўднай згоды Пятру ўдавалася зрабіць. Ён, бывала, і злаваў, але характарам быў адыходлівы, махаў рукой і чакаў, пакуль не прыплыве ў рукі новая забаўка. Дальбог, яго як шукалі розныя дзівацтвы, і ён насіўся з імі, як дзіця з цацкаю. Падлеткам ён калупаўся з радыё, што само, без ніякіх правадоў, гаворыць, зрабіў аж некалькі такіх скрыначак, слухаў іх у навушнікі. Потым заняўся музыкай, купіў баян, не выпускаў інструмент з рук вечарамі, спрабуючы выціснуць з яго якую мелодыю. Баян рыпеў, захліпаўся, надсаджваўся — але не граў. Баянам ён займаўся адразу пасля таго, як ажаніўся, і не кідаў ён яго доўга. Пасля пад павеццю пачалі з'яўляцца жалязякі. Пятро прывозіў іх і сам на сваім матацыкле, падкідваў іх і сёй-той з механізатараў. Гаварылі, што Пятро хоча зрабіць сабе машыну, такую, каб ездзіла па любых дарогах. Ды Ніна пастаралася — і жалязякі памалу пазнікалі, каторыя звалок на металалом у школу Ігар, каторых, мусіць, забрала нячыстая. А вось з апошняй прыдумкай мужанька, з апенькамі, Ніна праэявала, не ўгледзела той бяды, якая прыйшла з апенькамі.

Нядаўна, вясны тры таму, Пятро пачуў па радыё ці вычытаў у газеце, баба Зося ўжо не помніць, пра тое, як можна развесці каля хаты грыбы. Пятра хлебам не кармі — давай што незвычайнае. Ён адразу загарэўся, пачаў дзейнічаць. Нездарма кажуць: на што добрае часу ніколі не знойдзецца, на благое ж ніякая сіла не ўтрымае, на галаву чалавек стане, а дойдзе і зробіць. Вядома, што ў брыгадзіра ні выхадных, ні прахадных, не паспееш са жнівом управіцца, як ужо сеяць трэба, кожны дзень чакае тэрміновы нарад,— на свае конікі час Пятро знаходзіў заўсёды. Ён мудрагеліў як не ўсю восень, аж да замаразкаў. Хадзіў у лес па грыбы — а раней яго ў тым лесе бачылі, мусіць, гадоў дваццаць назад,— распілоўваў бёрны, таксама спецыяльна прывезеныя з лесу, рабіў у цэбры мешанку з грыбоў — няйначай, збіраўся частаваць парсюкоў прысмакамі — і не зважаў ні на якія кепікі. Ніна дык і смяялася спачатку. «А паглядзіце, маці, што з чалавекам робіцца,— гаварыла яна да Зосі,— здурнеў пад старасць. Насмыкаў якіхсьці аскабалкаў, тры начы ў цэбры з грыбной мешан-

кай дзяржаў, цяпер іх за хлявом у зямлю ўкапаў. Здзяцінеў мо?» — «От пабачыш, што надвосенню будзе,— усміхаўся Пятро.— Уся вёска пазайздросціць. Ты бачыла, каб грыбы на гародзе раслі? А ў нас шышаком сядзець будуць. Ні ў які лес не трэба будзе хадзіць. Пайшла на гарод, назбірала грыбоў на вячэру. У нас усё па навуцы. Вось толькі на якіх пяньках апенькі лепшыя —на асінавых ці на дубовых?» Ніна махала рукой — хай забаўляецца. Усё лепш, чым з паўлітэркаю гуляцца. Пятро адзін час моцна пачаў браць — як толькі паставілі брыгадзірам,— аднак потым кінуў, не зусім кінуў, але выпіваў ужо многа меней і радзей. Ніна трошкі пабойвалася, што калі ў яго не будзе вось гэтых забавак — яму загарыцца піць.

Баба Зося таксама не любіла, калі Пятро займаўся дуратой, блазнаваў, аднак вучыць яна ўжо даўно не вучыла. Раней трэба было. Тады, толькі даведаўшыся пра грыбы, яна проста пачала гаварыць, што добра было б нарыхтаваць дроў — не паспееш агледзецца, зіма прыйдзе, а вось пакуль добрыя дні, то і прывезці можна, і парэзаць, і пабіць іх. Шчыра кажучы, ёй не было чаго хвалявацца з-за дроў, бо Пятро ніколі не зацягваў да зімы, рабіў усё калі трэба, ды і наогул леташніх дроў у кастры было ледзь не на зіму, аднак яна, тым не менш, гаварыла — трэба дровы. Пятро згадзіўся — трэба дык трэба, зробім. Ён прывёз бярозавых, прыйшоў з бензапілою, папілаваў. І тады ніхто больш не ўспомніў на тыя клятыя апенькі, бо іх яшчэ, увогуле, і не было. Каб жа ведаць, дзе спатыкнешся. А ўжо наступнай надвосенню Пятро паказаў маці, жонцы, сыну і суседзям грыбы, якія сапраўды выраслі на цурбанах. Гэта было недарэчна, але яны густа абселіся на ўкапаных у зямлю слупках, былі добрыя, моцныя, ажно на выгляд смачныя. «Во так! — гаварыў Пятро.— У французаў грыбы можна разводзіць, а ў нас не? Парастуць, як міленькія. Колькі трэба, столькі і вырасце. Яшчэ купляць да мяне прыйдуць. Ніна, гандляркаю пойдзеш? Бачыла, як бабы на базары прадаюць? Во і ты так будзеш».— «Сам свае дурныя грыбы прадавай,— адказвала жонка,— харошыя грыбы ў лесе растуць, а гэтых, пэўне, і есці няможна».— «Як гэта няможна? — абураўся Пятро.— Грыбы як грыбы, стопрацэнтныя. Сама можаш не есці, а мне каб была смажанка!»

Ён і сапраўды, магло каму здацца, наваражыў, як тут кажуць — урабіў з гэтымі апенькамі. Наступным летам яны паперлі ўжо дурам, абселіся не толькі на розных цур-

банах, але і на сцяне хлява, на плоце, поўна іх было ў бэзе, а галоўнае — яны перакінуліся на сядзібу Пятровага суседа, Базыля Скібы. Скіба быў не тое што сябрам Пятра — ён быў трохі ад яго старэйшы,— але і не ворагам. Яны неяк мірыліся. Галоўнае, што шкодзіла Базылю ў вачах людзей,— ягоны язык. У цвярозага Скібы язык хоць і быў весялейшы, чым у любога іншага чалавека,— але гэта зусім не тое, што язык у Скібы п'янага. Адна рэч проста балбатаць пра ўсё на свеце, другая — шукаць з усімі наўкола сябе сваркі. П'янага Скібу вытрымаць было дужа цяжка, ды, праўда, піў ён не гэтак і часта. Чалавек прывыкне да многага — прывыклі валюхоўцы і да Скібавых выбрыкаў. Дык вось, сёлета апенькі вылезлі на Скібавым двары, іх можна было ўбачыць на ягоным плоце, на сцяне ягонага хлява, падабраліся яны і пад хату.

Пятро, які спачатку не мог нарадавацца на свае апенькі, не мог на іх нахваліцца, на другое лета ўжо не радаваўся, а здзіўляўся. Сапраўды, тыя не раслі, а проста штурмавалі сцены і плот, як ён і прадказваў, шышаком, вялікімі сем'ямі рассаджваліся ўсё далей ад родных яловых і асінавых цурбаноў, на іх, дарэчы, апенькаў ужо амаль не было. Валюхоўская зямля апенькам не тое што падыходзіла — яны на ёй раслі як на дражджах. Калі ж Ігар сказаў, што хутка яны будуць жыць у хаце з апенькаў і хата будзе свяціцца, як гнілушка, ён ужо не засмяяўся, а пайшоў скалупваць самыя нахабныя, тыя, што лезлі на вочы.

А калі Базыль паведаміў Пятру, што на ягоным хляве таксама выраслі грыбы, асаблівай радасці не выказалі ні адзін, ні другі. Пятро нават насцярожыўся. Тым больш, ён не ведаў, як гэтыя самыя апенькі будуць расці далей. Што ні кажы, а магло быць усякае. Адным словам, не прыйшоў ён у захапленне ад сваіх апенькаў, якія перабраліся ўжо на суседскі двор. Ён нават падумаў, што грыбам усё ж самае месца — у лесе. Аднак зрабіць з імі мог зусім нямнога — толькі зрэзаць ці скалупнуць тыя, што вытыркнуліся. А дзе яны яшчэ акажуцца — гэтага ўжо не мог ведаць ніхто, гэта была лясная таямніца, бо грыбы ў лесе хаця і растуць — ды не пад кожным кустом. На тое, каб прадказаць месца, дзе вырастуць грыбы, навука трэба была яшчэ большая, чым развесці іх на цурбанах. Пятро, гаворачы са Скібам, толькі пакруціў галавой — бач ты, апенькі якія порсткія, што тыя вераб'і пырхаюць з двара на двор, гэтак яны па ўсёй вёсцы разляцяцца. Скіба гума-

ру ў сітуацыі не зразумеў, ён адно чмыхнуў і, як кажуць, закапыліў губу, бо калі грыбы пачнуць расці на людской хаце — тут не да смеху. Зразумеўшы гэта, Пятро тады зрабіў выгляд, што да Базылёвай хаты не мае ніякага дачынення, што ў гэтай справе ён прыпліт-каляда, выпадковы чалавек — і на гэтым яны разышліся.

Вядома, што ў лесе апенькі растуць як бы дзвюма хвалямі — адна прыпадае на лета, другая — на восень, яны і зваліся летнімі і восеньскімі апенькамі. Гэтыя ж апенькі, свойскія, нічога не ведалі пра дзве хвалі, пра лета і пра восень, яны проста раслі, як пустазелле ў агародзе, не мог тое пустазелле выбіць град, не высушвала сухмень, не залівалі дажджы, не маглі яму даць рады нават гаспадарскія рукі, бо як ні глядзі за градамі ці за бульбай — а абавязкова вока натыркнецца на асот, бярозку ці свірэпку. У апенькаў і было штосьці ад пустазелля, бо ні баба Зося, ні Ніна іх не ўпадабалі, як ні ўгаворваў іх Пятро — не збіралі гэтых грыбоў і не рабілі смажанкі. Ды і пасля таго, як апенькі паказаліся ў суседнім двары, Пятро зусім кінуў пра іх успамінаць, яны яму раптам збрыдзелі. Такое з Пятром ужо бывала неаднойчы. Як бы ні захапляўся ён чымсьці адным — машынамі, музыкай, рыбаю,— нейкага дня гэта яму раптам надакучала. Адным днём ён усё кідаў — і больш ніколі да сваёй забаўкі не вяртаўся. Пятро на апенькі стараўся забыцца, ды тыя ўжо самі не адставалі ад яго, цягнуліся за ім хвастом. Куды Пятро — туды апенькі, не самі яны, на тонкіх ножках, у карычневеньких брылях, дык чуткі пра іх, пагалоскі. Магло здарыцца, што перарастуць яны ў мянушку — Апенька. Гэтага Пятро якраз і баяўся больш за ўсё. Ён павыдзіраў напаўструхлелыя цурбаны, яшчэ ўвесну, як толькі сышоў снег, абліў растворам дусту зямлю ў тых месцах, дзе гэтыя паскудныя апенькі браліся летась,— не памагло. Аднак мянушка яшчэ не драпала вуха, не злятала з суседскіх языкоў, лунала пакуль у паветры толькі яшчэ яе адгалоссе — ды Пятро баяўся і яго.

Але надышло, навалілася вяселле — і ўжо было не да апенькаў ні Гасцілам, ні вяскоўцам.

Зрэшты, час для вяселля быў выбраны не надта прыдатны, баба Зося гаварыла пра гэта не аднойчы, з ёй усе і згаджаліся — жніво наперадзе, бацька і сам жаніх прападаюць на рабоце з цямна да цямна,— ды тут заўпарціўся Ігар. «Як сабе хочаце, а вяселле будзе праз тыдзень у суботу,— сказаў ён.— Не зробіце стол — абыдземся без яго.

Паставім у сельсавеце штамп у пашпарце — і ўсё. Яшчэ лепей атрымаецца, менш галава будзе балець». Вядома, маладое дурное, іхняга розуму якраз магло хапіць на тое, каб толькі распісацца ў сельсавеце. Бацькі трохі пасварыліся, ды саступілі. І закруцілася кола, усчалася мітусня, жанчыны спалі толькі прымружыўшы вока.

Дзеўку Ігар браў не валюхоўскую, знайшоў ён сабе хамут на шыю аж у Церабеях, вёсцы, што стаіць на Месяцвозеры, кіламетраў за дзесяць адсюль. Нездарма кажуць: хоць сава, абы з другога сяла. Але не тое дзіўна, што Ігар жэніцца, а тое, як хутка ён акруціўся. Здаецца, толькі па вясне, у маі, прыйшоў ён з войска — і вось, калі ласка, вяселле. Ды і з Валюхоў дзеўкі ў Церабеях не згледзіш, туды схадзіць трэба, і не адзін раз. Баба Зося не можа сабе ўзяць у галаву, калі ён паспеў выхадзіць сабе гэтую церабееўскую прыгажуню. Але ж паспеў! Праўда, у Пятра матацыкл ёсць, пэўне, на ім Ігар і ездзіў. Але і добра, што гэтак хутка Ігар вылюдняўся, бо чалавек без жонкі — не чалавек. Адзін не чалавек, так, як гарох пры дарозе: хто ідзе, той шчыпне.

Яшчэ здаля баба Зося заўважыла мітусню вакол хаты Пятра. Але ж нічога дзіўнага, яна сама з самага ранку таўклася на гэтым двары, да сябе пайшла апрануцца ў святочнае. Пятро жыве асобна ад яе гадоў дзесяць, а то і болей. І новую хату ён не захацеў стаўляць побач з бацькоўскай, праўда, там і месца прыдатнага не было, а ўсё ж бабе Зосі было крыўдна. Здаўна дзеці, калі аддзяляліся ад бацькоў, стаўлялі хату на гэтым жа двары. Канечне, няма чаго гаварыць, паставіў ён новую хату не гэтак і далёка, метраў за сто, захацеў жыць не хутарком, а на асфальтаванай вуліцы. Ну то што ж — захацелася, хай жыве. Толькі на вулічных хатах буслянак няма. На дрэвах побач з хатамі яшчэ сустракаюцца, а на стрэхах — няма. Баба Зося гаварыла сыну, каб ён умацаваў на страсе кола, аднак на дыбкі ўстала Ніна. «Няма чаго новую хату псаваць,— сказала яна.— Тое гняздо — як гузак на галаве. Хай буслы на старых хатах сядзяць. Не хапала яшчэ, каб людзі смяяліся». Больш з буслянкаю баба Зося не назалялася. Не ёй у новай хаце жыць, хай робяць што хочуць. Можа, і праўда непрыгожа, каб на шыферным даху ляпілася буслянка. У яе самой буслы жывуць — і добра.

Хоць меншы сын і аддзяліўся ад маткі — старэйшы, Мікола, даўно з'ехаў у Сібір, жыў там з жонкай і трыма

дзецьмі, за ўсе гады прыязджаў ён толькі двойчы,— баба Зося амаль не адчувала, што яна жыве адна. Як быў малы, дняваў і начаваў у яе Ігар, прыходзілі і суседскія дзеці. Выраслі адны — паспявалі другія. Яе двор быў так добра абжыты дзятвой, што яна і не ўяўляла свае хаты без дзіцячых галасоў, без іх гульняў, цацак, без іхніх смеху і слёз. Дзяўчынкі ў яе драўляных начоўках клалі спаць сваіх лялек, на лавачцы расказвалі адна адной страшныя гісторыі і дзяліліся сакрэтамі, хлапчукі больш бегалі вакол хлява, гулялі ў вайну і вучылі на «пагранічніка» свайго сябра — Жука, нязлога чорнага сабаку з белай плямай на адным воку. Бывала, што ў хаце ўсчынаўся такі тупат з грукатам, узнімаўся такі гармідар, што баба Зося венікам выганяла ўсіх на вуліцу — у хаце нельга было не тое што спаць, а і рабіць нешта па гаспадарцы. Баба хоць і крычала на дзяцей, хоць і махала на іх венікам — яны яе не баяліся. Вечарамі заседжваліся ў яе суседскія жанкі, правілі навіны, скардзіліся, пыталіся парады, наракалі на мужоў ці, наадварот, радаваліся якой удачы — баба Зося была ім як свая. Не адна прыходзіла да яе пагаварыць, не з адной яна радавалася добраму пісьму ад дзяцей. І баба Зося ніколі не замыкала свае хаты. Ад каго ёй было замыкаць? Зладзеяў на вёсцы амаль не бывае, бо ў суседа, вядома ж, не ўкрадзеш, а ўкраўшы — не схаваешся. Не, баба Зося, хоць і жыла даўно адна, адзінокай сябе не адчувала. Толькі спала яна адна, а колькі таго сну ў вясковай кабеты? Рана клалася — аднак яшчэ раней уставала. Баба Зося трымала карову, парсюка, былі куры, качкі. Колькі яна памятала сябе, столькі ўходжвалася за жывёлаю, гэта было яе жыццё. Як ні цяжка было купіць карову пасля вайны — але яна купіла, напрамілы бог прасіла памагчы грашыма брата Хведара, пазычыла ў сяго-таго з суседзяў, але купіла. Можа, хто з людзей і заве карову быдлам — ды толькі не баба Зося. І нічога дзіўнага няма ў тым, што яна гаворыць з кароваю. Мусіць, кожная з жанок, якая засталася адна, гаворыць з жывёлаю. Зосін Сямён памёр хутка па вайне, і з тае пары мужчына ў яе хаце не жыў. Сама паставіла на ногі двух сыноў, давяла іх да людзей. Як скончылася вайна, яны, праўда, ужо вялікія былі, аднаму трынаццаць, другому дзесяць. Але гора хапіла і ім, і ёй. Не хочацца ёй пра гэта ўспамінаць — ды ўцячы ад сябе цяжка.

Але як бы там ні было — у яе дзяцей пайшлі свае дзеці і сёння жаніўся меншы з унукаў — Ігар.

Вяселлі, якія спрадвеку гуляліся на вёсцы разам з чырваннем асін, з надыходам восеньскай яснасці ў паветры і асаблівай палёгкі, баба Зося лічыла найгалоўнейшымі людскімі святамі. Вядома, гэта прыдумала не сама яна, так перадалося ёй ад дзядоў і бацькоў. Ды якое ж са свят тоў можа параўнацца з вяселлем? Ніякае. Гэта свята ў чалавека адно і на ўсё жыццё. Але час ішоў, сплывалі гады бабы Зосі — і разам з ранейшаю вёскаю памалу сыходзілі і вяселлі. Не, яны не знікалі зусім, аднак рабіліся не такімі, як былі. У чым тут справа, баба Зося не ведала, аднак бачыла — вяселлі на вёсцы гуляліся хаця і галасістыя, ды ўсё больш бязладныя. А то і зусім не гуляліся, некаторыя з маладых проста распісваліся ў сельсавеце, быццам пажылая пара, у якой гэтае вяселле ўжо не першае.

Баба Зося вяселляў сваіх большых унукаў — Міколавых дзевак і хлопца — не бачыла, яны жылі ў Сібіры, за светам, і таму Ігарава вяселле было для яе асаблівым. Справа была, мусіць, у тым, што яна амаль забылася ўжо і на сваё вяселле, і на пасляваеннае вяселле Пятра — якія па тым часе былі вяселлі, чарка ды песня за бедным сталом,— тыя вяселлі бачыліся ёй быццам з другога жыцця. Зусім іншае — Ігар, якога яна любіла так, як не любіла, мусіць, нікога. Бабе Зосі дужа хацелася, каб гэтае вяселле гулялася па ўсіх законах тутэйшых людзей, каб яно было лепшым з іх, каб яго паміналі толькі дабром. Аднак яна не паспела нават добра надумацца пра будучае вяселле. Усяго які тыдзень назад Ігар раптам сказаў, што ён жэніцца. Гэта было як гром сярод чыстага неба. Баба Зося была цвёрда перакананая, што вяселле павінна рыхтавацца загадзя, за месяцы два, бо нельга забыцца нават на самую маленькую драбніцу. А тут — тыдзень. У бабы Зосі і рукі апусціліся.

Калі гаварыць пра сапраўднае вяселле, дык для яго і двух месяцаў была б мала. Бо ў сапраўдным вяселлі ўсё пачыналася з перапыткаў, калі да будучай маладой хадзілі яшчэ перад сватамі. А перадоішча — гэта другія сваты ў хаце нявесты, калі дамаўляліся ўжо канчаткова. І акрамя сватання рабілі запоіны, вячэру ў хаце нявесты за некалькі тыдняў да вяселля. Пра маладую пасля запоін гаварылі, што яна ўжо запітая. А само вяселле гулялася спачатку ў хаце маладога, потым — у маладой. І быў яшчэ каравай, які выпякалі загадзя, на каравай дарылі грошы. Пра сапраўднае вяселле баба Зося магла расказваць вельмі

шмат. Аднак паварочвалася на тое, што вяселля магло не быць ніякага, ні сапраўднага, ні цяперашняга.

Ды што ж — забегалі бацькі, замітусіліся суседзі, баба Зося як не забылася на сваю хату, скокам-бокам, а вяселле пачало ладзіцца. Пятро выпісаў у калгасе мяса, з'ездзіў у раён, накупіў сяго-таго. Дамовіўся са старшынёй — паехаў на яго машыне ў недалёкі рыбгас «Касцерскае», купіў там рыбы. Кілаграмаў трыццаць прывёз, можна было не толькі наварыць, але і насмажыць, і нафаршыраваць. Але ж на ўсё рукі патрэбны. Тры жанкі займаліся гэтаю рыбаю як не цэлы дзень — але і зрабілі ўсім надзіва. Баба Зося як убачыла таго шчупака, што адзін займаў цэлы стол,— дык ажно войкнула. Шчупак ляжаў цэлы, з галавой і хвастом, быццам толькі што выняты з рэчкі ці возера, і не здагадацца было, што з яго спачатку злупілі скуру, выкінулі косткі, мяса перакруцілі на фарш, зноў запхнулі яго ў скуру,— шчупак выдаваў жывым. З гары Ніна падаставала каўбасы, паляндвіцу, са склепа прынесла вантрабянку, у бабы Зосі пад страхой вісеў кумпяк — ён таксама пайшоў на вясельны стол. Наварылі мяса, падкалацілі яго мукой — верашчакі павінна было хапіць на ўсіх гасцей. Вараную бульбу залілі пражонкай — таксама добрая атрымалася патрава. У бабы Зосі яшчэ той восенню было наквашана паўбочкі націны — верхніх лістоў капусты, спатрэбілася і яна, навыбірала некалькі місак, цяпер яны чакалі свайго часу ў склепе. Наварылі курэй — іх добра-ткі паменшала ў Пятровым двары, насмажылі мяса, нарабілі дзве вялікія місы сырнікаў — і ўсё здавалася мала, усё думалася, што не будзе чаго за сталом з'есці. Дзве жанчыны — Радзюкова Каця і Кабак Марыя — падахвоціліся зрабіць калдуноў, узяліся драць бульбу. А вядома, што гэта за работа — драць бульбу, праз дзве гадзіны яны, бедныя, і рук ужо не адчувалі. Але як узяліся — трэба канчаць. Накруцілі на мясарубцы мяса з цыбуляй, часнаком, перцам, напхалі тым фаршам вялікія галушкі з дранай бульбы, спачатку варылі, пасля пражылі — калдуны былі гатовыя глыбокай ноччу, калі жанкі ўжо з ног падалі.

У бабы Зосі і хвілінкі не было вольнай — скубла кур, пякла налеснікі, тонкія блінцы, рэзала каўбасы, насіла ў склеп талеркі з халадцом, каб хаця крыху загусцеў ён у халадку, не лыжкай жа яго сёрбаць. Яна глядзела, колькі ўсяго гатуецца ў гэтай хаце, і ў яе не-не ды мільгала думка, што на тым, даўнейшым вяселлі, якое яна называла

сапраўдным, не было б, мусіць, гэтулькі патраў, і не такімі б яны былі. На даўнейшыя святы, канечне, патраў рабілася больш, як заўсёды, роўна столькі, колькі патрабавала тое ці іншае свята. На дзяды гатавалі сем страў, па-мясцоваму патраў — варылі боршч са шчаўя, кашу, пяклі бліны, струдлі — пернікі на мёдзе; усіх тых патраў павінна было быць сем. Каляды лічыліся большым святам — і патраў на стале стаяла не сем, а дванаццаць, тут гаспадыням было больш клопату. Але гэты клопат не з самых горшых. Ну а на вяселле, зразумела, людзі стараліся з усіх сіл, гатавалі столькі, колькі маглі, спрабавалі, як кажуць, скочыць вышэй галавы. Аднак святы — святы і ёсць. У будзень жа людзі пілі і елі не гэтак, як цяпер, яны і думаць не маглі пра такую ежу. Што еў чалавек з панядзелка да суботы? Лупіў бульбу, варыў ды тоўк, ды туды сала з цыбулінай — вось яму і бульбянка. Еў і талакно, сыпалі на чарон аўсянае зерне, сушылі, чысцілі, таўклі, малолі — атрымлівалася аўсяная мука. Талакно да хлеба было як сала, дальбог, так і казалі, і зусім без жартаў. Мала хто цяпер памятае і пра сыту, а яе пілі ў некаторых хатах з чацвярга да суботы. Гаварылі, што пасціліся, а на самой справе — не было чаго есці. Усякага было ў тым даўнім жыцці, тут баба Зося маніць не будзе. Канечне, хтосьці жыў бядней, хтосьці багацей, але ў асноўным на сталах у людзей было адно і тое ж: бульба — смажаную бульбу тут называлі матылямі,— талакно, халаднік са шчаўя, жур — кісель з аўсянай мукі, рыба, шмат радзей — мяса. І цяпер у людзей на сталах амаль адно і тое ж, адна ежа, ды хіба яе параўнаеш з даўнейшай? Штодня мяса, самыя розныя крупы, яечня з салам — гэта ўжо з самых прывычных патраў.

Зараз як не ўся хата была занятая ежаю самага рознага выгляду і гатункаў.

Баба Зося, гатуючы, амаль не адыходзячы ад печы, увесь час памятала яшчэ аб адным — аб караваі. Яна ўсё чакала, калі будзе рашчынена цеста, калі паставяць у печ вялікі каравай — але на яго, мусіць, забыліся. Бабы бегалі з хаты на двор і назад. Пятро разрываўся паміж полем і хатаю — жніво ж наперадзе! — Ігар таксама прыходзіў ледзь не прыпаначчу, але, як ні быў стомлены, адразу кідаўся да матацыкла і знікаў у вечаровым змроку,— пра каравай ніхто не абзываўся. Тады баба Зося сама падышла да Ніны і сказала.

— Каравай? — здзівілася Ніна.— Дык цяпер жа каравай ніхто сам не выцякае. І мы не будам. Пятро ўчора

ездзіў у горад, купіў. У каморы стаіць. Калі хочаце — паглядзіце.

Баба Зося, канечне, пайшла ў камору зірнуць на куплёны каравай. Той стаяў у магазіннай каробцы, не надта вялікай. Баба Зося адкрыла яе — і ўбачыла круглы торт, салодкую гарадскую булку. На торце быў надпіс — «С днём рождения». Яна некаторы час пастаяла, гледзячы на гэты так званы каравай, некаторы час падумала. Канечне, надпіўшым гасцям — а да таго часу, як будуць дзяліць каравай, госці абавязкова падап'юць — будзе ўсё роўна, што ім паднясуць на талерцы, кавалак сапраўднага каравая ці вось гэтага торта. Але бабе Зосі гэта было вельмі важна. Яна не магла перажыць, каб на вяселлі яе ўнука не было спраўдзівага каравая, таго, з якім ішлі ў будучае жыццё ўсе Ігаравы продкі, яго дзяды і бабы. На чале вясельнага стала павінен быў стаяць пшанічны каравай, яго павінны былі ўпрыгожваць кветкі і шышачкі, каравай павінен быў благаславіць Ігара і яго жонку. Каравай быў не звычайнай булкаю, якую людзі ядуць за сталом у святы,— каравай быў караваем, старэйшынай усяе людское радзіны. Калісьці нават гаварылі, што каравай быў богам-сонейкам, якое сыходзіць з неба на зямлю, каб узяць пад сваю ласку маладую пару, што пачынае рабіць па зямлі першыя крокі. Так гаварылі, у гэта верылі, і баба Зося не магла дазволіць, каб каравай быў заменены нейкай салодзенькай булкай, нават не булкай, а цукеркаю. Каравай пяклі з пшаніцы, якая расла на гэтай зямлі, а пшаніца, хлеб, была яшчэ адным богам тутэйшых людзей, і праз каравай гэты бог браў яшчэ дваіх дзяцей пад сваё крыло. Не, каравай на вяселлі павінен быць самы сапраўдны, выпечаны з пшаніцы, убраны кветкамі, пучкамі аўса, галінкамі каліны, ён павінен быць круглы, як сонца, і з рожкамі-шышачкамі.

Са сваёй нявесткаю баба Зося ніколі не спрачалася, заўсёды ёй саступала, калі пачыналася якая спрэчка,— аднак тут яна запярэчыла.

— Ніна, трэба Ігару каравай спячы,— сказала яна,— невядома, ці прывязуць яго бацькі маладой, а ў нас павінен быць. Напраўдашні каравай, не куплёны.

— Ай, кіньце вы, мама,— адмахнулася Ніна,— тут столькі работы, яшчэ і посуд не падрыхтаваны, салатаў не зрабілі — а вы з караваем. Тры дні засталося. А гэты ўсё на рабоце, не ў ягонага сына вяселле,— зазлавала яна на Пятра.

— Дык жніво ж, Ніначка,— баба Зося старалася гаварыць лагодна, ціха.— Трэба пагаварыць з бабамі, каторая за каравай возьмецца, я ёй памагацьму. Няможна, каб у Ігара каравая не было. Па-людску трэба...

— Рабіце што хочаце,— крутнулася Ніна і пабегла з хаты — прыехала машына, прывезлі дошкі на лавы ўздоўж сталоў.

Баба Зося ад свайго не адступілася. Яна ўгаварыла рабіць каравай Атрашкевічаву Таццяну — жанчыну, якая добра жыве з мужам, мае пяцёх дзяцей — і амаль усіх паставіла ўжо на ногі, меншы сёлета скончыў восьмы клас, а астатнія ўжо хто замужам, хто працуе, Толя, Ігараў аднагодак, яшчэ служыць на флоце. Гэта было вельмі важна, каб каравай пякла жанчына, у якой шчаслівае сямейнае жыццё, у якой і добрыя дзеці, і муж не п'яніца, пра якую ніхто не мог сказаць благога слова. Баба Зося, канечне, і сама магла б спячы каравай,— ды яна хацела шчасця свайму ўнуку. Галоўнай, як тут кажуць, старшай каравайніцай звычайна была самая паважаная ў гэтай радзіне жанчына, толькі яна саджала каравай у печ і вымала яго адтуль, астатнія жанкі — памагалі ёй. Такі быў звычай, адмаўляцца ад яго баба Зося не хацела ні ў якім разе. Канечне, зрабіць каравай можна было б і самой, але... Яна толькі памагала. Атрашкевічыха згадзілася лёгка, яна наогул была харошая кабета, спагадлівая. Рабілі каравай у Атрашкевічавай хаце, так было зручней. Рашчынілі цеста, акрамя мукі дадалі ў яго цукру, масла, ванілі, убілі многа яек, у асноўным жаўткі, потым доўга і старанна мясілі. Цеста падыходзіла павольна, але гэта якраз было і добра. Чым даўжэй спела цеста, тым лепшым яно атрымлівалася. Падрыхтавалі, выпалілі печ, і ўжо прыпаначчу, пад раніцу, баба Зося і Таццяна маглі палюбавацца на вялікі, высокі, з румянаю скарынкаю каравай. Не забыліся зрабіць на ім і шышачкі. І пакуль каравай замешваўся, рос, зноў замешваўся і зноў рос, пакуль быў ён у печы — баба Зося ўспаміназа песні, што калісь спяваліся каравайніцамі. Увогуле, гэтыя песні бабы пачыналі спяваць яшчэ да таго, як з'яўляўся сам каравай.

Ой, чыя то мацейка
Па ўсіх вулачках ходзіць
І суседачак просіць:
Ой, суседачкі мае,
Прыхадзіце да мяне,
Да майго дзіцяці
Каравай гібляці.

Але ж каравай вырастаў не якраз перад вяселлем, ён быў раней.

Ой, зоры, зоры,
Узыдзіце ў поры,
Маладая Леначка
Пшанічаньку поле.
Яна поле
Ды перабірае,
Кукуль-зеллечка
На мяжу скідае,—
Расці, пшанічанька,
У каравай багаты.

Зрэшты, караваем звычайна займаліся ў радзіне маладой, яе сваячкі спявалі гэтыя песні, завіхаючыся каля выпаленай печы,— але нічога. Здаралася, што гэты клопат бралі на сябе і сваячкі маладога. Баба Зося не ведала, ці прывязе сапраўдны каравай маці маладой,— і занялася гэтым сама. Сама яна праспявала і некаторыя з песень.

Яравая пшанічанька,
Як цябе сеюць — ветры веюць.
А як валочаць — дажджы мочаць,
А як зажынаюць — дык спяваюць.

У гэтых песнях гаварылі не толькі людзі, а і сама пшанічанька звярталася да людзей, расказвала пра сябе, прасілася:

Альбо вы мяне сажніце,
Альбо касою скасіце,
Ужо мне надаела стаяці,
Залатое зерне трымаці.

І вось сабраліся каравайніцы, усе свае справы кінулі, бо няма цяпер нічога важнейшага, чым каравай. Людзі, якія жылі тут, ведалі, што шчаслівае жыццё ў маладых будзе толькі тады, калі будзе выпечаны прыгожы, смачны каравай.

Зажурыліся каравайнічкі,
Што нам многа ўсяго трэба,
Трэба нам мукі пшанічнае.
Трэба нам вады крынічнае,
І яек з маладых курэй,
І мёду з ярых пчолак.

Доўга рабіўся каравай, але ж гэта была не звычайная выпечка хлеба ці булкі. Каравай быў адным з гаспадароў вяселля, і ў песнях аб тым, як робіцца каравай, не забываліся ніхто і нішто.

Ой, чыя то жонка
Каравай мясіла,
Шоўкам-золатам
Рукавы нашыла?
То Грышава жонка
Каравай мясіла,
Шоўкам-золатам
Рукавы нашыла.

Таццяна ажно зачырванелася, пачуўшы пра Грышаву жонку, пра сябе. Яна песень не спявала, адно слухала, ды гэта, увогуле, не дзіўна — каравайныя песні ўжо мала хто памятаў. Ды Таццяна і не пявуння, у Валюхах даўно было вядома, хто і як спявае. Яшчэ не-не ды разляталіся летнімі адвячоркамі песні над Валюхамі, звінелі чыстыя галасы, але ўсё радзей чуліся сярод тых галасоў маладыя. А дзядоў-пеюноў амаль і не засталося. Баба Зося прывучвала да песень басаногую каманду, што пераварочвала ўсё дагары нагамі ў хаце. Дзяўчаткі, калышучы сваіх лялек, запаміналі тыя песні, што спявала ім баба Зося, і спрабавалі самі. Пачуўшы калі-небудзь кволы галасок якой з дзяўчынак, баба задаволена ўсміхалася — яшчэ адна пявуння вырасце, не дасць памерці песні пра дуба зялёнага. У дзяўчатак была харошая памяць, ясная, здаралася, яны запаміналі з аднаго толькі разу — і спявалі правільна, без памылак.

Каравайнічкі, ручкі мыйце
I на вішанькі ліце,
Каб вішанькі радзіліся,
Каб дзетачкі любіліся.

У прыгатаванні каравая бралі ўдзел усе сваякі маладых, яны стараліся, каб у ім былі і іхнія дарункі.

Ад суботы да нядзеленькі гадзіна,
Дый сабралася ўся хлапечая радзіна.
Прынеслі яны сорак яек на каравай,
Прынеслі яны мукі бочку на каравай...

Баба Зося верыла, што песні не памруць, пакуль будзе стаяць гэтая зямля, пакуль будуць кружыцца над ёй чырвананогія буслы — і сярод іх дзесьці будзе плысці ў сонечнай яснасці чорны бусел, баравік. Баба Зося аднойчы бачыла гэтага баравіка — і запомніла яго, як штосьці незвычайнае. Бусел ішоў па меліярацыйнай канаве, углядаўся ў празрыстую плыткую ваду, і гэта было яшчэ больш неверагодна. Яго можна было падгледзець, мусіць, на балоце, сярод чаратоў ці аеру — гэты ж павольна ішоў па канаве, на ўсе чатыры бакі разлягалася поле, даўно тут былі

выцераблены колішнія хмызнякі, пракідаліся адно нягеглыя кусцікі, і бусел не баяўся. Але бабу Зосю блізка да сябе не падпусціў — лёгка скочыў і паляцеў. Баба Зося доўга глядзела яму ўслед, ківала галавой — бач, і сапраўды яны ёсць, чорныя буслы, з людзьмі побач не жывуць, хаваюцца. Пэўне, чалавек не даваў ім спакою, тупаў пад буслянкаю, стараўся ў яе зазірнуць, а то і зганяў, хочучы ўгледзець размах чорных крылаў. Чалавек цікаўны і часта жорсткі. Ён думае і дбае толькі пра сябе, толькі пра сваю выгаду. А буслы ж не для яго жывуць. Побач — але не для яго. Бабе Зосі вельмі б хацелася, каб чорныя буслы пpыляцелі ў буслянку на яе хаце — ды гэта было як вярнуць сабе маладосць...

Але надыходзіў час — і з'яўляўся на жаночыя вочы каравай, ён гаварыў з імі, загадваў, ён адчуваў сваю ўладу. Яшчэ тады, як яго замешвалі, ён прыспешваў каравайніц:

А на печы каравай рэча,
Да сябе каравайніц кліча:
— Дзе ж мае каравайніцы?
Ці на мяду ды запіліся,
Што на мяне ды забыліся?

Перад тым як лезці ў печ, каравай сам пра сябе расказваў, хваліў і сябе, і тых жанок, што яго рабілі.

Каравай мой румяны,
Ці багі цябе малявалі?
— Малявалі мяне жоначкі,
А качалі мяне дзеванкі,
А харошыя ўчынялі,
А прыгожыя мясілі,
А багатыя качалі,
А пузатыя саджалі.

І вось ён ужо гатовы выйсці з печы, крычыць, патрабуе да сябе ўвагі:

Каравай гіча, гіча,
Усіх каравайніц кліча:
— Дзе ж вы так забарыліcь,
Што да мяне не з'явіліcь?
Дайце мне сыру, масла,
Каб маё цела згасла.

Ён пытаецца дарогі ў сваёй суседкі перапечы-ляпёшкі:

А пытаўся каравай ў перапечы:
Куды тут сцежка да клеці?
А ты, каравай, не пытайся,

Вазьмі піражок, папірайся,
А цераз парог, а цераз другі,
А цераз трэці — у клеці!
— Дайце мне пасашок папірацца,
А да клеці дабрацца!
А рагат я, багат,
А ў малыя дзверкі не ўлезу.

І гэта былі яшчэ не ўсе песні пра каравай. На колішнім вяселлі ў клець ці камору яго заносіў малодшы брат маладой, як не было брата — то хто-небудзь з меншых сваякоў, часцей хлопчыкаў:

— Караваю, раю, раю,
Я з табою пагуляю.
— Ой, чый то братайка
Пад караваем гуляе?
Да новай каморанькі
Дарожанькі пытае?
Гэта Аленчын братайка
Пад караваем гуляе,
Да новай каморанькі
Дарожанькі пытае.

І сваёй апошняй песняю каравай расказвае пра маладую, аб тым, што сам ён — нявесціна заслуга. Каравай робіць так, што і сама нявеста з'яўляецца ў хаце:

Выйдзі, матанька, паглядзі,
Што ў цябе за дзіва на двары.
Лесам ехала — шумела,
Полем ехала — звінела,
У сені ўплыло ракою,
У хату ўвайшло паваю,
За стол села паннаю.

Вяселле бабчынага ўнука, увогуле, было мала падобна да таго колішняга вяселля, нават ягоную нявесту баба Зося бачыла толькі аднойчы, ён прывозіў яе на матацыкле,— але бабе думалася, што яно будзе ўсё ж добрае. Ва ўсякім разе, каравай на вяселлі будзе сапраўдны, а гэта нямала. Нявеста, Алена, бабе Зосі з першага погляду спадабалася, хаця невядома, канечне, як яна сябе пакажа потым, пасля вяселля. Была яна, праўда, танклявая, а на вёсцы худых не надта ўхвалялі, ды позірк у яе быў лагодны, голас ціхі, відаць было, што яна не любіць спрачацца і стаяць на сваім, хоць бы і на правільным. І ступала яна асцярожна, мусіць, таму, што высокая. У высокіх дзяўчат хада часта бывае асцярожная, быццам яны баяцца спатыкнуцца ці пераходзяць рэчку па тонкай кладачцы. І хоць баба Зося лічыла, што вясковая дзеўка павінна быць моцная, не тоў-

стая, аднак шырокая, тым не менш яна адразу згадзілася з унукавай абранніцай. З лагоднай, што ні кажы, жыць лягчэй, як з языкатай і наровістай. Ігар жа ў іх хлопец спакойны. Каб трапілася якая дзеўка-салдат — то сядзеў бы, як мыш пад венікам, не чулі б яго і не бачылі. «Не, добра, што спакойная, будуць жыць»,— супакоілася баба Зося.

Сваты таксама прыязджалі, вячэралі ў Пятра з Нінаю, была там і баба Зося. Сваты аказаліся людзьмі някепскімі. Маруся, Аленіна матка, праўда, сядзела трохі падцяўшы губы, паказвала, што ёй не даспадобы такі паспех, лятуць звычайна толькі на злом галавы і скора толькі блох ловяць, паказвала яна ўсім сваім выглядам, а Міхась, яе муж, адразу сышоўся з Пецем: хай робяць што хочуць, ім жыць.

— Наша дзела — зрабіць вяселле,— смяяўся Міхась.— Грошай трохі ёсць, выпіць-закусіць таксама будзе — а там хоць воўк траву еж. Наша дзеўка харошая, слова лішняга не скажа.

— Ды і наш не зломак, не дзевачур які-небудзь,— падтрымаў Пятро.— Я дык і не ведаў, што ён жаніцца хоча. Ні да якіх дзевак не падхаджваў ні да арміі, ні цяпер, і раптам — жанюся. Я дык пачаў ужо баяцца, што ён не ведае, з якога боку да дзеўкі падысці.

— Ай, кінь ты! — шыкнула на яго Ніна.— Абы языком мянціць. Лепш давайце разбярэмся, ад каго што трэба, хто за што возьмецца.

Гаварылі доўга, да ночы. Вырашылі два дні гуляць у Гасцілаў, адзін дзень — у Радзівончыкаў. Сваты прыехалі на сваёй машыне, старым «Масквічы», але мусілі застацца начаваць — мужчыны, зразумела, выпілі за знаёмства, як жа тут паедзеш? Міхась, было відаць, таксама не цураўся чаркі, яны з Пятром уседзеліся добра. Баба Зося амаль не гаварыла, больш слухала. Калі пачалі абмяркоўваць, дзе маладым жыць,— прапанавала сваю хату.

— Хата ў мяне яшчэ добрая, цёплая,— сказала,— і месца шмат. Хай жывуць, у мяне ім вальней будзе.

— Ды не, навошта,— не згадзіўся Пятро.— А каму ж я сваю хату будаваў, чатыры пакоі? У мяне будуць, няма чаго перабіраць.

Вось тут, відаць, дайшло да Марусі, што дачка іхняя напраўды ідзе замуж, не проста на дзень-два едзе да каго ў госці, а, лічы, назаўсёды ідзе з хаты. У яе раптам павільгатнелі вочы, перарваўся голас, рука закамячыла рог

хусткі. Яно так — дзяўчына ў бацькі ў гасцях. А мужчыны нічога, не адсоўваліся далёка ад бутэлькі, гаварылі, Пятро пацвельваўся з сына: «Хіба чорт здумаў гэтыя залёты: ані ўночы сну, ані ўдзень работы».

— Ды мы ж... таксама былі,— падміргваў жонцы Міхась.— Я за ёй як цягаўся — ні дня, ні ночы не бачыў. А яна ў мяне закапылілася — не буду хадзіць з табой! Але нічога, абламалася... Нездарма кажуць — дзеўкі ўпарты, як козы.

— Вядома, такі кавалер быў! — выцерла слёзы Маруся.— А ні людзям паказаць, а ні сабе глянуць.

— А то ты не такая была. Удзень кавярзень, увечары барышня.

Ажно і баба Зося засмяялася з гэтай сваркі паміж мужам і жонкаю. Бач, гэтага слова ўжо ніхто і не помніць — кавярзень. Так даўней на лапці казалі — кавярзні. Але сварыліся будучыя сваякі не па праўдзе, жартам — і гэта было добра.

Вёскі іхнія, Валюхі з Церабелямі, былі хаця і недалёкія, аднак у розных калгасах, і мужчыны доўга расказвалі адзін аднаму, што ў іх так, а што не так. У Пятровай брыгадзе апошнім часам не хапала людзей, гэта быў найбольшы ягоны клопат. Міхась згаджаўся — моладзь не хацела заставацца на вёсцы, яна ехала ў горад, быццам там ёй было салам намазана. Бацькі наракалі на гэтых маладых, трохі пабойваючыся, што і іхнія дзеці могуць даць лататы.

— Але нічога,— супакойваў Міхася Пятро,— вось яны пажэняцца, пойдуць дзеці — які тады горад? Гэта якраз добра, што яны рашылі рана пабрацца. Ігар хлопец нічога, галавасты, у школе няблага вучыўся. Зараз пакуль робіць механізатарам. Нейк казаў, што вучыцца пойдзе, у сельгасакадэмію. Можа, і дойдзе да тропу. А твая як, не звядзе яго? А то бабы, ведаеш, такія...

— Не, мая паслухмяная. Што скажуць — тое і робіць. Ціхая. А ў горад каб хацела — даўно б з'ехала. Яе ўсе падругі ўжо ў горадзе, там курыць вучацца. Каторая дык добра ўжо дымы пускае.

Зарагаталі.

Баба Зося пасядзела тады з імі і ўбачыла: невядома, як там маладыя, а бацькі іхнія агульную мову знайшлі. Ды бывае, што бацькі дамовяцца, а дзеці ў розныя бакі. У гэтай справе галоўныя якраз дзеці. Таму і занялася яна караваем, рашыла, нягледзячы ні на што, паставіць яго на вясельны стол. Тым больш у той вечар гаворкі пра каравай

у бацькоў маладых не было. Ці забыліся, ці не захацелі, у яе і самой вылецела з галавы. А ноччу ўспомніла, аж падхапілася ў ложку. Што ж яны, ворагі сваім дзецям? Дзе ж гэта бачылі, каб паляшуцкае вяселле было без каравая? Пачакала пару дзён — і не вытрымала, прыйшла да Ніны.

Канечне, каравай заняў у яе шмат часу, ледзь не суткі, але яна рабіла яго з лёгкім сэрцам. І наспявалася, і наўспаміналася, сябе маладую ўбачыла... Даўно яна глядзіць на гэты свет — а ўсё як адзін дзень. Не нажылася яшчэ, дальбог, не нажылася. Таму і было ёй унукава вяселле, як сваё.

Але зараз яна была спакойная — каравай чакаў маладых у хаце, ён быў вялікі, высокі, пульхны, яго абвівалі кветкі, на ім тырчэлі шышкі, як рогі, і нават пучок аўса ляжаў зверху. «Караваю, раю, раю, я з табою пагуляю...» Каравай і ёсць рай, вырай, куды ўсё жыццё чалавек імкнецца. «Сам бог каравай месіць, прачыстая свеціць, месяц у печ саджае, зоранька закладае, сонейка запякае». На чым стаіць свет? Вось на гэтым каравai ды на людзях, што гадуюць яго і выпякаюць. Ураджай — той жа каравай. Вокала сыр ды масла, а ўсярэдзіне доля ды шчасце... Людзі заўсёды думалі аб шчасці, і каравай мог тое шчасце прывесці. Дарэчы, даўней дзяўчына, якая згаджалася ісці замуж, адкусвала кавалак хлеба, што прывозілі з сабой сваты. А як не згаджалася — гарбуза давала. Бывала, у каторай тых гарбузоў было назапашана аж да наступнае восені, калі каханы быў далёка ці бацькі сталі насуперак. Усякага было ў жыцці.

Баба Зося напякла і перапечак, невялікіх булачак для дзяцей, нарабіла з каравайнага цеста зайчыкаў, сабачак, птушачак. Дзеці таксама нялішнія на вяселлі, хай парадуюцца і яны. Баба помніць, якімі вялікімі святамі былі для яе вяселлі, калі яна была малой. Як зайздросціла яна ўсім дарослым — і асабліва маладой у вэлюме, у дзівоснай сукні, сама заўсёды шылася між дарослых дзяўчат, калі тыя, спяваючы, расплятаці маладой касу. Як даўно гэта было — і як шчымліва гэта прыгадваць... Многія песні, здаецца, яна помніць ажно з тых часоў, з дзяцінства. А песень на вяселлі спявалася больш, як на любым другім свяце. Зрэшты, тут падыходзілі амаль усе песні. Хто ўспамінаў чумацкую, хто салдацкую, хто пра зязюлю-сіраціну зацягваў. Магла і купальская песня заспявацца, бо чамусьці на ўсё жыццё запомнілася якраз цёмная купальская ночка, кароткая, ды бясконцая. Ці «Зялёная вішня з-пад кораня

выйшла...». А найбольш зычылі ў песнях шчасця і радасці, здаровых дзетак і добрага ўраджаю.

Баба Зося была вельмі рада, што яе ўнук жаніўся тут, на радзіме, што ён не з'ехаў, як многія, у горад ці ў які Сібір, што ён не рваў каранёў, якія звязвалі яго з палящуцкай зямлёй і яе людзьмі. І ёй надта хацелася, каб дзеці яе ўнука ведалі звычкі тутэйшых людзей, не пагублялі іх, як ужо згубілася многае. Баба Зося хацела дажыць да таго дня, як яна возьме за руку свайго праўнука ці праўнучку і пакліча з ім бусла — папросіць у канцы сакавіка, на благавешчанне, у бусла добрага ўраджаю жыта. Яна выпеча ў той дзень галёпу — хлябец з малюнкам буславай нагі і барану — хлеб у выглядзе бараны, дасць іх у рукі праўнуку — і яны разам паклічуць бусла.

Ды ці мала чаго чалавеку хочацца? Старая яна ўжо баба, можа вось заснуць — і не прачнуцца, гэткі страх поначы ўжо прыходзіў. Але пакуль чалавек жыве — то ўсяго можна спадзявацца. А раптам сёння, на вясельную суботу, зайграе сонца, як на вялікдзень ці на Купалу? Яна бачыла ўжо, як грае сонца — вакол сонца свеціцца гало, як німб, і паветра па-асабліваму дрыжыць, таксама грае.

Уваходзячы ў двор хаты, дзе сёння гулялася вяселле, яна зірнула на сонца. Не, яно не грала, проста лілося з неба магутнай ракой, з-за яе зыркасці няможна было ўгледзець сам шар, што вісеў у самай сярэдзіне ракі.

Маладыя з сельсавета яшчэ не прыехалі, аднак людзей у хаце і вакол хаты было ўжо шмат. Мужчыны стаялі купкамі, курылі, выцягвалі шыі з намуляўшых каўняроў святочных, рэдка надзяваных кашуль, сёй-той і расшпільваў каўнер, ды гэта мала памагала. Жанчыны заклапочана снаўдалі, нешта ўносілі і выносілі — і ўсе паглядалі ў той бок вуліцы, адкуль вось-вось павінны былі паказацца маладыя. Хоць да сельсавета было недалёка, аднак Пятро ўзяў старшынёўскую «Ніву» — той прапанаваў яе сам,— на трох «Жыгулях» прыехала радзіна маладой, гэта акрамя крытай грузавой машыны, падагналі свае легкавушкі, у каго яны былі, і валюхоўцы — вуліца каля хаты зрабілася машынным дваром.

У хаце ўжо ўсё было падрыхтавана. Роўненька стаялі сталы, на табурэтках ляжалі дошкі, пры стале, дзе будуць сядзець маладыя, паставілі крэслы. Вока ажно разбягалася па сталах, не магло затрымацца на чым адным. Здаецца, часу на падрыхтоўку стала было мала, аднак стаяла на ім усё, што трэба, і нават больш. Пражонае, вэнджанае,

варанае і паранае мяса, халодная і гарачая рыба, у цэнтры красаваўся цэлы, здаецца, і не крануты, шчупак, стаялі міскі з мяснымі і зялёнымі салатамі, слоікі са смятанай, пры іх горкамі ўзвышаліся блінцы, тырчэлі курыныя, гусіныя і качыныя ножкі і крылцы, дрыжэў не зусім добра застылы халадзец, ляжалі вантрабянка і крывянка, усюды была бульба такая і бульба гэтакая, капуста квашаная і гуркі салёныя... Згледзець усё дазвання было немагчыма. Такімі і павінны быць вясельныя сталы, баба Зося задаволена ўздыхнула. Яна лічыла, што выпіць як выпіць, а з'есці за сталом чалавек павінен добра. Чым больш з'ясі, тым менш зап'янееш. Канечне, людзі пра вяселле гаварылі ўсякае, бывала, і смяяліся: вярнуўся не п'яны, не драны, а кажа — на вяселлі быў, аднак баба Зося ведала — за добрым сталом і добрая бяседа. Здаралася, сёй-той з гасцей мог кінуцца да суседа біцца, але ж на аднаго дурня заўсёды сем цвярозых. Нічога кепскага быць не павінна, яна ў гэта верыла.

Пятро з Нінаю таксама ўжо апрануліся ў лепшае. Пятро хадзіў у чорным гарнітуры з гальштукам, яму ў ім было горача, а вяселле ж яшчэ, лічы, не пачыналася. Ніна стаяла перад люстрам у апошнім маленькім пакойчыку хаты, паварочвалася, разгладжвала спераду і ззаду стракатую, у буйныя чорныя і чырвоныя кветкі, сукню з кароткімі рукавамі — відаць было, што яна ёй муляла, ціснула, што Ніне ў ёй было нязручна.

— Дык ты ж, Ніначка, не забудзь пра каравая,— сказала баба Зося, спыніўшыся ззаду Ніны і таксама заглядваючы ў люстра,— не пра тога, куплёнага, а пра нашага, якога мы з Атрашкевічавай Таццянай спяклі. Ён там і стаіць, у каморы. Харошы каравай удаўся, багаты. Не сорамна на стол паставіць.

— Добра, добра,— паварочвалася то адным, то другім бокам Ніна.— Нешта во сукня ў плячах пераціскае... Ужо бабаю, мусіць, стала, ужо няма чаго гэтыя сукні і надзяваць.

— Ай, не нагаворвай лішняга,— пачала супакойваць яе баба Зося,— яшчэ за маладую сыдзеш. Бач, якая ладная. Ніхто і не скажа, што сын жэніцца.

— Гэта ўжэ вы лішне...— махнула рукой Ніна, але было відаць, што ёй прыемна, яна ажно зачырванелася.

А і праўду сказаць — Ніна прыгожая кабета. Яна і не шмат пашырэла за тыя гады, як ведае яе баба Зося, і з твару не пайшла ў мархлякі. Канечне, жывучы на вёсцы,

не надта будзеш глядзець за сабой, аднак на Ніну быццам нічога не асядала, быццам і не было ў яе, як ва ўсіх, гаспадаркі. Канечне, яна настаўніцаю працуе, гэта ўсё ж не тое, чым даяркай ці ў полі, аднак і сярод настаўніц не знойдзеш ёй роўную. Хіба што самыя маладзенькія, якія толькі-толькі прыехалі на работу з горада. Пятро, ведала баба Зося, ганарыўся сваёй Нінай, любіў, таму і патураў ёй ва ўсім, слухаў. Зося іншы раз і злавала, калі ён надта ўжо скакаў перад ёй, але што зробіш? У сям'і нехта адзін пан, а як удваіх возьмуцца камандаваць — доўга не нажывуцца. Асабліва цяперашнім часам — як што не так, адразу нос убок і бягом у суд разводзіцца. Наглядзелася баба Зося і на такое.

Каравай таму і павінен быць на стале, каб новая сям'я зладзілася на ўсё жыццё, каб з ёй побач ішло шчасце, якога, зрэшты, ніхто і не ведае... Раней баба Зося пра гэта ніколі не думала — а апошнімі днямі ўжо не магла ўзяць у галаву чаго-небудзь іншага. Нездарма яна тады прахапілася сярод ночы, быццам яе перацялі пугаю, гэта быў ёй знак, знак пра тое, што і як рабіць далей. Баба Зося раптам зразумела, што якраз ад таго, ці будзе каравай на вясельным стале яе ўнука, залежыць яго далейшае жыццё. Чаму гэта так, яна не задумвалася, аднак ведала. Ёй проста адкрылася, што і каравай, і буслы на стрэхах, і гігатанне коней у начных лугах, і нават святло месяца ў купальскую ноч — усё гэта якраз і ёсць жыццё тутэйшых людзей, яе самой, яе дзяцей і ўнукаў, унукаў яе ўнукаў. Калі ў іх адабраць гэта — тады і скончыцца жыццё. Адбярыце ў зямлі сонца — ці будзе яна? Так было і тут. Ёй маленькай расказвалі казкі пра ранейшае жыццё, пра Цмока-вясёлку, што п'е ваду з балотаў, пра вырай, пра жорава-веселіка, якога, убачыўшы ў гэтым годзе ўпершыню, ніколі нельга называць жоравам, а толькі веселікам, бо будзеш увесь год журыцца,— і яна будзе гаварыць дзецям казкі, якія помніць, і выпякаць каравай свайму ўнуку. Гэта яна зразумела ў тую ноч — і аж паспакайнела. Калі ведаеш — лягчэй жыць. Баба Зося за сваё жыццё прачытала вельмі мала кніг, яна наогул чытала бадай па складах і амаль не глядзела кіно па тэлевізары, бо тэлевізара ў яе не было — баба Зося заўсёды жыла сваімі думкамі і думкамі і словамі людзей, якія былі побач з ёй. А цяпер вось як хто сказаў ёй слова, якога яна яшчэ не чула,— і яна ўсё зразумела і ўзрадавалася. Так, яна цяпер ведала і пра каравай, і пра многае іншае.

— Добра, паставім вашага каравая,— засмяялася Ніна, закрычала ў суседні пакой: — Пятро, ці чуеш? Твая маці не дазваляе торт стаўляць, кажа, каб яе булку ўзялі.

— Якую булку? — увайшоў, мала што разумеючы, Пятро, глядзеў то на маці, то на жонку.

— Каравай, Пецечка, каравай,— заспяшалася баба Зося.— На вяселлі няможна без каравая, і ў цябе ён быў. Мы харошы спяклі, смачны.

— Ну, хай будзе каравай,— згадзіўся сын.— Маладыя павінны ўжо ехаць, нешта бавяцца. Ім што там, расказваюць, як жыць трэба? Самі навучацца.

— Пеця, а калі старшыня абяцаўся быць? — Ніна ўсё ніяк не магла адарвацца ад люстра, крыху адыдзецца — і зноў вернецца.— Гарадскія прыехалі ўжо, а старшыні няма.

— Будзе,— Пятра і самога турбавала гэта — усё ж старшыня калгаса, начальства.— Да яго там прыехаў нехта, Валя з канторы сказала — як зранку селі, так і не выходзяць. Але не падобна, каб з раёна хто. Яна там усіх ведае, ды і начальнікі на аўтобусах не ездзяць. А гэты якраз ранішнім аўтобусам прыехаў.

— Але ж во сядзяць,— сказала Ніна.

— Валя гаворыць — карэспандэнт нейкі,— Пятро пакруціў галавой, быццам спрабуючы вылезці з каўняра новай кашулі.— Прыйдзе, абяцаў жа. Ён хоць і старшыня, але таксама чалавек. Ну там вып'іць, закусіць...

— Недавольны, што перад жнівом вяселле задумалі. Ён жа гаварыў табе, каб пачакалі.

— А я сказаў, каб да сына выгаворваў, а не да мяне. Гэта ж не мне заманулася да маладой жонкі...

— Во, пачаў, пачаў...— перабіла яго Ніна.— Табе адно наўме.

— Хіба я стары? Вунь маці старая — а я яшчэ нічога, як да цёплай печы прыхінуць — дык многа магу.

— Языком ты мянціць можаш, галагут.

— Едуць!.. Ідуць!..— заскочыла ў пакой суседская дзяўчынка, Ганулька.— Хадземце на вуліцу хуценька!..

Маладыя ў акружэнні вялікай гамакой дружыны сапраўды не ехалі, а ішлі вуліцаю. Адразу кідалася ў вочы доўгай і белай, ажно балюча вачам, сукенкаю высокая маладая, Ігар ішоў побач з ёй, павольна, важна, не паварочваючы галавы, слухаў, што яна яму гаворыць. Наперадзе іх бегла дзятва, а па баках і ззаду ішла моладзь, так многа моладзі, што здавалася, заняла яна ўсю вуліцу, усю вёску,

і цяпер ад смеху, ад усплёскаў дзявочага перагуквання вёска ажно змізарнела, прыціхла — Валюхі быццам услухоўваліся ў поступ вяселля. І зайграў ужо гармонік, забубнеў бубен, самыя нецярплівыя з дзяўчат закружыліся ў польцы.

Баба Зося ведала, што вяселле будзе ісці не па старой завядзёнцы, яно во і наладзілася толькі за тыдзень, аднак сёе-тое людзі ўспаміналі самі, без чыёйсьці падказкі. Бацькі, Пятро з Нінаю, урачыста выйшлі насустрач гэтай гурме, што наплывала, як гуллівая веснавая вада, хоць і павольна, ды весела, сталі перад сваёю хатаю, вялікай і дагледжанай, і сонца, выразанае на чале іхняе хаты, глядзела якраз на іх і на маладых, што падышлі і сталі насупраць. Паднесены былі чаркі, бацькі павіншавалі маладых, тыя каўтанулі па глытку і кінулі чарачкі назад цераз плячо — кінулі няўмела, чарачкі не разбіліся, хоць маладыя і стаялі на цэментнай дарожцы. За імі выпілі і бацькі, таксама шпурнулі свае чаркі, і тут ужо было зусім іншае, старэйшыя, зразумела, аказаліся больш спрактыкаванымі — шкло толькі хрумснула і разляцелася на кавалачкі. Баба Зося глядзела на гэта з ганка, слоў яна не чула, аднак ёй і так усё было зразумела. Маладыя з бацькамі пацалаваліся — і цішыня разарвалася. Вяселле пацякло ў хату.

Баба Зося ведала, што каравай трэба было б вынесці да маладых яшчэ да таго, як усе пасядуць за сталы, аднак яна не зрабіла гэтага, бо ў мітусні каравай проста маглі б не заўважыць. Па звычаю, каравай спачатку павінен быў выкупляць у каравайніц малодшы брат нявесты ці проста хто з меншых сваякоў,— і ён жа выносіў яго да маладых. Баба Зося яшчэ ўранні дамовілася з Косцікам, дзесяцігадовым сынам Ладуцькаў, кумоў Пятра з Нінаю. Але яна вырашыла, што Косцік панясе каравай пасля таго, як усе ўжо будуць сядзець. Малыя зараз усе таўкліся на кухні, яны яшчэ не асмялелі, пакуль проста ва ўсе вочы глядзелі на дарослых. Сярод іх круціўся і Косцік, мільгаў белай галавой — улетку ён выгараў, як рачны пясок, і на носе вылазіла дробнае рабаціннe.

— Хадзі сюды! — махнула яму рукой баба Зося.— Хуценька ў камору! Ну, хуценька!

Той імгненна зачырванеўся і пабег перад ёю ў камору. Дзякуй богу, ён яшчэ не паспеў вымазацца, быў у чыстай кашулі, падперазанай вышываным паскам з кіцункамі, як у іх казалі на кутасікі,— гэты пасак баба Зося дастала

са свайго куфра, вышывала яго яна так даўно, што ўжо і не помніць пра гэта. Учора баба Зося доўга вырашала, на чым паставіць каравай. Узяць падстаўку пад вазоны? Але неяк гэта было нядобра — вазон не каравай, ды і падстаўкі тыя зроблены неахайна, абы-як. Смугун — дыван, вытканы палосамі, ці якое лепшае радно былі завялікімі. Спынілася на ручніках. Праўду сказаць, даўней на вяселлі ручнікі займалі шмат месца, іх развешвалі па хаце, каб усе бачылі ўмельства і працавітасць нявесты, што крукам гнулася адвячоркамі, ткала іх і вышывала. Цяпер на гэта ўжо амаль забыліся, а раней хата і без вяселля была ўвешана ручнікамі, з іх рабілі набожнікі, на іх клалі хлеб. Баба Зося перабрала ўсе ручнікі, якія ляжалі ў куфры, выбрала самы лепшы. Гэты доўгі ручнік з тонкага льнянога палатна быў шматколерны, упрыгожаны вязанымі геаметрычнымі карункамі. Гэтыя ўзоры ромбікамі якраз і гаварылі аб урадлівасці, жыццёвасці і дастатку. Асабліва адмыслова былі зроблены вузкія палоскі з кветачак на канцах ручніка — быццам уліваліся ў вочы чырвоныя макі ў тонкім павуцінні пялёсткаў, што разляцяцца ад самага лёгкага павеву, гайдаліся ў белаватым тумане, і над ім, здавалася, лілікала, блішчэла вада іхняй рэчкі Мочадзі. У гэтым ручніку была тутэйшая зямля з усім, што на ёй было. Баба Зося выгладзіла яго качалкаю, вынесла на двор і павесіла, каб трохі асвяжэў і адвісеўся.

Яна падклала ручнік пад каравай, загадала Косціку падняць угору рукі — і каравай важка лёг на іх. Яна ажно затрывожылася:

— Не цяжка хаця, данясеш?

— Данясу,— басам адказаў той, шморгнуў носам.— Доўга магу несці.

— Прайдзіся трохі, ручнік не замінае, не задоўгі?.. Перад сабой бачыш?

— Бачу. Толькі давайце пойдзем.

— Пайшлі.

Яны ўвайшлі якраз у тую хвіліну, як усе паселі,— і запанавала чаканне. Ужо і ўстаў Пятроў кум Лявон, якога прызначылі гаспадаром стала, ён якраз падыходзіў пад гэтую пасаду, голасу быў моцнага, за словам пад стол не лазіў, умеў і выпіць, і з'есці, Лявон ужо адкашляўся — аднак убачыў Косціка з караваем. Той, спяшаючыся, дробна пратупацеў да маладых і пляснуў перад імі вясельнага гаспадара, ажно ўспацеў, бедны, было, мусіць, цяжка трымаць важкі хлеб над галавой. Баба Зося ледзьве дагна-

ла Касціка, спынілася перад маладымі, якія пераглядваліся, не ведаючы, што ім зараз трэба рабіць. Баба Зося пакланілася ім і заспявала:

Высока сонейка, высока,
Занясём каравай далёка
Дый паставім на жыце,
Дай божа маладзенькім
Добра пражыці.
Паставім на аўсе,
Дай божэ як усім.
Паставім на сена —
Пражывіце шчасліва!

Маладыя, пазіраючы на бабу Зосю, усталі — і за імі з грукатам устала ўсё вяселле.

І тут невядома адкуль побач з бабай Зосяй узнікла баба Тадора, самая старая ў Валюхах, яна ўжо слаба хадзіла і слаба бачыла, аднак як дзе было якое свята — адразу прыходзіла. Людзі прывыклі, што яна прыходзіла і глядзела на бяседу адкуль з кухні ці з сенцаў, за стол яна ніколі не сядала, трэсла галавой, нават злавала, калі яе хто жартам спрабаваў весці да стала,— Тадора проста глядзела. На яе і не зварочвалі ўвагі, старая ўжо, гаварылі, як дзіця малое, хай глядзіць. А яна нічога і не гаварыла, хіба самой сабе нешта шаптала, ківала галавой, згаджалася і адмаўлялася, у вачах яе ўжо цяжка было што-небудзь разгледзець. Зараз яна стаяла, абапёршыся, на кавеньку, пазірала кудысьці скрозь маладых — і спявала:

Лада мае, Лада мае, што е на тым караваі?
— Ёсць на ім зорка і месяц ясенькі...

Спачатку не ўсе і зразумелі, што баба Тадора спявае, бо мала хто памятаў ужо яе голас, але, як ні дзіўна, словы з бабчынага горла выляталі ясныя, чыстыя, выразныя. Быццам і не ад гэтай сагнутай старой ішлі словы:

Лада мае, Лада мае, што е на тым караваі?
Ёсць на ім райскі пташачкі.
Лада, мае, Лада мае, што е на тым караваі?
Ёсць на ім жытняе калоссе.
Лада мае, Лада мае, што е на тым караваі?
Ёсць на ім вішні і чарэшні.
Лада мае, Лада мае, што е на тым караваі?
Ёсць на ім белыя абрусы...

Мала хто помніў голас бабы Тадоры — і тут пачуў. Голас быў глухі, як з падполу, але словы разбіраліся, і хоць ён перарываўся, бо не хапала дыхання, кожны з гасцей

стараўся яго ўчуць, ажно выцягвалі шыі, стараючыся нічога не прапусціць. Так, усё вялікае вяселле слухала доўгую песню бабы Тадоры аж да канца, ніхто не перабіў яе, не закашляў. Баба Зося спачатку спалохалася, што Тадора ўсё сапсавала, бо што яна ўжо разумее, гэтая стогадовая старая з тварам-мархляком, аднак нічога — баба спявала. Каравай, толькі ён выклікаў з застылай памяці даўнюю песню, якой не ведала і баба Зося, і цяпер усе слухалі яе, хто таксама ўспамінаючы, а хто проста дзівячыся. Вядома, песня была не да месца, яе трэба было спяваць, калі ўбіраўся каравай, аднак перабіць Тадору ніхто не адважыўся.

— Жывіце шчасліва!..— яшчэ раз пакланілася баба Зося, як толькі Тадора сціхла, і ўзяла яе за руку, павяла да маладых.

— Дык, гэта... вып'ем! — Лявон быў відавочна збіты з тропу, вяселле нешта забуксавала на песнях старых баб, і трэба было старацца выпхнуць яго на знаёмую, добра ўезджаную дарогу.

Баба Зося нейкі час сядзела на кухні разам з Тадораю. Тая, адспяваўшы, быццам заснула, а Зосі хіба заснуць? Яна трошкі баялася, што Ніна з Пецем і маладыя будуць на яе сварыцца за гэтыя песні, і перачакоўвала, седзячы на лаве пад акенцам. На двары бегалі дзеці, мільгалі іхнія галовы, дзяўчынкі стукалі мячыкам аб сцяну хлява, хлапчукі проста бегалі ўзад-уперад, мусіць, ваявалі. Пакуль дарослыя сядзелі за сталом, ім было сумна, яны чакалі, калі зайграе музыка, калі пачнецца сапраўднае вяселле. «Хоць бы Ніна не зазлавала,— думала баба Зося,— але ж зараз няма калі злаваць, зараз во піць, закусваць трэба». Яна правільна разлічыла, што на яе песні адразу павінны забыцца, бо вяселле — гэта вяселле. І сапраўды, з пакояў ляцела ўжо магутнае «горка!», чуўся рогат, звон посуду, усё ішло як мае быць. Лявон, чула баба Зося, стараўся:

— Каб жылося і вялося, пілося і елася, маглося і хацелася!..

— Гу-у!.. Го-о-о!..— падтрымлівалі госці.

— Во гэта ў точку, правільна!..

— Чырванеюць, маладзёны шчэ.

— Нічога, навучацца. Я дык адразу...

— Сядзі, ён адразу! Ты толькі з чаркаю герой! Як той казаў — зух з калом да жабы...

— Во шчупак дык шчупак! Як да яго толькі падступіцца...

— А ты яму відэльца ў карак. Толькі спачатку матузком пашчу завяжы. Бач, пашча якая, дзве рукі ўлезуць.

— Ці ва ўсіх наліта? Каб у нашай грамадзе было з кім і было дзе!..

— Го-ор-ка-а!..

Баба Зося пазнавала па галасах гасцей вяселля, сюды далятали, вядома, мацнейшыя, і яна, увогуле, ведала, хто пра што будзе гаварыць ці крычаць, каму мілей чарачка, хоць табе калом, хоць сакалом, хто будзе суседа ўпікаць, каму патрава горкай падасца, у каго слова складнага не вырвецца, толькі мык ды зык. У сваёй большасці за сталамі сядзелі вяскоўцы, сваякі і суседзі, яны былі вядомы ёй з усімі сваімі звычкамі і прыхамацямі, яна і не дзівілася — толькі слухала. Маладыя цалаваліся, аднак вяселлю іхні пацалунак не спадабаўся, яно запатрабавала — яшчэ! Тыя зноў цалаваліся, мусіць, толькі кранилі адно аднаго вуснамі — гэта зноў было не даспадобы. Лявон напінаўся, стараўся, каб чулі яго ва ўсіх кутах, чарка, пэўна, увесь час была ў ягонай руцэ і ўвесь час была поўная — баба Зося падумала, што да вечара ягоны голас не пратрымаецца. Хоць і моцны ён, той голас, хоць Лявон і акярэмак, як той камель-карачун, аднак ужо адвячоркам ён будзе сіпець. «Надта ўжо надзімаецца,— пашкадавала яго баба Зося,— а песні з мужчын ён спявае бадай лепш за ўсіх».

Вяселле набірала моц, ужо гуло, яно нагадвала бабе Зосі веснавы раўчук, які з першымі веснавымі промнямі толькі пазвоньваў, перакочваў тонкія льдзінкі, ягоны звон быў як веснавая песня сінічкі; але сонца прыпякала, і раўчук, разагнаўшыся, цямнеў вадою, клекатаў, ляцеў, не разбіраючы дарогі, а напароўшыся на вялікі камень, заглушаў іншыя гукі, вось тую ж птушыную песню, і не хацеў ён чуць і бачыць ніякіх гукаў і перашкод, і ўжо невядома было, куды ён прыляціць і ў якую канаву ўскочыць.

Вяселле разганялася.

І тут раптам прачнулася Тадора:

— Зоська, ты хаця добрага каравая зрабіла?

— Каравая?..— разгубілася Зося.— А як жа, па завядзёнцы рабілі, з Атрашкевічыхай... Яек туды ўбілі, масла далі, цукру, ванілі, разынак. Усё як трэба.

Яна тлумачыла, не ведаючы, ці разумее яе баба Тадора. У той дробна трэслася галава, і вочы быццам пазіралі — ды невядома куды, невядома, у якую далечыню.

— У мяне добры каравай быў,— гаварыла Тадора як

да самой сябе,— смачны. Ужэ такіх няма караваяў. Жыта ўжэ не грае...

Баба Зося здзівілася — ад Тадоры даўно не чулі зразумелага слова, як кажуць, ёй ужо лепш было бавіцца з немаўлятамі, а тут яна загаварыла. Жыта не грае... Сапраўды, во і яна забылася, як грае жыта. Недзе тыдні два над ім дымок павіваецца, курэе. Гэта яно красуе, а ў Валюхах кажуць — грае. Возьмецца над полем вецер — і ляціць, ляціць з жыта краса. Яна, краса гэтая, жыве і на пшаніцы, і на мятліцы... Бач, што ўспомніла. Не грае... Грае, як жа яму не граць? Малой баба Зося думала, што ў час красавання па каласах краскі-жучкі лазяць. Нехта ж сказаў, запомніла, што жучкі такія е. Мусіць, дзеці запамінаюць усё, што ім ні скажы. Дасюль жа верыць: калі выходзіць колас — няможна купацца. А час, калі выходзіў колас, называўся дваянам. І сваю першую спасаву бараду яна таксама зрабіла ў дзяцінстве. Маці ўзяла з сабой на поле, паказала — выбрала тры каласкі, перавязала чырвонай ніткай. Гэта быў апошні дзень жніва, і спасаву бараду пакідалі птушкам. І яшчэ баба Зося вельмі добра запомніла, як заплятала касу на дажынкі.

Яна з суседскімі дзецьмі прыбегла на поле ўжо далёка па абедзе, калі над Тамашэўскім лесам пачала грувасціцца, нават пагрымліваць вялікая хмара. Аднак яны не збаяліся, прыбеглі, трымаючыся для смеласці за рукі. Натомленая за дзень маці кінула серп, узяла некалькі сцяблоў. Паклікала: «Хадзі, касу будзеш заплятаць». Зоська стапа ранна, высалапіўшы язык, запляла касу, паклала, як сказала маці, калоссем на захад сонца. Яна яшчэ спляла невялікі вяночак з кветак і пасля насіла яго з маці на спаса свянціць. Збіраючы кветкі, яна знайшла некалькі зблытаных сцяблоў жыта, паказала маці. «Нехта хацеў, каб у нас благое жыта было,— квола ўсміхнулася маці.— Гэта завіткі, ведзьмакова старанне. Але ж во вырасла, і зжаліся ў час». Поле было застаўлена вянкамі снапоў, сярод іх пахаджвалі жанкі, перагукваліся, збіраючыся ісці дахаты. Тое поле дасюль стаіць уваччу — вялікае, як свет, на ім малая Зоська і маладая, прыгожая маці... Здаецца, у другім жыцці было гэта.

Яна схамянулася, правяла рукой па твары. Заўспаміналася нешта. Цяпер во, мусіць, і яе ўнук не ведае таго, што ведала яна малая. Ды яму і не трэба, пэўне, ведаць. Хіба гэта ўсё праўда? Калі на Юр'я роса, сей грэчкі і проса. Раней у гэта верылі, цяпер, мусіць, не. Калі скажуць

таму ж Ігару, тады ён і ідзе ў поле. Раней чалавек сам павінен быў і думаць, і рашаць, і ў полі гнуцца. Казалі — сявец не голіцца, пакуль не засееціа, якая барада, такое поле. Ці вось хто гэта цяпер будзе глядзець, якія на першую куццю зоры? А бацька Зосін глядзеў: калі зоры добрыя, то трэба ячмень рана сеяць. Цяпер жа адзін нехта думае, ён, мусіць, і ведае ўсё, астатнія толькі слухаюць ды робяць. І Пятро робіць толькі па ўказцы. Ды грэх гаварыць — ураджаі ў калгасе бываюць добрыя. І машын столькі, што пра гэта і насніцца не магло. Памянялася жыццё — і добра. Маладыя ж пра сваё дбаюць, ім хочацца як лепш.

Тадора сядзела перад Зосяй, шамкала вузкім ротам, у якім даўно ўжо няма зубоў, з нечым не згаджалася, трэсла галавой, перабірала рукамі на кавеньцы. Гэтая ўжо зусім зажылася. Што ёй успамінаецца? Аднак калі і запытаешся — не будзе адказу. Не тая ў яе ўжо мова, незразумелая.

Баба Зося ўздыхнула. Мо сказаць каму з малых, каб завялі яе дахаты? Ці хай сядзіць, месца ж не праседзіць. Яна расчыніла акенца, паклікала:

— Косцік!

Той, зрабіўшы вялікую работу з караваем, бегаў вакол дзяўчат самалётам, растапырыўшы рукі, гуў, як хрушч. Тыя яго адганялі, але ён лез сляпіцаю, не слухаў нікога.

— Баба Зося!..— сыпанулі да яе дзяўчынкі, забыліся і на мяч свой.— А каравай потым дзяліць будуць?.. А ўзамен грошы даваць? А колькі даюць грошай, багата?

— Уведаеце шчэ,— падзівілася іхняй згадлівасці баба Зося.— Адгадайце лепш загадку,— і заспявала:

Ці то тая пшанічанька,
Што ў полі камамі,
А ў гумне пад стагамі,
А ў клуні пад стрэхамі,
На стале пад кветкамі?

— Каравай! — дружна выгукнула дзятва.— А мы знаем, бачылі, якога вы зрабілі!

— А я па кветкі хадзіла!

— А я знаю, ён як торт. Толькі торт смачнейшы. А нам будзе торта?

— Будзе, будзе,— супакоіла іх баба Зося,— усяго вам будзе. Вы пакуль пагуляйце. Скора ўсе на вуліцу выйдуць, у скокі пойдуць і співацьмуць. Хараша будзе.

І тут яна пачула, як у хаце загулі, загаварылі зусім не

так, як дагэтуль — нават на нейкі момант упала цішыня. Яна падхапілася, падышла да дзвярэй: на загадзя падрыхтаваныя месцы ўсаджваліся старшыня калгаса Кунцэвіч, парторг Катлоў — і яшчэ нехта, малады, па-гарадскому стрыжаны, у вялікіх акулярах і скуранцы, якіх на вёсцы ніколі не насілі. Па ўсім было відаць — яго не ведала не толькі баба Зося, а і ўсё вяселле, бо позіркі былі скіраваны на яго цікаўныя, уважлівыя. І самае галоўнае — ён прыйшоў са старшынёй.

Перад тым як сесці, старшыня з парторгам унеслі ў хату нейкую скрыню, яна стаяла на падлозе, і на яе таксама пазглядалі, адгадвалі, што гэта магло быць. Старшыня ўзяў чарку, адкашляўся, бадзёра загаварыў:

— Дарагія таварышы! Ад імя кіраўніцтва калгаса дазвольце павіншаваць маладых, нашага маладога механізатара, ударніка Ігара Гасцілу і яго жонку, яшчэ не ведаю, як завуць. Няхай іхняе шчасце будзе доўгім, хай у іхняй хаце будуць толькі радасць і дастатак, хай дзяцей у іх будзе столькі, каб некалі ўдарнае звяно Гасцілаў працавала ў нас! Чакайце, чакайце!.. Праўленне калгаса зрабіла маладым падарунак — найсучаснейшы прайгравальнік, няхай самі спяваюць і другіх слухаюць! Горка!

— Го-орка! — падхапіла ўсцешанае вяселле, мужчыны ўсе як адзін гэтак жа заўзята, як і старшыня, кульнулі чаркі, смачна хукнулі і тыркнулі відэльцамі ў талеркі, шукаючы гурка.

Старшыня Кунцэвіч яшчэ раз даказаў, што ён умее падабацца людзям, што яны яго калі і не любяць мацней каханка — дык вераць яму, згаджаюцца, лёгка з ім ідуць,— з вясёлым весела і ідзецца.

Старшыня калгаса Міхась Пятровіч Кунцэвіч на вяселле крыху запазніўся з-за нечаканага госця — рэдактара рэспубліканскага радыё. Той прыехаў без папярэдняга званка, дакладней, Кунцэвічу пазваніў другі сакратар райкома партыі, што на тым тыдні будзе журналіст з радыё, які робіць перадачу пра іхні раён. «Мы парэкамендавалі цябе,— сказаў, як бы не асабліва ўхваляючы гэты выбар, Іван Аляксандравіч Цурко — у старшыні з раёнам адносіны былі не дужа лёгкія.— Патрэбен малады старшыня, і каб гаспадарка не слабая... Аднак ты там не вельмі. З намі лаяцца — адно, гаварыць пра гэта на рэспубліку — другое».— «Хіба я не разумею? — супакоіў Кунцэвіч.— Скажу як трэба. А якая ў іх тэма?» — «Пра наш раён, пра нашы поспехі за апошнія гады. Хочуць і пра

цяжкасці што сказаць, аднак... Мы раскажам, а хто-небудзь не зразумее».— «Ясна»,— сказаў Кунцэвіч, ён зразумеў, на што намякае Іван Аляксандравіч — асабліва лезці са сваімі бедамі было не варта. Журналіст прыехаў і паехаў, а ім працаваць, тлумачыць вобласці, ды і паміж сабой разбірацца. У раёне ўжо ведалі Кунцэвіча як не зусім падатлівага, ахвотніка да залішняй самастойнасці — і не тое што адкрыта сварыліся з ім, а папраўлялі, ушчувалі за непатрэбную гарачку. Кунцэвічу іншы раз даводзілі, што ён, Кунцэвіч, думае толькі за сябе, а ў раёне іх, Кунцэвічаў-старшынь, каля дваццаці, і калі кожны пачне цягнуць адно за сябе, далёка іхні раённы воз не заедзе. Яно так — ды ў выгадзе для ягонай гаспадаркі Кунцэвічу бачылася выгада і ўсяму раёну. Ён спрачаўся — і з ім гаварылі па-ўсякаму.

Міхась Кунцэвіч настаяць на сваім умеў. Ён нарадзіўся ў першы пасляваенны год — і адразу прыняў на сябе ўсе нястачы і беды тых часоў. Ён быў бязбацькавіч — і гэта таксама не было вялікім дзівам, хаця, канечне, вёска ёсць вёска, яе нішто і нічога не магло змяніць, нават гэтая апошняя жудасная вайна. Хата, якую ён запомніў першай, была бедная, пахілая, з саламянай страхой і невысокай прызбай, засыпанай трухой-пілавіннем, гэта была ягоная родная хата. І ён бегаў кругом яе ўлетку, мёрз у ёй зімой, пазіраючы праз дзірку ў размаляваным марозам акне на кудасу, што завівала снегавыя слупы і намятала сумёты ўпоравень з хлеўчуком. Маці не сядзела на месцы і хвілінкі — то падхоплівалася, бегла на абору, дзе рыкалі з голаду каровы, то несла рэдкую мешанку парсючку, то ішла, сагнуўшыся, з мехам нажатай травы. Разам з ёй Міхаська чакаў першага сонейка, першай травы, бо ведаў, што з маладой крапівы, якая вылезла пад плотам, маці наварыць супу. Ён жаў сярпом траву, збіраў шчаўе, ганяў на сажалку і з сажалкі качак, хадзіў падпаскам, баранаваў бульбу — і хадзіў у школу. Вучыўся ён не тое што ахвотна, але старанна. Крый божа было прынесці якую двойку — маці і крычала, і плакала — самае горшае, што плакала,— і ганялася за ім з качалкаю. Ён бегаў з аднагодкамі ў лес і на рэчку — аднак не па цэлых днях, бо трэба было рабіць дома. Хлопцы і смяяліся з яго і з маці, і лупцавалі яго, калі ўдавалася — ён няблага помсціўся катораму з іх, самаму шкадліваму,— і штаны з кашулямі ў большасці з хлопцаў былі не такія кароткія і залапленыя. Не, ён не быў чужы сваім аднагодкам, аднак заўсёды

трымаўся крыху ўбаку. Бязбацькавіч, галота... Але ўпартасці ў яго было больш, чым у многіх, яго таму і мала чапалі — упарты.

Адразу пасля сёмага класа ён пайшоў вучыцца ў СПТВ у недалёкім пасёлку, вучыўся ў ім добра, лепш, як у школе, і выкладчыкі ўсе як адзін гаварылі — інстытут, толькі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Нічога, што грошай мала, грошы будуць, а вось калі згубіш час — потым ужо яго не знойдзеш. Ён паслухаў іх, падаўся ў інстытут, і яго прынялі, хаця адказваў ён не ўсё, што трэба было. «Без бацькі, з вёскі, будзе вучыцца»,— сказаў намеснік дэкана. І сапраўды, ён пачаў вучыцца — упарты. А потым здарылася тое, што хаця рэдка, але бывае — з сярэдніх ён раптам зрабіўся адным з лепшых. Міхась раптам зразумеў — усё тое, што гавораць выкладчыкі і што напісана ў падручніках, гаворыцца і пішацца не для кагосьці невядомага, а менавіта для яго. І ён зразумеў, што ў СПТВ падказвалі яму правільна — гэта ягонае. Яму часам здавалася, што многае ён ведае нават без лекцый і падручнікаў. На старэйшых курсах Міхася выбралі ў камітэт камсамола факультэта, і гэта работа яму таксама дала шмат. Ён пачаў лепш разбірацца ў людзях, у сваіх аднакурсніках і выкладчыках, ён пачаў лепш бачыць несправядлівасць і ўведаў, што з ёй можна змагацца. Міхась паверыў у сябе, у свае сілы, і пра яго гаварылі, што ён не толькі ўпарты, але і з галавой. І галава сапраўды не падводзіла, у яго аказалася трывалая памяць, яна надзейна ўсё захоўвала. Міхась ужо добра ведаў, што ў вёсцы, з якой прыйшоў, ён цяпер будзе на кані, не за канём, учапіўшыся ў плуг, а на кані. На апошнім курсе ўжо не толькі ён, а і ўсе вакол яго, сябры і выкладчыкі, адчувалі яго моц — і з павагаю паціскалі яму руку. Дарэчы, моцны ён быў і ў прамым сэнсе. Недзе на трэцім курсе яго папрасілі выступіць за факультэт на інстытуцкіх спаборніцтвах па барацьбе. Ён згадзіўся, хаця на трэніроўкі хадзіў толькі на першым курсе. Тады ён быў худы, як у іхняй вёсцы казалі — падцыглясты, цяпер жа трэнер яго ледзь пазнаў — адкуль што ўзялося. Нават два разраднікі не вытрымалі ягоных абдымкаў, не бараліся з ім, а адбіваліся, уцякалі, вырываліся, як людзі, якіх збіраюцца тапіць,— і ўсё ж леглі на лапаткі. І трэці, кандыдат у майстры, таксама ў самым пачатку прамаргаў рэзкі кідок Міхася, пасля ён доўга не мог падабрацца да яго, не мог добра захапіць і кінуць, бо рукі ў Міхася аказаліся не рукамі, а клюшня-

мі нейкімі, ажно заставаліся ад ягоных пальцаў чорныя плямы. Кандыдат усё ж адыграўся, Міхась у канцы ўжо не мог стаяць на нагах, дыхаў, як запалены конь, і ў вачах плылі каляровыя кругі,— каб не ўпартасць, ён сам бы лёг на лапаткі, аднак да апошняй секунды ён растапырваў рукі-карчы, не згаджаўся з раз'ятраным кандыдатам, той выціскаў перамогу па адным бале, два адразу ўзяць не ўдавалася,— трэнер доўга круціў галавой, ляпаў знясіленага Міхася па плячы, гаварыў, што цяпер Кунцэвіч ад яго не адкруціцца, будзе барацца як міленькі. Ды Міхась не ў гэтым бачыў галоўнае. Дужы — і добра, гэта яму спатрэбіцца пасля, як прыйдзе на поле. І не падлеткам за плугам прыйдзе — такім ён помніў сябе на сваіх сотках, калі, хістаючыся, ішоў за канём і плечуком выціраў з твару пот,— а гаспадаром, моцным і ўпэўненым.

Плуг так і застаўся тым цяжкім сялянскім плугам, калі ішоў за ім Міхаська-падлетак, больш яго адпаліраваных ручак Міхасёвы далоні не адчулі. У родныя мясціны Міхась пасля інстытута не паехаў. Увогуле, яму прапаноўвалі застацца на кафедры ў інстытуце, ён не захацеў. Навука ўсё ж была не ягоным хлебам. Ён узяў накіраванне на вёску — аднак не ў свой раён, падумаўшы, што пачынаць лепш там, дзе цябе не ведаюць, дзе ты раз і назаўсёды станеш такім, якім пакажашся. Ён разлічыў правільна — сустрэлі, як прынята, па вопратцы і ўбачылі, што да вопраткі таксама сёе-тое прыдалося, і нават вельмі някепскае «сёе-тое». Міхась не захацеў працаваць і ў райупраўленні, дзе таксама можна было застацца, ён сказаў — толькі вёска. Звычайным інжынерам у саўгасе Кунцэвіч працаваў нядоўга — людзі адразу прыкмецілі яго хватку, настойлівасць, веданне справы і найперш — хватку. Ён умеў узяцца за справу з патрэбнага боку, і галоўнае, ён умеў давесці яе да канца. І ён не шкадаваў сябе, свайго часу, ён нават не шукаў лепшай, чым у другіх, кватэры. Кунцэвіч сам паказваў, як трэба працаваць, падоўгу прападаў на машынным двары, разбіраючыся, дзе што не так, дапамагаючы наладзіць тэхніку, ён прыводзіў каго трэба на той жа двор і паказваў, што двор можна ўжо называць балотам, бо ад звычайнага дажджу гразі на ім было па калена — і хутка яміны і канавы былі засыпаны і ўтрамбаваны, ён гадзінамі не злазіў з тэлефона, угаворваючы і патрабуючы, і ў калгасным праўленні як не на другі дзень ягонага прыезду вывучылі Кунцэвічаў голас, і самае дзіўнае, той голас надта добра было чуваць са старшынёўскага

кабінета. Гэта была работа, ён страшэнна стамляўся, аднак здароўя, дзякуй богу, хапала, яно нават мацнела. Ён наймаў кватэру ў адзінокай бабкі і прыходзіў туды толькі начаваць. На вёсцы прыкмячаюць усё, гаспадыня, баба Гэля, правіла па хатах: не п'е, мала курыць, добра есць, вясёлы, дровы пабіў, хоць яна яго і не прасіла, мусіць, скора жэніцца, бо як жа чалавеку без жонкі? Ён сапраўды даволі хутка ажаніўся, прыкмеціў маладую настаўніцу, толькі-толькі з інстытута, месяцы тры да яе падходжваў, потым павёў у сельсавет распісвацца. Вяселля ў іх, можна сказаць, не было, адно з'ездзілі да яе бацькоў і на два дні да ягонай маткі, і ён перабраўся да маладой жонкі, бо вядома, што дзеўка заўсёды ўладкуецца лепш, у яе быў і свой вялікі ложак, і мяккая пярына, і бялізна, як снег пад сонцам, нават было ўтульнае крэсла. Халасцяцкае жыццё скончылася, аднак працы ў яго не паменела. Праўда, ягоная жонка, Тамара, не крыўдзілася, мусіць, не бачыла, на што крыўдзіцца. Яна, дарэчы, была яму пад пару — вясёлая, у руках усё гарыць, і без танклявасці ў стане, моцная і ўмелая. Яны зразумелі адно аднаго, і калі Міхась адмовіўся ад кватэры, якую яму прапанавалі — яна, як ні дзіўна, не сварылася, не лаялася, яна гаварыла з ім па-ранейшаму ласкава. А ўся справа была ў тым, што Міхася паклікалі на пасаду галоўнага інжынера ў суседнім саўгасе — і яны неўзабаве паехалі з вёскі, дзе сустрэліся, дзе не спалі ад салаўіных спрэчак, што разгараліся майскімі начамі ў панадрэчных кустах, дзе ля іхняга акна старая чаромха апеньвалася кветам, бы маладая. Яны паехалі, і гэтаму не асабліва здзівіліся, бо такія, як Кунцэвіч, павінны расці, большай лодцы, як кажуць, і большая рэчка.

Валюхі былі трэцяй ягонай вёскай. У раёне ўжо добра ведалі пра Кунцэвіча, мала хто здзівіўся, што малады галоўны інжынер стаў старшынёй калгаса. Да гэтага, канечне, ішло, былы старшыня калгаса «Валюхоўскі», Іван Сяргеевіч Галушка, хоць і быў на кіруючай рабоце ў раёне больш дваццаці гадоў, хоць і ўзначальваў ён «Валюхоўскі» гадоў пятнаццаць, аднак і сярэднія паказчыкі нейкага дня падаюцца не тымі, недастатковымі. Нейкага дня слова «сярэдні» перастае падабацца, тады пачынаюць глядзець — а чаму сярэдні? Камень, які на адным месцы абрастае мохам, на жаль, не расце, не прыгажэе, ён не ўбіраецца кветкамі і не мяняе колеру, гэта таксама можа звярнуць на сябе ўвагу. Галушку паспрабавалі намякнуць на гэта, ён не зразумеў — і паехаў кіраваць рыбнай гас-

падаркай у гэтым жа раёне. Кунцэвіча ў Валюхах сустрэлі даволі абыякава — і дарэмна.

Па-першае, размовы з ім не вытрымалі некаторыя са старых работнікаў, на якіх, здавалася, і стаяў калгас. Яны былі не толькі сябрамі і аднагодкамі Галушкі, у іх быў аднолькавы з ім і погляд на жыццё. «Памалу, патроху, абы ціха,— гаварылі гэтыя самавітыя, чырванатварыя дзядзькі ў шапках з гузікам на макаўцы.— Скора толькі кошкі коцяцца, а ў полі... Паглядзім. Яшчэ ж усё-ткі хлеб у полі расце, а не куколь». Яны, канечне, пражылі жыццё, за плячыма ў іх было ўсякага, і людзей яны бачылі розных. Ды Кунцэвіч усё ж быў не той, не з прывычных. Ён сказаў: калі загадана бульбу выкапаць да пятага ці дзесятага — гэта павінна быць зроблена, хоць галавой налажы, а выкапай. І падказваў: галавой не трэба, гэта заўсёды паспеецца, а вось прыдумаць, як усе сілы звесці ў адзіны кулак, як сабраць разам усю патрэбную тэхніку — гэта не лішне. Але машыны самі не завядуцца і не паедуць, іх падрыхтаваць трэба, адладзіць. На тэхніку ён і налягаў больш, чым на што іншае. І за сапсаваную тэхніку пытаўся не ў камбайнёра ці трактарыста, а ў начальніка майстэрняў. «У кожнага свая работа,— гаварыў ён.— Хто будзе руль круціць, хто глядзець, каб ён добра круціўся — а хто перада мной адказваць. Механізатар перада мной стаяць не павінен, яму трэба ў полі рабіць». Хутка ў Валюхі прыехаў новы галоўны аграном, хлопец такіх жа гадоў, як Кунцэвіч, за ім з'явіўся новы інжынер, яшчэ маладзейшы. Інжынер сам у маторы трактароў не лазіў, больш паказваў, у які трэба залезці і што там зрабіць, аднак тэхніка, тым не менш, зазімавала не так, як заўсёды,— пад паветкамі і на калодках. Майстэрні наогул перасталі зеўраць дзіркамі-вокнамі, яны нават звонку пачалі выдаваць абжытымі, у якіх высахлі лужыны, пацяплела і пачысцела, з іх ужо не хацелася ўцякаць, як са склепа. Праз год Кунцэвіч падвёў дарогу да жывёлагадоўчага комплексу, зрабіў асобны пакой для жанчын, на кожнай ферме быў такі пакой, і мужчынам у іх не тое што было забаронена заходзіць, а проста ім там не было чаго рабіць. Жанкі панаставілі ў тых пакоях вазонаў, у кожным пакоі стаяў таршэр, бывала, што чуліся з іх і песні. «Яны што там, выпіваюць?» — пыталіся смехам шафёры, што прыязджалі на комплекс,— але былі ў пытанні і разгубленасць, і нават зайздрасць. Хто ж не любіць цяпла? І ўжо не бегалі жанкі кожную вольную хвілінку дахаты, іншы раз гаварылі:

«Ай, не пайду, жанкі, лепей тут пасяджу. Што ў тэй хаце? Мой паразіт учора п'яны прыцёгся. От цяпер хай папашукае сабе вячэры». І сапраўды, мусіў каторы з грамадзян сам рабіць сабе вячэру, совацца з кута ў кут па аглухлай, як і не сваёй хаце, знаёміцца з сынавымі падручнікамі: «Бач, што вучаць, і як толькі галавы ў іх хапае на кручкі гэтыя. А тая няйдзе ўсё... З гэтай новай абораю і характар сабе нажыла...» Чалавек ведаў, што не па суседках цягаецца ягоная палавіна, не на лавачцы сядзіць — на рабоце.

Па-другое, Кунцэвіч і сам любіў з'ездзіць у суседнія калгасы і саўгасы, і людзей сваіх пасылаў. Заўважалася, бралася на заметку ўсё — як дзе нарыхтоўваюцца кармы, што чым засяваецца і на якім полі, якая тэхніка лепшая, і самае галоўнае — арганізацыя працы. На гэта Кунцэвіч глядзеў больш за ўсё і гаварыў: розуму грашыма не заменіш. Канечне, аднаму павярнуць вялікі воз гаспадаркі было б не тое што цяжка, а немагчыма, але ён умеў зрабіць людзей сваімі аднадумцамі. Другому б сказалі: з чужога воза сярод балота злазь — гэтаму паверылі. Умеў ён гаварыць, але найбольш стараўся выканаць свае абяцанні, хай самыя маленькія. І ўмеў зацікавіць — каго перспектываю, каго грашыма, ён стараўся ўбачыць усе памкненні і жаданні чалавека. А вось з тымі, хто любіў узяць у губу ці паспаць у цяньку, у яго была свая размова, кунцэвіцкая. «Не хочаш працаваць — я цябе не трымаю. Заяву на стол — і гуляй, шукай іншых палесцін. Толькі назад будзеш прасіцца — не вазьму. А мой калгас будзе лепшы ў раёне. Гэта табе не я кажу — гэта табе твае ж суседзі скажуць, калі папытаешся». І суседзі сапраўды з такога пытання не надта пасміхаліся: «Лепшым, яно, можа, ранавата... Але галава ў чалавека — уга! Гэты свайго дойдзе. От паглядзі, што з вёскаю сталася...»

З вёскаю і сталася многае. У Валюхах неяк раптам, за няпоўныя два гады, вырас сучасны калгасны цэнтр з плошчаю, двухпавярховым праўленнем, вялікім універсальным магазінам і дзіцячым садам, які хоць і стаяў трохі ўбаку, аднак дапасоўваўся сваімі бела-блакітнымі колерамі да ўсяго ансамбля. Галоўная дарога праз вёску была нанова заасфальтаваная, і ад яе адбегліся некалькі другіх — да майстэрняў, на жывёлагадоўчы комплекс, да школы, што стаяла на другім канцы вёскі. Са школаю ў Кунцэвіча таксама пайшло не так, як у другіх старшынят. Ён аддаў школе новенькі трактар «Беларусь» і грузавую машыну — на іх старшакласнікі вучыліся ездзіць і праца-

ваць. Некалькі разоў Кунцэвіч дапамагаў школе грашыма. Аднак самае галоўнае — ён адправіў вучыцца ў інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі двух калгасных стыпендыятаў. Для валюхоўцаў гэта было зусім дзіўна — хлопцы едуць вучыцца на калгасныя грошы, і пасля інстытута яны вернуцца дахаты, ні ў якае другое месца іх не адправяць.

Што і казаць — малады старшыня ведаў, што трэба яму і калгасу. У бок рэчкі бадзёра пакрочылі двухпавярховыя дамы для калгаснікаў, кожны на дзве сям'і, сяліліся ў іх напачатку адно маладзейшыя, потым пачалі прасіцца і тыя, у каго былі свае хаты. «Чужы дзядзька не прыйдзе і не зробіць»,— усміхаўся Кунцэвіч. Пра яго пачалі гаварыць у раёне, бо гаспадарка на вачах памацнела, сам ён ужо не залазіў у пазыку, ішлі прасіцца да яго. Хаця, канечне, нельга сказаць, каб гаспадарка яму дасталася такая ўжо слабая. Яна проста была сярэдняя — і цяпер з сярэдніх выйшла. Праўда, пагаворвалі, што яму лягчэй, у яго няма пад бокам горада, куды ляціць, штаны згубіўшы, моладзь, не з'язджаюць і сталыя гаспадары, пакваліўшыся на гарадскія выгоды. Сапраўды, ад Валюхоў да горада было трыццаць кіламетраў, але цяпер хіба каго здзівіш кіламетрамі, хіба спыніш імі таго, у каго засвярбелі пяты? Ехалі спачатку і з Валюхоў, хто вучыцца, хто мацаваць рабочы клас, каму гарадская булка здавалася смачнейшаю, а «чырвонцы» чырванейшымі, каму проста хацелася сябе паказаць,— потым пачалі ехаць ужо да яго. Вярталіся і валюхоўцы, былі такія, што ажно ў Сібіры, у Брацку, паказвалі, як яны ўмеюць працаваць. І капейчына там была неблагая, і тайга шумела вялікая, як свет, не тайга, нятэча сапраўдная, глухмень,— аднак вярталіся, прыносілі заявы, саромеючыся глядзець у вочы. «Ды маці тут, старая... На лесапавале рабіў. Заробкі добрыя, хапала, клімат таксама харошы. Кватэру? Кватэру пачакаю, жыць пакуль ёсць дзе, маці не выганіць. Жонка з дзіцем у яе ўжо з год жыве». Кунцэвіч гаварыў з імі, слухаў, пытаўся, сам абяцаў мала, бо шанаваў сваё слова, ашчаджаў яго. Гаварыць з людзьмі ён умеў, хай то будуць калгаснікі, начальства, браты-старшыні. З самага пачатку свайго старшынства Кунцэвіч вырашыў зрабіць усё, каб яму верылі, і гэта атрымлівалася. Не машыны ўсё ж галоўнае, а людзі, самыя звычайныя вяскоўцы, якія жылі на гэтай зямлі. А зямля, у якой аж на стагоддзі знікалі іхнія карэнні, была не самай багатай, не кубанскі чарназём і не малдаў-

скі гектар, дзе з аглабліны вырастаюць калёсы. На ёй спрадвеку былі балаты, яны разлягаліся вялікія, прыціхлыя, закрытыя ад людскога вока густой шчэццю чаратоў і трыснягу, над імі пагойдваліся карычневыя шышкі рагозаў, рассейваючы наўкола гаркавы пылок, ад якога ў непрывычнага чалавека моцна балела галава, і ў тых зарасніках пішчэла, варушылася, трашчала птаства, зрэдку палахліва выпырхвалі з іх маладыя качкі, мітусліва лопаючы крыллем,— і падаваў голас вяшчун, як звалі тут кнігаўку. На балотах вяліся птушка, звер і рыба — аднак не рос на іх хлеб. І каторы з палешукоў больш махаў вяслом, кіруючы сваю шугалейку ў трыснёг да пастаўленага нерата, чым гнуўся на полі. Тутэйшыя людзі не проста гаварылі — лодка. У іх човен рабіўся з дуба, чайка — з ліпы, вербаўка і была вербаўкай, вярбой, а лодка з дошак называлася гілярай. Палешукі ўмелі зрабіць какору ці шпангоўт вялікага дубка, умелі абшыць яго дошкамі. На вадзе чалавек павінен быў жыць з вадою ў ладзе. Рэкамі сплывалі балі — звязаныя плыты сплаўнага лесу, па іх праплывалі барліны, гружаныя казубамі з жытам, скурамі, мёдам, дзічынай, рэчкі перагароджвалі боны, ланцугі звязаных вузкіх плытоў, якія запынялі моль, сплаўны лес уроссып. Найлепшай жа лодкаю лічыўся камэльнік, які выдзёўбваўся з камля дуба. Яго доўга рабілі — але і плаваў ён доўга. Здаля бачны былі на рэчках доўгія сцяглы на барлінах, калі-нікалі яны неслі пузаты ветразь, і тады рачная вада за кармой завівалася ў струмені-косы; над вяршкамі ж чаратоў, што закрывалі стаялую ваду, часцей за ўсё мільгалі штылі, доўгія шасты, якімі рыбакі папіхалі свае шугалейкі, бо не заўсёды злаўчышся акунуць у панадводны травяны кілім пяро вясла — трэба ўтыркаць штыль.

Меліярацыя на гэтых балотах пачалася задоўга да Кунцэвіча. Вялася яна па-рознаму — спачатку людзі капалі канавы з асаблівым імпэтам, нават не працавалі, а вайной ішлі на зарослыя хмызнякамі багны. Потым на нейкі час зусім спыніліся ўсе работы, пагаворвалі, што цяпер будзе меліярацыя наадварот, бо без балота нельга. У апошні ж час, калі сюды прыехаў Кунцэвіч, меліяратары працавалі няспешна, але і без затрымак. Адчувалася, што справу сваю яны ўжо ведаюць — спачатку вывучаўся характар мясцовасці, на грунце браліся пробы, потым прыходзіла патрэбная тэхніка. Што б там ні гаварылі, а Кунцэвіч быў дзвюма рукамі за меліярацыю, бо яна давала

землі. Праўда, на асушаных землях палі атрымліваліся розныя, адны давалі кволыя ўраджаі, з-пад тарфяной крошкі на іх вялікімі плямамі вылазіў жоўты пясок, аднак на другіх ураджаі былі большыя, чым на даўно асвоеных землях. Канечне, нямала значылі і ўгнаенні, аднак і зямны кадастр справай быў зусім нялішняй. У кожным месцы зямля мела сваю цану, і Кунцэвіч пра гэта ведаў, у інстытуце гэта не прайшло міма яго вушэй. І хлопцы, якія зараз працавалі побач з ім, умелі паставіць зямлі адзнаку — ад нуля да пяцёркі. Нехта гэтага не разумеў, адмахваўся ад кадастра, як ад авадня ў спякотны дзень,— Кунцэвіч цану свае зямлі ведаў, і севазварот у яго быў наладжаны па навуцы.

Не, людзі, якія працавалі ў гаспадарцы Кунцэвіча, не памяняліся, яны былі, бадай, такімі ж, як і раней,— звычайнымі аратымі, рыбакамі, паляўнічымі, яны трымаліся за сваю гаспадарку, «пальцам пхануюь» каўбасу не мянялі на крамную, і пад страхой абавязкова вешалі кумпяк,— аднак памяняліся ў іх адносіны да калгаснага, яны паверылі ў слова старшыні і ў тое, што ён робіць. Хаця... Калі гаварыць пра моладзь, пра тых, каму працаваць сёння і заўтра,— тут было складана. Нездарма ж кажуць — яшчэ той не радзіўся, каб усяму свету дагадзіў. Было над чым думаць Кунцэвічу, было.

Іван Сяргеевіч Галушка, былы старшыня гэтага калгаса, у першыя паўгода да Кунцэвіча не заяўляўся, хаця сам ён быў з гэтых мясцін, у Валюхах жыла ягоная радня. Вядома, ён быў пакрыўджаны і на сябе, і на раён, і на Кунцэвіча, маладога, ды надта вострага, яму не хацелася госцем прыязджаць у свае былыя ўладанні, не хацелася адчуваць на сабе цікаўныя і, думалася яму, абавязкова здзеклівыя позіркі валюхоўцаў, бо калі яно помнілася — дабро?.. Аднак час прайшоў, крыўда трохі суцішылася — і ўжо вельмі карцела пабыць у Валюхах, прайсціся па вуліцах, а то і ў якую хату зайсці. Галушка быў заўзятым паляўнічым, і лепшых мясцін, як на Касцерскім балоце, яму не траплялася, мусіць, не было іх, лепшых — хацелася і праплысці скрозь чараты, удыхнуць пах цвілой вады, шышак рагозу, хацелася ўбачыць, як прытопліваюцца шугалейкай гарлачыкі — і зноў усплываюць на паверхню, непраўдападобна белыя на чорнай вадзе, хацелася пачуць гук стрэлу. Няйначай, як насмешку лёсу ўспрыняў Галушка свой перавод на рыбаводчы комплекс «Гача». Каму ж кіраваць ім, як не яму, які заўсёды смяяўся, кпіў з

рыбакоў, сам ніколі не трымаў у руках вуды і амаль не еў рыбы, гэтага глупства: адны косткі, і больш нічога. Але ж куды дзенешся? Кіраваў, цягнуўся за планамі, ездзіў на нарады, дзе вучылі, як гадаваць карпаў і ўсякіх плотак з карасямі. Дзякуй богу, што хоць не здагадваюцца пра ягоныя думкі, тады зусім хоць галавой у сажалку, да карпаўвытворнікаў, што варочаюцца ў водарасцях, бы парасяты, іх не лавіць, а страляць трэба.

Ён усё ж прыехаў да Кунцэвіча, зайшоў да яго ў кабінет. Той сустрэў ветліва, але і насцярожана — усё ж былы гаспадар, можа, патрабаваць што будзе? Але Галушка, здаецца, ні аб чым такім не думаў, распытваўся пра гаспадарку, як з людзьмі, ці раз'язджаюцца. Кунцэвіч з Галушкам сустракаліся ў раёне на нарадах, але не гаварылі адзін з другім, Галушка чуў пра поспехі Кунцэвіча, аднак у падрабязнасці не ўлазіў. Працуе — і хай працуе. А цяпер пытаўся пра ўсё, нават пра калгасных стыпендыятаў.

— Ну што ж, малайчына,— нарэшце сказаў ён.— Як той казаў, па ўсіх паказчыках абышоў. Сапраўды, новы час — новыя песні. Умееш спяваць, не тое што я. Чуў, з ільном сёлета добра?

— Ды нічога, прадаў. Паўкапейкі засталося.

— А я, разумееш, з рыбаю. Самы галоўны рыбак на пяць раёнаў. Вось ты ведаеш, што такое макрафіты?

— Ды не, адкуль.

— Канечне, раней і я не ведаў. А цяпер вось... Макрафіты, ці вышэйшыя, галоўная ўмова для нагулу рыб. Чарот, трыснёг, рагоз, стралкаліст, гарлачыкі, рдзесты, шышняк, рагалішнік... Сярод іх жывуць і іх жаруць мае цяперашнія бычкі і цёлкі. Любіш рыбку?

— Ну як... Ліні дык дужа смачныя, за вушы не адцягнеш. Малы быў — з вудаю бегаў і з таптухаю хадзіў, цягаў брэднік. Любіў гэту справу.

— А я, брат... Каб сказаць, што ненавіджу, дык не. Але каб яе не было — не перажываў бы. А і многа ў мяне яе. Па паўмільёна малькоў запускаем. Нічога?

— Нічога. План даецца ці нацягваецца?

— План... Вось я і кажу: каб макрафітаў было дастаткова — раз, штучных кармоў — два, каб глыбіня сажалкі ў норме — тры, каб сонца — чатыры, каб чайкі з варонамі малька не жэрлі — пяць, каб свае ж работнічкі не кралі — шэсць. Хопіць?

— Хапае. А што галоўнае?

— Ды, відаць, людзі галоўнае. З суседніх вёсак ідуць,

як па сваё, і вартаўнікі з імі. Уяўляеш, чапля, кажуць, у Чырвоную кнігу запісана, мала яе, чаплі, берагчы трэба. А на маіх сажалках па тры чаплі адразу можна ўбачыць. Нават чапля, га?! Нават гэтая малька жарэ!

— Бывае,— засмяяўся Кунцэвіч.— А ты вучоным напішы: прыязджайце глядзець чаплю. Можа, з сабой звязуць.

— Не, не гэтак будзе. Дастану я, мусіць, сваю стрэльбу — ды як смальну з абодвух ствалоў... Толькі пер'е з тае рыбы паляціць.

— Рыбы?..

— Во-во, пер'е з рыбы. І гары яно ўсё гарам...

— Нешта ты не тое гаворыш, Іван Сяргеевіч. Лічбы ў цябе... у вас, я глядзеў, нармальныя, завалаў асаблівых няма...

— А работа ў мяне нармальная?.. Рыбны гаспадар! Цьху!.. Дарэчы, ты адзін з суседзяў па рыбу не едзеш. А так наш брат хто на «Волзе», хто на «Ніве», а найбольш — на «уазіках», каб у вочы не кідацца. Усе нашага караня — пузатыя, салідныя. Усе па-суседску.

— Бач,— зноў засмяяўся Кунцэвіч,— а я неяк не змікіціў. Ну што ж, калі я псую суседскія адносіны — давядзецца прыехаць.

Яны тады гаварылі доўга. Ім было пра што пагаварыць. Адзін успамінаў, другі слухаў. Галушка зла на Кунцэвіча не трымаў, ён проста разважаў, пытаўся ў сябе, спрабаваў адказваць. Гэта і аказалася яго лепшай якасцю, як падумаў Кунцэвіч, што ён не вінаваціў усіх вакол сябе, што ён не злаваў на іх. Ён аказаўся неблагім чалавекам, Іван Сяргеевіч Галушка.

— Заходзьце,— сказаў на развітанне старшыня.

— Прыязджай,— сказаў дырэктар рыбгаса.

Але па рыбу Кунцэвіч усё ж не паехаў. Толькі на гэтым тыдні ён пазваніў Галушку, папрасіў, каб далі якіх карасёў Пятру Гасцілу. «Вяселле,— сказаў Кунцэвіч,— трэба памагчы».— «Пятро і без твайго званка мог прыязджаць,— як быццам пакрыўдзіўся Іван Сяргеевіч.— Я ж яго як аблупленага ведаю».— «Хай сабе і так, аднак лішні раз папрасіць не шкодзіць. Пятроў сын жэніцца, Ігар».— «У горад яшчэ не навастрыўся той сын? А то нездарма ж кажуць — з'ездзіў у Слуцк, з'еў паўбатона — і па-гарадскому ўжо гаворыць».— «Я яго ў інстытут адпраўлю. Здаецца, гэты хлопец сын свайго бацькі. З арміі не кудынебудзь, дахаты прыехаў».— «Як там Валюхі? — перавёў

гаворку Галушка.— Стаяць?» — «А што ім зробіцца? Галоўнае, хутка ў дзіцячым садзе месцаў не будзе. Ідуць валюхоўцы!»

Кунцэвіч жартаваў, ён любіў пажартаваць, асабліва калі яго разумеў субяседнік,— аднак тут Іван Сяргеевіч не зразумеў ці зрабіў выгляд, што не разумее. Ён паклаў трубку, калі Кунцэвіч яшчэ смяяўся.

Зрэшты, Кунцэвіч спачатку зазлаваў, калі пачуў пра вяселле Гасцілавага сына — знайшлі час, жніво на носе, хіба гэтай парой гуляюць вяселлі? Гэта ж не ў адных маладых галава не тым будзе занята, не яны адны будуць таўчыся толькі на сваім двары, а і амаль уся іхняя радня і суседзі. Аднак што ён мог зрабіць? Але, праўду сказаць, Гасцілы, бацька з сынам, як не да апошняга дня выходзілі на работу, не адпрошваліся, Кунцэвічу нават падумалася, што вяселле адклалі да восені. Аднак днямі зайшоў Пятро, запрасіў на вяселле, тады ж Кунцэвіч пазваніў Галушку наконт рыбы.

Увогуле, адносіны паміж Кунцэвічам і Гасцілам-старэйшым былі досыць складаныя. Пятро быў адзіным брыгадзірам, якога не памяняў, прыйшоўшы сюды, Кунцэвіч. Але каб сказаць, што паміж імі поўная згода — гэтага не было. Кунцэвіч любіў, каб яго слухалі з першага слова — Гасціла мог заўсёды заспрачацца. Прычым спрачаўся ён па дробязях, там, дзе разумны чалавек і носа не вытыркне. То не ў той дзень трэба ў поле выходзіць, то бегчы рамантаваць стайні, а не раскочваць іх па бёрнах, бо і так ужо тых коней засталося — адзін кульгавы і тры старых. Зрэшты, з конься Кунцэвіч пагадзіўся, сапраўды, трымаць іх трэба, хоць адна конская сіла і ёсць адна, ды да яе яшчэ і чалавека трэба прыставіць. Але коні калгаса не з'ядуць, і па бездаражы на іх заедзеш хутчэй, як на трактары. Праўда, пра гэтых коней Пятро Гасціла, можа, гаварыў болей, чым трэба,— і ў гэтым быў увесь ён. Кунцэвіч доўга да яго прыглядаўся, падыходзіў з аднаго боку, з другога. Безумоўна, галава ў Гасцілы была, а яе Кунцэвіч паважаў больш за ўсё, ды быў у яго яшчэ і язык, і нораў. Час ішоў, Кунцэвіч то збіраўся Гасцілу мяняць, то забываўся на гэта, а апошнім годам зміры́ўся. Маладыя, можа, добрыя хваткаю, свежым розумам, імпэтам,— у старэйшых жа за плячыма гады. І яны ведалі ўсіх вяскоўцаў, з кім раслі, у каго розуму вучыліся. Кунцэвіч хоць і мёў новай мятлой, аднак па той жа самай падлозе.

І якраз у дзень вяселля — а яго можна было святкаваць

як зажынкі, як пачатак жніва — да Кунцэвіча, маладога, перспектыўнага старшыні, прыехаў журналіст з рэспубліканскага радыё. І яны сустрэліся ў Кунцэвічавым кабінеце — здаровы, рашучы, з немаленькім ужо жывоцікам і таўставатай шыяй, на якой амаль не зашпільваліся каўняры кашуль, бадзёры Міхась Пятровіч Кунцэвіч і высакаваты, хударлявы, таўставусы, танкарукі і джынсавы Сяргей Пасько, якому вельмі пасавала адно нетутэйшае слова — субтыльны.

Сяргей Пасько радыёжурналістам працаваў пяты год, і яму здавалася, што на сваёй рабоце ён пабачыў ужо амаль усё. Сяргей на радыё прыйшоў адразу пасля журфака, на які ён паступіў па службе ў войску, і гэта работа яму падабалася. Яшчэ студэнтам першага курса ён пачаў падрабляць на радыё, навучыўся працаваць з «Рэпарцёрам», там жа праходзіў практыку — і ніхто не здзівіўся, што ён яшчэ да размеркавання быў ужо ў штаце Дзяржкамітэта. На радыё яго ведалі, ён там таксама ведаў усіх, ад асістэнтак гукарэжысёраў да сакратаркі старшыні камітэта, прывыкаць ці ўваходзіць у курс справы яму не трэба было. Казалі, што радыёжурналіста ногі кормяць — і гэта было па ім. Яго ўзялі ў рэдакцыю сельскай гаспадаркі, якую потым аб'ядналі з прамысловай у адну — рэдакцыю народнай гаспадаркі, і хоць работы тут было больш, чым у якой музычнай ці літаратурнай, ён бачыў і свае плюсы — кватэры хлопцы-«сельскагаспадаршчыкі» атрымлівалі намнога хутчэй за астатніх. «Будзеш бегаць — будзе костка»,— жартам гаварылі яны між сабой. Сяргей пачаў малодшым рэдактарам, праз два гады быў рэдактарам, праз тры — старшым. Нават была гаворка, каб прызначыць яго загадчыкам аддзела — іхні загадчык пайшоў у намеснікі галоўнага рэдактара, аднак не паставілі, сказалі, каб папрацаваў яшчэ, малады. Сяргей і не пакрыўдзіўся, ён быў упэўнены, што ягонае ад яго не ўцячэ, так, трохі паскардзіўся ў кулуарах, аднак няшмат. За няпоўныя пяць гадоў Сяргей Пасько браў інтэрв'ю ў калгаснікаў, старшынь калгасаў, начальнікаў упраўленняў, у намесніка міністра. Зразумела, што ён ужо і падумваў пра сябе як пра бывалага журналісцкага воўка, які і тое, і гэтае, і што іх, лепшых, толькі некалькі. «Нялёгкі журналісцкі лёс ізноў закінуў мяне ў Маскву...» — любіў расказваць ён у цёплай кампаніі, асабліва калі побач была якая-небудзь сімпатычненькая. У залежнасці ад кампаніі Масква лёгка магла памяняцца на Сафію, Вар-

шаву, а то і... Парыж. «Мы ж журналісты!..— падміргваў Сяргей, калі яго лавілі на хлусні.— У нас работа такая. А калі слухаюць — чаму не расказаць?» І расказваў; ад адной слухачкі было ў яго дзіця, на другой жаніўся, але хутка развёўся, трэцяя ўжо два гады спрабавала яго на сабе жаніць, з чацвёртай, апошняй, раман толькі пачынаўся.

Усяго пабачыў журналіст Сяргей Пасько, і ў камандзіроўкі ён ужо стараўся ездзіць паменей, а калі і ехаць, дык у тыя, дзе належна сустракалі, напрыклад — у якую з суседніх рэспублік.

З гэтай камандзіроўкай на Палессе адразу пайшло ўсё наперакасяк. Па-першае, гэта была не камандзіроўка, а як бы... ссылка. Сяргей Пасько запароў важную перадачу, у якой ён разам з адказнымі таварышамі павінен быў расказаць пра лепшыя аграпрамысловыя аб'яднанні. Але з адным ён не паспеў дамовіцца, другі нечакана паехаў у Маскву, у выбраным раёне гаварыць на гэтую тэму пакуль што не захацелі, яшчэ было рана гаварыць — перадача атрымалася невыразная, кволая, неаргументаваная. Перадача аб усім і ні пра што. «Некаторыя падумалі,— сказаў на лятучцы галоўны рэдактар,— што яны ўжо ўсё могуць. А на самой справе — ім трэба вучыцца. Пасько, паедзеце ў раён. Спачатку самі з'ездзіце, без машыны і без тэхнікі, разгледзіцеся на месцы, пагаворыце з людзьмі, напішаце сцэнарый, які мы ўважліва прачытаем,— а там паглядзім. Ранавата пачалі пра лаўры думаць!»

Пасько выйшаў з лятучкі прыгаломшаны. Усё правільна — перадача слабая, праблемы не ўзняты, але ж... Чаму адразу былі забытыя ўсе яго ранейшыя поспехі? Чаму ўсё ранейшае было закрэслена — і гаварылі толькі пра гэтую прыкрую няўдачу? Чаму толькі на ёй спыніліся, як забуксавалі? Здаецца, і спрабуюць перайсці на якую іншую перадачу, здаецца — ужо другіх ушчуваюць, аднак не — Пасько тое, Пасько гэтае... Увогуле, гэта ж быў ці не першы яго буйны пракол! Не, гаварылі пра гэта, лаялі, вінавацілі, вучылі. «Малады, безадказнасць, не паслухаў, не зрабіў, трэба спытацца з усёй строгасцю»,— такія словы кружыліся вакол Сяргея, наляталі, нават кусалі яго, і ён нічога не мог зрабіць, цярпеў.

У калідоры Сяргей стрэльнуў цыгарэту, з трэцяй запалкі закурыў яе, падышоў да сметніцы, дзе збіраліся курыльшчыкі з усіх рэдакцый на іхнім паверсе. Гэта быў нават не куток, а клуб, дзе ішло абмеркаванне апошніх

падзей, дзе расказвалі, хто што сёння з'еў на сняданак, як спаў, каму не шанцуе і ў каго дарога выслана ружамі. Часта ацэнка, дадзеная ў гэтым куце, была ці не важнейшая за іншую. І ярлык, у ім пачэплены, трымаўся доўга, вельмі доўга. Кут быў пракураны, крэслы ў ім папрадзіраліся, сцены паабцерліся чалавечымі плячыма і спінамі — аднак да яго цягнула не толькі курыльшчыкаў, якоенебудзь маладзенькае дзяўчо, малодшы рэдактар, слініла суслу толькі дзеля таго, каб нараўне з усімі пастаяць тут, паслухаць пра моцных, пасмяяцца са слабых, далучыцца да цёртых, нахабнаватых, лыса-барадатых ваўкоў, якія ўсё ведалі і ўсё маглі. Хто з ваўкоў браў голасам, хто з'едліва кпіў, у каго заўсёды былі грошы, і таму ён толькі маўчаў і пагардліва ўсміхаўся, для каго не існавала жанчын, каму яны апрыкралі, як пажыццёвая восень, трэці ж мог у любы момант збегаць у краму, хаця сам не піў аж з таго часу, як вылечыўся ад алкагалізму — публіка была надзвычай цікавая і шматгранная.

Зараз у куце стаялі два рэдактары, два мэтры, якія ў камітэце працавалі з часу яго заснавання, мала ўжо хто тыя часы памятаў, гэтыя ж два не тое што памяталі — яны выціралі насы ўсім тым, што зараз былі загадчыкамі аддзелаў і галоўнымі.

— Гэта пры якім старшыні было? — пытаўся дагледжаны, з акуратна падстрыжанымі барадой і доўгімі валасамі, мажны Рыгор Міхайлавіч Касторын.

— Ды яшчэ да Пятрова... у пяцідзесятыя гады. Ну ён яшчэ такі тоўсты быў, з пастаўленым голасам...— нерваваўся Аляксей Пятровіч Лапікаў, бязвусы і безбароды, інтэлігентна хударлявы і ў стаптаных чаравіках, з якіх тырчэла засохлая трава.

Убачыўшы Сяргея, яны тут жа кінулі спрачацца, павярнуліся да яго, некаторы час моўчкі вывучалі. Цяжка было сказаць, пра што яны думалі, ніхто не мог бы пра гэта здагадацца, ніхто б не рызыкнуў гэта зрабіць — хіба зразумееш жывы помнік? — і Пасько проста стаяў, нервова зацягваючыся.

— Ты ведаеш, Грыша,— сказаў Лапікаў, усё яшчэ гледзячы на Пасько,— я не перастаю здзіўляцца на свайго Рыкі. Ён разумнейшы за многіх людзей!

Рыкі, чорны аргенцінскі шпіц, таксама ўвайшоў у камітэцкую класіку, хаця быў, увогуле, не такі экстравагантны, як Аляксей Пятровіч. Вось зусім нядаўна той задрамаў на рэдакцыйнай лятучцы. Ніхто б гэтага і не заў-

важыў, усякае можа здарыцца з чалавекам, і не з такім заслужаным, як Лапікаў. Аднак Аляксей Пятровіч, прачнуўшыся ў самы важны момант узнёслага, эмацыянальнага выступлення галоўнага рэдактара, палічыў неабходным што-небудзь сказаць. «Юра,— перабіў ён галоўнага рэдактара, які заклікаў да павышэння мастацкіх вартасцей радыёперадач,— а ты не ведаеш, дзе можна купіць тармазны тросік для матацыкла? Мой матацыкл нешта сапсаваўся». Зразумела, грымнуў такі рогат, што лятучку ўжо можна было не працягваць. Рыкі, у адрозненне ад свайго гаспадара, быў ціхі, выхаваны і ад носа да кончыка хваста аддады Аляксею Пятровічу.

— А з чаго ты, Лёша, вывеў, што Рыкі разумнейшы за людзей? — спытаўся Касторын, таксама свідруючы вачыма Пасько.

— Ну як жа, Грыша, я гэта даўно ведаю! Калі я бяру Рыкі з сабой на акцёрскую рэпетыцыю, ён мне замяняе рэжысёра. Ты ўяўляеш, Рыкі пачынае брахаць, калі чуе, як акцёр фальшывіць!

— Цудоўны ў цябе сабака, Лёша,— пахваліў яго Рыгор Міхайлавіч.— Вось толькі кепска, што фальшывую акцёрскую гульню заўважае адно Рыкі, а не ты.

У кут заскочыў яшчэ адзін камітэцкі аксакал — тэлевізійны рэжысёр Зорачкін, маленькі, лысы, худы, порсткі, як верабей.

— Грыша!.. Лёша!..— крыкнуў ён, ліхаманкава пацягваючы цыгарэту.— Здымаю новы фільм! Чатыры серыі!

— Ёсць сцэнарый? — з веданнем справы спытаўся Касторын.

— Не, але ў мяне ёсць ход!

Зорачкін кінуў цыгарэту і памчаўся па калідоры. Касторын і Лапікаў з павагаю заківалі галовамі — здыме, раз ёсць ход — здыме, чатыры, а то і пяць серый.

Пасько павярнуўся і пайшоў. Яго нават не развяселілі два журналісцкія зубры і адзін тэлевізійны са сваім бачаннем свету, яны не дапамаглі яму, хаця, мусіць, і стараліся. Сяргей злаваў на сябе, на начальства, нават на сваю работу, якую, здавалася яму, ён ведаў ад «а» да «я», якая хаця і падабалася яму, але ўжо трохі надакучыла. «Вось вазьму ды ў газету падамся!..» — прыгразіў ён невядома каму. Але пагрозы пагрозамі — ды трэба было адпраўляцца ў камандзіроўку, выконваць загад галоўнага, хаця на душы было вельмі пагана.

Ён паехаў на Палессе ў наступны ж панядзелак. Спачатку ён пазваніў, што будзе праз два тыдні, гаварыў з райкомам, раіўся, у якую гаспадарку ехаць, а потым адным днём выпрасіў загад на камандзіроўку, падпісаў яго ў начальства, атрымаў у бухгалтэрыі аванс — і паехаў. І атрымалася, што ён трапіў да старшыні калгаса Кунцэвіча без папярэджання, нечаканым госцем.

Кунцэвіч гэтаму нечаканаму прыезду журналіста спачатку не ўзрадаваўся: ён ламаў ягоныя планы — гэта раз, сам ён быў не вельмі падрыхтаваны да гаворкі — два, і вяселле — тры... Аднак журналіст, Сяргей Пасько, аказаўся хлопцам рухавым — ён не цягнуў ката за хвост, а адразу сказаў, што канкрэтна яму трэба. Задача была такая — зрабіць перадачу пра іхні раён. Ён запланаваў гутарку з першым сакратаром райкома партыі, з рэдактарам райгазеты, які працаваў у раёне каля трыццаці гадоў, і з некалькімі старшынямі калгасаў. Сярод гэтых некалькіх яму параілі і Міхася Пятровіча Кунцэвіча.

— Ясна,— сказаў Кунцэвіч.— Але пакуль што гэта ўсё-такі агульныя словы. Канкрэтна?

— Канкрэтна? — крыху задумаўся Пасько: — Значыць, так: што ёсць ваша гаспадарка зараз — і якой вы яе хочаце ўбачыць гадоў праз дзесяць. Якія людзі працуюць тут — і якія будуць працаваць. Якія праблемы першачарговыя — і як іх вырашыць. А калі коратка — перспектывы сучаснай вёскі.

— У мяне гэтак лёгка і скора, як у вас, не атрымаецца,— засмяяўся Кунцэвіч.— У вас тры словы — і ўжо дзесяць гадоў. А для мяне год — трыста шэсцьдзесят пяць дзён, а ў высакосны — трыста шэсцьдзесят шэсць. І ў кожным дні справа, маленькая, крыху большая, вялікая, кожны дзень справа. І каб я ведаў, што ў мяне будзе праз дзесяць гадоў... можа, і не сядзеў бы на гэтым месцы.

— Вось бачыце, як цікава можа атрымацца. Неардынарна.

— Ды якое там неардынарна. Чалавек жа ідзе не па ўбітай дарозе, а па цаліку. Перад ім усё новае.

— Але ж вы нешта перад сабой бачыце? Мэта ў вас ёсць?

— Мэта ёсць у кожнага. Аднак... Ведаеце такую прыказку: ёсць на ваўку кажух, ды прышыты?

— Не, не чуў... Гэта пра што — пра недасяжныя мэты?

— Во-во, пра ўтапічныя. Я ж рэаліст, мне хочацца, каб добрыя хаты ў Валюхах стаялі — сёння, каб басейн

у дзяцей быў — сёння, каб усе калгаснікі на работу ішлі — сёння... І мэты ў мяне не гэткія ўжо высокія.

— Ну, гэтак у лоб можна і не гаварыць. Вось пра басейн — добра, пра басейн скажаце. А высокія, нізкія — гэта не трэба. Ёсць жа кампрамісы.

— А чаму не сказаць так: высока лятаеш, ды дзе ты сядзеш?

— Таксама з народнага?.. Могуць не зразумець. Народ — ён усяк гаворыць, з адным можна пагадзіцца, з другім — не. Вы што, толькі пра сённяшні дзень думаеце?

— Вось у тым і справа, што думаем мы пра заўтрашні, а рабіць трэба сёння. Бывае, як пачнуць гаварыць пра тое, што будзе,— галава кругам ідзе. А калі прыгледзецца — адны словы. Я супраць гэтага. Прынцыпова.

— А канкрэтна пра ваш калгас, пра гэтую вёску?

— Ну што вёска... Звычайная вёска, і людзі звычайныя, працаваць умеюць. Ім толькі перашкаджаць трэба паменей. Вы наогул пра гэтыя мясціны, пра раён гэты ведаеце?

— Трохі ведаю, сам я, праўда, гарадскі. Аднак у суседнім раёне ў камандзіроўцы бываў.

— Ну тады паслухайце. Быў час, тутэйшых палешукоў балотнікамі звалі. Большую частку жыцця ў лодках ці чайках. Валюхі дык хаця на сушэйшым месцы стаяць, а суседнія хутары і вёсачкі на выспах, Касцерскае балота яшчэ і зараз вялікае, а раней, мусіць, кіламетраў на пяцьдзесят разлягалася. Касцерскае таму, што мошка — касцер па-мясцоваму. У некаторых вёсках не вуліцы былі, а пратокі, і не хадзілі па іх, а плавалі. Сядае палешук у шугалейку і кажа: «Пайшоў на поле». І з некаторых абжытых выспаў на кані можна было выехаць толькі летняком — летняй дарогай праз балота — ці сярэдзінаю зімы, калі добра падмярзала. А бывала, што і ўзімку якое месца толькі зашэрхне, возьмецца тонкім лядком, яго прыцярушыць снег — і не заўважыш, як у шаргавіцу, у дождж са снегам укінецца туды конь з санямі. Расказвалі такое, як і пра торф, што гарыць пад зямлёй, расказвалі, правальваліся ў той прысак каровы і гінулі. Непрывычнага чалавека ад гэтых месцаў лякатуха брала. Жылі тут адасоблена, вёска ад вёскі хоць і недалёка былі, аднак не заўсёды да іх дабярэшся. Я ж кажу — летняком ці зімняком, восень і вясну сядзі на месцы, нікуды не высоўвайся. Хаты былі малыя, дзяцей у іх па дзесяць і больш.

Я дык і задумваўся іншы раз — чаму столькі дзяцей? Пракарміцца ж нялёгка было — а ў іх па дзесятку белагаловікаў. Цяпер думаю — інстынкт працаваў. Адно дзіця захварэе, аслабне з голаду, памрэ — і няма больш дзяцей. З дзесятка хоць колькі, ды выжыве. А можа, і не таму зусім. Можа, проста заведзена было, каб шмат. Ды і ў другіх месцах, калі прыглядзецца, чым бядней, тым больш дзятвы. А ў Еўропе па аднаму дзіцяці на сям'ю, сама болей — па два. Вось і ў Валюхах цяпер рэдка ў якой сям'і больш трох дзяцей. Я з гэтага выводжу — лепш жывем. Ці праўда?

— Чыстая праўда! — дастаў цыгарэты Пасько, устаў, прайшоўся да акна і назад, ён не любіў падоўгу сядзець на адным месцы.— Сацыёлагі даўно пішуць — чым лепшыя ўмовы жыцця, тым меншыя сем'і. А то і зусім без сем'яў абыходзяцца. Закон развітага грамадства.

— Ну, наконт законаў не ведаю,— Кунцэвіч сядзеў, як уліты ў крэсла, работа прывучыла да гэтага крэсла, мог праседжваць у ім гадзін па некалькі,— у мяне трое малых, і спыняцца, мусіць, не буду. Тут не закон, а чалавек, так мне здаецца.

Пасько ўспомніў пра свайго сына, які жыў невядомым яму жыццём, ён і бачыў яго ўсяго некалькі разоў — маці не напаміпала пра сябе і прасіла іх не чапаць, яна выйшла замуж, і Сяргееў сын называў бацькам чужога чалавека — і спахмурнеў. Апошнім часам ён пачаў успамінаць пра сына, пра тую, якая магла быць не толькі маці ягонага сына, але і жонкай журналіста Пасько,— ад успамінаў яму рабілася не па сабе. Ён раздражняўся, злаваў невядома на каго — ды нічога ўжо не павернеш. У тыя хвіліны Сяргей Пасько разумеў, што не ўсё ў яго гэтак ужо добра, што няма чым яму асабліва хваліцца, што козлікам да старасці не праскачаш. Гэтае разуменне больш за ўсё і злавала.

— У кожнага чалавека свая планіда,— сказаў Сяргей і скамячыў у попельніцы цыгарэту, тая, толькі што раскураная, загнулася, як пытальнік.— Вось вы кажаце — чалавек, вёска... Раней тут жылі бедна, галодна, мала пра што марылі. Цяпер жывуць лепш — і едуць з вёсак, хто на БАМ, хто на бліжэйшы завод. Не хочуць жыць, як бацькі, не хочуць нават лепш за іх жыць.

— Бывае,— згадзіўся Кунцэвіч.— Хто з вёскі — а хто і назад. У мяне за гэты год дванаццаць заяў — просім прыняць у члены каапературыва. Вы мяне апярэдзілі — я якраз

і хацеў пра сучаснае. Зараз праз Валюхі ідзе асфальтаваная дарога, пабудаваны сучасны жывёлагадоўчы комплекс, у якім жанкі ў белых халатах робяць, ёсць вялікі магазін, дзіцячы сад, школа. Побач з калгаснымі майстэрнямі размясціліся меліяратары, у іх тут базавы лагер. Што б там ваш брат журналіст ні пісаў пра меліярацыю, як яна губіць зямлю,— а для гэтых мясцін меліярацыя не проста дабро, яна дабро ў кубе. Можа, не заўсёды з галавой асушаюць, але асушаць неабходна, бо ў тых хмызняках, акрамя жабурыння, і не знойдзеш нічога. А нам зямля трэба, хлеб. Другая справа, мы на гэтай зямлі яшчэ не навучыліся як след працаваць, але перш-наперш трэба ўсё ж зямля. Дык вось, пяць гадоў назад толькі ехалі адсюль, цяпер жа і назад просяцца. Праўда, як той казаў, цягнік яшчэ ходзіць у два канцы, хто туды, хто сюды, але я ўпэўнены — паедуць толькі сюды. Трэба, каб чалавек у сваю хату, у сваю зямлю паверыў. А гэта будзе.

— А ў вас тут чорных бур не бывала? Нешта я якраз пра вашыя мясціны чытаў... Ці чуў, што выветраныя палі.

— Навучымся, усяму навучымся. І балота будзе, і поле,— Кунцэвіч пра чорныя буры як не пачуў.

— Вы, мусіць, родам з гэтых мясцін? — Пасько было вельмі цікава слухаць гэтага ўпэўненага чалавека, які быў ненамнога старэйшы за яго, яму падабаліся сіла, перакананасць, націск, што адчуваліся ў кожным слове.— Калі чалавек перажывае за сваё балючае, гэта відаць адразу.

— Ды не, я не адсюль,— сказаў Кунцэвіч, але больш гаварыць не захацеў.

Яму, Кунцэвічу, іншы раз здавалася, што ён зрабіў вялікую памылку, калі пасля інстытута не паехаў працаваць на радзіму. Не, ён правільна выбраў, сарыентаваўся, што ў гэтых мясцінах, сярод балотаў, на якія ішло вялікае наступленне, у яго будзе больш прастор для ініцыятывы, ён хутчэй пакажа сябе, хутчэй выйдзе на належны ўзровень. Усё так і атрымалася. На развіццё сельскай гаспадаркі ў гэтай частцы рэспублікі звярталася асаблівая ўвага, сюды аддавалася шмат сродкаў, накіроўвалася лепшая тэхніка, слабейшыя гаспадаркі атрымлівалі датацыі. І людзі з галавой, з ведамі, з ініцыятывай тут былі патрэбны, ім адкрывалася дарога, іх заўважалі. Кунцэвіч са сваімі якасцямі кіраўніка і добрага арганізатара амаль адразу атрымаў тое, што хацеў. Аднак... Яму думалася, што раней ці пазней ён дапяў бы свайго і на радзіме, там, адкуль ён выйшаў. Правільна, там традыцыі, моцныя гас-

падаркі, добрыя, адны з лепшых у рэспубліцы, землі, культура іх апрацоўкі таксама досыць высокая — аднак ён бы не згубіўся. Не гэтак бы хутка аказаўся на грэбні — але ўзышоў бы на яго, не сарваўся б. Нездарма ж кажуць — у родным краі, як у раі. І на сваім сметніку і певень гаспадар. І чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу. Гэта ён чуў, пра гэта чытаў, аб гэтым думаў. Ён пабаяўся, што там яго будуць пазнаваць, прыгадваючы — а ці не каранёўскі гэта хлопец? Бязбацькавіч, не было ў яго бацькі, матка падгуляла. Але во вывучыўся. Кажуць, што якраз з такіх і атрымліваюцца талковыя, няма ім на каго спадзявацца — таму і вучацца, і працуюць добра. Ну так, ведаем мы гэтага хлопца, тутэйшы. Ён баяўся такіх слоў, нават і чуў ужо іх, хоць паблізу нікога не было. І цяпер злаваў на сябе — спалохаўся, уцёк ад сваіх землякоў, ад іхніх вачэй, пабег у другі бок, туды, дзе ён чысценькі, як анёл. Не, ён не наракаў на людзей, з якімі зараз працуе, яны яму падабаліся — цягавітыя, нязлыя, спакойныя,— але часта думаў якраз пра землякоў, пра панаднёманскіх людзей.

І яшчэ Кунцэвіч не разумеў, як можна было любіць балота, чаму тутэйшыя людзі прападалі ў ім па цэлых днях, хто паляваў, хто рыбаліў, навошта яны за яго трымаліся, чаму шкадавалі, калі яно высыхала? Ён нават чуў, як хто-небудзь з гэтых мужчын гаварыў: «Якая мана з балота плыве, заўтра трэба схадзіць». А патыхала з балота перастаялымі травамі, цвілой вадой, можа, крышачку пагонямі — так тут называлі сена, накошанае на залітых вадой мясцінах. Кунцэвіч бачыў у балоце адно ворага, прыспешваў меліяратараў, калі яны, здавалася яму, марудзілі, і сам без патрэбы ў балотную нятэчу ніколі не залазіў. Ён не быў ні рыбак, ні паляўнічы.

— Людзі тут добрыя,— сказаў Кунцэвіч не да журналіста, а больш да сябе.— І працаваць умеюць, і весяліцца. Гумар у іх цікавы. Не адразу і расшалэпаеш.

— Праўда? — здзівіўся Пасько, відаць, гумар ён любіў таксама.— Цікава было б сустрэцца з імі, пагаварыць. Я сам чалавек вясёлы — і люблю вясёлых. З імі лёгка.

— Сустрэцца? Гэта можна,— раптам узрадаваўся Кунцэвіч.— Мяне сёння на вяселле запрасілі, адзін добры хлопец жэніцца. Вось разам і пойдзем. Дарэчы, нас там ужо чакаюць.

Ён і не заўважыў, як яны прагаварылі аж каля дзвюх гадзін. Гэтая размова яго растрывожыла, выклікала дум-

кі, якія раней і не прыходзілі. Але так, зрэшты, і бывае — чалавек жыў у адным рытме, круціўся ў адным коле — устаў, паснедаў, правёў нараду, з'ездзіў на комплекс ці ў поле, сам пазваніў, яму пазванілі, яшчэ сустрэўся, зноў куды-небудзь з'ездзіў, павячэраў, заснуў,— і з гэтага рытму мог вывесці толькі новы чалавек, не проста новы, а чалавек з другога жыцця, у якога другія клопаты, другія думкі, другія вочы, якімі ён пазірае на свет. Тады ты як бы прыпыняешся — і заўважаеш шмат новага, нечаканага. Новы чалавек прымушае па-новаму паглядзець наўкола сябе. Гэты Пасько, журналіст, чалавек толькі крыху маладзейшы ад Кунцэвіча, прынёс з сабой адмеціну зусім не таго жыцця, у якім жыў Кунцэвіч. Ён адрозніваўся літаральна ўсім, быў апрануты ў джынсы і скураны пінжак, цыгарэты курыў сталічныя, такіх тут не знойдзеш, гаварыў, здаецца, па-беларуску, але не так, як гаварылі Кунцэвіч, ягоныя землякі і тыя, з кім ён жыў і працаваў цяпер. У журналіста была другая псіхалогія, псіхалогія чалавека, які жыў клопатамі вялікага горада, сталіцы. Не, Кунцэвіч зусім яму не зайздросціў, ён адно прыглядаўся, запамінаў, каб ведаць надалей, з якімі людзьмі яму давядзецца некалі гаварыць. Ён запамінаў кожнага чалавека, з якім яго зводзіла жыццё, і той чалавек займаў належнае месца ў ягонай памяці. Ён ведаў, што гэта яму трэба, бо толькі ад людзей залежыць, як ён будзе жыць, якое будзе займаць месца.

— Так што хутка пойдзем,— сказаў ён Пасько.— А вяртаючыся да пачатку нашай размовы... Вось вы верыце ў сваю працу?

— Як гэта? — не зразумеў Пасько.— Праца як праца. Мне даюць тэму, я пішу, асвятляю. Пра ваш калгас раскажу.

— А ў свае слова вы верыце? Дакладней, яму паверыць мае калгаснікі? Вось вы скажаце — трэба павялічыць вытворчасць працы на нейкі там працэнт. Яны пойдуць павялічваць?

— Ну... не гэтак жа літаральна. Ніхто задачы так не ставіць. Мы, канечне, стараемся. А слова ёсць слова.

— Правільна, я пра гэта і кажу. Вашаму слову не паверыць — гэта бяда, у маім слове засумнявацца — бяда намнога большая. І вам, і мне трэба гаварыць праўду. Асабліва мне. А здараецца — гаворым адно, на справе другое. Во што шкодзіць. Правільна кажуць: не мора топіць — лужына...

— З гэтым згодны,— кіўнуў галавой Пасько — але відаць было, што яму рупіла зараз вяселле, а не нейкае там слова з праўдаю.

— Пайшлі,— падхапіўся Кунцэвіч.

Яны з Пасько занеслі ў старшынёўскую «Ніву» скрыню з прайгравальнікам, Кунцэвіч паклікаў парторга, які толькі-толькі аднекуль прыехаў, сеў за руль — і хутка яны былі ля хаты, вакол якой даўно ўжо сноўдала дзятва, купкамі стаялі людзі — хто выйшаў праветрыцца, хто прызнаваўся ў любові да сябра-суседа, жанкі штосьці нашэптвалі адна другой на вуха. Два мужчыны стаялі каля сабачай будкі, якую гаспадары абачліва перанеслі да хлява, вялі гутарку.

— А от на цябе наскочыць сабака,— наступаў адзін на другога,— як ты ад яго адаб'ешся?

— Ну як...— другі б ужо і ў хату пайшоў,— як-небудзь...

— Ну во напалохай гэтага сабаку! Давай, зрабі так, каб ён уцёк!

— Ды пачакай, навошта? Ён жа не кідаецца на нас.

— Э-э, сакрэт трэба ведаць. Я от ведаю, глядзі.

Сабака, які і так ляжаў мордаю да сцяны, стараўся нікога і нічога не бачыць, устрывожана падняў галаву. Мужчына, знаўца сабак, бокам пайшоў у яго бок — і раптам, схапіўшыся дзвюма рукамі за галаву, быццам стараючыся яе адарваць, кінуўся да сабакі. Той, ад грэху падалей, шуснуў, падцяўшы хвост, за будку, схаваўся.

— Во! Бачыў? — пытаўся адзін.

— Ды гэта проста сабака палахлівы,— адказваў другі,— харошы сабака не ўцёк бы.

Што ж — і сабака ведае, хто чаго варты.

Шмат людзей стаяла каля хаты, бо вяселле здаўна было святам не адной хаты, адной сям'і — яно было святам амаль усяе вёскі, кожны мог прыйсці да яго і калі не сесці за стол, то проста паглядзець, падзівіцца.

Пасько адразу адчуў сябе ў прывычнай абстаноўцы — вакол пілі, елі, гаварылі, смяяліся, сталы ажно ламаліся ад патраў, і амаль усе да яго прыглядаліся, Сяргею гэта падабалася. Ён любіў быць у цэнтры кампаніі, яе душой, любіў і ўмеў узяць у рукі гітару, заспяваць песню, умеў сказаць прыгожыя словы ў гонар якіх-небудзь вачэй. Застолле было для яго прывычным. Разам з усімі Пасько пачціва выслухаў тост старшыні, кульнуў чарку — і пачаў круціць галавой, выглядаючы сімпатычную суседку.

Іх тут было нямала, усе яны ўсміхаліся, і Сяргею зусім зрабілася весела, ён ужо і думаць забыў, што гэтая камандзіроўка была яму як спагнанне.

Бабе Зосі таксама цікава было паглядзець на новых гасцей, на старшыню калгаса, якога яна ведала мала, не выпадала ёй з ім гаварыць, і яна падсела да самага апошняга стала.

— Баба!..— заўважыў яе Ігар, прыўзняўся, махнуў рукой.— Сюды хадзі, сюды!..

— Ды не, я тут,— хітала галавой баба Зося, ёй было няёмка, што ўсе, у тым ліку і новыя людзі, глядзелі на яе.

— Не, маці, сюды!..— устаў і Пятро, ужо расчырванелы.— Тут во месца для цябе, а як жа, унук жэніцца! Хадзі пасядзі побач.

Яна мусіла ўстаць і ісці да галоўнага стала. Увогуле, яна дарэмна перажывала, што ўсе на яе глядзяць, пільнуюць кожны яе рух — застолле ўжо гуло тым роўным гудам, калі кожны гаворыць з кожным, хто патрабуе слова, хто спрабуе заспяваць, у каго ўжо і нейкія прэтэнзіі да суседа з'явіліся,— застоллю ўжо было мала справы да каго іншага, а тым больш да бабы Зосі. Людзі прыцішыліся толькі тады, як увайшлі старшыня з парторгам і новым чалавекам, але ж гэта быў старшыня. Яго і не хочаш, а будзеш слухаць. Баба Зося прыдзірліва агледзела Ігара з Аленаю, як яны сядзяць, ці не адварочваюцца ўжо адно ад аднаго — а бывае і гэтак,— ці не выпіў лішняга ўнук, ці ўсё каля іх стаіць. Не, усё было добра — маладыя ўсміхаліся, Ігар за чарку не трымаўся, быў, праўда, крышачку сур'ёзней, чым трэба. Ён наогул быў няўсмешлівы хлопец і гаварыў мала, Пятро дык і сказаў днямі: «Як гэта ты дзеўку ўгаварыў, такі гаварун? Яны ж языкатых любяць». Ігар і тады адмоўчаўся.

А ў Алены ружавеліся шчокі, блішчэлі вочы — сядзела яна прыгожая. Баба Зося лагодна ўсміхнулася ёй, сказала: «Жывіце, родныя, глядзіце адно аднаго, не сварыцеся. Хай вам бог дзетак дае». Алена часта заківала галавой, падняла свой келіх, паднесла да вуснаў — але не выпіла, толькі паказала, што п'е. Гэта таксама спадабалася бабе Зосі.

Яна паглядзела на доўгія сталы, на людзей, што сядзелі за імі. Гасціна ўжо меней пазірала ў талеркі, ужо больш хацела гаварыць, адно новыя госці яшчэ трымалі ў руках відэльцы, ім з розных бакоў падкладвалі таго і гэтага. Малады хлопец у скуранцы і акулярах, пра яго

нехта шапнуў — журналіст, паспяваў і падміргнуць суседцы, і падсунуць гурка, і папрасіць, каб яму падалі вунь той каўбасы, свойскай, ніколі ён такой не еў, дужа смачная. Жвавы быў хлопец, з тых, хто свайго не прапусціць. Старшыня еў мала, ён больш жартаваў, слухаў, хто што гаворыць, вочы ў яго былі ўважлівыя. Казалі, што ён хаця і малады, але надта разумны, суровы ды справядлівы. Пятро яго паважаў, казаў, што з ім калгас выб'ецца ў лепшыя. Баба Зося прыкмеціла — старшыня не столькі піў-еў, колькі слухаў, паварочваючыся то да аднаго, то да другога.

Але вось за акном загрымела музыка, быццам зайграў цэлы аркестр, і моладзь кінулася з хаты, за ёй пацягнуліся і старэйшыя. На вёсцы рэдка хто не любіў пайсці ў скокі, а пра маладых дык і гаварыць няма чаго. У хаце, у якой пацяжэла ўжо, пагушчэла паветра, засталіся толькі жанкі, што спяшаліся памяняць брудны посуд і паставіць на сталы новыя патравы. Баба Зося крыху памагла ім — і таксама выйшла ў двор.

Граў толькі адзін музыка, але сапраўды здавалася, што гучаць ці не дзесятак розных інструментаў. Ды яно і не дзіўна — музы́ка сядзеў не проста з акардэонам у руках, а граў на цэлай музычнай машыне, драты ад нейкіх скрыняў цягнуліся да акна і знікалі ў пакоі, сам па сабе бухаў барабан са званочкамі, акардэон грымеў так моцна, што ажно вушы закладвала. Музыка быў чалавек, які спецыяльна ездзіў па вяселлях, адзін ён са сваёй машынай замяняў трох гарманістаў з бубнам у прыдачу. Ён сам зрабіў электрамузычную машыну, была яна надта аглушальная і зручная. Баба Зося пастаяла, падзівілася на лысаватага чалавека, які заўзята расцягваў мяхі, нагой націскаў на якуюсьці педаль — музыка гучала і знаёмая, ды крыху другая. «Бач, што толькі не прыдумаюць людзі. Колькі ж яму заплацілі?» — падумала яна. У музыкі на кончыку носа дрыжэла кропля поту, але яму не было калі змахнуць яе, чалавек працаваў, стараўся.

І тут баба Зося заўважыла сына, які стаяў крыху ўбаку разам з Базылём Скібам, і сусед не пускаў, трымаў за руку сына, а той хацеў некуды ісці. Яна борздзенька пакіравалася да іх, бо добра ведала, што за чалавек Базыль, асабліва як ён вылезе з-за святочнага стала.

— Пажджы! — пагрозліва гаварыў Базыль, заступаючы Пятру дарогу,— не, ты пажджы! Развёў апенькаў —

цяпер выводзь! Унь уся хата ў апеньках, на хляве і на плоце растуць!..

— Ды канчай ты, Базыль, звягаць,— стараўся адысціся падалей ад людзей Пятро,— якая хата, дзе ты іх бачыў на хаце? Ну, выраслі пад плотам, дык гэта дзе хочаш могуць вырасці...

— А я кажу — калі не звядзеш апенькаў, то я... такое прыдумаю, мала не будзе...

— Што я зраблю? Яны ж у мяне не пыталіся, самі пачалі расці. Я толькі боўтанку зрабіў.

— Боўтанку!.. Во таму і няма парадку, што кожны павыдурняцца хоча. Адзін боўтанку, другі боўтанку... Не, калі гэтыя апенькі не прападуць, я знайду што зрабіць, я напішу... Гэта ж як на хаце пачнуць расці грыбы — яна ж згніе! Яна ўжо мо згніла!

— Ды стаіць твая хата, што ты ўчапіўся за гэтых апенькаў, як рак за корань? Пройдуць, парастуць трохі і пройдуць.

— Не-е, я гэта так не пакіну!.. Я ўсім давяду, што ты робіш, што ты ўрабіў, як кабальніца якая-небудзь...

— Сціхні, Базыль! — умяшалася баба Зося, таксама спалохалася, што людзі пачнуць слухаць п'яныя Скібавы выкрыкі.— Сціхні, кажу я табе! Што ты распусціў язык, як баба? Якая кабальніца? У нас ужо забыліся, калі тых варажэяў і спаміналі, а ты мянціш і мянціш. Брыдка слухаць! Йдзі лепш у хату!

Яна нават штурханула Базыля ў плечы, стала, бы разбароньваючы мужчын. Базыль хоць трохі і ўпіраўся, але крычаць перастаў, адно мармытаў, што ён не паглядзіць, яшчэ раскажа ўсім, якія-такія апенькі...

Пятро плюнуў і таксама падаўся ў хату, але выгляд у яго быў разгублены. «Як дзіця малое,— падумала баба Зося.— Нашто яму тыя апенькі здаліся? Хоць бы гэтыя зноў не завяліся... Базыль, выпіўшы, дурэе, трэба сказаць ягонай жонцы, каб паглядзела за ім, а яшчэ лепш — завяла дахаты. Вяселле ўсё ж, а ён з апенькамі прычапіўся». Яна пайшла, выглядаючы ў немаленькім натоўпе Скібіху, убачыла яе на лавачцы, пастаўленай пры плятні якраз перад вяселлем. Жанкі з нечага рагаталі, адна з іх, Барсукова Таццяна, некага і паказвала, няўклюдна валюхаючыся і падскокваючы, мусіць, ужо нехта хадзіў на падпітку.

— Надзя! — гукнула яе баба Зося.— Ты пайшла б, свайго паглядзела. Ён ужо выпіўшы.

— А няхай! — адмахнулася тая.— Ён мне і ўдома апрыкраў, дык хоць тут адпачну. Хай хоць захлынецца.

Баба Зося дакорліва паківала галавой — і неблагая ж Надзя баба, а язык таксама не ўтрымлівае. Не думае, што гэтак жа і дзеці панавучаюцца, аддзячаць бацькам. Яна памалу пасунулася ў хату. Музыка рэзаў польку, нехта з хлопцаў яму падсвістваў, на невялікім двары кружыліся больш дзесятка пар, а яшчэ больш моладзі густа стаяла наўкол. Дзела маладое — скокі ды песні.

Раптам яе нехта ўзяў пад руку.

— Прабачце, калі ласка,— побач стаяў той самы хлопец у скуранцы і акулярах, які прыйшоў на вяселле са старшынёй,— я хачу ў вас запытацца... Мне сказалі, што вы спявалі народныя песні, тыя, што па звычаю трэба. Вы іх ведаеце, гэтыя песні, памятаеце іх!

— Песні?..— баба Зося разгубілася, такое пытанне было надта нечаканым.— Дык іх не толькі я ведаю, многа хто ведае... Зараз ужо мала спяваюць.

— А вось калі б я прыехаў сюды з апаратурай, з магнітафонам — вы б праспявалі мне тыя песні? Мы б іх па радыё перадалі, іх бы шмат хто пачуў.

— Як? — не зразумела баба Зося.— У што праспяваць?

— Ды гэта няважна, у што,— засмяяўся хлопец.— Галоўнае, каб вы заспявалі тыя песні, якія ведаеце. Астатняе ўжо наша справа.

— Чаму не заспяваць, я магу,— сказала баба Зося.— А хто ж вы будзеце?..

— Журналіст з Мінска, Сяргей Пасько маё прозвішча. Дык мы дамовіліся — я прыязджаю, вы мне спяваеце.

Пасько выпадкова пачуў, як яго суседка за сталом гаварыла пра песню бабы Зосі, пра тое, як яна выносіла каравай,— і ў галаве яго адразу склаўся план. Народныя песні, якія б спявала простая жанчына, могуць упрыгожыць любую перадачу, і тым больш ягоную. Гэтыя песні былі б не толькі своеасаблівым фонам перадачы — яны былі б яе ізюмінкай. Не, не дарэмна Сяргей Пасько працаваў радыёжурналістам пяты год. Ён ужо нават бачыў, як будуць хваліць ягоную перадачу, ставіць яе ў прыклад на агульнай лятучцы. Старая, з якой ён дамовіўся наконт песень, яму спадабалася — відаць было, што яна зробіць усё як трэба, што ёй не асабліва трэба тлумачыць. Вочы ў яе былі разумныя, жывыя і голас яшчэ бадзёры, яго пачуюць радыёслухачы. Не, Сяргей Пасько яшчэ пакажа

сябе, яшчэ будуць пра яго гаварыць, і зусім не так, як на апошняй лятучцы. Усё будзе ў яго — і прызнанне, і поспех, прыгожая жонка будзе, бо вядома — дзе грошы, там і прыгажосць, і шчасце. Сяргей Пасько верыў у сябе, у сваю планіду, яго не саб'еш выпадковай няўдачай, дарэмна так думаюць. Цудоўна, што ён трапіў на гэтае вяселле, у яго на ім і пачэснае месца, і знойдзецца, канечне, дзе пераначаваць. Вяскоўцы — людзі простыя і гасцінныя, з імі лёгка. Гэта не тое, што ў горадзе, дзе толькі і глядзяць, як бы цябе ўесці, падсядзець. Узрадаваліся, што спатыкнуўся, і пачалі — слаба рыхтаваўся, не прадугледзеў, запароў. А няўдачы, між іншым, ва ўсіх бываюць. Ну ды ладна, яшчэ не вечар, яшчэ паглядзім. Іншая справа вёска. Тут, адразу відаць, яго паважаюць, ледзь не ў рот глядзяць. Прыемна. Ты для іх вялікі чалавек, Пасько, не зявай, лаві момант!

Бабе Зосі падумалася — някепскі, мусіць, быў бы хлопец, ды толькі надта ж за ўсё хапаецца, як той казаў — у кожную дзірку затычкай. І за сталом — чалавек з вёскі ў гасцях гэтак не мітусіцца, не цягнецца праз талеркі да лепшага кавалка, «мне вунь той каўбаскі, свойскай, паляндвічкі, даўно не еў такой свежанькай, ажно на зрэзе вясёлкавай плевачкаю бярэцца». Не, занадта ён жвавы, з адным гаворыць, на другога паглядае, трэцюю ж раней прыкмеціў, цяпер мікіціць, як бы падсуседзіцца. І порсткі хлопец, і язык добра падвешаны, і з выгляду ён фацэтны — а калі спытацца пра яго ў каторага з мужчын, дык скажуць: харошы хлопец, калі настараецца, то і з мяшка вылезе, гэты можа воз у роў запхнуць. Але ж яго толькі пашкадаваць можна, што ён да ўсяго кідаецца, за ўсё хапаецца, стараецца дзвюх сарок у руцэ ўтрымаць. Пэўне, жыццё прымусіла гнацца за тым хвастом, які зусім блізенька, перад самым носам матляецца — а не ўхапіць яго. Дык гэта ж вядома — калі ляціш вобцас, то абавязкова плазма грымнешся, яшчэ і нос разаб'еш. Але ж навучыцца, усяму навучыцца, чалавеку розум прыходзіць па шкодзе.

Журналіст ужо пеўнем хадзіў каля той, якую прыгледзеў, ужо забыўся на ўсё і на бабу Зосю таксама. Дык што ж, у маладых і маладыя справы. Вунь скокі, рогат, заляцанні, каторыя з хлопцаў скоса паглядаюць адзін на другога, дзяўчаты гэтых позіркаў быццам і не заўважаюць, ды бачаць, абавязкова бачаць, і яны ім да сэрца, тыя позіркі. Нічога, як маладыя — то дурны, некалі ж і

яны паразумнеюць, і пабяруцца, і сям'ю наладзяць, будуць вось гэтак жа глядзець на ўнукава вяселле — і ўздыхаць будуць. Усяму свой час.

Баба Зося адышлася да дрывотні, пад якой яшчэ калісьці Пятро зрабіў дзецям лавачку, цяжка села. Яна ўсё ж натамілася за гэтыя дні, гулі не толькі ногі, а і ўсё цела. Але чалавек, пакуль робіць, пакуль порацца, не заўважае свае стомы, адганяе яе ад сябе — а потым можа паваліцца, як падкошаны. Бывае такое. Баба Зося не павалілася — яна ніколі не падала, не было як ёй падаць, адной, з двума хлопцамі на руках,— а проста стомлена прысела, нават крыху прымружыла павекі. Аднак адпачыць не давялося. Дзеці, што дагэтуль таўкліся ля дарослых, шыліся каля іх ног, убачыўшы бабу Зосю, прыляцелі сюды, пачалі мясціцца, піхаючы адно аднаго, на лавачцы, каму не хапіла месца — пасталі паўкругам. Баба Зося ўжо і прывыкла да такога, ніколі не магла яна ад іх схавацца.

— Ну што, прыджгалі ўжо? — яна заўсёды гаварыла з дзецьмі, як бы крыху сварачыся,— ды гэтага тыя не заўважалі, папрывыкалі.— Пад'елі хоць трохі?

— Елі, нам давалі! Перапечкі былі, пернікі... А маладыя, як цалаваліся, цукеркамі кідаліся, дык мы падбіралі!..

— А чаму яны кідаліся?

— А ім крычаць — горка, а яны ў іх салодкім!.. Так заўсёды, я ўжо бачыла!

Як звычайна, дзяўчаткі сядзелі пры ёй на лавачцы, хлапчукі пхаліся, пахаджвалі, штосьці паказвалі адзін другому, і спрачаліся, і замахваліся, і дражніліся з дзяўчынкамі крыху воддаль, сесці побач з дзяўчынкаю было для іх самым апошнім, з гэтага смяяліся. Адзін толькі Косцік Мохараў любіў пасядзець з «бабамі», яго дражнілі дзевачурам і нават крыху пабівалі, калі не бачыла баба Зося. І ўсё адно — не адвучваўся.

Але сёння і хлапцы не адходзілі далёка ад лавачкі, яны толькі крадком паказвалі кулак Косціку, які ўсё ж уцчаміўся сярод дзяўчынак, ды памоўквалі.

— А ты што прыпліт-калядой ходзіш? — паклікала баба Зося Хмаруковага Ваньку, самага зацятага ворага дзяўчатак, і Косціка.— Вырасцеш ваўчком, будзеш у лесе жыць, людзей палохаць. Тыя, хто людзей цураюцца, у ваўкалакаў абарочваюцца, я праўду кажу.

— Хай там стаіць! — запішчэлі дзяўчынкі.— Мы не хочам!.. А якія ваўкалакі, страшныя?..

Ванька падсунуўся бліжэй — і назло дзяўчынкам, і паслухаць пра ваўкалакаў. Косцік цішком саскочыў з лавачкі, стаў, калупаючы нагой зямлю.

— Чаму яны страшныя — звычайныя. Ваўкалакамі робяцца тыя, хто людзей не любіць. Спярша маўчаць, не гавораць ні з кім, ні з маці, ні з татам. Потым у лес пачынаюць хадзіць. І ўдзень ходзяць, і ўначы, і ўсё маўчком, як зладзеі. Тады ў іх поўсць нарастае, удзень ён яшчэ чалавек, а ўначы ўжо воўк. А пасля зусім забываецца, што чалавекам быў, жыве ў нятэчы, нікому не паказваецца. І так доўга яны ў самай пушчы сядзяць, ні з кім не бачацца, іх нават звяры баяцца, бо чалавекам патыхае, маніць. Гадоў сто праходзіць, а яны ў пушчы туляюцца. І тады ўспамінаюць, што яны з людзей, чалавек ніколі не забудзецца, як чалавекам быў. Тады іх да жытла цягне, пачынаюць пад хаты прыходзіць, нават у двары забягаюць.

— І сабак не баяцца?..

— Яны нікога не баяцца. Іх нават куля не бярэ. І так ходзяць і ходзяць, аж пакуль на вяселле не наскочаць. Раней былі людзі, якія ведалі, як іх назад у людзей перавярнуць. Казалі, што якраз чалавек з вяселля павінен быў сказаць замову і на скрыпцы зайграць — тады яны людзьмі зробяцца. А цяпер ужо ўсе на гэта забыліся, і яны дзесьці на балотах сядзяць.

— Ба-аб, а якая замова?..

— Адкуль жа я ведаю? Гэта раней ведалі, цяпер забыліся.

— І ніхто-ніхто не ведае?.. Ні адзін чалавек?

— Ніхто.

— А я ў лес толькі ў грыбы хаджу,— сказаў Ванька.— І ніводнага ваўкалака не бачыў. А табе — во! — і ён паказаў кулак Косціку.

— Глядзі, каб табе вушы не папухлі! — сказала баба Зося.— Бацька даўно ў мяне пытаецца, ці не б'ешся.

— Б'ецца, б'ецца, мы яго да сябе не пускаем!

— Баб...— скрывілася, быццам збіраючыся заплакаць, Гапулька Шпак,— а ў ваўкалакаў зусім нікога няма? Яны ў лесе зусім адны?

— Чаму, з імі ў лесе начніца жыве. Як зойдзе сонца — яна птушак з гнёздаў бярэ. Даведаецца, дзе птушаняты вывеліся, і крадзе іх.

— А як яна ведае? Ёй хто-небудзь гавора?

— Вось вы самі і можаце сказаць. Як зойдзе сонца,

ніколі не трэба гаварыць, дзе ёсць гняздо з птушанятамі. Начніца падслухае і пабярэ.

— Не будзем! — паабяцалі дзеці.— А ў нас ластаўкі ў хляве жывуць...

— Ціха!..

— Зараз можна, зараз яшчэ дзень.

Баба Зося прывыкла ўжо, што вакол яе дзеці. Яны слухалі яе, расказвалі самі, ёй з імі было добра. Часта ўспаміналася такое, чаму дзівілася нават яна сама,— вось тыя ж ваўкалакі. Але ўспомнілася — і яна расказала. Чаго толькі не ўспаміналася ёй за ўсе гады, якіх толькі казак і песень не пачула дзятва... Таму і чапляліся дзеці на яе, як мухі на ліпучку, вырасталі адны — падыходзілі другія. Лічы, з усяе вёскі збіраліся да яе, ну а гаспадарамі ў хаце лічылі сябе дзяўчынкі і хлапчукі з іхняга боку Валюхоў, гэтыя і па хаце пахаджвалі не так, як іншыя, і ўмелі знайсці чаго з'есці, і ведалі, дзе што ляжыць. Яны ж і за парадкам глядзелі. «Ану, не чапай гэтага ручніка, вунь тым трэба выцірацца! Ногі выцірайце, няма чаго гразь разносіць, не намыешся за вамі!» — крычала каторая з сямілетак на сваіх сяброўак. Гаспадыня, ды толькі.

Што ж, баба Зося ніколі нікога не адганяла. Можа, і жыла яна тым, што пры ёй заўсёды былі дзеці, і не толькі дзеці. Калі б хто спытаўся — а як пражыла ты, баба Зося, што ўбачыла, што зрабіла? — яна сказала б, мусіць, няшмат. Рабіла, сказала б, дзяцей глядзела, хату парадкавала. І паказала б не толькі чырвоныя, парэпаныя рукі з тоўстымі пальцамі, а сябе ўсю. Усю як ёсць — сярэдняга росту, прысадзістую, круглатварую, мархлякаватую, у заўсёды чорнай спадніцы і ватоўцы, з вядром у руках ці гаршком. І ўсё б людзі зразумелі. Якое яшчэ магло быць у яе жыццё, што яшчэ магла яна ў ім бачыць? Жыць, каб дзяцей глядзець і хату парадкаваць,— вось што галоўнае. Нікуды далёка не ездзіла яна, нічога, лічы, не бачыла. Бывала, прыязджаў каторы з валюхоўцаў — хто за свет выпраўляўся па шчасце, там, у якім Сібіры, думаў дабіцца тропу, знайсці тое, чаго ніхто не знаходзіў,— і расказваў, такога расказваў, што бабы адно войкалі ды пераглядваліся. Дзесьці вялізныя заводы і будоўлі, дзесьці на тысячы кіламетраў стаяла тайга, у якой чалавек стыкаўся толькі зрэдку, дзесьці людзі жылі ў дамах на дваццаць паверхаў. Нічога гэтага баба Зося не бачыла, яна і ў раён ездзіла гады ў рады. Але яна нікому не зайздросціла; яна думала, што з самага пачатку ў кожнага чалавека на зямлі нейкае

сваё месца, і толькі ад чалавека залежыць, застанецца ён на гэтым месцы — ці зрушыцца з яго, сыдзе. Тыя вяскоўцы, што ехалі з Валюхоў, не заўсёды знаходзілі таго, чаго шукалі. А некаторых з іх баба Зося дык і шкадавала, бо бачыла ў іх толькі прытулаў, прымакоў. Нездарма кажуць — няма лепшае справы ад свае хаты. А свая хата толькі тут, у Валюхах, баба Зося гэта ведала цвёрда. Вось яе старэйшы, Мікола... Паехаў у Брацк, прыжыўся там, ажаніўся, двое дзяцей. Але баба Зося, іншы раз прачнуўшыся поначы, думала пра яго як пра прытулу. Мусіць, цяжка яму там, сярод чужых, і цягне яго дахаты — але ўжо не можа вярнуцца, ужо далёка аднесла яго ад Валюхоў. Таму і баліць у яе сэрца, што цяжка яму, не міла, але як памагчы старэйшаму — гэтага баба Зося не ведала. Выцірала слёзы і прасілася ў невядома каго, каб той невядомы хаця крышку паспрыяў яе сыну, каб не надта Коля пакутаваў. Аднойчы прачнуўшыся з думкаю пра сына, яна не засынала ўжо да раніцы.

Не, баба Зося ніколі не зайздросціла тым, хто ехаў кудысьці далёка, яна нават шкадавала іх. Апошнім часам яна баялася, што і Ігар гайсане за сваімі аднагодкамі, якія хоць і не ўсе, ды многія паехалі ў горад. Яна не гаварыла пра гэта, але прыслухоўвалася да таго, што казалі ягоныя бацькі і ён сам. Ды Ігар маўчун, шмат ад яго не пачуеш. Але як даведалася пра вяселле — адпусціла ад сэрца. Бадай, гэта і было галоўным, што Ігар заставаўся на вёсцы, дзе жыве пакуль ягоная баба. Баба Зося надта хацела, каб Ігар разам з жонкаю перайшоў да яе жыць — але яна ведала, што Пятро з Нінаю не пусцяць. Сапраўды, хата ў іх вялікая. Ну, ды нешта ж будзе. Пакуль жа ішло вяселле.

На лавачцы каля яе засталіся толькі дзяўчаткі, ды і тыя не ўсе, хлапчукі ж як адзін шнырылі між дарослых, падслухвалі ды падглядвалі. Ведама, ад дзяцей нічога не схаваеш.

— Баба!..— затармасіла яе за рукаў Ганулька,— яны не вераць, што абдуванчык завецца божая мацер сарочка, скажы ім!

— І так завецца,— кіўнула баба Зося.— Хто дзьмухаўцом заве, хто божая мацер сарочкай. Каторы з дзяцей крывёй мочыцца, то яму гэту траву даюць. Заварваюць і даюць.

— А я яшчэ ведаю пра чалавешнік! Яго ад усякай хваробы добра! — пахвалілася Ганулька.

— От скажыце лепш, якая кветка першая ў лесе цвіце? — загадала баба Зося новую загадку.

— Падснежнік!

— І не падснежнік, а пралеска!

— Ваўчаягада!

— Ну так, яны ўсе рана цвітуць,— згадзілася баба Зося.— Але ёсць такі — куралесь, кароль у лесе. Лес яшчэ не разуўся, а куралесь ужо цвіце. І шчамяліца рана глядзіць, па ёй першая пчала поўзае. І падбел адразу па снезе жаўтлявіцца. Запамінайце от. Зайцавы буракі ведаеце?

— Ведаем! — зноў выскачыла Ганулька.— Яны таксама рана цвітуць, жоўценькія.

— А для чаго верас? — спыталася баба Зося.

— Маніць хараша. Каб галава не балела.

— А марошнік?

Задумаліся. Ганулька ажно лоб зморшыла, пачала глядзець некуды ўгору.

— Калі не знае, дык на зоры пазірае,— усміхнулася баба.— Марошнікам трэ змываць галаву, каб не марочыла яе, каб не балела. Пайду ў лес, сарву паказаць, і не ведаеце, пэўне, які марошнік.

Дзяўчаткі моўчкі згадзіліся. Яны, праўду сказаць, шмат ведалі травы, якія кроў прыпыняюць, якую з'есці можна, якую панюхаць добра, што ад нарыву прыкласці. А што ж, можа, і не пашкодзіць гэта, можа, давядзецца... Ды не дай божа, каб яны ўведалі хаця палову таго, што яна перажыла. І лебяду елі, і аер хадзілі рваць на балота, лупілі яго карэнні і елі. Было.

Баба Зося старалася не ўспамінаць таго цяжкага, што выпала на яе жыццё. У яе рана памерла маці, Зосьцы не было яшчэ сямі гадоў, гадавала іх мачаха. У вялікай сям'і — чацвёра дзяцей было ў бацькі, трое ў мачахі — яна была сярэдняй. Бацька часта ездзіў на заробкі, дзеці яго мала бачылі, бо бацька выбіраўся не ў блізкі свет. У школу Зоська не хадзіла, у іхняй сям'і вучылася толькі Гэля, старэйшая. Поле ды хлеў — вось што яна вывучыла лепей ад усякага альфабэта. Выйшла замуж, Сымон, муж, быў хоць і не з багатых, але хату сваю паставіў, гэта, мусіць, і было адзіным, што па ім засталося. Бо потым абрынулася вайна і ён знік у яе каламутным віры, выплыў у канцы, але быў ужо не жыльцом. Ён прыйшоў хворы, знясілены — і не акрыяў у сваёй хаце, ціха памёр. Тады, на ягоным пахаванні, мусіць, і ўбачылі апошнія Зосіны слёзы. Яна сказала сабе — слязамі дзяцей не накорміш. І як сця-

лася, нават адным словам не ўспамінаючы пра посвіст куль над галавой, калі яна ўцякала з дзецьмі ў хмызнякі, пра спаленую вёску — як найвялікшаму шчасцю малілася яна сваёй ацалелай хаце,— пра адзін кавалак макухі на траіх, бо пра хлеб тады і не думалі. Гэтыя ўспаміны не толькі пяклі, вярэдзілі душу — яны замінalі ёй дыхаць. А калі блізка падпусціць іх да сябе, то і не давалі спаць. Яна не хацела іх. Сваім дзецям — як і пазней чужым — баба Зося расказвала ўсё, акрамя вайны і голаду.

Зрэшты, было што ўспомніць і іншае, у кожным часе чалавек можа знайсці светлае. Усё ж калісьці была яна маладой, калісьці абмірала сэрца ад знічак, калісьці шукала яна любімыя зоркі на небе, гаварыла з імі, і яны шапталі ёй, урабляялі, раілі, набліжаючыся да самых вачэй, і ў вачах усё дрыжэла не толькі таму, што заўсёды трымцяць, мігцяць зоркі... Іх святло засцілала вочы, яны большалі, пухнулі — і раптам разрываліся, рассыпаліся на раі парушынак. Дробныя, як макаўкі, зорачкі свяціліся ў чорнай бездані, і іхняе святло халадком працінала душу. Неяк Ігар паказаў ёй на густы зорны рой і сказаў, што гэта Плеяды. «Купка,— усміхнулася тады баба Зося,— у нас з Сымонам гэта была Купка...»

Яна раптам убачыла, як з натоўпу перад хатаю выбеглі маладыя, Ігар з Аленаю, і накіраваліся да яе.

— Можа, здарылася што?..— падхапілася яна насустрач ім.

— Ды нічога! — засмяяўся Ігар.— Уцяклі во, абрыдла за сталом сядзець. Баб, мы сёння да цябе на абарыг начаваць прыйдзем.

— Начаваць? — здзівілася баба.— Як гэта — на абарыг?.. Там жа толькі сена, нават сцenaў няма, толькі страха.

— Нічога! — Ігар з Аленаю па-змоўніку пераглянуліся, заўсміхаліся на ўсе зубы.— Нам шмат і не трэба. Ты, баб, толькі пасцялі тама, каб было дзе легчы. А мы ўцяком.

— Не-е, даражэнькія,— зразумела іхнюю гульню баба Зося,— вы ўжо, калі ласка, у хату! Я вам усё падрыхтую, ложак чыстым, мяненькім засцялю — а сама на той жа абарыг. Дзе ж гэта бачылі, каб маладыя першую ноч на сене... У хату пойдзеце. Хочаце мне сена сапсаваць? Яго ж карова не будзе есці!..

— Ну добра,— саступіў Ігар.— Толькі ты не кажы нікому, асабліва матцы з бацькам. А то як пачнуць...

— Добра, добра... Ты во лепш сваю жоначку пільнуй. Украдуць — тады папаскачаш. Сорамна будзе.

— Не ўкрадуць! — абняў жонку за плечы Ігар.— Цяпер у мяне яе ніхто не ўкрадзе. Мая.

Яны зноў зарагаталі. Моладзь. Пакажы палец — і то зойдуцца.

— Дык ложак я засцялю! — крыкнула яна наўздагон.— Не баўцеся, бярыце ключ і адмыкайце, калі мяне не будзе.

Хаця дзе ж яна дзенецца — будзе чакаць, падрыхтуе ўсё як след і сядзе. Можа, Ніна з Пецем і пакрыўдзяцца — як жа, у другую хату пайшлі! — але яна была рада, яна нават баялася і падумаць пра гэта. Успомнілі пра яе хату, спатрэбілася яна яшчэ. А што ж, хоць і старая, хоць і няма ў ёй новай мэблі, ды затое ўсё ў ёй гасцілаўскае. Лавы сам Сымон парабіў, яны ўжо і ўчарнелі ад часу, але баба Зося іх не выкіне. Хай ужо як на могілкі занясуць... Ручнікі і посцілкі яна таксама сваімі рукамі выткала, шмат іх у яе, ляжаць больш у куфры ды ў шафе, але ж, можа, даляжацца свайго, можа, Ігарава Алена іх упадабае. Хораша раней рабілі, фарбы на ручніках яркія, адразу ўліваюцца ў вочы. І мяккія яны, гладзяць твар ці рукі. Купленым ручніком, бывае, прадзярэш па твары, як рашпілем. А той лён-казак яна сама і церабіла, сама рассцілала яго на лагавіле, на тым полі, дзе яго рассцілалі спрадвеку, сама рабіла прадзіва і бяліла на блеху вытканае палатно. Цяпер таго блеху і няма, як пачалі балота сушыць, то і рэчка змізарнела, зрабілася брудная, і блех, луг пры ёй, увесь скрозь узяўся граззю, цяпер гэта быў не луг — а тое ж балота, толькі тупкае і маленькае, нічога на ім не расло. Сама рабіла і бель на ўзоры. А якія ўзоры ўмела яна выткаць — вінаград, вянок, грэчачка, вазоны. Цяпер, мусіць, ніхто гэтак не ўмее. Ды і свайго ж ільну не сеюць, а як няма льну — няма і абрусоў з ручнікамі, і ўзораў на іх. «Усё ёсць у краме»,— не раз уздыхала яна. Крама крамаю — а сваіх рук нічым не заменіш, не, нічым.

І яшчэ здаўна ляжаў на самым дне старога, з аблупленай фарбаю, вялікага бабчынага куфра яе колішні строй, якога яна рабіла яшчэ ў маладосці. Тога строю баба Зося ўжо амаль і не даставала, шкадавала яго, ды амаль ніхто і не памятаў, што ёсць у яе гэты строй, мала каму ён быў цікавы. Строй быў звычайны, той, якога тутэйшыя жанкі надзявалі на святы, вось на тое ж вяселле. Кашуля была з

тонкага адбеленага палатна, рукавы з невялікімі закотамі. Рукавы яна вышывала баваўнянымі чырвонымі, чорнымі і белымі ніткамі крыжыкам і роспісам. Андарак быў зроблены з ваўняных нітак розных колераў, быў ён доўгі, цяжкі — але і фасоністы. На яго надзявалі два фартухі — адзін доўгі, другі карацейшы. Абодва льняныя фартухі былі ў чорныя, белыя і чырвоныя палосы. Чамусьці іхні строй рабіўся толькі з двума фартухамі, гэта лічылася надужа прыгожа. Ну і апошняе ў строі — доўгая белая намітка, вышытая чырвонымі ніткамі. Некалі была ў яе яшчэ і казачына, доўгая, шырокая ўнізе сукенка, якая зашнуроўвалася на грудзях, але яе баба Зося прадала яшчэ перад вайной, калі здарыўся няўрод. Прадала — але праз усё жыццё памятала, бо надта ж ладна тая казачына аблягала яе маладую... Цяпер такіх строяў ніхто не насіў, не даставала яго і баба Зося. Каб не сароме́ліся гэтых старадаўніх строяў маладыя дзяўчаты — яна падарыла б яго Алене. Ды моладзь, вядома, адзявалася з крамы, пра строі ніхто і не ўспамінаў.

— Не, у маладой сукенка толькі белая бывае,— даказвала Ганулька, адкідвала з твару бялявыя валасы, якія раскудлаціў ветрык, што нарваўся з лагчынкі,— белая і доўгая. А ў Ігара касцюм чорны.

Бач, як падбеглі сюды маладыя, то яны маўчалі, бы іх стаўбун пабраў, адно ва ўсе вочы глядзелі. А тут засакаталі, як сарокі. Хай глядзяць, вучацца, некалі і яны панадзяваюць белыя сукні і, можа, пабягуць да сваіх бабуляў. Можа, так і будзе.

— Ну,— сказала баба Зося,— пайду пад сваю хату. Тута яшчэ доўга гулянь будуць. Паспею да сябе схадзіць.

— Мы пасля прыйдзем,— паабяцала Ганулька за ўсіх,— яшчэ тут пабудзем.

— Ды ўжо ж,— згадзілася баба Зося.— Якое без вас вяселле.

Амаль усе госці падаліся ў хату, сціх музыка-аркестр, на двары засталіся толькі дзве-тры рэдзенькія купкі людзей — гэтыя яшчэ не дагаварылі, даказвалі і спрачаліся, не чулі і не бачылі нічога, ім зараз бы засляпіла вочы і заклала вушы, калі нават не зразумелі, што трэба ісці за стол. Каля плятня стаялі Пятро, Кунцэвіч, гарадскі хлопец, яго трымала пад руку Ляшкевічава Тонька, учора ж, здаецца, бегала ў школу, а ўжо сёння за хлопца ўплялася, як п'яны за плот. Трохі воддальківаўся Базыль Скіба, яго вадзіла кругом гэтай купкі нейкая сіла, то падпускала зу-

сім блізка, то адкідвала падалей, да патрэбнае мяжы. Баба Зося таксама спынілася недалёка, прыслухалася.

— Не адным жа старшыням калгаса выступаць,— гаварыў Кунцэвіч,— вось прапаную сям'ю Гасцілаў. Бацьку з сынам. Сын на камбайне, бацька брыгадзірам. Тут нарадзіліся, так сказаць, карэнныя.

— Ну канечне,— абяцаў гарадскі.— Запішам, за намі не прападзе!

— Хадземце лепш за стол,— стаяў на сваім Пятро.— От там выступаць будам. Тама яно лягчэй.

— Не, Пятро Сямёнавіч,— не адступаўся Кунцэвіч,— тут жа дзяржаўная справа. Будзем гаварыць, хто што думае, а другія хай нас паслухаюць. Кожнаму з нас ёсць што сказаць. Вы тут усё жыццё. Што так, што не так — пра ўсё сказаць трэба, каб ведалі.

— Наша дзела не гаварыць,— баба Зося ўсё не магла зразумець, ці жартуе сын, ці гаворыць папраўдзе.— Наша памаўчаць ды ў поле. Кажуць — не дурань, хто маўчыць. А галоўнае, каб было каму на трактары сядзець, каб было каму бульбу выкапаць. Во з Ігарам трэба гаварыць, каб не ўцёк.

— Дадзім,— сказаў Кунцэвіч.— Не ў гэтым годзе, дык у наступным кватэру абавязкова дадзім. Ён жа ўжо жанаты, мае права.

— Калі не выведзеш апенькі...— паднесла Скібу бліжэй,— хлява спалю!.. Завёў моду — хаты паганкамі зводзіць...

Пра апенькі не надта каб зразумелі, Кунцэвіч плячыма паціснуў, Пятро зусім адвярнуўся ад Базыля, адзін журналіст зарагатаў, яшчэ мацней абшчаперыў Тоньку. «Любіў рак жабу, аж вочы выеў»,— падумала баба Зося.

— Базыль, йдзі дахаты! — пагразілася яна.

— Сват! — выскачыла на ганак Маруся, матка маладой — учырванелая, заклапочаная.— Што ж ты гасцей у хату не вядзеш? Мы ж чакаем...

— Пятро Сямёнавіч,— паглядзеў на гадзіннік Кунцэвіч,— буду праз гадзіну. Скокну ў кантору — і сюды. А вы тут працягвайце, госця не забывайце,— кіўнуў ён на журналіста.

Першы ў хату пасунуўся Базыль, за ім і астатнія.

— Высока сонейка, высока, занясём каравай далёка дый паставім на жыце...— закружылася вакол бабы Зосі Ганулька.

Баба Зося зірнула ўгору. Дзе ж яно высокае, тое сонейка, далёка за паўдня ўжо. Яшчэ якая гадзіна — і павісне над самым Тамашэўскім лесам. Яна выпадкова глянула на сцяну хаты — на ёй рэдкімі кусцікамі вытыркаліся карэньчыкі зрэзаных апенькаў, і з-за аканіцы вызірквала круглая шапачка аднаго грыбка, карычневага, крэпенькага, бадзёрага. Апенька быццам і падміргвала ёй. «Сядзі ўжо, калі не зрэзалі,— усміхнулася баба Зося.— Бач, глядзіць. Адна, пэўне, і засталася».

— Памайбу,— па-старадаўняму развіталася з гэтаю хатаю баба Зося.

Трэба было ісці, парадкаваць для маладых яе старую хату — тую, у якой вырас Пятро, у якой кугакаў Ігар і ў якой баба Зося спадзявалася пачуць яшчэ і праўнука.

# ЛЕСАВІК

Не было нас — быў лес,
і не будзе нас — будзе лес.
*З народнага*

У глыбінях лясоў, якія з-за павалаў векавых дрэў, што памерлі ад старасці, з-за неабсяжных веснавых разліваў, з-за часовых і ледзь прыкметных дарог — хіба здолееш тут прасячы, загаціць і захаваць добрыя? — з-за нявымераных адлегласцей яшчэ ёсць на нашай зямлі, у гушчэчы тых лясоў часта трапляюцца чорныя, застылыя, зацягнутыя цвіллю ямы-прорвы, амаль мёртвыя вокны гнілое вады. Іх шчыльна, цесна абступаюць таксама чорныя, абымшэлыя, непадобна, што і жывыя, галастволыя дрэвы, вартуюць мёртвую ваду, гатовыя, калі надыдзе хвіліна, хіснуцца і цяжка абсунуцца, павіснуць, абламаўшы танчэйшае суччa, на голлях-руках суседзяў, і згнісці, рассыпацца спачатку на кавалкі, а потым спарахнець, увайсці ў зямлю, каб потым вытыркнуцца з яе кволым парасткам-дубчыкам, які некалі зробіцца дрэвам, гэтым лесам. І стаяць дрэвы, сашчапіўшыся ў далёкай вышыні цяжкімі шатамі, маўкліва і пільна вартуюць зачараваныя ямы, чакаюць. А ў вокнах-балоцінах хаваецца, шапаціць, шорхае, клубіцца, языкамі-пасмамі ліжа святло, нават распаўзаецца, каб паглынуць яго і завалодаць светам, змрок, з кожнай хвілінаю ён большае і мацнее, і ў прысмеркі змрок ужо хцівым гаспадаром навальваецца на наваколле і душыць жывыя гукі дзённага святла,— змрок ладзіць сваю песню начы. Наранкі ён вяртаецца да ямаў-прорваў — і яны маўчаць, мала каму вядомыя, з іх тхне холадам нежывога. І іх пазбягаюць — ды і не знаходзяць — людзі, абмінаюць звер і птушка, нават не залятае ў іх павеў ветру. Прорвы стаяць маўклівыя, як смерць.

Лесавік ведаў гэтыя прорвы яшчэ тады, калі замест цяперашніх лясочкаў тут разлягалася пушча. Пушча была вялікая нават для яго, ён жыў у ёй, вандруючы, мяняючы прыдатныя мясціны не таму, што нехта ці нешта яго зганяла — якія ў ляснога гаспадара ворагі ў лесе? — а па патрэбе. Ён жыў таму, што быў ахоўнікам лесу, яго гаспадаром, яго бацькам, ён павінен быў клапаціцца, каб лесу не было шкоды, нават самай малой. Ён быў, зрэшты, лесам. Яму быў вядомы самы глухі, самы дальні куточак пушчы, ён ведаў, як дзе бярэцца падлесак, ён гоіў былое

пажарышча, заварочваў на яго лясны ручаёк, каб вадзіца змыла чорны гар, ажывіла для пачатку траву і кустоўе, а ўжо за імі, праз колькі зім і вёснаў, над нізкімі кустамі — кусты на пажарышчах заўсёды растуць нізкімі, вузластымі і кашлатымі, быццам распаўзаючыся па зямлі,— толькі пазней над імі загайдаюцца вяршалінкі тонкіх дрэўцаў. Наогул, пажары заўсёды былі самай страшнай бядою лесу, яны заўсёды загойваліся вельмі цяжка, ды і загойваліся не да канца — лес на былых пажарышчах рос рэдкі і крывы, танкастволы, трава пры каранішчах выдзёўбвалася нейкая сухая і шорсткая, а ягады і грыбы амаль не высыпаліся зусім. А затое на ўзмежках былое раны ўсё расло лепей, як дзе — дрэвы стаялі моцныя, тоўстыя, кусты аблямоўвалі іх такія густыя, што нават рэдкая пташка асмельвалася ўпырхнуць у іх спляценне, адно вужы і гадзюкі з ахвотаю запаўзалі ў непралазны гушчар, звіваліся там з галінамі, расслаблялі кольцы сваіх мускулаў — ім на адкрытых мясцінах заўсёды было цяжка, заўсёды трэба было хавацца і ўцякаць. Так, лесавік ведаў усё ў пушчы; ён амаль не ўмешваўся ў яе жыццё — толькі ахоўваў.

Але пушчы з часам рабілася ўсё меней і меней, пакуль не засталіся адно асобныя лясы, потым ляскі і пералескі. Ды і што казаць — лесавік жыў у пушчы ўжо нямала... Калі пачалося ўсё, калі пачаўся ён, лясны гаспадар, які ведаў усё ў лесе і які ўсё ж не быў лесам? І які не быў ні зверам, ні птушкай, ні раслінай — і ні чалавекам?.. Чалавек і ён, увогуле, былі падобнымі. Гэта і ёсць той самы пачатак, тое даўняе, што ўжо і забылася. Чалавек заўсёды жыў у лесе, разам з лесам, будаваў сабе з лесу хаты, карміўся лесам — мясам і грыбамі, сокам і ягадай, мёдам і арэхамі, лячыўся таксама лесам — яго травамі, смоламі і карэннямі,— і чалавек ніколі не пакідаў ваяваць з лесам, сячы і карчаваць яго, адсоўваць, нават паліць. Чалавек, канечне, не быў і заклятым ворагам лесу, але ніколі яго не шанаваў, не лічыў да сябе родным.

Вось для гэтага і быў ён, лесавік. І ў гэтым была повязь лесавіка з людзьмі.

Ідзе чалавек па лесе. Весела ідзе, лёгка, каго яму баяцца, чаго? У яго зброя, сякера ёсць, навязаны да палкі нож, лук са стрэламі — ён самы моцны, бо разумнейшы і хітрэйшы. І ў лес яго загнала патрэба — мяса трэба, шмат мяса, бо колькі ні ёсць чаго — усё мала, усё хочацца, каб болей. Чалавек ідзе лёгка і асцярожна, пільна ўглядаец-

ца, чытае сляды, амаль не заўважае зайчыных і барсучыных — ён шукае лася, дзіка, казулю. І ласіха, гарбаносая, худая, вушастая, як на тое, зусім побач, ні аб чым не здагадваецца, стаіць сярод блізкіх кустоў, скубе лісце, краем вока цікуючы за смешным, даўгалыгім, няўклюдным ласянём, што дурэе на палянцы, то падскочыць, кінецца, спатыкаючыся, немаведама куды, і раптам знерухомее, утарапіўшыся ў купіну, быццам і не купіна гэта, а дзіва дзіўнае, неверагодны куст, смачны, як матчына малако. А потым абыякава адварочваецца ад купіны, гэтак жа раптоўна страціўшы да яе цікавасць, і ідзе да маці, быццам накульгваючы, спатыкаючыся на ўсе чатыры нагі — такая ўжо хада ў ласянят, нязграбная. Чалавек ідзе, зараз пакажацца з таго боку паляны — і ўбачыць ласіху. І знікне, растворыцца ў кустах, нячутна зойдзе з падветранага боку, раптоўна акажацца з ёй зусім побач, меладычна, ціха зыкне страла, ахвосце яе нябачанай кветкай расцвіце пад моцнай лапаткай ласіхі — і ўскінецца тая, хрыпне, праткне капытом паветра, грузнаю тушаю абсунецца пры кусце, паваліцца, прыціснуўшы чародку сініх званцоў, тарганецца некалькі разоў, задрыжыць скурай — і аціхне. І ласяня, растапырыўшы яшчэ слабыя ногі, у непаразуменні ўтаропіцца ў маці, спяшаючыся, падскоча да яе, торкнецца пысаю ў жывот, потым крыху адбяжыцца — і зноў падскоча, смешна і няўклюдна. А чалавек і не адразу перарэжа яму горла, бо ведае, што нікуды яно не дзенецца, нікуды не ўцячэ ад маці, будзе тут, за бліжэйшым кустом.

І тады лесавік, калі надарыцца побач, можа ўмяшацца. Абавязкова ўмяшаецца. Самае простае — гэта пужануць неасцярожную ласіху, кальнуць востраю рагацінаю, якая і не заўсёды з лесавіком, але часта бывае, кальнуць і раз, і другі, каб тая стрымгалоў ірванула ў гушчар, з трэскам разарвала кусты і знікла; а таксама і ласяня сцебануць якім дубцом, каб не вельмі адстала, бегла, вырачыўшы вочы і высока падкідаючы заднімі нагамі. Аднак лепш, каб чалавек, паляўнічы, надалей унікаў гэтых мясцін зусім, стараўся абыходзіць іх, збочваць на якую другую сцежку, што віецца ўсцяж краю лесу, не заварочвае ў яго глыбіню. Гэтага лесавікі хочуць заўсёды. І стараюцца, каб людзі такі баяліся лясных нетраў. Звычайна лесавік пачынае з малога. Раптам загуло нешта ў дупле бліжэйшага дуба, нечуваны, жудасны лямант вырваўся з яго, марозцам прайшоўся па скуры і ўзняў дыбкам валасы на галаве, на-

ват на целе затрымцелі яны, натапырыліся, быццам дзіковая шчэць. Чалавек здрыгануўся, замёр на месцы, прысеў — аднак усё ж пераадолеў сябе, пайшоў далей. Тады нешта зачапіла яго за нагу, тарганула, падвярнулася яна, яшчэ крок — і зноў тое ж... Чалавек палахліва азіраецца, сціскае ў руках сякеру ці палку — чысты дзень наўкола, празрыстасць, у свежай зелянiне зіхацяць кроплі ранішняга дажджу. Не, далей ідзе чалавек, не разумее нічога, не хоча разумець, яшчэ раз даказвае, што ўпарцей за чалавека нікога няма. Нехта ляпае чалавека па плячы, па спіне, ляціць з галавы шапка. Чалавек стаіць напяты, пальцы, што сціскаюць сякеру, пабялелі, вочы круглыя, бы ў савы, калені дрыжаць і гнуцца, дзіўна, што ногі яшчэ трымаюць. І зусім нікога наўкол, нічога, ветрык і той аціх, адно сонечныя плямы пагладжваюць зямлю, усміхаюцца. І дзікі рогат ззаду, ад якога скочваецца ў пяты сэрца і талахціць у іх, бы птушка. Тут ужо і ўпарты не вытрымлівае, паварочваецца і бяжыць як можа, не зважае на канавы і ямы, сухое сучча збівае і нават пянькі струхлелыя, бяжыць і не бачыць нічога, аж пакуль не ўзбіваецца на знаёмую сцежку. Тады з'яўляюцца: калі балота — Чортава балота, калі лес — Лешукоў лес, калі якое прыкметнае дрэва — Ведзьмакоў дуб.

Найбольш лесавік не любіў, калі чалавек з'яўляўся каля яго нага цяперашняга жытла. Даўней такое здаралася надзвычай рэдка, цяпер было.

Пушчы, лесу, якога лесавік меўся ахоўваць, было ўжо зусім мала. І звяроў у лесе таксама было... не зусім. Лесавіку здавалася, што ў гэтае пушчы, у гэтых цяперашніх лясках ён быў, ён жыў столькі ж часу, колькі стаяла пушча. Былая пушча. І ён перабіраўся з імшараў да сухіх гаёў, са звонкіх сасоннікаў у глухія ельнікі, з асіннікаў на балоце ў маладыя, вясёлыя бярэзнікі — і заўсёды быў пры справе, не адчуваў часу, яго страшэнна імклівага і адразу незаўважнага бегу. Старыя дрэвы паміралі, але з-пад іх вырасталі новыя. Ваўчыныя зграі доўга гналі ласіныя статкі, адбівалі з іх слабейшых ласёў, абкружалі іх цесным колам, падступаліся ўсё бліжэй, потым усе адразу кідаліся — і ласі гінулі; але ў другім статку маладыя ласі ўжо мераліся лбамі, пхаліся, тапталіся на месцы, стараючыся зрушыць, скрануць, паваліць саперніка, перамагчы. Гулі мяцеліцамі зімы, звінелі празрыстымі рэчкамі леты, адляталі з восеньскіх балотаў журавы і апушваліся жаўтлявымі каташкамі маладыя вербы ўвесну — усё гэта леса-

вік бачыў незлічоныя разы і ў самых розных месцах. Бывалі пажары, людзі выкарчоўвалі ляды, ставілі на іх хаты і засявалі палі, мяняліся рэчышчы рэчак, але яму ніколі не здавалася, што ў ягонай пушчы адбываюцца надта вялікія змены. Так было вельмі доўга, пакуль аднойчы ён не заўважыў зубра-адзінца, які выбрыў з лесу да вялікае вёскі, і людзі, убачыўшы яго, спачатку ад здзіўлення анямелі, а потым кінуліся з коп'ямі і сякерамі, пачалі абкружаць яго, гаўкалі сабакі і далёка ляцелі крыкі,— людзі ішлі зубра забіваць. А зубр, здурнеўшы, мусіць, ад старасці, стаяў, чакаў, звесіўшы рэдкую бараду-ахвосце, не бараду — закарэлыя касмыкі, і ў вачах яго гарэў агеньчык зайшоўшага сонца, у вачах была пустэча. Тады над пушчаю яшчэ толькі браліся першыя мяцеліцы, не мяцеліцы — подыхі ветру са снегавымі крупамі, аснежаных дрэў яшчэ не было, хіба што зацярушанаю выдавала воўна ядлоўцавых кустоў,— і лесавік, забыўшыся нават як мае быць павыць, павішчэць, пагусці, пачаў кідацца слабым снегам у чалавечыя вочы, пачаў дзьмуць проста ў ілбы, пад ногі кідаліся сабакі, заміналі ісці, а потым ужо і пясок з зямлёй ледзь не высцёбваў вочы, забіваў рот і нос,— і зубр усё стаяў. Нарэшце нейкі сабака ўсё ж падкаціўся да яго, заскакаў пад самаю пысаю, ледзь не за бараду хапаў, і тады толькі нешта мільганула ў вачах зубра, ён павярнуўся і пабрыў, хістаючыся, між дрэў. Людзі ў сваім шалёным запале дапялі ўсё ж ускрайку лесу — але тут ужо захісталіся дрэвы, затрашчала ламачча, пачалі гайдацца над галовамі незразумелыя цені, адусюль вухкала і гігатала, нехта лядзянымі далонямі кратаў за твары, суччa чаплялася за кажухі, і людзі, пакрычаўшы, памахаўшы рукамі, далей не сунуліся, адступіліся. А зубр, адышоўшыся не надта далёка, да дзіковых ям, зноў спыніўся, некаторы час пастаяў скамянелай камлыгаю, потым пярэднія ногі падламіліся, зубр лёг. І болей не ўстаў. Лесавік колькі разоў з'яўляўся побач, глядзеў. Што ён мог зрабіць? Ён ведаў, што зубр памірае. І гэта быў апошні зубр у ягонай пушчы. Лесавік многае ўмеў, гэтага — не. Смерць была яму непадуладная, хаця самога яго ўзяць і не магла. Смерць звычайная, тая, што недзе стаіць на шляху чалавека, звера, птушкі. Раней ён не думаў пра тое, што такое ёсць тая чалавечая і звярыная смерць, яму гэта было не трэба. Але зусім нядаўна, усяго якіх паўсотню восеняў таму, ён адчуў, зразумеў, што ён знікне разам з пушчаю, разам з апошнім ляском гэтага краю. Менавіта з ляском,

а не купкаю дрэў, ляском, у якім яшчэ ёсць нечапанае, некранутае, нябачанае нікім месца, вось такое, як змрокавыя прорвы-ямы. Хаця іх лесавік не вельмі і любіў. Не любіў у іх жыць.

І апошнімі ж часамі — магчыма, гэта і здарылася таму, што набліжаўся ягоны скон, ягонае знікненне — ён задумваўся: хто ён і што ён у гэтае пушчы, у гэтым сваім свеце. Зразумела, ён не быў зверам ці птушкаю, ці жуком, ці рыбаю-стронгаю, ці яшчэ кім падобным. Звяроў ён разумеў, ведаў, чаго яны прагнуць вось зараз, прадчуваў, калі падпільноўвае іх небяспека, таму і стараўся ў тое імгненне апынуцца з імі побач, дапамагчы. Ён заўсёды папярэджваў пра пажары, таму што якраз іх звяры адчувалі часта запозна, уратоўваў ад чалавечых аблогаў, калі ланцуг паляўнічых абкружаў, сціскаў мядзведжы бярлог,— ён стараўся той бярлог закідаць снегам, кружыў паляўнічых, збіваў з тропу. Іншая справа — не заўсёды гэта ўдавалася. Але ён ніколі не мяшаўся ў звярыныя справы, ведаючы, дзе што зараз адбываецца — дзе гіне ў ваўчыных зубах лось, дзе дзярэ казулю рысь, дзе апошнім енкам крычыць у савіных кіпцюрах заяц. У звяроў было звярынае жыццё, ён быў па-за ім, акрамя асобных здарэнняў — тых жа пажараў. Ён, лесавік, разумеў кожны звярыны рух, кожнае іх памкненне, бо гэта было проста. І ў яго, канечне, было нешта ад гэтых пушчанскіх дзяцей. Ва ўсякім выпадку, адчуванне пушчанскага жыцця ў яго было звярынае. І звяры, адчуваючы яго, ведаючы, што ён дзесьці побач, ніколькі не палохаліся, а як бы прымалі за свайго, за таго ж звера. Ні ў якім разе не за чалавека. Праўда, калі лесавік гэтага хацеў — яны яго палохаліся.

Лесавік не быў зверам, і, канечне, ён не быў чалавекам. Хаця адзін пра аднаго яны ведалі. За многія зімы і леты лесавік і людзі сустракаліся, яны не маглі не сустракацца, але было гэта ўсё ж даволі рэдка. Ва ўсякім разе, лесавік не шукаў гэтых сустрэч, унікаў іх, а людзі... На тое яны і былі людзьмі, што яны баяліся больш за ўсё сабе падобных, і каторы з іх, моцны, закаваны ў жалеза, узброены мячом і крыжам, раптам пачынаў насіцца па лясных гонях, гукаючы яго, лесавіка, смеючыся і лаючыся, шукаючы таго, каго ён не ведаў. Лесавік, зразумела, ніколі не з'яўляўся. Якая ў гэтым была патрэба? Лесавік ад чалавека быў далёкі. Лесавік мог перанесціся з аднаго месца ў другое імгненна, і гэтага чалавеку было не зразумець. Ён мог з'явіцца і знікнуць. Ён мог павіснуць у па-

ветры прывідам і раптоўна спыніць, прыгнуць да зямлі галаву каня, учапіўшыся за аброць. Мог растварыцца ў дрэве. І паляцець птушкаю. Мог столькі, што чалавеку гэтага і не ўявіць, як бы ён ні стараўся. Чалавеку, як і яму, быў дадзены розум,— аднак і пасюль, і толькі. Адзіным, чым не валодаў лесавік з усяго таго, што мог чалавек, гэта моваю. Лесавік не гаварыў. Яму, пушчанскаму духу і пушчанскай плоці, прывіду і гаспадару, гаварыць па-чалавечы не было з кім. Лесавік амаль заўсёды маўчаў, хаця мог і смяяцца, і гукаць, і скардзіцца...

Зразумела, лесавік стараўся спыніць людское нашэсце, ён шкодзіў чалавеку, як мог — ды не ўсемагутны ж ён. Ён толькі лесавік. Ну што з таго, што ён мог збэрсаць, скруціць, злямчыць жыта на якой дзялянцы, з жыта таго чалавеку ўжо не было ніякае карысці. Чалавек прыходзіў, чухаў патыліцу, гараваў, што зноў жыта кустом — але нікуды ў большасці выпадкаў не сыходзіў. Чалавек быў зацінлівы, упарты.

І лесавіку заставалася толькі назіраць і задумвацца. Ён бачыў, што людзі ваявалі не толькі з пушчаю, а значыць — і з ім, самае дзіўнае — людзі ваявалі і паміж сабой. І ваявалі так зацята і люта, што яму часамі рабілася... не па сабе. Страхам гэта назваць нельга, страх яму невядомы,— проста яго ахоплівала незразумелая трывога. Людзі будавалі на прыдатных для гэтага месцах гарады — і старанна руйнавалі іх, нішчылі, забівалі сабе падобных, саміх сябе. Людзі ваявалі між сабой гэтак жа ахвотна, як і будавалі і сеялі. Бадай, гэта было галоўнае, у чым лесавік не разумеў людзей. Баяцца ён іх не баяўся — што яны маглі яму зрабіць? — але і з'яўляўся ён побач з імі толькі ў самых крайніх выпадках.

Ды ўсё часцей і часцей даводзілася глядзець на іх, назіраць — і ў непаразуменні зацiскаць у жмені бараду і ўцякаць. Вось толькі імгненнем раней, за якіх пяць летаў ад гэтага пры самым ягоным цяперашнім сховішчы не сховішчы, гняздзе не гняздзе, не пры берлагу — каля ягонага цяперашняга жытла аб'явіліся людзі. Дарэчы, хаця і заставалася ў ягоных лясках усё менец няходжаных палян, некранутых лапікаў зямлі, лесавік усё ж не сышоў у адну з ямаў-прорваў — а іх, не надта далёкіх, было тры,— не зліўся ў адно цэлае з начным змрокам, з холадам нежывога, а па-ранейшаму сядзеў на чыстым лясным азярцы. Гэтае азярцо, як бы падсвечанае поўняю, аблямаванае густой шчэпцю трыснягоў, засталося ад колішняй

імшарыны, што незаўважна ўсмакталася ў зямлю, высахла, пакінуўшы па сабе невялічкае люстра. У нізіне застаўся адно густы і тоўсты белаваты мох — і гэтае азярцо. З усіх бакоў, куды ні паткніся, ваду ахоўвалі густыя кусты — лесавік добра пастараўся, звязваючы іх у суцэльны жывы пляцень, а туды, дзе траплялія прагалы, панакідаў карчоў, пазавальваў праходы сухастоінамі. Такія ціхія і чыстыя азярцы, як гэта, заўсёды былі прытулкам белых тумапоў — тыя туманы, напаўзаючы на ўзмежкі лесу і паплавы, ахінаюць усё такім малаком, што жывую постаць не ўбачыць нікому і за дзесяць крокаў. Туманы гэтыя ўзнікаюць непрыкметна і нячутна, і няма ў іх жуды, якая ідзе ад смерці. Азярцо і спадабалася лесавіку чысцінёй і туманамі. Яму ніхто тут не замінаў — з жывога толькі пагойдваліся над вадой, парыпвалі кнігаўкі і залятаў зрэдку крумкач. Крумкача лесавік ведаў даўно, ён часта трапляўся яму на шляху, заўсёды адзінокі, нездаволены і нямы, лесавік лічыў яго за старажыла. Калі мерыць па-чалавечы, крумкачу было за дзвесце гадоў. І крумкач ведаў пра лесавіка, аднойчы абудзіў яго — не тут, а калі жыў лесавік у яловым гушчары, якога ўжо і няма, жыў, большасцю дрэмлючы, зліўшыся з якою ялінаю, увайшоўшы ў яе,— крумкач прыляцеў і паклікаў. Тады загарэлася тарфяное балота, ніхто аб гэтым яшчэ не ведаў, торф гарэў пад зямлёй,— крумкач неяк празнаў. Лесавік завярнуў на балота адзін з лясных раўчукоў, доўга сачыў, ці не выб'ецца з-пад зямлі агонь, не схопіць бліжэйшыя кусты і дрэвы, не кінецца далей. Тады агонь не выбіўся. А не так даўно тое колішняе балота — яно ўжо даўно не было балотам, зрабілася поплавам — усё ж загарэлася, напалохала людзей з недалёкай вёскі. Лесавік ведае, чаму загарэлася — высахла рачулка, той самы ручай, якога заварочваў некалі лесавік. Крумкач той і для крумкача быў ужо стары. І ён таксама пазбягаў людзей.

Дык вось, нечакана на азярцы з'явіліся людзі. У першы момант, ачуўшыся, лесавік памкнуўся быў уцячы, знікнуць, перанесціся ў якое цішэйшае месца — і застаўся. Людзі, шэсць чалавек, такі прадзерліся скрозь кусты, загарлалі, адразу пацягнула дымком вогнішча, палахліва ўскінуліся ў вышыню, таксама закрычалі кнігаўкі, але ў адрозненне ад людзей — разгублена і жаласна. А лесавік як анямеў. Яму, канечне, здаралася аказвацца зусім побач з людзьмі, нават дакранацца да іх, наводзячы марачэнне, задурваючы галаву і палохаючы,— тут жа ён быў по-

бач і маўчаў. Людзі трашчалі суччам, ссякалі маладзенькія бярозкі, рагаталі, адразу зрабілі сабе два невялікія дамкі, як з-пад зямлі яны ўзніклі, дзве чырвоныя плямы на жывой зямлі, потым гэтак жа хутка з'явіліся дзве лёгенькія лодкі, такія лёгкія, што адзін чалавек цягаў адразу дзве. Падвечар яны паселі ў лодкі і пачалі плаваць па возеры, стаўляючы сеткі і тут жа правяраючы іх, яны спяшаліся, і ў сеткі мала што траплялася. Лесавік бачыў, як рыба спуджана кідалася ў розныя бакі, асабліва мітусіліся маладзенькія шчупачкі, яны большасцю і залятаді ў сеткі,— людзям рыбы было мала, яны лаяліся. Лесавік чуў іхнюю гаворку, не ўсе чалавечыя словы разбіраў — разумеў галоўнае: людзям трэба было шмат рыбы, як мага болей, яны нават самі добра не ўяўлялі, колькі шмат. Ён думаў, што цяпер людзі дзень пры дні будуць плёскацца ў возеры, ганяцца за рыбай, складваць яе ў мяхі, будуць лавіць, і яму тут, канечне, заставацца ніяк не выпадае,— ды тут паветра скаланулася, здрыгануліся тоўстыя дрэвы, у адным месцы вада з возера рванулася ў неба, ажно выкінуўся ў паветра прыдонны мул, азярцо быццам паспрабавала выплюхнуцца са сваіх нізкіх берагоў, знікнуць. Людзі, што ў гэты час усе як адзін хаваліся ў кустах, радасна кінуліся да лодак. І ўжо ўсплывалі з каламутнай глыбіні глушаныя ліні, мёртва бялеліся плоткі, буйныя шчупакі то таксама пераварочваліся дагары пузам, то стараліся схавацца ў глыбіню, пад навіслыя над берагамі лазнякі.

Лесавік неяк разгубіўся. Зараўсці, засвістаць, чорным ценем зашастаць у вяршалінах соснаў, залопаць лапамі па вадзе, каб кругі пайшлі і ўзялася хваля?.. Пасля таго, што людзі зрабілі з азярцом... лесавік нават зрабіўся маленькім, як тыя кнігаўкі, і на нейкі момант перастаў бачыць. Ды потым усё ж ажыў і заварушыўся. Ваду, што і казаць, лесавік ніколі не любіў. Вада-дождж, гэта, канечне, адна справа, дажджу ён амаль не заўважаў, вада-возера, вада-рака — гэта было не ягонае. Дыхаць у вадзе ён мог, але з цяжкасцю. І ў вады быў, зрэшты, свой гаспадар, і яго, вадзяніка, лесавік ніколі не бачыў. Як ёсць два царствы — жывых і мёртвых — і пераход з аднаго ў другое і назад людзям, напрыклад, не дадзены, амаль гэтак жа было і тут. Не зусім, канечне, лесавік ведаў, што і ў вадзе ён не знікне, аднак ніколі ён у ваду не патыкаўся. А тут не ўтрываў. Спачатку прапаролася адна лодка, за ёй другая, і адзін з людзей, самы гарласты, раптам пачаў ныраць у ва-

дзе, як качка-нырок. «Рат!..» — лупіў ён вочы, крыху высунуўшыся з вады — і знікаў. «Гыр-ххы-ы...» — булькацела пад вадой, доўга булькацела — затым галава з'яўлялася. «Ы-ы-йі-і...» — ціўкаў з рота струменьчык, з носа таксама лілося — і яшчэ пад ваду. А было тут не вельмі і глыбока. Сябры гарластага спачатку смяяліся, гледзячы на ягоныя нырцы, потым заспяшаліся на дапамогу, пацягнулі яго да берага. Хоць і не глыбока тут было, але вельмі гразка, яны ўсе выпаўзлі на сухое запэцканыя з ног да галавы, доўга пляваліся і кашлялі, адзін на аднаго лаяліся, сварыліся. Потым усе разам накінуліся на гарластага: «Тожа мне, майстар спорту па плаванні! — крычалі яны, перабіваючы адзін аднаго.— У лужыне тапіцца пачаў. Ды ў гэтым жа возеры з-за карчоў і не праплывеш на лодцы. Ты хіба не ведаў, што тут карчоў да халеры? А што цяпер рабіць будзем? Мала што лодкі патапіліся — у іх і рукзакі былі! Паслухалі цябе, ідыёта, пацягнуліся...» Гарласты таксама крычаў, адбіваўся, усё не мог выкрычаць ваду, якой наглытаўся, злаваў так, што ледзь біцца не кідаўся. А ўначы, зразумела, дамкі іхнія трэсліся, калкі з вяроўкамі выскоквалі з зямлі, здаравенныя сукі раптам абломліваліся і падалі на галовы тых, хто выскокваў,— і ноч глядзела на людзей маўклівая і пагрозлівая, як і неба ў сваёй недасяжнасці. У гэтай маўклівасці было яшчэ болей жуды, чым у якой навальніцы. А лесавік яшчэ і туману нагнаў — з гушчэчы дрэў раптам папаўзлі белыя пасмы, пачалі засцілаць усё тоўстай коўдраю, і ў сцяне туману бязгучна загайдаліся незразумелыя цені, нехта мацаў за насы, за вочы, нават за каўнер залазіў. Людзі запальвалі ліхтары — і святло іх не магло прабіць белую гушчу, асвятляла толькі твары-маскі з вырачанымі вачыма. Лесавік здолеў зрабіць так, што кожны з гэтых шасці быў сам па сабе, кожны баяўся ў адзіночку, ніхто не шукаў блізкасці суседа, а калі і дакранаўся да яго — у сполаху ўздрыгваў і адсоўваўся. Гэта было самае цяжкае — зрабіць так, каб побач з другімі чалавек быў напалоханы. Наранкі, вядома, людзі сабраліся як найхутчэй і пайшлі. Яны ішлі некаторы час усцяж возера, і гарласты ўсё азіраўся на роўную і абыякавую ваду, быццам стараўся нешта разгледзець у яе чарнаце, яму і бачылася штосьці ў глыбіні, ён бляднеў тварам, курчыўся і кашляў.

Пасля тае сустрэчы людзі на азярцы больш не стыкаліся. Але спакою лесавіку не было — ён тупаў, прыгнечаны, туд-сюд, глядзеў на ваду і неба, ведаў, што поідзе ад-

сюль назаўсёды. Ведаў — і ўсё не мог наважыцца, катором разам быццам і сыходзіў, але вяртаўся. І не надта каб было куды падавацца, і... страціў лесавік спакой. Гэта было галоўнае — ён страціў спакой.

І лесавіку ўбачылася ягоная мяжа, за якой ужо нішто, пустэча, яна, тая мяжа, была, праўда, неакрэсленая, невыразная, ён яшчэ не ведаў, калі дойдзе да яе, але яна была. І ён, які ў сваім жыцці жыў па-лясному, драмаў, увайшоўшы ў якое дрэва, ці аблятаў-абходзіў свае ўладанні, ці глядзеў за дружным абуджэннем зямлі, слухаў шолахі траў, што лезуць з зямлі, і піў разам з дрэвамі зямныя сокі, ці частаваўся гронкамі восеньскіх арабін, ці скрозь сон слухаў калыханкавы посвіст зімовых завеяў,— ён пачаў туляцца з месца на месца, пачаў пакідаць гушчары-сховішчы і выходзіць на прагалы, на ўзмежкі лесу, пачаў нават аказвацца пры людскіх паселішчах, хаця дагэтуль ён не рабіў гэтага ніколі. Раз-пораз ён заміраў на якім дрэве каля вясковых агародаў — і прагна глядзеў на хаты, хлявы, вочапы студняў, на буслянкі на самых стрэхах, прынюхваўся да пахаў, што сплывалі з вёсак, незнаёмых і чужых пахаў — пахла дымам, ежаю, якой ён не ведаў, жывёлай, што ўжо чужая лесу, сабакамі, якія таксама страцілі апошнюю драбнічку колішняга падабенства з ваўкамі, пахла людскім жытлом, у якім густа стаяла безліч едкіх і моцных чалавечых пахаў, па іх ён якраз і даведваўся, што чалавек завітаў у лес ці быў у ім, пахла тым, чаго ён ніколі не ведаў.

Ён, лесавік, з'явіўся на зямлі так даўно, што ўжо на вельмі многае з былога забыўся. Ён ужо слаба памятаў пра першыя свае крокі па пушчы, пра тое, якой яна тады яму бачылася, не памятаў і аб тым, як яго самога ўспрымала пушча. Але заўсёды ён памятаў, усведамляў, што нейкая сувязь паміж ім і чалавекам першапачаткова была. У агульным падабенстве паставаю, аблiччам — гэта тады, вядома, калі ён паўставаў у сваім сапраўдным выглядзе і дазваляў убачыць сябе,— адным словам, у тым, што быў ён усё ж больш чалавекам, чым зверам? Можа быць. У тым, што мог думаць — калі хацеў — як чалавек? І гэта было. У тым, што мог гараваць, радавацца, здзіўляцца, непакоіцца, злавацца, цешыцца?.. Многае з гэтага, праўда, з'явілася ў ім — незаўважна і незалежна ад яго — толькі апошнім часам. А можа быць, пачаўшы часцей сутыкацца з чалавекам, пачаўшы назіраць за ім і прыглядацца, ён адкрыў у чалавеку тое ж самае, што было і ў ім самім?

Агульнае было, гэта несумненна, як і была вялізная розніца.

Што і казаць — за часы сваіх апошніх блуканняў па рэштках пушчы лесавік ужо ведаў, каго колькі ў ёй засталося. І ў гэтым яму таксама бачылася ягоная апошняя мяжа. Мядзведзяў — ніводнага, яны ўжо зрабіліся тым, чым былі зубры, туры, собалі, дзікія коні. Рысяў — тры сям'і, і падобна было на тое, што яны таксама знікнуць, бо ў рысяў заўсёды невялікія ўладанні, яны не любяць шукаць здабычы дзе далёка, прабегчы ім якія пяць дзесяткаў кіламетраў цяжка. А дзе ты зараз знойдзеш месца, каб на невялікай дзялянцы былі і зайцы, і казулі, і лясная птушка вялася. Усяго паменела. Ваўкоў было больш — дзесяць сем'яў, логавы іхнія былі схаваныя адмыслова, дарослыя звяры за здабычай не ленаваліся прабегчы семдзесят, а то і болей кіламетраў, не баяліся яны людскіх селішчаў, маглі ўскочыць у самы крайні хлявчук і парэзаць там жывёлу, маглі нават сабаку злізаць з-пад самага ганка, пакінуць гаспадарам адно абрывак вяроўкі ці ланцуг. Ваўкі навучыліся абыходзіць паляўнічых са стрэльбамі, абмінаць атручаную прынаду, навучыліся не зважаць нават на чырвоныя сцяжкі, калі наладжвалася аблога. Ваўкі ведалі, што паляваць трэба далёка ад логава, і імчаліся шэрымі зданямі многія кіламетры, упэўнена кіраваліся да патрэбных балотаў і ляскоў, дзе яшчэ траплялiся лёжкі дзікоў і дзе хадзілі невялікімі статкамі ласі. Ваўкі маглі яшчэ які час жыць. І ласі таксама тут вяліся, чалавек іх не чапаў, рэдка калі трашчала ад стрэлаў паветра і валіліся набок вялікія звяры, якіх потым абступалі людзі і пачыналі, спяшаючыся, рэзаць і дзяліць. Часта на гэтых людзей, у сваю чаргу, палявалі другія людзі, лавілі іх, адбіралі дзічыну і некуды вялі, такое лесавік заўважаў таксама. Бегалі і дзікі, нястомнааралі зямлю, узбіваліся нават на людскія палі, людзі іх тады ганялі, нават пастрэльвалі. А вось баброў, якіх па берагах тутэйшых рачулак даўней заўсёды траплялася шмат, амаль не засталося, хавалася на беразе ляснога возера ў атачэнні старых дубоў толькі адна жылая хатка, была яна тут апошняя. Лесавік калі-нікалі спыняўся каля яе — яшчэ валтузіліся недзе пад берагамі жывыя істоты, яшчэ траплялiся ўздоўж берагоў адмыслова паточаныя пянькі асін, яшчэ вытыркваліся з вады круглыя заклапочаныя морды. Апроч іх рэдкімі былі і каршукі, і капі, і совы, і выдры, і лісіцы, і ці мала яшчэ хто.

Лесавіка, які глядзеў за рэдкім ўжо ў ягоных уладаннях зверам, найбольш цягнула да тых, што засталіся, лічы, адны, што зрабіліся гэтым сваім адзіноцтвам падобнымі да яго самога. Яму проста карцела лішні раз убачыць іх, паназіраць за іхняю адзінотаю, за тым, як ганарліва глядзелі яны ўдалечыню — апошнія заўсёды глядзяць як бы з вышыні, як бы над усім астатнім, як бы ведаючы тое, чаго ніхто ўжо ведаць не будзе. Апошнія ўжо не плачуць і не скардзяцца, не мітусяцца, не б'юцца за лепшы кавалак,— апошнія ўжо глядзяць туды, за мяжу. Лесавіка цягнула да іх, як да крыніцы з хмяльным пітвом, каля іх яму было і тужліва, і высока, і лёгка, яны былі яму як бы і роднымі. Некалі ён доўга не мог адысці, адстаць ад зубра, што непрытульна бадзяўся па вялікай тады пушчы, чамусьці выбіраў большасцю ўзлескі, аж пакуль не выйшаў да людзей. Тады лесавік ўратаваў яго, але зубр, растварыўшыся ў лесе, амаль адразу лёг і болей не ўстаў. А лесавік хадзіў кругамі вакол яго і ўсё не мог пайсці зусім, усё не мог кінуць яго, абыякавага да лесу, да ежы, да жыцця. Зараз адзіным у лесавіковых уладаннях застаўся ястраб, не такі яшчэ і стары, але ўжо надзвычай спакойны. Гняздо ястраба хавалася ў гушчары невысокіх крывых дрэў, што выраслі на былым пагарэлішчы, пагарэлішча гэтае густа апляло дзікімі кустамі, чалавек скрозь іх прадзіраўся вельмі рэдка. Гняздо было недагледжанае, зеўрала вялікаватымі дзіркамі, праз якія нават магло выкуліцца, калі б было, яйка, але яек у ім не ляжала ўжо шмат вёснаў. Пад ім валялася на зямлі некалькі костак, ды на тонкіх суччах бліжэйшых кустоў трымцелі на ветрыку рэдкія пёркі — рэшткі даўняй здабычы. На паляванне ястраб лятаў зрэдку — цэлымі днямі ён праседжваў на суку каля гнязда, сам здаваўся суком, бо амаль не варушыўся. Круглыя жоўтыя вочы пазіралі кудысьці далёка — і раптам зацягваліся плеўкаю. Але потым плеўка ўсё ж знікала. І голасу ястраба лесавік амаль не помніў. Ды што казаць — слаба помніўся ўжо свой. Ястраб сядзеў, лесавік умошчваўся дзесьці побач — ястраба гэта зусім не непакоіла,— абодва глядзелі ўдалеч, у сябе. Абодва чулі даўнейшае, далёкае, бачылі здабычу і сваіх ахвяр, адчувалі моц крылаў і моц духу, ад якіх гула пушча і ўцякалі людзі і звяры — і гэта іх амаль не хвалявала. Потым лесавік знікаў, ястраб жа часцей за ўсё заставаўся. І не таму, што быў слабы. Ён быў ужо вельмі спакойны. І гэты ягоны спакой лесавік разумеў, не хацеў, каб ён быў, ды зрабіць нічога не мог.

Адзіны быў і стары крумкач, які ўжо таксама зажыўся сярод гэтых лясоў і балот. Астатнія вароны, што яшчэ пралялі над людскімі паселішчамі, падыходзілі яму хіба што ў праўнукі, крумкач заўсёды трымаўся адасоблена ад іх, як і ад усяго жывога. Але крумкач, у адрозненне ад ястраба, не праседжваў суткі на адным і тым жа суку, не камянеў на ім, а ўвесь час кудысьці ляцеў. Ён раптоўна ўзнікаў там, дзе яго ніхто не чакаў — каля зарэзанага ваўкамі лася, мяса ягонае дымела ў марозным паветры, вочы ўжо зашклянелі, вялікае тулава з адкінутымі нагамі паторгвалася, з ашчэраных ваўчыных пашчаў зрывалася сліна, змяшаная з крывёй, ваўкі рвалі, пагырквалі адзін на аднаго, похапкам глыталі, над ласём чутны былі хрыпы, шархацеў снег, патрэсквала раздзіраемае мяса, глэмкалі, клацнуўшы зубамі, пашчы,— крумкач сядзеў на бліжэйшай яліне, некаторы час уважліва глядзеў, потым раптоўна зрываўся і ляцеў. Ці раўлі, захлынаючыся, бензапілы, людзі ў ватоўках і ботах павольна пахаджвалі між дрэў — і чарговае з іх, задрыжэўшы вяршалінай, спачатку марудна, вельмі марудна хілілася, і па-над самай зямлёй ужо імкліва ляцела пад ногі сабратам; раўлі маторы, ірвалі драўніну, гонячы свежа-белае пілавінне, зубы пілаў, глуха бумкалі аб зямлю тоўстыя камлі, трашчала голле, разляталася ў бакі садраная кара, пахла смалой і сокам,— на свежым, яшчэ не зароснелым пні сядзеў крумкач, пакручваў галавой, вочы яго былі жывыя. Крумкач людзей унікаў, але ніколькі і не баяўся. Ці вось ужо сышла веснавая паводка, рэчка амаль увайшла ў берагі, пра паводку гаварылі ўжо толькі шматкі сухое травы і лісцяў на кустах, іх пачапіла там высокая каламутная вада, і ў рэчцы ўжо свяцілася, жаўцелася дно, а на перакатах дык і бачны былі дробныя каменьчыкі, галька,— па гэтай рэчцы ішла некуды супраць плыні ачмурэлая, атручаная аміячнымі і азотнымі сцёкамі стронга; яна была вялікая, моцная, але ішла няўпэўнена, віхляючы, завальваючыся то на адзін, то на другі бок, і каляровыя, вясёлкавыя плямы на яе баках пабляклі, не гарэлі з вады, не ўспыхвалі, стронга ўжо нават разы са два паказала сіне-белае пуза, поўнае ікры, і ішла яна з апошніх сіл. Крумкач дзе скакаў берагам, пакідаючы на гладзенькім пяску рысачкі слядоў, дзе проста ішоў, дзе падлятаў, касавурачыся на стронгу ў вадзе, ішоў, адным словам, следам; ён ведаў, што адкласці ікру стронга ўжо не здолее, была яна напаўжывая, і ўпарта чакаў, загадзя адчуваючы смак буйных чырвоных ікрынак, аку-

ратных круглых дробачак, з якіх павінны былі б вылупіцца моцныя і прыгожыя стронгі.

Лесавік няблага ведаў крумкача, і ён не мог надзівіцца на яго здольнасць быць усюды, а найбольш там, дзе патрэбна была яго, лесавікова, дапамога. І часта крумкач апярэджваў яго, задуменна гледзячы на тое, што адбываецца, запамінаючы — але навошта, для чаго? Крумкач пра гэта не гаварыў, не мог сказаць, ён проста ў час прылятаў і глядзеў. Ён таксама быў па-свойму адзіны.

За доўгія сотні летаў і зімаў лесавік уведаў пра людзей столькі, колькі, мусіць, яны не ведалі пра сябе і самі. І тут нічога не было дзіўнага, бо часта вёскі абкружала не поле, а глухі лес. І разам з лесавіком шмат што ведалі людзі, якія жылі сярод балотаў і лесу, над галовамі якіх шугалі навальніцы, на якіх абрыньваліся залевы, якія ведалі, што такое лютаўскія завірухі і градзіны з курынае яйка пасярод лета. Ведалі: калі вясною бяроза распускаецца раней вольхі — трэба чакаць сухога лета; калі разам — мокрага, але ўрадлівага. Ведалі, што ранняе з'яўленне палявых і лугавых красак гаворыць пра ўраджай грыбоў летам і да маразоў. А вялікі ўраджай на працягу ўсяго лета, у сваю чаргу, паказваў на працягласць наступнае зімы. І была яшчэ процьма драбніц, пра якія ведаў толькі лесавік і мала хто з людзей. Ластаўкі нізка лётаюць — дождж будзе. Зарадзіла мяцеліца,— сцюжа на двор. Студзень мяце — ліпень залье. Люты халодны і сухі — жнівень гарачы. У сакавіку туман — у жніво дождж пан. Май халодны — не будзеш галодны. Калі камарна, то і хлебна. Восень — на дзень пагод восем. Пчала на любую кветку ляціць, але не на кожную сядзе... Канечне, гэтыя прыкметы з людзей ведаў далёка не кожны, бо далёка не кожны ўмее чуць і бачыць. Для лесавіка ўсё гэта было навідавоку, ён усё ведаў, ды і, зрэшты, гэта ягонае жыццё. Людзі ж часта не бачылі таго, што сляпіцаю лезла ім у вочы. І часта цярпелі з-за гэтага, гаравалі, часта падалі на роўным месцы.

А за апошнія часы многае змянілася так, што разгубіліся не толькі людзі — страціў спакой лесавік.

І ўсё часцей і часцей, спачатку міжволі, а потым і па сваёй ахвоце, ён з'яўляўся недзе побач з людзьмі — як той крумкач, ці што? — цікаваў з-за дрэў, потым раптоўна, як напалохаўшыся, знікаў.

Апошнюю вясну, праўда, ён усю прабыў у лесе. Вясна была наўздзіў дружная, пасля снежнае зімы з моцнымі маразамі і доўгімі завеямі, у якія яму добра драмалася

на сваёй утульнай імпарыпе, адразу павярнулася на цяпло. Падзьмулі палуднёва-заходнія вятры, якія амаль і з'елі пульхныя сумёты, выкацілася сонца, і ўсё жывое заварушылася, задыхала, заспяшала. Хутка набрынялі пупышкі, імкліва выдзеўбліся з іх стрэлкі маладога лісця, на прагалах, а асабліва на адкрытых сонцу ўзгорках, палезла трава. І хаця па нізінах стаяла вада, дрэвы ішлі па ёй і ўсё не маглі выбрысці да сухога, на вышэйшых месцах заквітнелі пралескі і воўчае лыка, адразу за імі ўзялася шчамяліца, загулі над іх пяшчотнымі ружова-сінімі званкамі яшчэ ачмурэлыя з зімы чмялі, былі скрозь запэцканыя жоўценькім пылком, і мурашкі прабівалі ў леташніх голках і лісцях дарогі, па якіх хутка пацягнуць вусеняў, жукоў і лічынак, ва ўсіх напрамках паўзлі доўгія, круглыя, ледзь прыкметныя, вялікія жукі і павукі, пырхалі жоўта-чырвона-чорна-сінія матылькі, шархацелі яшчаркі, папісквалі мышы, ценькалі, свісталі, гугукалі, трашчалі, рыпелі птушкі ад малой пенчакі да лупатага пугача, трусіла аблезлая яшчэ лісіца, высока падскоквалі рудыя жабкі, лезлі з-пад палеглых бяроз і асін смаржкі і страчкі,— ішла вясна, ішла гэтак жа, як праходзілі сотні вёснаў да яе. Лесавік амаль усю вясну уцякаў ад людзей, якія быццам шукалі яго, уцякаў ад рэха іхніх галасоў, нават не заблытваў тое рэха, кідаючы з аднаго боку ў другі, а проста ўцякаў. А потым яго неадольна пацягнула да лясных узмежкаў.

Адцвілі вербы і бярозы, асіны і вольхі, сышла халаднаватая пена чаромхаў, адкалываліся густыя хвалі бэзавых колераў і пахаў — узялося лета з ягонымі безліччу кветак і густым разнатраўем, пісклявымі птушанятамі, камячкамі зайчанят, вывадкамі лісянят іваўчанят, што яшчэ сядзяць па норах, валтузяцца, б'юцца, ваюючы за сасок з малаком, і ляскі, увайшоўшы ў моц, выдавалі ўжо не такімі рэдкімі і малымі, а купкі старых ялін дык нагадвалі нават пра колішнія гушчары. Лес рос, квітнеў, звінеў, радаваўся, быццам не ў тысячны раз, а ўпершыню ўступіў ён у лета, і не думаў, не задумваўся над тым, што чакала яго наперадзе, у будучым.

Набліжалася галоўнае свята лесу — Івана Купалы.

Некалі, даўнавата ўжо, свята гэтае было, бадай, агульным святам людзей і лесу, а значыць — і святам лесавіка. З начных рэк сплывалі, клубіліся туманы, і ў чарнаце ночы раптам успыхвалі адно вогнішча, другое, трэцяе... Хутка гіганцкія каралі змяіліся, зіхацелі, блішчэлі на чорнай зямлі — быццам адбілася на ёй уся неабсяжнасць зорнага

восеньскага неба. Тысячы вогнішчаў ішлі разам з рэкамі ў невядомую далячынь, і параўнаць гэта начное ўбранне зямлі, гэтыя вычварныя, дзівосныя карункі не было з чым. Вогнішчы палалі, патрэсквала сухое голле, мірыяды іскраў ляцелі да дробнай гушчыні зорак, згасалі, выбухвалі зноў, вакол вогнішчаў кружыліся ў карагодах людзі, іхнія песні — блізкія гэтай начы, блізкія лясам і рэкам — узляталі высока і далёка, і асобныя падгалоскі, неверагодныя ў сваёй вышыні, апякалі марозам скуру і паколвалі яе нябачнымі голкамі, найбольш смелыя з карагоднікаў скакалі праз полымя вогнішчаў, ажно трашчалі валасы і шэрхнулі вусны, скакалі ў самую яго сярэдзіну, але полымя ў гэтую ноч было літасцівае і мяккае, як мяккай і добрай была ўся зямля. Густа-чорныя, як дрэва эбен, воды рэк прымалі на сваю паверхню вянкі з кветак, асцярожна і пяшчотна пакалыхвалі іх, неслі ў ноч, у невядомае, і загадкавым, чароўным было ўсё — лугі з вогнішчамі на іх, цені людзей, працяглыя, як жыццё, песні, галасы маладых ваўкоў, што таксама віталі вялікае свята. На вянках, якія паціху плылі па рэках, мігцелі свечкі, у іх, гэтых свечках, маладзенькім дзяўчаткам, гаспадыням вянкоў, бачыўся іхні лёс, абавязкова шчаслівы, з мужам-асілкам і здаровымі дзецьмі, яны глядзелі чорнымі, як гэтая ноч, вачыма ўслед вянкам, і слязінка шчасця блішчэла на густых вейках, паміргвала, як зорка ў бясконцай бездані. У гэтую ноч, і сапраўды, адхінался крыху заслона перад невядомым, і таму, хто вельмі хацеў, можна было зазірнуць у свой лёс — і не заўсёды трэба было гэта рабіць. Плылі вянкі, луналі песні, усю ноч палалі вогнішчы, і дзесьці гарачая дзявочая рука аціхала ў вялікай хлапечай — і Купала бласлаўляў іх, браў за сваіх дзяцей. А ў самым сэрцы лесу, у атачэнні самых магутных дрэў, ззяла, цвіла, красавала, прыгаршчамі раскідвала вакол сябе россыпы самацветаў, і вабіла, клікала, прыцягвала людзей, тых якраз, для каго была яна недасяжная, папараць-кветка.

Здаралася, што ў гэтую купальскую ноч лесавік, разагнаўшыся па вяршалінах самых вялікіх дрэў, узлятаў высока-высока — і заміраў на колькі імгненняў над усёй сваёй пушчаю, ахопліваў яе ўсю цалкам, глядзеў, не мог наглядзецца, смяяўся, адчуваючы сваю моц і веліч. Зямля пад ім ляжала багатая, прыгожая, расквечаная агнямі — а колеры вогнішчаў былі самыя розныя, ад жоўта-чырвоных да зялёна-сініх,— і мякка-густое паветра трымала яго, гушкала,— гэта была ягоная хвіліна, вельмі рэдкая, аднак

тым і найдаражэйшая, таму што якраз у вось гэтую хвіліну адкрывалася яму ягоная сутнасць. Ён жыў, пакуль жыла гэтая зямля з лясамі і рэкамі, пакуль раз у год заваладваў светам Купала, пакуль нізка нахіляўся да зямлі месяц — і рабіў цуды. Так, якраз у гэтую ноч месяц запальваў чароўным агнём душы каменняў — і яны гарэлі не згаралі ўжо вечна, і людзі, адгадваючы ў тых каменнях чароўную моц, падбіралі іх і трымалі каля сябе, аднекуль ведаючы, што камень, запалены месяцам, дапамагае і ахоўвае. Лесавік таксама любіў гэтыя каменні, ён ведаў, дзе які хаваецца, і ў асобныя хвіліны прыходзіў да іх, глядзеў. Ён умеў зрабіць так, што камень выходзіў, выціскаўся да сонечнага ці месячнага святла са свайго сховішча, і промні, сутыкнуўшыся з каменем, раптоўна рассыпаліся, успыхвалі, камень як бы адкрываўся — і адарвацца ад яго было ўжо цяжка. У халодным бляску дыямента бачылася купальская ноч, у якую ён быў запалены, бачыліся каралі надрэчных вогнішчаў, хісткія цені людзей вакол іх, вянкі на чорнай вадзе, бачыўся водбліск папараць-кветкі, слабенькі водбліск, які працінаў да глыбіні душы. Лесавік ведаў, што некаторыя людзі, аднойчы глянуўшы на купальскі камень, ужо ні на што іншае глядзець не хацелі — і хутка гінулі. Каменні выходзілі з зямлі, лесавік углядаўся ў іх — і святлеў, увесь святлеў, быў ён у тыя мінуты не такі, як заўсёды. Перад яго вачыма перабылі ўсе самыя галоўныя каменні — сарданікс, тапаз, карбункул; смарагд, сапфір, алмаз; лігур, агат, аметыст; берыл, онікс і яспіс. Ён ведаў іх, назвы гэтых каменняў ішлі з такой далёкай мінуўшчыны, пра якую і падумаць цяжка, не тое што ўявіць. Гэта першыя свяшчэнныя каменні. Сонечнае святло, трапіўшы ў алмаз, адразу рабілася фіялетавым, далей — сінім, зялёным, жоўтым, аранжавым, і выходзіла ўжо чырвоным. Камень жыў колерамі, дыхаў імі, гуляў. Сапфіры былі празрыстай сінечаю, нагадвалі яны пра нябёсы і моры, і клікалі ў сваю глыбіню, не адпускалі. У смарагдах хавалася ўся зеляніна лясоў, ад кволай веснавой да купальскай, можна было ўбачыць у іх лугавыя травы і паўтоны кустоў, каменні пераліваліся адценнямі лесу, зачароўвалі, і не было больш прывабных для вока каменняў. Чырвоныя рубіны, тапазы ад блякла-жоўтых да вішнёва-карычневых тонаў, гранаты, да якіх далучаліся чырвоныя піропы і малінавыя альмандзіны, ружовыя і індыгава-сінія турмаліны, пяшчотна-зялёныя хрызаліты, рознаблакітныя цырконы, няўлоўныя александрыты, дым-

чатыя кварцы — кашэчыя вочы... Ва ўсіх гэтых каменнях лесавіку бачыўся невядомы свет — і ён глядзеў, стараўся ў яго зазірнуць. А купальскія камені, нарадзіўшыся, адразу хаваліся ў зямлю, глыбока ў яе ўваходзілі, знайсці іх шанцавала вельмі рэдкаму чалавеку. Чалавеку з чыстай душой — пра гэта лесавік таксама ведаў. А камені, прапусціўшы праз сябе ці дзённае, ці начное святло, яшчэ некаторы час мігцелі, праменілі ў сваіх сховушчах, іх лесавік мог таксама бачыць, вось як на далоні. Сваёй незвычайнасцю і адзінотаю — так, яны былі адзінымі, непадобнымі ні да якіх іншых — камені былі блізкія лесавіку, бо ён таксама быў адзін, адзіны...

І тымі купальскімі начамі, здаралася яшчэ, лесавік прыходзіў да вогнішчаў, запаленых людзьмі, і нерухомеў каля іх, затойваўся. На купалле яму можна было наблізіцца да людзей, і ён прагна сачыў за жывымі, асветленымі блікамі агню, тварамі, глядзеў на ўсмешкі хлопцаў — і дзіўнае, незразумелае пачуццё ахоплівала яго. Ён не мог — ды і не хацеў вось гэтак скакаць вакол вогнішча, закінуўшы ў неба твар, абдымаць за плечы... другую, яму роўную,— і яго ўсё ж цягнула да вогнішчаў, ён зліваўся з самым бліжэйшым кустом, пазіраў. Глядзеў ён на людзей у купальскую ноч зусім не так, як на дзівосныя камені, выкліканыя ім з зямлі, аднак жа і было нешта агульнае. У людзях гэтых яму таксама бачыўся незнаёмы і прываблівы свет, і яго, гэты свет, хацелася адчуць, хаця б трохі ўведаць. Але людзі былі чужыя. І ён, растрывожаны, знікаў у лесе да наступнае купальскае начы.

Але часы ішлі, купальскіх вогнішчаў менела, і зараз вось яны ўжо амаль зніклі. Купальскія ночы, ясныя, месячныя, урачыстыя, праходзілі па зямлі, па былой лесавіковай пушчы маўклівыя, ціхія. Адно месяц яшчэ ўглядаўся ў зямлю пад ім, шукаў рэдкага каменьчыка, у якім была душа і якога можна было запаліць. Са знікненнем пушчы забываўся і Купала. І людзі, якія нястомна шукалі папараць-кветку, таксама кінулі хадзіць па лясах, яны забыліся, што папараць-кветка ўсё ж ёсць.

Купалле набліжалася, але лесавік нічога не чакаў ад яго, ён проста адзначаў — хутка купалле. Праўда, гэтым перадкупальскім часам яго непакоіла яшчэ адно — недалёка ад сваёй імшарыны ён зноў пачуў людзей. І сустрэчы з імі тут яму зусім не хацелася. Людскія галасы далятаді да яго звонкія, маладыя, і калі добра прыслухацца — не зусім яму прывычныя. Справа ў тым, што ён добра пазна-

ваў галасы тых, хто не-нө ды сустрэнецца ў лесе — грыбнікоў, паляўнічых, ягаднікаў, рыбакоў. Гэтых людзей ён амаль ніколі не чапаў, яны яму не заміналі, не шкодзілі лесу. На поўдзень ад ягонай імшарыны быў яшчэ вялікі луг, на ім гэтаю парою таксама з'яўляліся людзі, касілі траву — галасы тых, хто завіхаўся на лузе, лесавік таксама ведаў. Маладыя і вясёлыя галасы, што далятталі зараз, былі мала падобныя да ўсіх яму вядомых.

Мусіў ісці, даведвацца.

Першы раз прыйшоў, зразумела, уначы. На лузе, недалёка ад рэчкі, што працякала паўз яго, стаялі два часовых людскіх буданы, каля іх паміргвала цяпельца, некалькі чалавек сядзелі вакол яго, хто драмаў у абдымках другога, хто гаварыў, стараўся для ўсіх, хаця на яго мала звярачалі ўвагі, папіскавала, патрэсквала, шаптала радыё, адна з многіх людскіх прыдумак. Было відаць, што людзі асталяваліся тут на час касавіцы, на гэта паказвала ўсё — і пах свежаскошанай травы, і некалькі пастаўленых стагоў, і граблі з віламі, кінутыя ў кучу недалёка ад буданоў. Каб лесавік быў ранейшым лесавіком, ён бы прыдумаў, што зараз рабіць. Параскідаў бы па ўсім лузе ўсе гэтыя вілы і граблі. Разварушыў бы стагі. Патрос бы свістам буданы, павухкаў бы, пагігікаў так, што заледзянела б кроў у жылах, анямелі каля вогнішча і ў будане тыя, што прыйшлі куды не трэба... Але пра яго, лесавіка, ужо амаль ніхто з людзей не памятаў, не ведаў, што гэта якраз ён гаспадарыць уначы, папярэджвае, пагражае, што толькі ён умее ў ціхую ноч разгойдваць дрэвы і наводзіць марачэнне. Не памяталі і не ведалі. Ды і што гэтыя лесавіковыя забаўкі і гульні ў параўнанні з тым, што маглі самі людзі... Лесавік колькі разоў бачыў, як палалі цэлыя вёскі — і ў іх гарэлі людзі. Як адзін выбух раскідваў на кавалкі хату. Як аднымі машынамі знішчаліся другія машыны разам з людзьмі. Як вытайвалі з-пад снягоў трупы людзей — у ягонай пушчы вытайвалі,— пазіралі ў неба пустымі вачніцамі, чакалі, пакуль знойдуць іх жывыя, і тады лесавік, шкадуючы, рассоўваў мерзлую зямлю, хаваў, ведаючы, што нежывому сярод жывога месца няма. Людзі часта не маглі падзяліць нечага свайго людскога, і тады гулі войны, з кожным разам усё страшнейшыя. Самога лесавіка пакуль што зачапіць яны не маглі — але ў іх лесавік адчуваў і сваю апошнюю мяжу.

І вось зараз побач з лесавіковым жытлом былі людзі — і рабіць што-небудзь з імі яму не хацелася. Другі раз леса-

вік прыйшоў таксама прысмеркамі. Зноў гарэла вогнішча — ужо большае, хадзілі вакол яго людзі, галасы іх разносіліся далёка. Лесавік яшчэ ў першы раз убачыў, што людзі гэтыя зусім не вяскоўцы, якія кожным годам прыязджалі на луг, спяшаючыся, працавалі, яны рабілі сваю работу — і ўсё. Гэтыя ж, у адрозненне ад тых знаёмых яму вяскоўцаў, працавалі і няўмела, і не вельмі ахвотна, ва ўсякім разе, стагі на лузе выраставалі марудна, і былі яны нязграбныя, а адзін з іх дык і зусім гатовы быў раскідацца, лёгенька дзьмухні — і не будзе стога. І крыку, мітусні ў гэтых людзях было столькі, што здзіўляўся нават лесавік. Быццам прыехалі святкаваць купалле, нават пачалі ўжо гэта рабіць за два тыдні да вялікай начы. Але ж ноч была і ёсць адна на ўвесь год. Праца гэтых людзей на працу, што і казаць, была мала падобнай. Маладыя ўсе, амаль пароўну дзяўчат і хлопцаў. Ну правільна, усё як на купалле. Маладыя дзяўчаты і хлопцы. Лесавік прыглядаўся. І з выгляду гэтыя людзі былі непрывычныя яму — незнаёмае адзенне, нейкая іншая пастава, іншыя — рэзкія, паспешлівыя рухі. Зноў жа крык, гогат, піск, вяскоўца ў лесе ці ў полі і не пачуеш, адно толькі адчуць можна. У купальскую ноч, зразумела, таксама бываюць і крыкі, і песні, і дзявочы войк, аднак тут было не тое. Людзі былі чужыя ў гэтых мясцінах, лесавік гэта ведаў дакладна.

Ён адышоўся да бліжэйшага стога, сеў пад ім, задумаўся. Вось людзі — і вось ён, лесавік. Раней людзі не тое што ведалі пра лесавіка, яны яго баяліся, лічылі ледзь не сваім ворагам, ставілі ў адзін шэраг з нячысцікамі. Людзі, баючыся смерці і неадступна думаючы пра яе, выдумлялі сабе ворагаў, якія тую смерць набліжаюць, гаварылі пра кару, што чакае іх за грахі — а грашыць людзі ўмелі, часта гэта рабілася ледзь не галоўным у іхнім жыцці,— і караў не толькі адзіны і ўсемагутны Бог, а і нячысцікі. Ніхто з людзей, ніхто з жывых звычайных людзей тых нячысцікаў не бачыў, аднак людзі пабудавалі ў сваіх уяўленнях цэлы вусцішны і жудасны свет, свет змроку і пакут. На чале яго, а гэта значыць, у самым нізе, у пекле быў Люцыпар у абкружэнні гайні пякельнікаў, каснаў і шатанаў. У сляпой апраметнай начы, бачылася людзям у нейкія жахлівыя хвіліны, усё скрозь было запоўнена цмокамі, паралікамі, паветрыкамі, прахамі, шэшкамі, і чалавек, праклінаючы таго, хто перайшоў яму дарогу, ці пакрыўдзіў, ці зняславіў, ці падмануў, гаварыў — каб ты спрах, браце, каб цябе паралік узяў, каб цябе цмокі наве-

далі, як ты са мной абышоўся, брат мой дарагі, бліжні мой, які павінен любіць і быць, канечне, любімым. А побач з чалавекам, былі яны ўпэўнены, заўсёды, пакуль той чалавек глядзеў на свет і яму радаваўся, існавалі кадукі, дамавікі, хлеўнікі, гуменнікі, пуннікі, лазнікі, яны былі, таму што будаваліся і стаялі хаты і хлявы, гумны і лазні, і тыя, не чалавекі, былі такімі ж гаспадарамі, як і людзі, толькі нябачнымі. Калі ты кепскі гаспадар, то і цені твае шкадлівыя, цягаюць з-пад носа твае рэчы, блытаюць іх, не даюць распаліцца агню ў печы і не вядуць у хату дастатак, наадварот, зводзяць яго дашчэнту, і калі ў галаве ў цябе яшчэ нешта ёсць — кідай усё, хату гэтую кідай, перабірайся ў другое месца, заводзь сабе новых сужыцеляў. Так думалі людзі. З таго ж, уяўнага, нерэальнага свету прыходзілі да іх і як бы паўнячысцікі, паўцені, слабыя, кволыя, здольныя змагчы хіба што соннага і хворага — палуночнікі і ярэтнікі, мары і кікімары. У тым жа свеце людзі знаходзілі месца і такім, як лесавік. Яны не ведалі, хто такі лесавік, што ён такое ёсць, і выдумлялі. Наогул, людзі ўсё невядомае ім стараліся надзяліць самымі дзівоснымі, самымі вычварнымі якасцямі і ўласцівасцямі. Менавіта з-за гэтага ў памочнікі Люцыпара, у яго падручныя трапіў і лесавік, а яшчэ акрамя яго — палевікі, кладнікі, вадзянікі — сярод іх людзі распазнавалі вірнікаў і ціхоняў,— балотнікі, багнікі, аржавенікі, лознікі. А як ёсць адны — ёсць і другія. У рэках і азёрах забаўляліся, спявалі салодкія песні, клікалі людзей да сябе ў чароўнае вадзяное княства русалкі. Людзям рабілася шмат лягчэй жыць, калі яны маглі сабе і іншым што-небудзь растлумачыць. Спакойна пасвіўся статак, пагладжвала зямлю сонца, каб не было зусім горача, пралятаў лёгкі ветрык, пакалыхваў траву — і раптам адна з кароў, зарыкаўшы, задраўшы старчма хвост, кінулася ў самы гушчар кустоў, з якога потым не так проста яе выцягнуць, і за ёй памчала другая, трэцяя... Заляскалі пугі, забрахаў сабака, замармыталі сабе пад нос пастухі — палевікі, яны, нячысцікі, іхняя работа, цэлымі днямі над кожнай каровай па некалькі дзесяткаў аваднёў са сляпнямі віецца — і нічога, не, толькі палевікі пачынаюць ганяць кароў, прымушаюць іх гізаваць, падбрыкваць нагамі і матляць галавой; ды на тое яны, палевікі, і ёсць. Ці брыдуць, зрэдку разгінаючыся, па балоце ягадніцы, збіраюць у кашалі журавіны, і вось выйшлі да чыстага, ціхага азярца, выпрасталіся, уздыхнулі з палёгкай, паселі, прыхінуўшыся да дрэў, тварам да возера,

бо вочы на вадзе адпачываюць, на чым жа ім яшчэ адпачываць, як не на роўным і чыстым абсягу,— і раптам пайшлі па вадзе бурбалкі. Людзі падхапіліся, у трывозе глядзяць на ваду, бокам-бокам у лес, ногі самі нясуць паддалей ад возера, а там, у вадзе, ужо нехта ляпае, раве, вішчыць. Вадзянік гуляе, пераглядаюцца між сабой людзі, хутчэй адсюль, яшчэ ўхопіць ды туды, хутчэй, барані божа...

Ну і, здаралася, хацелася людзям бачыць сярод сабе падобных нелюдзей, тых, хто прадаўся нячыстай сіле, хто не здаволіўся дзённым, зямным, хто пайшоў у слугі падзямелля і ночы. І ў абліччы людзей хадзілі, пазіралі цяжкімі, бяздоннымі вачыма сугнеістыя ведзьмакі, ведзьмы і калдуны. Удзень яны проста хадзілі і пазіралі — а ўначы... Уначы яны маглі зрабіць самую розную шкоду, бо сіла іх была вялікая. Прапала малако ў каровы — чары, захварэла дзіця — зірнула на малога ведзьмава вока, няўрод у полі — таксама ведзьмакова старанне, трэба знайсці яе ці яго і знішчыць.

Той, чорны, уяўны свет, узнік, мусіць, з моманту з'яўлення ў лясах чалавека. Чалавек адразу зрабіў сабе ідала — столькі ж дзіўнага, незразумелага наўкола, столькі недасяжнага і магутнага, столькі жаданага — што якраз ідал і стаў у пячоры, і да ідала прыдумалася, прыдалося. А яны, лесавікі, і тады былі, і цяпер ёсць, нiколькі яны не памяняліся і не звяліся.

Ды, зрэшты, лесавік добра ведаў і другое — людзі, якія жылі ў ягонай і вакол ягонай пушчы, якія пабудавалі на гэтай зямлі вялізныя гарады і думалі пра яшчэ большыя, якія, зусім не маючы намеру звесці пушчу, амаль звялі яе, хаця і засталося яшчэ некалькі ляскоў, гэтыя людзі ніколі не ўзводзілі нячыстую сілу — усіх гэтых шатанаў, кадукоў, кікімар, і лесавіка разам з імі — у абсалют. Многіх яны нават лічылі як бы і за сваіх, спагадалі ім, паблажліва дазвалялі займацца сваімі «нячыстымі» справамі, пасміхаліся, расказваючы пра іхнія забаўкі, і папярэджвалі — вы ўжо не вельмі, як вас там... спакайней як-небудзь, усё мы разумеем, з усім згодны, і пасвістаць можна, і магерку з галавы скінуць, і з панталыку збіць... але не вельмі. Па-свойску давайце, спакайней. І абыходзілася ўсё часцяком якраз спакойна, па-свойску. Страх быў — але памяркоўны, іх праклiналі — але як вулічных суседзяў, з імі ваявалі — але не да смертазабойства. Калі яно ёсць — дык хай будзе.

Чалавек, канечне, надта любіў на ўсё незразумелае напусціць такога туману, што ў рэшце рэшт сам заблытваўся і губляўся. Вось і накруціў з нячысцікамі, вось і пасадзіў побач з імі лесавіка. А лесавік — ён лесавік. Не чалавек, канечне, не звер і не птушка — але і не нячыстая. Проста яму было дадзена такое, чаго не мог чалавек. Усё проста. Вось людзі не задумваюцца ж, як яны дыхаюць. І лесавік не думаў, як ён жыве. Жыў лес, жылі звяры, жылі каменні з запаленай душой, жылі людзі — і ён. Жыла зямля, якая ўсіх іх нарадзіла.

І вядома яшчэ, што ўсё простае — складана, вельмі складана.

Лесавік вельмі добра ведаў яшчэ і тое, што ён, вельмі далёкі ад чалавека па сваёй сутнасці, тым не менш неаддзельна з ім звязаны, як звязана з ім усё, што ёсць на зямлі. І хаця шмат што чалавеку не даецца ў рукі, шмат чаго ён не разумее і не ведае — ён гаспадар. Ён быў тым гаспадаром, да якога чарадой ішлі і ішлі мільёны, мільярды, неслі яму ўсё лепшае, што ім удавалася зрабіць, і гаспадар прымаў даніну, складваў тыя дарункі, якія можна было складваць, і выслухоўваў, і лічыў, і чытаў, і глядзеў, але дарункі не канчаліся, яны былі бясконцымі, і гаспадар даўно ўжо не помніў, дзе ў яго што ляжыць, нешта далёка адсоўвалася, нешта забывалася, аднак гаспадар не бедаваў, бо канца чарадзе не было. Бясконцасць гэтая давала яму адчуванне ўсемагутнасці і ўсёдазволенасці. І калі-небудзь ён мог забыцца, што ўсё і нічога — побач, што паміж імі амаль няма мяжы.

Але чалавеку — чалавечае, толькі яму выбіраць, ці ўсё, ці нічога, ягоная справа, памятаць або не пра тое, што вялікі ўраджай на працягу ўсяго лета паказвае на працягласць наступаючае зімы. І ягоная справа — размахваць зброяй ці яе знішчыць. Пакінуць пушчу ці пабудаваць на яе месцы гарады. Гэта і было для лесавіка галоўнае. Людзям амаль ніколі не было ўласціва пачуццё апошняга. Па-першае, сваю смерць яны ніколі не ўспрымалі канцом свету, бо яны пакідалі сябе ў сваіх дзецях і ў тым, што зрабілі. Менавіта з-за гэтага, зразумела, яны не глядзелі на сябе, як на апошняга. І гэтак жа бачылі яны ўсё і наўкола сябе — зямлю, лясы, рэкі, горы, звяроў і рыб,— апошняга нічога не можа быць. Так яны прызвычаіліся. І вось лёг пад дрэвам у пушчы апошні зубр. Згінуў, знік у пячоры апошні леапард. Ценем мільгнуў у паветры апошні — ды ці быў ён? — сокал.

Ляскі ў лесавіка яшчэ былі, пушча ўжо скончылася. Так што ён таксама ўжо як бы і быў, і не быў. Ва ўсякім разе, лесавік добра ведаў, што людзі яго амаль не ўяўлялі. Вось з'явіся ён перад імі такім, каб яны здолелі яго ўбачыць — зусім невядома, што б яны падумалі. Ды і то сказаць — выразна, добра разгледзець яго яны ўсё роўна не здолелі б. Не падыходзіць ён для іхніх вачэй. За сваё жыццё ён спрабаваў даведацца, як бачаць яго людзі, калі ён гэтага захоча — але да канца так і не разабраўся. Нешта памерам з чалавека, можа, крыху менш ці болей, быццам з рукамі і нагамі, з галавой, пра твар ніхто з іх нічога пэўнага не мог сказаць, баяліся яны ягонага твару — вочы ёсць, з жахам крычалі, шапталі яны, але крый божа зірнуць у іх, не трэба, бо і не вочы гэта, а... яміны з падземным святлом, вось як зірнеш, так і прапаў; але, калі на тое, ягоных вачэй іхнія вочы і не бачылі, бо не маглі зазірнуць у іх, а святло... святло ім магло ўявіцца, магло; на ім, расказвалі яшчэ яны, адзенне не адзенне — валасы, мусіць, але не чалавечыя, нават не звярыная поўсць, а як бы лісце ці трава,— і ён то ўзнікне, то прападзе, і кожны раз крыху іншы — то большы, то меншы, а то амаль і не ўбачыш яго, толькі абрысы, глядзіш, як ён каля дрэва пакалыхваецца, з месца сысці не можаш, валасы твае шорсткія, патрэскваюць, а ён чэзне, чэзне — і растварыўся, адно толькі дрэвы трасуцца і зямля гудзе. Расказвалі шмат, але кожнага разу новае і сваё, часта супярэчлівае — ён і чалавек са звярынай поўсцю, і звер з чалавечым аблiччам, і з пашчаю агнявой, і кіпцюры, і капыты, і іклы, як у дзіка, і хвост з рагамі, і раве, і стогне, і сыкае, што змей, і лётае, і ад хады ягонай зямля трасецца, а лес падае і трашчыць,— ды, праўда, даўно ўжо аб ім ніхто нічога не расказвае, было ўсё ў далёкім мінулым.

У тым жа мінулым была ў людзей і вера, перакананасць у тое, што калі з'явіўся побач з табой лесавік — ты можаш яго пабачыць. Людзі верылі ў гэта, як верылі спачатку ў ідалаў і продкаў, потым у айца, сына і святога духа — а разам з трыадзіным у алаха, шасцірукага Будду, Магамета, Іегову і яшчэ многіх,— і ні ў кога не верылі, акрамя сябе. З тых часоў прыйшла замова, пасля якой на людскія вочы павінен быў аказацца і лесавік. Людзі, надрыжэўшыся і паляскаўшы зубамі, сабраўшыся з моцаю, заплюшчыўшы вочы, гаварылі: «Кажыся не воўкам-звярам, не воранам-птахам, не дрэвам іглістым, а такім, як я сам!» — і з-за прымружаных павек цікавалі: дзе ж той,

якога ніхто не бачыў, але які ёсць, дзе ён, гаспадар лясны, гаспадар, непадуладны самому богу, богу, які чакае пасля зямлі ўсіх іх? І былі ўпэўнены, што лесавік і паказваўся недзе побач, толькі не бачылі яго, бо і вочы баяліся расплюшчыць, і за спіну не глядзелі, ці ўгору, долу, па баках, адным словам, не глядзелі добра. А ён, паказаўшыся, знікаў зноў. Безумоўна, так і было — паказваўся і знікаў.

І людзі яшчэ верылі, што ў лесавіка можна папрасіцца, калі прапала ў лесе карова ці захварэла яна. Людзі прыходзілі да таго месца, дзе павінен быў быць лесавік, і гаварылі: «Лес цесны, цар лясны, гаспадар вялікі, прашу я вас з хлебам з соллю, з белай рубашкай, з чырвонай рубахай, з нізкім паклонам, прасціці, благаславіці!» Пасля гэтых слоў трэба было пакласці пад кустом галаву кабана і яйка — і чакаць. Лесавік, верылі людзі, мог вярнуць тую карову ці вылечыць яе. Часцей за ўсё лесавік мог выйсці да людзей у Васілёў вечар, у Вялікі чацвер, на Юр'я і на вялікдзень.

Седзячы пад стогам, лесавік думаў пра тое, як шмат змянілася тут з часоў пушчы, з часоў, калі на гэтым поплаве ніколі не бывалі людзі, калі вакол яго шапацеў, ціха перагаворваўся лес, і казулі, выскачыўшы з кустоў, у непаразуменні спыняліся перад незнаёмай прасторай, на якой няма дрэў, і пужліва падціскалі вушы, чорныя кропкі-насы нервова паторгваліся, уцягвалі, рассмакоўвалі паветра — пахла салодкімі травамі, вятрамі, сонцам — але не было дрэў, і казулі, жвава павярнуўшыся, скакалі назад, у гушчар. Праўда, трэба сказаць і пра другое — колішнія балоты, цяпер ужо напаўвысахлыя, усё ж не далі далёка разбегчыся людскім дарогам, ды і тыя большасцю былі гразкія, таму і чалавек тут аб'яўляўся рэдка. Але аб'яўляўся пастаянна. Ды дзе ад чалавека гэтага дзенешся?

Лесавік пачуў гэтых дваіх людзей, канечне, здаля. Яны ішлі ціха, павольна, хлапечая рука трымала дзявочую, усё гэта лесавіку было знаёма. Двое шукалі схованкі, ім хацелася зараз адысціся як мага далей, каб нічые вочы іх не ўбачылі, нікога і нічога ім не трэба было, акрамя вось гэтага цёплага вечара ды іх саміх. Ішлі, зразумела, да стога, людзі любілі стагі, бачачы ў іх нешта падобнае да хаты — а без хаты чалавек не быў чалавекам,— і лесавіку, хочаш не хочаш, трэба было кіравацца да свайго лесу. Да аднаго з ляскоў, якія яшчэ засталіся. Але нешта яго стрымлівала. Не, не жаданне паказаць сваю лесавіковую

моц, магутнасць, уладу, лесавік ніколі не перашкаджаў у лесе такім, як гэтыя, навошта яму было іх палохаць? — лесавік проста перабраўся ў самую сярэдзіну стога. Патрэсквала, высыхаючы, трава, шамацелі, пароліся ў ёй мышы, пракладваючы хады-дарогі, быў тут і вуж, яшчэ драмаў, ленаваўся выпаўзаць на паляванне, стог быў поўны шолаху, шархацення і піску. Лесавіка, канечне, усё жывое адчула, але не спалохалася, адно толькі мышы з казуркамі насцярожыліся — усё жывое ведала, што лесавік іх чапаць не будзе. Лесавік плыў у сваёй звыклай паўдрымоце, ён любіў гэты стан — сон не сон, і не трызненне, а проста вісіць ён у паветры, і гукі і пахі абмінаюць, абцякаюць яго, не дакранаючыся, і ён усё чуе, але нічога ў сябе не прымае. Зараз ён таксама нерухома вісеў, ды чалавечая мова, якая была яму зразумелая, да яго ўсё ж даходзіла. У гэтых людзей не было ніякіх памкненняў, якія б тычыліся лесавіка і ягоных спраў, таму ён і не затрымліваў у сабе іхніх слоў і думак. Яны гаварылі і думалі зараз толькі пра сябе, усё астатняе было страшэнна далёка.

Побач з лесавіком былі зараз людзі, з якімі, увогуле, ён мог бы зрабіць усякае. Але гэта былі і людзі, ад якіх ён залежаў, ягоныя гаспадары. Ад такога раптоўнага, як удар маланкі, усведамлення ён нават абудзіўся. Сапраўды, людзі, і ў прыватнасці вось гэтыя двое — ягоныя гаспадары. Так, яны нічога, зусім нічога не маглі зрабіць з ім, не маглі дакрануцца да яго, ударыць, забіць, не маглі напалохаць і нават убачыць — і ён быў у іхняй уладзе. Чаму і калі так здарылася? Ніхто, ні яны і ні ён гэтага не ведалі, але так было. Людзі, хлопец і дзяўчына, ляжалі ў абдымках, ён гаварыў тое, што заўсёды, як ведаў лесавік, гаварылі хлопцы сваім дзяўчынам, і яна верыла і не верыла ягонаму шэпту, вагалася, то прыціскалася да яго, то адштурхоўвала, ён жа спяшаўся і нават злаваў — усё гэта лесавіку было знаёма, здаецца, ужо не было ў людзях таго, чаго б ён не ведаў. Не было.

Лесавік нячутным вялікім ценем мільгнуў у паветры, толькі на імгненне засланіў ён некалькі зорак-парушынак, што падміргвалі дзяўчыне з недасяжнасці, але яна здрыганулася, прыўзнялася: «Што гэта?!» — «Ды нічога, здалося табе, хто тут можа быць?» — «Не, было, нехта праляцеў!» — «Кінь выдумляць, гэта раней калі, гадоў сто назад якая сава магла праляцець, а цяпер тут нават лесу няма».— «Бачыла!..»

Лесавік, ужо седзячы на сваім дрэве, усміхнуўся сам сабе — адчула. Увогуле, ён даўно ведаў, што жанчыны адчуваюць усё жывое. Яны адчуваюць нават яго, нябачнага. Зрэшты, жывы жывога і павінен пазнаваць. А пра жанчын ён ведае яшчэ і тое, што калі маладзіца панясла — усе хатнія жывёлы — і лясныя таксама, толькі гэта здараецца многа радзей,— усе кошкі і сабакі да яе лашчацца. Ён гэта ведаў. Людзі... людзі ўжо маглі і забыцца.

Гэта было вельмі дзіўна, але і назаўтра лесавік наведаўся да людзей, і пазаўтра, і хадзіў раз за разам. Неадольная сіла проста штурхала яго да іх, спачатку прыходзіў ён толькі прыцемкамі, потым захацелася ўбачыць іх — і ці толькі ўбачыць? — і ўдзень.

Гэтым разам недалёка ад людскіх буданоў лесавік заўважыў маладую лісіцу. Лісіца неспакойна шнырыла ў кустах каля лугу, прынюхвалася да пахаў, што наплывалі з буданоў, і па тым, як не ішла яна адсюль, як перабірала лапамі, як узіралася ў буданы жоўтымі вачыма, лесавік зразумеў, што яна прыбегла сюды не ўпершыню, што і пахі, і галасы людзей, і самыя іх постаці ёй знаёмыя. І ён ведаў, што лісіцу, як і яго, неадольна цягнула да людзей, яна ажно павісквала, уцягваючы ў сябе паветра, якое далятала адтуль, ёй надта карцела падбегчы да іх,— але нашто? Мусіць, яна паласавалася ўжо каля іх, падабрала якія аб'едкі з кухні, і лёгкая тая ежа надзвычай спадабалася, лісіца ўжо не хацела, не магла кінуць гэтыя кусты з лугам, людзей, не магла адсюль збегчы. Лісіца была маладая, худая, тонкія косці выпіралі з-пад скуры, не хавала іх нават поўсць, адно хвост быў бадзёры, цяжкаваты. Лесавік, убачыўшы маладую лісіцу, адразу вырашыў яе пужануць, адагнаць ад людзей, бо нельга зверу прывыкаць да чалавека, нельга жыць каля яго і падбіраць аб'едкі, у звера ёсць лес. Ён раптам узнік каля лісіцы, і тая ажно падскочыла, жаласна яўкнуўшы, і спалохалася, кулём кінулася ў кусты — калі звяры бачылі яго, калі ён рабіўся ім бачным, яны заўсёды палохаліся і рабілі тое, што ён хацеў — уцякалі ці ўціскаліся ў зямлю, ці зліваліся з дрэвам, крычалі ці нямелі, а то як бы і паміралі, а потым, аджыўшы, нічога не памяталі. Зараз лісіца пабегла, і яна павінна была б бегчы доўга, кіруючыся да нары пад парослым здзічэлай ажынай узлобкам, і толькі там спыніцца, і так было б, бо не слухацца ягонага загаду звяры не маглі. Але прабегла яна зусім няшмат, усяго якую сотню метраў. Ястраб-адзінец, той самы апошні, ме-

навіта сёння сарваўся раптам са свайго сука, з якім ён ужо як бы і зросся, і паляцеў, імкліва набраўшы хуткасць. За першым разам ён праляцеў няшмат, узляцеў і хутка сеў, быццам спрабуючы свае крылы. Але за другім разам, ужо ўпэўніўшыся, адчуўшы сябе, ён прамчаў паўкругам далёка, як бы праткнуў паветра, і крылы ягоныя заспявалі, і тутэйшае птаства з жахам пачула, зразумела амаль забыты ўжо посвіст, ад якога спынялася дробная калатня сэрцаў і гушчэла, застываючы ў жылах, кроў. Ястраб сеў на самай вяршаліне высачэннай чорнай вольхі, і круглыя яго вочы, у якіх ніколі не прачытаць было, хочацца яму ўдарыць, ці спачыць, ці паклікаць ястрабіху, цяпер успыхнулі, загарэліся чырвоным, вочы зірнулі пільна. Вось тады і замільгаў руды хвост у рэдкіх кустах, лісіца спяшалася, ні на што не зварачала ўвагі, адно кіруючыся да нары ў ажынніку, і хвост то тухнуў у зеляніне голля, то расквечваўся на роўным, біў у вочы. Ястраб сарваўся з вяршаліны, як стрэліў, ён падаў, нават не набраўшы вышыні, менавіта падаў наўскос, з кожным імгненнем набіраючы хуткасць, і пры самай зямлі, зрабіўшыся ў сваім падзенні амаль нябачнай, нейкай адной суцэльнай палоскай, маланкай, пры самай зямлі ястраб ударыў у рудую пляму. Лісіца, адчуўшы смерць толькі ў самы апошні міг, нават не паспела падставіць ёй ашчэраную морду, адно крыху павярнулася бокам, і кіпцюры-корды лёгка прабілі поўсць і сціснулі. Ястраб некаторы час нерухома сядзеў на мёртвай лісіцы, нават не пакручваў галавой, адно круглыя вочы ўспыхвалі і згасалі, мігцелі, бы вугалі ў прагарэлым вогнішчы. Потым ён страпянуўся, ударыў крыллем, некалькі разоў цяжка падскочыў разам з лісіцаю, не могучы адразу ад яе адарвацца — і рынуў у паветра. Забітая лісіца ўжо не існавала для яго, забіўшы, ён адразу на яе забыўся і паляцеў далей.

Лесавік бачыў усё, што адбылося, але ўмяшацца, дапамагчы лісіцы, выратаваць яе ён не мог. Ён толькі глядзеў, як узнік ястраб і перастрэў лісіцу. Што ж, гэта было жыццё звяроў, да якога ён, лесавік, не меў ніякага дачынення. Лесавік бачыў небяспеку для лісіцы з боку людзей, лісіцу ж забіў ястраб — і гэта ўжо было зусім іншае. І тым не менш яму шкада было лісіцы — як і любога іншага звера, птушкі, рыбы ў былой ягонай пушчы,— бо ўсяго жывога побач з лесавіком засталося няшмат. Мала пушчы — мала пушчанскага.

Можа, і сам ён быў ужо апошні лесавік ва ўсёй гэтай

зямлі, дзе спрадвеку шапталіся, гаварылі лясы, дзе магутна і густа цяклі рэкі, дзе свяціліся вачыма-зоркамі азёры, дзе грукацелі, перагаворваліся паміж сабой навальніцы і панавала над усім асцярожная, чуйная цішыня — быццам поўна, як толькі можна, быў наліты ёю вялізны празрысты кубак, і ўсё наўкола не варушылася і не дыхала, баючыся гэтую цішыню разліць. А зараз у лесавіка было такое адчуванне, быццам зайшоў ён у сваё жытло-сховішча — і спыніўся ў сумным здзіўленні, не пазнаючы яго, бо ўсё змянілася ў ім, нават не ягонае яно ўжо, а чужое, і гаспадарыць у ім хтосьці іншы, незнаёмы. Пушча, дакладней, тое, што ад яе засталося, даўно не была ягонаю пушчай. Зрэшты, за тыя сотні гадоў, якія пражыў тут лесавік, ён навучыўся мерыць час па чалавечых мерках — і гэта было зусім не дзіўна, не так далёка яны адышліся адзін ад аднаго, чалавек і лесавік. Лесавік ведаў самую доўгую ноч года, яна была ў глухую зімовую пару, сам ён часта засынаў у яе, бо зіма — гэта зіма, зямля, а разам з ёю і лес, спіць, лесавік таксама драмаў, толькі зрэдку ўспрымаючы навакольныя гукі. А людзі пра гэтую пару гаварылі — піліпаўка, яны дакладна ведалі, што самыя кароткія дні — дваццаць першага — дваццаць другога снежня, пазней піліпаўкаю яны ўзяліся пачынаць шасцітыднёвы перадкалядны пост. Гэты пост якраз і быў іхнім зімовым сном, у яго яны менш рухаліся, менш елі, стараліся траціць як мага меней сіл. Потым лесавік абуджаўся, ішоў па нерухлівым лесе-палацы, дзівіўся на снегавое ўбранне. Лес стаяў велічны, прасторны, лесавік проста блукаў па ім без ніякае мэты, лічыў па слядах, колькі каго ў ім зімавала. Каляды людзі сабе таксама зрабілі святам, яны адпачывалі ад сваіх сялянскіх работ, якраз на Сцяпана, за тыдзень да каляд, заканчваўся тэрмін службы парабкаў, а значыць — і работа. Быў Васілёў дзень — першага студзеня, было вадохрышча — шостага, быў Ігнат — дваццаць дзевятага. І хаця пасля вадохрышча ціснулі самыя моцныя маразы, людзі іх не баяліся, смяяліся, спявалі ў сваіх селішчах песні, цягалі ад хаты да хаты каляду-зорку, самі апраналіся ў чарцей і казлоў, скакалі, шчадравалі, здымалі вароты, а то і коміны скідвалі,— яны святкавалі. А тут падыходзіла і стрэчанне, калі сустракаліся зіма з летам. Людзі таксама ведалі гэты дзень — другога лютага па іхняму календары, і рыхтаваліся ўжо да вясны, да сустрэчы з полем. Лесавік проста назіраў, як сонца паварочвалася на вясну, чакаў яе, глядзеў, як пакрысе ажываў лес. А ў лю-

дзей па чарзе праходзілі Уласаў і Касьянаў дні, Аўдоха, Рыгор, саракі, Ляксей, Мікіта з Андрэем. І ўжо дваццаць трэцяга красавіка па вёсках быў агульны выган скаціны, яго чакалі, бо мала ўжо заставалася пошару, корму для яе, і каровы рыкалі ў хлявах, просячыся да выпасаў, да рэдкай маладой травы і цёплага ветру. Вёскі амаль не спалі, у цёмных вокнах як не ўсю ноч парміргвала святло, і як толькі шарэла неба, як толькі пачынала святлецца — бразгалі дзверы і весніцы, рыпелі вароты, ужо нецярпліва пераступалі, нецярпліва ўздыхалі каровы і падбрыквалі цялушкі, чуліся галасы — і да крыжа, з якога пачыналася вёска, выходзіў пастух. І ляскала, страляла пуга, моцны, прарэзлівы голас рэзаў чуйную цішыню, ляцеў далёка, ажно ў поле і ў лес — «выганя-я-яй!..» — і вёскі рабіліся падобнымі да мурашнікаў. У дварах уздымалася мітусня, гаспадыні, спяшаючыся, выпіхвалі з хлявоў марудных кароў і бесталковых цялушак, якія раптам застывалі ў дзвярах, бы спалохаўшыся чыстага паветру, пад нагамі скакалі, ваўчкамі круціліся сабакі, замінаючы людзям і быдлу, крыкі мяшаліся з брэхам, з розных канцоў вёсак ляцела працяглае рыканне, сакаталі ў хлеўчуках куры, гарлалі пеўні, вішчэлі парсюкі — і перакрывалі ўсё стрэлы пугі. «Вы-ы-га-аня-яй!..» І вёскі нагадвалі ўжо не мурашнік, а растрывожаны вулей, яны і самі як бы пачыналі рухацца разам са статкамі, якія барзджэй, чым заўсёды, каціліся да ваколіц. Гэты красавіцкі дзень таксама быў святам — святам першай травы, святам лесавіка і людзей. І вось такія святы падпіралі ўжо адно другое, ішлі хутка, гэтак жа хутка, як абуджалася, ажывала зямля, на якой жыў чалавек. Зямля, палі з загонамі, паплавы, поўныя траваў, лясы,— так, лясы, не надта чалавеку даступныя,— зямля была чалавечым домам, у якога ён прыходзіў і з якога ішоў. Гэтая зямля давала яму свае святы, яна гаварыла, што менавіта ў вось гэты дзень, цёплы і парны, трэба пачынаць сяўбу. У людзей гэты дзень называўся правады, быў ён звычайна ў наступны тыдзень пасля вялікадня, людзі выходзілі, выязджалі ў палі, разам з гаспадарамі, што ехалі конямі, цягнулася як не ўся вёска са старымі і малымі, вёска ішла на свята. Гэтымі ж днямі людзі паміналі і сваіх продкаў. Памінанне мацавала іх, давала надзею на добрае, падтрымлівала, памершыя як бы блаславўлялі жывых на жывое. А дзевятае мая быў днём, калі жыта родзіць. Бадай, ён быў найгалоўнейшым веснавым днём, бо ў нараджэнні жытоў былі дастатак і спакой

чалавека, яго ўпэўненасць, ягоная думка пра будучае. А ў будучым — толькі лепшае, з гэтым прыйшоў на зямлю чалавек. І зелянцом, сёмухаю заканчвалася вясна сялянскага году, у гэты дзень таксама закружваліся карагоды, бо чалавек на свае вочы бачыў ужо зеляніну будучага хлеба.

Па гэтым прыходзіў купала, дваццаць чацвёртага чэрвеня, у людзей сярэдзіна года, а ў лесавіка пачатак яго, бо купальская ноч — самая кароткая.

У лесавіка гэты дзень заўсёды быў найгалоўнейшым, яго адзінага ён чакаў і ніколі на яго не забываўся. І лесавіка, як гэта ні дзіўна, цешыла, што гэты дзень быў і вялікім людскім святам, святам, калі моладзь спрабавала ўгледзець сваё шчасце ці няшчасце, свой лёс. На купалу, здавалася яму, людзі разумелі не толькі зямлю з яе лясамі і рэкамі, але разумелі і месяца ў ягоным блуканні сярод аблачын, разумелі зорак, што дрыжэлі-смяяліся, разумелі нават немарач, чарнату начы, у якой хавалася апраметная таямніц. Магло быць, што людзі бачылі ў яе цемры і цені, постаці тых, хто былі на гэтай зямлі да іх, бачылі малюнкі будучага свайго жыцця, бачылі дзівосны агонь папараць-кветкі, нават бачылі такіх, як лесавік. Многае, вельмі многае магло быць на купалу.

І ці не быў купала той шпарай, шчылінай, у якую дазвалялася чалавеку зазірнуць, каб убачыць немагчымае? Пра гэта, увогуле, лесавік не надта задумваўся, а ягоны купала, апрача ўсяго іншага, быў яшчэ і парою, калі ён уваходзіў у сярэдзіну дрэва, любога дрэва, якога ён выбіраў, і піў разам з ім зямны напой, што мацаваў яго ўвесь наступны год. У клёнаў напой быў салодкі, у бяроз крышачку хмяльны, дубы адразу настойвалі яго траха гаркавым і дужа моцным, асінавы ж звычайна ўтвараўся проста горкім, хаця і прыемным. Купальскай ноччу лесавік стараўся пабываць адразу ў некалькіх абраных дрэвах, але не заўсёды ўдавалася гэта, бо кожнае дрэва мела свой характар, свой гонар, і яго не заўсёды можна было ўзяць сілаю, дрэва павінна было дазволіць увайсці ў яго. І не трэба забывацца, што купальская ноч — самая кароткая, усяго некалькі імгненняў балюе купальскі месяц, а паспець за гэтыя імгненні трэба шмат.

Хутка, надзвычай хутка адлятаў роямі іскраў купала, пакідаючы па сабе шкадаванне і ненатоленасць. Як ні спяшаеш, як ні п'еш пагбом — усё ж не паспяваеш напаіць сябе да краёў, толькі прыклаўся да вялізнага куб-

ка — як зайграла заранка. Годзе. Канец купалу, пачатак новаму.

Дваццаць дзевятага чэрвеня селянін пазначыў Пятровым днём — і гаварыў, што рэдка ў каго на Пятра мелася леташняе жыта. Ён як бы нагадваў сабе, напамінаў, што па святах заўсёды чакае праца, якая будзе карміць. І толькі ўжо ўспамінаючы пра леташняе жыта, чалавек ведаў, што недалёка і новы хлеб. Дваццатага ліпеня, на Іллю, гаспадыні ўрачыста выпякалі хлеб з жыта сяголетняга. І пах таго новага хлеба лесавіку быў знаёмы, хаця сам ён ніколі лесу не пакідаў і ніколі не зазіраў у вокны людскіх хат. Проста жытні дух быў і ягоны, лесавікоў.

Па Іллі пачыналіся дажджы. Іллёй лета перакідвалася на другую палову, спёка памалу сыходзіла, і зямля, што ўжо зашэрхла пад высокім сонцам, пачынала прасіць вады. Тады збіваліся ў гурт аблачынкі, памалу грувасціліся, ціснуліся адна да аднае хмаркі — і ўжо недзе далёка чуліся грамы. Гушчэў, цямнеў далягляд, з-за яго павольна і няўмольна, як ноч, выпаўзала хмара, лена пыталася пра нешта ў другое такое ж хмары на тым канцы свету, і словы іх перакочваліся цяжка і пагрозліва, ажно ападала, запынялася сэрца маленькага чалавека. Вуркат пакрысе мацнеў, хмары большалі, можна ўжо было разабраць, што яны ўжо згаварыліся між сабой, на нешта наважыліся, і дзень, зразумеўшы гэта, раптам адступаў, пакінуўшы толькі крышачку святла,— у цьмянай і вусцішнай цішы ўсчыналася гульня навальніцы. Па ўсім чорна-шызым небе раптам прабягалі зарніцы, падобныя да каляровых змей, успышкі іх мацнелі, рабіліся ўсё часцей, неўзаметкі ўвесь небасхіл дрыжэў у мігценні пульсіруючых бліскавіц, водбліскі прабягалі з усходу на захад і назад, і яшчэ вусцішней рабілася ад таго, што гульня гэтая адбывалася ў злавесным маўчанні. Але вось нешта ў нябёсах разрывалася — і ўсё дазвання запаўняў моцны грукат. Сляпіла маланка. Чалавеку, які пазіраў з зямлі, магло здацца, што нехта магутны, з асілкаў асілак, страшным па сваёй моцы рыўком выдзіраў з самай сярэдзіны, з самай глыбіні неба вялізнага кораня, і корань гэты на імгненне рабіўся чалавеку бачным — неверагодна тоўсты, страшэнна доўгі, з мноствам жывых галінак-хвастоў — корань неба. І адразу ж пасля ўбачанага чалавек слепнуў і глухнуў, бо, зрэшты, убачанае было не для ягоных вачэй. Трэсліся ад удару зямля і паветра, і неба абрыньвалася на зямлю за-

левай, суцэльнай сцяной вады. I чалавек, здаралася, шчыра здзіўляўся, што пасля ўсяго гэтага ён яшчэ жыў...

Аднак адной навальніцай не абыходзілася. Не паспявала сціхнуць, ссунуцца за небакрай адна навальніца, як ішла другая, яшчэ большая і мацнейшая, і зямля зноў сціскалася, нерухомела, прадчуваючы ўдары і вадаспады. Рэкі, што цяклі між лясоў, імкліва ўзбухалі, перапаўняліся каламутнай і шалёнай вадой, якая раўла, імчала ў сляпым запале, і берагі гэтую ваду ўтрымаць не маглі — абсоўваліся цэлымі пластамі берагавыя стромы, павольна хіліліся, хіліліся — і падалі вяршалінамі ў самую быстрыню дубы і вольхі, чародамі брылі да берагоў, не маглі да іх выбіцца напаўзатопленыя лазнякі. Круціліся, мільгалі ў хуткай плыні вырваныя з карэннямі дрэвы, кусты, паказваліся бёрны і дошкі з якога чалавечага жытла, праносіліся і дохлыя дзікі, што захлынуліся, не знайшлі сілы даплысці да сухога. I не любы човен упэўнена трымаўся на гэтай вадзе, хіба што віціна плыла, не баючыся нічога. На тых віцінах спалохана курчыліся, глядзелі ў неба людзі, хрысціліся, думалі. Пра што? Вядома, пра тое, аб чым спакон веку думалі яны на гэтай зямлі. Што такое — навальніцы, ад якіх спыняецца сэрца і слепнуць вочы, ад якіх забірае страх і няма куды ад якіх схавацца? Хто зганяе ў адзін чорны згустак хмары і б'е перунамі ў зямлю, хто асвятляе бліскавіцамі небасхіл, хто калоціць і дзярэ ўсю прастору між зямлёй і небам? Яны глядзелі ў неба, прасілі літасці ў Перуна, чакалі. I каб пацвердзіць сваю моц, Пярун ці хто іншы на іхніх вачах паліў самае высокае з надрэчных дрэў — і супакойваўся. Людзі з палёгкай уздыхалі.

Лесавік ведаў, якое з дрэў будзе спалена гэтай ці іншаю навальніцай. Ён пазнаваў іх, як звяры пазнаюць хворых жывёл і абыходзяць іх. Дрэвы тыя, можа, і не былі хворымі, але яны былі абранымі, вылучанымі сярод усіх іншых, лесавік каля іх ніколі не спыняўся. Дзіўна, але ў пазначаных дрэў заўсёды быў горкі, атручаны сок. Чаму? Гэтага не ведаў ніхто.

Але як бы ні шугалі летнія навальніцы, яны ўсё ж канчаліся. Людзі гэтую пару, тыдзень навальнічных дажджоў, называлі вераб'інымі начамі, хаця маланкі з трэскам раздзіралі неба не толькі ўначы, але і днямі, праўда, дзень, абкладзены, прыціснуты хмарамі, быў ужо мала падобны да дня, быў ужо як бы і ноччу. Наогул, на назвы, якія людзі давалі з'явам ці мясцінам, лесавік не пераста-

ваў здзіўляцца. Чаму вераб'іныя ночы, а не кашэчыя, ці сабачыя, ці яшчэ якія, увогуле, натуральней было бназваць іх якраз чортавымі? Ды назвы, канечне, ніколі не мянялі сутнасці, лесавік, раз здзівіўшыся чалавечай недарэчнасці, стараўся больш не звяртаць на яе ўвагі. Ды мала што з гэтага атрымлівалася. У адну з навальніц лесавік апынуўся недалёка ад вялікай ракі, што цякла праз яго-ную пушчу, убачыў віціну з дзесяткам людзей, якія везлі на ёй выробленыя скуры. Віціна павольна, неяк няўклюдна плыла, людзі трывожна перакрыкваліся, урэшце прысталі да берага якраз недалёка ад дуба, у якім быў лесавік. І зрабілі яны гэта ў час, бо адразу па гэтым засляпіла свет залева. Лесавік з дуба не пайшоў, ён як драмаў, так і застаўся драмаць, аднак чуў і бачыў, чым займаліся людзі пад дубам. Усе разам яны лічылі, найбольш звяртаючыся да стырнавога, галава якога была спрэс лысая. «Тодар, Базыль, Мікіта, Дзямян,— лічыў на пальцах чорны, як грак, чалавек, самы жвавы з усіх, самы няўрымслівы,— давай, Вінцусь, дапамагай, ты ж павінен ведаць усіх лысых з нашых мясцін. І ў іншых гарадах павінен ведаць. Злодзей злодзея, як той казаў, заўсёды ведае, давай. А цябе мы апошнім назавём. Як трыццаць дзевяць налічым, тады ўсе хорам і крыкнем — Вінцусь Валуёў! Згода? Усе ведаюць: назавеш сорак лысых — сціхне бура. І вы лічыце, што сядзіцё, як мышы пад венікам? Яшчэ Мікола Каваль, Трахім з Рудаўкі, Юры, стараста з Заброддзя... О, Яўхім Кажамяка, Даніла Плытнік, Генрык са Струмені... Хутчэй давайце, крый божа, малання нас тут і... Ну, варушыцеся!..» Людзі па чарзе ўспаміналі адно, а то і два імя, Пракопы з Ілюкамі прылятали да чарнявага, кожны дзесятак іменаў чарнявы адзначаў грошам, ужо тры грошы ляжалі перад ім, усё меней заставалася незагнутых пальцаў на руках да чацвёртага дзесятка, і вось чарнявы махнуў сціснутымі кулакамі, хор, дзесяць здаровых мужчынскіх глотак, раўнуў — Вінцусь Валуёў!.. Не, маланка ў дуба не ляснула. Яна, зрэшты, у дрэвы б'е не так ужо і часта. Але лесавік якраз вось ад гэтага выгуку прачнуўся. Людзі не пабеглі — паляцелі да віціны, не зважалі на дождж, які, праўда, сцішыўся, на грукат перуноў. Людзі вобцас пакаціліся з-пад дуба, не разумеючы, чаму якраз пасля выгуку імя саракавога лысага затросся дуб і паляцела ім на галовы суччa, чаму заклала вушы ад якогасьці енку. Што і казаць — гэтых лесавік ад аднаго забабону вылечыў...

Час ішоў. У палях упраўляліся людзі, назапашваліся, рыхтаваліся да зімы, што ўжо не-не ды нагадвала пра сябе то халодным подыхам, то развітальным крыкам жураўоў над полем. Нічога не заставалася нязменным і для лесавіка. Дзе тыя віціны, дзе людзі, што лічылі сваіх лысых знаёмцаў, дзе святы дажынкаў, дзе вясельныя песні ў восеньскія вечары, якія далятаі і да яго, лесавіковага вуха?..

Гэтую дзяўчыну, адну з тых, хто часова пасяліўся недалёка ад ягонай схованкі, лесавік адзначыў неяк адразу. Чаму? Пра гэта ён асабліва не думаў, адзначыў — і ўсё. Ён ведаў, што яна далекавата заходзіла ў лес, блукала, не баючыся, каля адной з ямаў-прорваў, спынялася пры ёй, гледзячы ў мёртвае акно, аб чымсьці думала. У лесе яна пачувалася, адразу заўважыў лесавік, вельмі лёгка, натуральна, яна не мітусілася, як многія з людзей, і заўсёды ведала, у які бок ёй трэба ісці. Ужо мала хто з цяперашніх людзей добра ведаў лес, не баяўся яго, не блудзіў сярод трох асін. Гэтую ж дзяўчыну ніякі гушчар не палохаў, і яе не абыходзіла, як трэба выбірацца з лесу, яна проста з яго выходзіла, ніколі не памыляючыся. Дзяўчына быццам нешта ў лесе шукала. І не грыбоў, не ягад — трапіўшы на іх, яна ці кідала ў рот ягадзіну-другую, ці асцярожна зразала найбольш вабнага чырвонагаловіка, але ніколі не брала шмат,— яна шукала штосьці іншае. Хадзіла яна ці самым ранкам, ці адвячоркам, калі чысціня гуку і паветра ў лесе бывалі асаблівымі. Красак яна зрывала таксама мала, часцей за ўсё адну. Здаля цікуючы за ёй, лесавік усё больш пераконваўся — дзяўчына гэтая, дачка чалавечая, мала падобная да большасці з людзей па іх паводзінах у лесавіковым княстве, а таму вельмі прыдатная лесу.

І калі наступным разам лесавік адчуў тую дзяўчыну ў лесе, ён падабраўся да яе зусім блізенька.

Як на ягонае, лесавіковае, вока, была яна звычайная, зрэшты, усе людзі здаваліся лесавіку на адзін твар. А што тут можа быць незвычайнага? Рукі, ногі, галава, трохі валасоў. Праўда, тыя ж рукі надзвычай далікатныя, тонкія, з празрыстай скурай, мала да чаго здатныя. У лесе гэтымі рукамі амаль нічога не можна было зрабіць. Увогуле, далікатнай выдавала ўся пастава, ад танклявай постаці да гладкага твару з ненатуральна вялікімі вачыма, якія пазіралі наўкола сябе здзіўлена і даверліва, быццам толькі-толькі адкрыліся. Але ішла яна ціха, ногі ступалі мякка,

адно ценецька патрэсквала тонкае сучча. Адзенне было на ёй лёгкае, амаль не закрывала яе і не заўважалася. Чалавечае адзенне было, бадай, адзіным, што лесавік пазычыў, узяў у чалавека. Яму ніколі не было холадна, нават у самыя лютыя маразы, ён проста не ведаў, што гэта такое, холад, але звярыную шкуру пачапіць на сябе лесавік любіў. Не заўсёды, а толькі ў тыя моманты, як уладкоўваўся падрамаць на дрэве ці ў якім берлагу. Са скурай лесавіку было ўтульней. У вандроўках жа па лесе яна толькі яму замінала.

А людзі, некалі вельмі даўно пачаўшы са шкур, дайшлі ў сваім адзенні амаль да смешнага, бо ў тым жа лесе іхняе адзенне ім толькі замінала ці шкодзіла, часта яны мерзлі ў тоненькіх анучках-вопратках, спатыкаліся ў абутку на высокіх абцасах, не маглі павярнуцца ў цяжкім жалезе. Праўда, жалеза яны чаплялі на сябе толькі тады, калі баяліся за сваё жыццё.

Дзяўчына некуды ішла, лесавік нябачным ценем сунуўся за ёй крыху воддаль. Зразумела, не магло быць і гаворкі пра тое, каб ён паказаўся ёй на вочы. Ён ужо і не помніць, калі чалавек апошні раз бачыў яго, хаця б напаўпрывіда. Лесавіку даўно ўжо не было ніякай неабходнасці з'яўляцца сярод людзей, апошнімі часамі ён ужо не гнаў іх з лесу, амаль не палохаў. Ён ведаў, што людзі даўно не верылі ў такіх, як лесавік, і гэта, увогуле, было правільна. Стары ён, лесавік, вельмі стары, і амаль ні да чаго не здатны. Ты жывеш, пакуль у цябе ёсць жаданне жыць, нешта зрабіць, зрабіць такое, чаго яшчэ ніхто не рабіў. З лесавіком ужо было так, што ён зусім не хацеў зрабіць што-небудзь незвычайнае, неверагоднае. Ён жыў як бы па інерцыі. І знікне ён незаўважна, як бы растане ў гэтым паветры над зямлёй, у апошніх тонкіх дрэўцах, што застануцца ад лесу. Лесавік ведаў пра свой скон, але не бедаваў і не баяўся гэтага. Ён ніколі нічога не баяўся.

Але зараз ён ішоў за дзяўчынаю. І яшчэ раз пераконваўся, што людзі, найчасцей жанчыны, могуць прадчуваць яго паблізу сябе. Дзяўчына спачатку некалькі разоў трывожна азірнулася, потым зусім спынілася і пачала напружана ўзірацца якраз у тога куста, у якім прыпыніўся лесавік. І раптам здарылася неверагоднае. Лесавік — нават не па сваёй ахвоце, неяк незалежна ад сябе — пачаў ледзь прыкметна праяўляцца ў паветры. Спачатку побач з кустом узнік лёгкі абрыс ягонага тулава, абрыс няпэўны і

невыразны, потым гэты абрыс пачаў напаўняцца цялесным, гушчэць і цяжэць, як бы прыціскаючыся да зямлі, і расшыраным вачам дзяўчыны ўбачылася — павінна была ўбачыцца — камлюкаватая постаць у вецці і валасах, з іх вытыркаліся доўгія моцныя рукі і ногі, і з барады свяціліся здзіўленыя, глыбока схаваныя вочы. Дзяўчына ціха ахнула і скамянела, вочы ў яе зусім акругліліся, рот адкрыўся, костачкі сашчэпленых пальцаў пабялелі. Лесавік, усё яшчэ не памятаючы сябе, два разы гайдануўся, памяняўся колерам з рудога ў зеленаватага і толькі тады пачаў чэзнуць, спльваючы ў кусты. І ўжо ў кусце да яго дайшло, што ён увесь, ва ўсёй сваёй лясной прыгажосці паказаўся чалавеку. І такога, як зараз, яго яшчэ ніхто з людзей не бачыў. Разуменне непапраўнасці таго, што адбылося, ўваходзіла ў яго вельмі марудна, наогул усё наўкола яго неяк запынілася, тая ж дзяўчына так і стаяла з круглымі вачыма і перахопленым дыханнем, і ён вельмі добра разумеў, што пераступіў забароненую мяжу. І тады зямля і неба перавярнуліся, дажджом пасыпалася пазбіванае голле, шалёна захісталіся вяршаліны соснаў, быццам хто пусціў па іх вялізным каменем, і па лесе, сціхаючы дзесьці далёка, пайшоў гул.

На сваім азярцы лесавік некаторы час сядзеў у змозе. Так, ён змогся, і цяпер сядзеў, натапыраны, як вялікая мокрая птушка, шырока і бязгучна разяўляючы рот. Ён і раней, бывала, стамляўся, немаладога ж ужо веку, ды ўсё ж не гэтак. Што раней? Раней пагуляў па пушчы, вось у тую ж купальскую ноч пагуляў — і засынаў, стомлены, колькі часу адпачываў. Але тая стома была не падобная да цяперашняй. Зараз ён сядзеў разгублены, у непаразуменні азіраўся. Так, ніякай патрэбы ў ягоным з'яўленні на чалавечыя вочы не было. Зусім ніякай. Па лесе ішла дзяўчына, ён прымчаў да яе, заскочыў наперад — і зрабіўся бачным. Хто гэтая дзяўчына? Ніхто. Звычайнае чалавечае дзіця, не лепшае і не горшае ад іншых, малое яшчэ, неразумнае, наогул, дзе ты знойдзеш разумных людзей? Адно ясна, што ён, лясны гаспадар, той, хто быў не чалавекам і не зверам, хто ўсё сваё надзвычай доўгае жыццё ўнікаў людзей, а калі і сутыкаўся з імі, дык з адной мэтаю — нашкодзіць ім, нагнаць жуды, гэты самы лесавік абраў для з'яўлення на чалавечыя вочы невядома каго. Ён зусім не ведаў гэтую дзяўчыну, як і любога чалавека, які за доўгія гады стыкаўся ў ягонай пушчы.

Лесавік некаторы час прыслухоўваўся, глядзеў у сябе. Ён, безумоўна, па-ранейшаму заставаўся лесавіком, але было ў ім ужо і штосьці новае. Што? Дзяўчына гэтая, увогуле, яму спадабалася, як і любы з людзей, хто шанаваў пушчу і яе жыхароў, гэтых людзей лесавік ніколі не чапаў і, убачыўшы аднойчы, проста праходзіў міма. Праходзіў і забываўся. З дзяўчынаю ж было крыху інакш. Раз сустрэўшыся з ёю, ён не забыўся на яе, а... Так, шукаў з ёй сустрэчы яшчэ раз. Гэта — недарэчнасць, але вельмі важная недарэчнасць. Не забыўся. Шукаў.

Лесавік неспакойна паварушыўся, пакруціўся, пашамацеў у кустах. Яму было нязручна і няўтульна. Атрымліваецца, што пад канец свайго жыцця — а канец ужо быў недзе недалёка — лесавік пачаў шукаць людзей? Людзі... Як толькі лесавік сустракаўся з імі — адразу ўзнікала пачуццё нейкай небяспекі, няўтульнасці, быццам нейкая стрэмка ўлазіла ў яго і паколвала, вярэдзіла самую сярэдзіну, не давала спакойна сядзець на месцы. Але гэта было і натуральна. Свет лесавіка і свет людзей былі надта рознымі. У сваім свеце людзі ўсё перайначвалі пад сябе, на сваю карысць. З лясных жывёл чалавек вывеў другіх, патрэбных яму — свіней, кароў, авечак, коней, курэй, яшчэ многіх, якіх лесавік ніколі не бачыў, але пра якіх здагадваўся,— і ўсе гэтыя чалавечыя жывёлы без чалавека ўжо не маглі жыць, існаваць. Чалавек прывучыў іх да свайго пошару, да сябе, выбіў з іх апошні ўспамін аб волі — і ў лесе ці полі тыя жывёлы былі чужымі, яны хутка гінулі. Выведзенае чалавекам магло жыць толькі пры чалавеку, яно пазбаўлялася самастойнасці і было толькі чалавечым. У лесавіка ж заўсёды было іншае. Тысячагоддзямі чалавек будаваў свой свет, рабіў, ствараў сваё жытло, свой лес — і за тыя ж тысячагоддзі лесавікоў лес і лес чалавека — лес з горадоў, гарадкоў і вёсак, лес з дарог, заводаў, запруд на рэках і прасек між дрэў — зрабіліся страшэнна рознымі.

Лесавік, праўда, ведаў, што за ўвесь гэты доўгі час людзі зрабілі таксама шмат добрага і цікавага, шмат такога, на што лесавік пазіраў з цікавасцю. У людскіх садах яму неаднойчы трапляліся незнаёмыя дрэвы і кветкі, якія ў ягоным лесе вырасці не маглі. Ён бачыў, што людзі абсаджвалі свае сядзібы гэтымі новымі раслінамі, упрыгожвалі імі свае хаты — і яму падабаліся вычварнасць і яркасць тых незнаёмых дрэў і кветак, ён нават частаваўся зрэдку яблыкамі і нюхаў ружы, і гэта ўжо зусім іншая

справа, што лясныя яму падабаліся больш. Ён разумеў — людзі іх саджалі і выводзілі для сябе. І ў адрозненне ад лесавіка людзі заўсёды чагосьці прагнулі, прагнулі таго, чаго ў іх яшчэ не было. І яны шмат чаму навучыліся. Як бы лесавік ні ўцякаў ад іх, ён усё ж ведаў пра іхнія новыя гарады і машыны, ведаў, што чалавек навучыўся зазіраць у ваду і зямлю, узносіцца ў неба, з балота рабіць жытнёвае поле, а з поля — возера. І тое, што яму было непатрэбна, чалавек лёгка адкідваў.

У гэтым і было галоўнае — лесавіка ён ужо адкінуў. І лесавік, які ўсё разумеў, хаця пакуль і не прызнаваўся сабе ў гэтым, вырашыў вылезці на чалавечыя вочы. І вылез.

Лесавік крыху пакрактаў, нават застагнаў. Вось яшчэ адно, чаго ён набраўся ад чалавека: яму зараз было як бы сорамна, ён быў гатовы, што называецца, спарахнець ці скрозь зямлю праваліцца. Ды нічога не паробіш, трэба жыць далей. І зноў — а як далей?.. Хавацца на азярцы, балазе, яно яшчэ добра захавана ад чалавечага вока, яшчэ хапае яму падземных водаў, што пояць і жывяць дрэвы, кусты і травы, прадзерціся скрозь якія цяжка не толькі чалавеку, але і зверу? Аняго ж — мусіць хавацца... Толькі і застаецца колішняму гаспадару — хавацца, прывідам мільгаць па былой пушчы, глядзець на тое, што ў ёй робіцца. Нічога зараз новага лесавік для сябе не адкрыў. Даўно ўжо ён не быў у сваіх лясах гаспадаром, даўно ён толькі рабіў выгляд, што глядзіць за парадкам, ахоўвае і бароніць. Амаль і не засталося ўжо тых, каго трэба бараніць, ды і амаль не залежалі яны ад яго, даўно жылі з чалавечай ласкі.

Прыйшло ў галаву чалавечае: сівізна ў бараду, чорт у рабрыну... Дзе тая сівізна, дзе тыя чэрці, дзе сам ён, лесавік? І ёсць, і няма.

Паківаўся на вольсе, яна загула, затрашчала, абсыпалася сухое голле. Трэск спудзіў качак, яны парамі зачарцілі дугі над азярцом, замітусіліся, не ведаючы, куды схавацца. Лесавік сціх. Няма чаго качак палохаць, яны тут ні пры чым. І каб на ўсё забыцца, адкінуць ад сябе чалавечыя сумненні, сорам і думкі, ён на якое імгненне скамянеў, заснуў.

Аднак лесавіку ніколі не ўдавалася цалкам адкаснуцца ад лесу з ягонымі дрэвамі і звярамі, нават у сне ён не ўмеў гэтага, бо быў пушчаю, яго заўсёды звязвалі з ёй тысячы, мільёны нябачных повязей-павуцінак. І ў сне

лесавік ведаў, дзе што робіцца, і бачыў ён найперш небяспеку жывому. Ён прачнуўся ад таго, што ўбачыў ястраба, апошняга пушчанскага ястраба. Забіўшы маладую лісіцу, ястраб маланкаю прамчаў па лесе, зрабіў вялікага круга вакол месца, на якім зараз абжыліся нетутэйшыя людзі. Гэтае месца было якраз цэнтрам ястрабінага круга, і ястраб ад яго нікуды не хацеў ляцець. Зрабіўшы адзін круг, ястраб пайшоў на другі, вужэйшы. Яго быццам нешта падштурхоўвала, падцягвала да людзей. Лесавік прачнуўся ў той момант, калі ястраб падляцеў зусім блізка да людскіх буданоў. І там яго ўжо заўважылі. Тыя, хто былі каля буданоў, мусіць, ніколі не бачылі ястрабінага лёту, так утаропіліся ў шэрую птушку, што з ярасным свістам праколвала паветра. Лесавік не разумеў, чаму ястраб прыляцеў да людзей. У ягонай пушчы ястрабы да людзей ніколі не набліжаліся, яны проста не заўважалі іх, настолькі рознымі былі асяроддзі чалавека і гэтай птушкі. Часамі лесавіку здавалася, што круглыя жоўтыя вочы ястрабаў людзей не бачылі, людзі не падыходзілі іхнім вачам. Цяпер жа апошні ястраб убачыў, і кругі ягонага лёту звужаліся. І лесавік ведаў яшчэ, што рознае ў адно цэлае не сальецца, нечага аднаго, гарманічнага, здольнага на самастойнае жыццё з гэтага не атрымаецца. Мыш і брызгліна дзіцяці не дадуць. Ястраб з чалавекам разам жыць не будуць. Лесавік з'явіўся каля буданоў, калі ястраб яшчэ ляцеў. Ён ведаў, што зараз адбудзецца, і не ўмешваўся, толькі глядзеў. Людзі ўсе выбеглі з буданоў, вочы іх былі скіраваны толькі да адной кропкі, да ястраба, яны ўзбуджана перакідваліся словамі, узмахвалі рукамі, як крыламі, адзін з іх паспеў ужо знікнуць у будане і выскачыць з яго, людзі, бачыў лесавік, былі такімі ж, як заўсёды. Людзі былі людзьмі. Стукнуў у вушы стрэл, аднак лёт ястраба не перапыніўся і не змяніўся. Ястраб ляцеў хутка, чалавеку ў яго пацэліць было цяжка. Тады ястраб, як зразумеўшы гэта, лёгка і дакладна ўпаў на вяршаліну адзінокай чорнай вольхі, што стаяла зусім побач з буданамі, за пяцьдзесят крокаў. Вока птушкі было настолькі дакладнае, што, датыкнуўшыся да голага сука, яна ўжо не зварухнулася. Абрыс яе выразна і гожа вымалёўваўся ў перадвячэрняй яснасці. Гэтым разам чалавек са стрэльбаю не спяшаўся, не мітусіўся. Лесавік ведаў, што людзі, у руках якіх з'яўляецца стрэльба, ці сякера, ці лук, ці нож — а з'явіцца яны могуць далёка не ў кожных руках, нават у рэдкіх,— гэтыя людзі наогул умеюць мно-

гае, і рукі ў іх цвёрдыя і вочы пільныя. Зараз чалавек быў таксама ўмелы. Напружаная цішыня трывала доўга — і разарвалася. Ястраб па стрэле ўпаў не адразу, а як бы крыху падумаўшы, падаць ці не, і толькі вырашыўшы — сарваўся і непрыгожа кульнуўся, адно крыло далёка абвісла, чаплялася за сукі, і ў гэтым падзенні птушкі ўжо нічога не было ад лёту. Некалькі збітых лісточкаў і пёркаў яшчэ якое імгненне пырхалі ў паветры, павольна апускаліся, адно з пёркаў заблыталася ў барадзе лесавіка, што ўвесь гэты час сядзеў пад бліжэйшым да вольхі кустом шыпшыны. Лесавік вельмі добра бачыў, што жоўтыя, з дробнымі крапачкамі вочы ястраба ўмомант стрэлу не здрыгануліся, нават не змяніліся, быццам шэсць шрацінак і не прабівалі шчытнае пер'е. Жоўтыя вочы, не міргаючы, абыякава пазіралі кудысьці далёка. І гэта значыла, што ястраб быў мёртвы яшчэ да стрэлаў, да другога і першага стрэлаў.

Людзі загалёкалі, пабеглі да вольхі. Лесавік цяжка, павольна вылез з шыпшыны, падышоў да ястраба, паўзіраўся ў ягоныя халодныя вочы. Круглыя вочы ястраба глядзелі міма лесавіка, і сонечнае святло, бездань нябёсаў і лясныя цені былі гэтым вачам непатрэбны, бо бачылі яны штосьці іншае. Ды вось што — гэтага ніхто не ведаў. Лесавік узяў ястраба ў рукі. Апошняга ястраба пушчы людзям зараз бачыць было зусім не варта. Што б яны ўбачылі? Забітую птушку, з моцнымі кіпцюрамі, моцнай дзюбай, моцнымі крыламі — і незразумелую. Пацягалі б, павырывалі б колькі пер'яў — на памяць — і кінулі б. А ястраб жа быў лясным. Аддаць яго лесавік не хацеў. Ён зноў увайшоў у шыпшынавага куста, зрабіўся яго ствалом, голлямі і лісцем, адно вочы маглі выбліснуць з цьмянай глыбіні — ён іх заплюшчыў.

Людзі круціліся вакол дрэва, паролі, што тыя дзікі, зямлю пад ім, варушылі леташняе лісце, задзіралі галовы, адзін з іх нават паспрабаваў узлезці на яго, але не было пад рукой якое прылады, каб хоць як, ды ўзбіцца, без прылад жа чалавек мала на што здатны. «Недзе між суччаў засеў,— чуў лесавік,— вунь у той развілцы, мусіць.— Ды не, я сам бачыў, як на зямлю ўпаў.— Можа, толькі падбілі яго, ён аджыў і ўцёк.— Не, гэта проста чорт ведае што! Можа, у куста як зашыўся? — Слухайце, а ці не заблытаў нас вунь той крумкач? Можа, і не ястраб гэта быў, а варона. Цяпер вось глядзіць, як мы тут поўзаем, смяецца.— Канчай, канчай, крумкач прыляцеў толькі што. Да-

вай лепш у кустах пашукаем». Пашамацелі ў кусце, палка некалькі разоў зачапіла лесавіка, але да ястраба пад ім, зразумела, не дабралася. Людзі пайшлі, лесавік застаўся на месцы, толькі вылез з сярэдзіны куста і паклаў перад сабой тое, што было ястрабам. На яго з вольхі глядзеў, паварочваючы галаву то адным, то другім вокам, крумкач, стары знаёмы, і ў вачах яго было разуменне. Крумкач усё ведаў, нездарма без яго не абыходзілася бадай ніводная падзея ў пушчанскіх лясах. Ведаў ён і пра ястраба. Не, ястраба людзі забілі не зараз, ён загінуў раней, сёння ж з лятаючай мярцвячыны ён зрабіўся звычайнай падлай. Людзі сваім стрэлам проста дапамаглі яму перайсці з паветра ў зямлю. А забілі яны яго раней. Гледзячы на ястраба, лесавік раптам падумаў — а што чакае яго? На яго ж няма, не было яшчэ дасюль ні стралы, ні шрацінкі, ні кулі... Як знікне ён сам? І ад каго чакаць гэтую невядомую кулю? Ад тых жа людзей?

Людзі... Як часта апошнім часам лесавік звяртаўся да людзей, як часта думаў пра іх, стаўляў сябе побач з імі. Усё жыццё пазбягаючы людзей, лесавік усё ж мусіў да іх прыйсці. З-за гэтага, мусіць, і паказаўся на вочы... Дарэчы, той дзяўчыны, што яго бачыла, сёння пад дрэвам не было. Ён зірнуў у бок буданоў — не ўбачыў яе і там. Прыслухаўся да бліжэйшага лесу — не было і ў ім. Але ён чамусьці ведаў, што тую дзяўчыну яму яшчэ давядзецца ўбачыць.

Лесавік рассунуў зямлю, схаваў у ёй мёртвага ястраба, прыціснуў схованку вялікім валуном. Апошнія, як гэты ястраб, павінны знікаць бясследна, без ніякіх напамінаў пра сябе. Крумкач, дачакаўшы, пакуль знікне ястраб, сарваўся з вольхі і паляцеў. Лесавік пайшоў паглядзець на дрэвы, якіх ён абраў для сябе на купалле. Купальская ноч ужо была блізкая, зусім блізкая, на гэта лесавік ніколі не мог забыцца.

Тая самая дзяўчына ў лесе з'явілася вельмі хутка — наступным жа днём. Лесавік даведаўся пра яе адразу, бо ўжо чакаў, калі пачуюцца ў лясным паветры няўлоўныя прыкметы-адзнакі яе прысутнасці. І ўжо не стрымліваў сябе, не ўцякаў, а апынуўся недалёка ад яе, дакладней — недалёка ад іх. Дзяўчат было двое. Другую лесавік таксама ведаў, бачыў яе каля стога сена, адразу яе пазнаў. Гэтая другая была тады з хлопцам. Лесавік быў кінуў на яе толькі адзін позірк, бо цікавіла яго, вядома, не яна, а другая, што ведала таго, каго людскія вочы амаль не ба-

чылі, што ведала ляснога гаспадара,— аднак па першым разе глянуў і другі, і наогул паглядзеў пільна. А прыгледзеўшыся — зразумеў. Так, пра гэтую чарнявенькую, невысокую і хуткую, ён усё ведаў, хаця сама яна пакуль што ні аб чым не здагадвалася. Гэтай чарнявай дзяўчыны ўжо не баяліся лясныя звяры. Іх, праўда, паблізу не было, адно папісквалі ў каранях старога дуба мышы, але хатнія жывёлы, ведаў лесавік, асабліва кошкі з сабакамі, ужо лашчыліся да маладзіцы, церліся аб яе, забягалі наперад, зазіраючы ў вочы, падскокваючы і кеўкаючы,— а маладзіца яшчэ ні аб чым не здагадвалася. Звяры, і перш тыя ж кошкі з сабакамі, адразу адчувалі, калі маладзіца панясла, і яны не маглі ўтрымацца, каб не падбегчы да яе і не палашчыцца. Лесавік таксама адчуваў новае жыццё ў жанчыне. Ён успомніў стог, ноч над ім, цішыню з працяглымі рыпамі цвыркуноў, хлопца побач з гэтай чарнявенькай — і супакоіўся. Яго ўсё ж найбольш займала тая, якой ён паказаўся.

Дзяўчаты кіраваліся акурат да таго месца, дзе лесавік паўстаў на вочы гэтай светлавалосай, жаўтавокай. Успомніўшы пра гэта, ён зноў зніякавеў, на момант знерухомеў. Аднак дзявацца ўжо не было куды. Як кажуць людзі — трапіцца і найразумнейшаму здурнець. Абачліва хаваючыся, пацягнуўся следам, хаця неаднойчы пераконваўся, што жанчыны могуць яго адчуваць. Але зараз дзяўчаты былі занятыя адно сабой.

«Недзе вось тут яго бачыла,— гаварыла святлейшая з дзяўчат, ягоная,— уяўляеш, паказаўся проста з паветра. Нічога не было — і ён! Спачатку мяне жах ахапіў, а потым... падысці захацелася. Але пакуль сабралася з духам — ён знік».

«Свет, а які ён з сябе? Страшны? І адкуль ты ведаеш, што ён... ну гэты... лясны?..» — і чарнявая спалохана заазіралася, ухапілася за руку сяброўкі.

«Ну а хто ж ён? Разумееш, спачатку яго і не разгледзець было. Спачатку як бы цень з'явіўся, вось як адбітак на вадзе, дрыжыць, пакалыхваецца. А потым стаў, як чалавек. У лясным адзенні, доўгая барада. Але я, ведаеш, добра ўсё роўна не разгледзела... Не ўбачыла, якія рукі ў яго, якія пальцы, у што апрануты. Як утаропілася ў вочы — так і нічога больш не бачыла!»

«Вой, я ніколі б не глядзела! Яшчэ зачараваў бы... Мусіць, страшна было?»

«Не, ніколечкі не страшна. Толькі зялёныя вочы ў

калматых брывах гарацъ неяк... не па-чалавечы. Зялёныя — і хочацца ісці да іх».

«Слухай, а ты не выдумляеш?»

«Чэснае слова! Ды такое і прыдумаць цяжка. Ён зусім ні да каго не падобны. Можа, хіба да чалавека... Постаць як бы чалавечая, твар... толькі твар вельмі зарослы. І звярыная шкура ці кара, як на дрэве, гэтага вось добра не памятаю».

«Можа, ішоў хто з вяскоўцаў, а табе здаля падалося? Іх жа, лясных, калі яны і ёсць, ніхто не бачыў...»

«Не, я адчуваю, я ведаю, што гэта быў толькі ён. Падобны да чалавека, але зусім не чалавек. Ды і вельмі блізенька ж ён стаяў, мо крокаў за дзесяць. Стаяў, глядзеў — і растаў. І вочы гараць, наскрозь працінаюць. Вось! Вось на гэтым месцы. Можа, паклічам?»

«Ты што, здурнела?! — перапалохалася чарнявая, замахала рукамі.— Навошта ён табе? Можа, гэта які звер тут з'явіўся, можа, уцякла са звярынца ці з цырку малпа?..»

«Што я, малпаў ніколі не бачыла? Але я хачу пераканацца, што гэта ён. Мне наогул хочацца, каб ён быў, разумееш? Пакуль будуць яны, датуль лясы не звядуцца. А што людзі не бачаць іх, дык гэта і правільна. Яны ёсць толькі для лесу, для лясных жыхароў. А чалавек у лесе чужы».

«Тады ты яго і не ўбачыш больш. Наогул дзіўна, што ён табе паказаўся».

«Не, якраз не дзіўна. Ён зразумеў, што мне паказацца можна. Ён адчуў, як мне важна, каб быў лес, і прыйшоў да мяне. Ён жа адчувае, да каго можна падысці, а каго гнаць трэба. Вось твайго Міколу з лесу трэба гнаць, яму трэба забараніць тут паказвацца. Навошта ён у ястраба страляў? Мяне не было, ён бы ў мяне стрэліў...»

«Ястраб — драпежнік... Ды і не знайшлі яго, можа, Мікола не пацэліў, прамазаў. А наогул — любы хлопец за стрэльбу хапаецца. І Мікола любіць. Ён добра страляе».

«Любіць... Дурань — то і любіць. Хіба можна забіваць жывое? А калі б яму... кулю ў лоб? Вось такімі дурнямі войны і пачынаюцца. Страляць ім падабаецца! Хай бы вось лесавік правучыў яго. Такія, як Мікола, толькі аплявуху і разумеюць. Яму што — цесна разам з ястрабам на адной зямлі жыць? Упершыню ў жыцці ўбачыў — і страляць. А ты яму гатовая ў рот глядзець».

«Адно другога не тычыцца. Я яму падабаюся... І ён

мне... А дзе твой лесавік? Няма нікога. Далібог, табе падалося нешта. Гэта ўсё прымхі. Зараз модна гаварыць пра той свет, пра нябачнае. Нават у газетах і часопісах пішуць. Як гэта тых людзей завуць, якія праз сцяну ўмеюць бачыць? Яны яшчэ нейкай незразумелай сілай валодаюць...»

«Ды не, тут зусім іншае. Разумееш, ён — гэта як бы лясная душа. Вось нашу душу ніхто не бачыць — і яго не ўбачыш, акрамя як сам захоча. Я ж не проста так у горад ездзіла, мне трэба было адну старую кнігу паглядзець... Я там прачытала... Але пакуль не буду. Для гэтага трэба ведаць, што ён каля цябе знаходзіцца...»

Дзяўчына, Святлана, раптам спынілася, пачала трывожна азірацца, у пацямнелых вачах з'явілася нешта такое, чаго лесавік спалохаўся. Ён прыціснуўся як не да самай зямлі і кінуўся ўцякаць у гушчар.

Лясное азярцо свяцілася сярод суцэльнага зяленіва, было яно як уваходам у нябесную бездань, і здавалася, што няма ў ім дна, няма нічога, акрамя роўнай і спакойнай яснасці. Азярцо заўсёды было спакойнае, паверхня яго толькі зрэдку моршчылася, ветрык праскокваў над ім, не дакранаючыся да вады, ён адно разносіў густыя пахі набярэжных траваў. Травы стаялі ў некалькі ярусаў. Ніжэйшы, імшаны ярус, быў найбольш шчыльны, краскі ў ягонай гушчыні амаль не бачыліся, толькі паміргвалі на зялёным бляклa-блакітныя зорачкі кветак, якія ў людзей зваліся незабудкамі, і чалавечае ж вока гэтыя няяркія россыпы амаль не заўважала. Вышэй таксама густа, але ўсё ж асобнымі вярхушкамі-галоўкамі, стаялі жоўтыя, чырвоныя, ружовыя, блакітныя, сінія, белыя краскі, была іх процьма, са светаянніку вока слізгала на скрыпеня, з яго на браткоў, абмінала рамонкаў і званкоў, ні на чым не магло запыніцца, бо немагчыма было ў гэтым буянні абраць штосьці адно. І над усім гэтым шматтраўем высока ўзнасіліся брылі баршчэўніку, дробненькія белыя і жоўтаружовыя кветкі яго зліваліся ў шырокія кругі, па іх поўзалі цяжкія пчолы і не маглі нават зварухнуць вялікія галовы, не тое што разгайдаць. Бліжэй да вады ўсё скрозь зарасло валяр'янай, што ўбралася белымі, як снег, шарамісуквеццямі. І адусюль плылі моцныя і слабыя, тонкія, цяжкія, рэзкія, густыя пахі, змешваліся, узносіліся і ападалі, пчолы і матылькі ў іх выдавалі ачмурэлымі. Што пачынала цвісці, што адцвітала, што толькі разгарнулася, паказалася свету ва ўсёй сваёй прыгажосці,— і ў гэтым

каляровым спакоі лесавіку звычайна рабілася асабліва добра. Аднак сёння воблака пахаў не ўлагодзіла яго, не супакоіла. Ён нават не сядзеў на месцы, а соваўся кругамі вакол азярца.

З таго, што гаварылі між сабой дзве дзяўчыны, ён зразумеў далёка не ўсё, зразумеў, мусіць, палову, але і гэтага хапіла, каб упэўніцца — светлавалосая і жаўтавокая пра яго ведала, яна здагадалася, хто ён такі, і цяпер шукала яго ў лесе. І гэта было яшчэ адным доказам таго, што ў апошні час — лесавіку цяжка было акрэсліць гэты тэрмін, бо на час ён глядзеў па-свойму — лесавік выбіўся са звыклай каляіны свайго ляснога жыцця. Так, ён пачаў бадзяцца, пачаў думаць, пачаў заўважаць тое, на што раней не глядзеў, пачаў прымяраць сябе да людскога жыцця і нават знаходзіць сабе ў ім месца. Дакладней, гэтага месца яму якраз ніяк не знаходзілася. Лесавік... зрабіўся ўжо і не лесавіком, а невядома кім. Але, з другога боку, ён усё ж не быў упэўнены ў тым, што ён — якраз той самы першы лесавік, які пачаў прыглядвацца да людзей, пачаў па-іхняму думаць і нават рабіць. Яму проста не даводзілася сустракацца з іншымі лесавікамі. Ён ведаў, што яны былі, і ведаў, што потым знікалі. Лесавік у пушчы быў заўсёды адзін, ніхто яму не пагражаў і ніхто не шукаў у ім сябра,— ён быў адзін. І ў пушчы яго дзень пры дні чакала мноства спраў, ён паспяваў рабіць іх далёка не ўсе, нават толькі нямногія, пушча была вялізнай краінай, па якой ён безупынна вандраваў, зусім не думаючы аб тым, што яго чакае наперадзе. Але з часам яго хада запавольвалася, з часам меншала пушча, пакуль не зрабілася зусім маленькай — і пакуль не атрымалася, што ён, лесавік, у гэтай пушчы лішні. Ён, увогуле, даўно здагадваўся, што лішні, але ўсведаміў гэта толькі цяпер. Сумна яму, страшна?.. Ды не. Зрэшты, ён можа яшчэ дапамагчы якому зверу, напалохаць чалавека, дастаць з-пад зямлі каменні, якіх ніхто не бачыў... Вось толькі пушчы яму ўжо не выратаваць. Усё тое, што было пушчай, цалкам у руках чалавека.

Лесавік аж на момант прыпыніўся. Дзіўна атрымліваецца: чалавек у параўнанні з лесавіком можа ў лесе вельмі мала, але якраз ён — усемагутны. Захоча — не будзе чапаць балоты, ад якіх залежыць жыццё лесу і шматлікіх ручаёў і рэчак. Але ў тым і бяда, што ў лесе няма як пасадзіць жыты, аўсы і ячмень, у лесе няможна паставіць пабудовы, дзе чалавек будзе рабіць свае машыны,

і не знішчыўшы ладны кавалак лесу, чалавек не правядзе з вёскі ў вёску, з горада ў горад дарогі, так яму патрэбныя. І ў лесе цяжка яшчэ выкачваць з зямлі нафту, немагчыма браць вугаль, соль, граніт, звычайны пясок. Не, куды ні вярні — лес перашкаджаў чалавеку.

Чалавек для ўсяго на зямлі меў назву, называў ён неяк і лесавіковую пушчу, вялікі край рэк, лясоў і балот. Але вялікай пушча была надзвычай даўно, цяпер засталіся ад яе — лесавік ведаў усе гэтыя назвы, бо яны часта паўтараліся людзьмі — Крывічоў, Зарэчны, Радгастаў і Дрыгавіцкі лясы, засталіся тры вялікіх балоты, якія людзі называлі проста па вёсках пры іх — Гараваціцкае, Касцерскае і Ляхаўскае, засталіся азёры — Чорнае, Чырвонае, Белае, Возера-Месяц, Князь-Возера і Дубоўскае. У лесавіка ж, вядома, для пушчы спрадвеку былі свае межы, людзі пра іх не ведалі. На поўдні ягоную пушчу ад другое аддзяляла магутная рака, настолькі поўная вадой, што берагі яе былі нізкія, без стромаў. У веснавую паводку рака шалёна разлівалася, і абалоністыя падлескі і кусты стаялі ў вадзе на дзесяткі кіламетраў, нават крыху вусцішна рабілася ад гэтае свінцовае прасторы пад шырокім небам, у ёй самотна кігікалі кнігаўкі ды моўчкі пралятали крукі. Абалону гэтае ракі скрозь атачалі балоты, бо вады тут заўсёды было больш, чым трэба. У раку ўлівалася шмат меншых, але таксама паўнаводных рэчак, іх, у сваю чаргу, абцягвала павуцінне рэчак і раўчакоў. Дзе-нідзе і дасюль дрыгва была непраходнай. Чалавеку гэтую раку з яе вялікай вадой, хмызнякамі, дрыгвяністымі абшарамі, схаванымі пад раскошнымі зараснікамі чароту, асокі, аеру, жабніку, стрэлкалісту, безліччу затокаў, старыкоў, азерцаў, проста канаў, чорная вада якіх была амаль укрытая шырокімі лістамі гарлачыкаў ці зацягнутая раскай і тванню,— чалавеку гэтую раку пераадолець заўсёды было цяжка, амаль немагчыма. Ён і сяліўся толькі па ўскраінах абалоні, і дарогі тут пракідаліся зрэдку. Грэбля, пабудаваная, накіданая летась, ушчэнт размывалася вясной ці ўвосень, смала, асфальт, якім чалавек пачаў пакрываць дарогі апошнім часам, таксама вытрымліваў нядоўга — карабаціўся, выгінаўся, трэскаўся, вышчэрбліваўся і зусім знікаў, трэба было стаўляць латкі і накочваць асфальт нанова; дарогі, якія ўтрымліваліся, былі слабыя, ненадзейныя. Людзі з гэтага палуднёвага боку на пушчу ішлі мала.

На поўначы пушча канчалася як бы сама, яна паволі пераходзіла ў нізкі лес, дрэвы ў ім заўсёды былі караба-

тымі і крывымі, гэты лес дзе-нідзе выпускаў у поле паўвостравы рэдкіх дрэў, але недалёка; поле тут было моцнае, яно нават часам прымушала лес адступацца, а дзе і проста абкружала, адрывала, брала ў палон языкі-паўвостравы, яны тады рабіліся астравамі і стаялі, як жабракі, вецер прадзімаў іх наскрозь, засыпаў пяском, і абкружаныя голай зямлёй дрэвы сашчапляліся сваімі каронамі, трымаліся адно за аднаго, каб хоць крыху пастаяць, не паваліцца адразу. У гэтых астраўках заўсёды стаяў варанячы гармідар, ад іх далёка патыхала тугой. Тут, на поўначы, поле разам з чалавекам наступала шырока і моцна, якраз адсюль напіралі, усё гусцей тоўпіліся доўгія заводскія трубы, яны заўсёды былі шчыльна абсаджаныя хаткамі і дамамі. У гэтых вось мясцінах на ўзмежку пушчы некалі размясціўся, пусціў карані вялікі, як бор, завод-горад, у ім людзі пачалі выбіраць з зямных глыбіняў патрэбную ім соль, якой яны пасыпалі свае палі. Лес на многія кіламетры вакол завода-горада хутка памёр, зямля высахла, сшэрхла, перастала радзіць, даўнія людскія селішчы, вёскі з урадлівымі палямі наўкола, з садамі і агародамі таксама звяліся, іх гаспадары перабраліся ў горад, палезлі глыбока пад зямлю, высякаючы ў саляных пластах шырокія прагалы. Лесавік да гэтых паўночных сваіх ускраін даўно ужо не падыходзіў, бо на кожным кроку там можна было сустрэцца з чалавекам.

Далёка на ўсход, за лясамі, балотамі, яшчэ лясамі і яшчэ балотамі пачыналася нізіна пры самай вялікай у гэтых землях рацэ, якая цякла з поўначы на поўдзень, так доўга і вольна цякла, што была ўжо як бы і абыякавая да ўсяго, а абыякавасць, вядома, ад шмат бачанага, ад стомы, набытай за тысячагоддзі, ад зменлівасці жыцця на яе берагах і нязменнасці яе самой. Рака, пачаўшыся на далёкіх узвышшах, дасягала палуднёвых мораў, і яе доўгі шлях з халодных краёў да цёплых як бы звязваў іх, звязваў людзей, насяляючых тыя краіны. У зямлі, на якой стаяла лесавіковая пушча, рака праходзіла скрозь лясы, далей яна, злучыўшыся з другой, больш вядомай лесавіку ракой, бо гэтая другая межавала яго ўладанні на поўдні, уваходзіла ў стэпы. Але тая вялікая ўсходняя рака была такая далёкая, што сваёй яе лесавік не лічыў, ён і даходзіў да яе толькі зрэдку. На ўсходзе мяжы ў ягонай пушчы быццам і не было, як, зрэшты, і на захадзе.

У заходняй частцы, таксама далёка адсюль, ягоная пушча паступова пераходзіла ў другую, яшчэ большую.

Пра тую пушчу лесавік ведаў мала, яна ўздымалася на даляглядзе суцэльнай сіне-шызай сцяной, якое ў ёй ішло жыццё — лесавік не ведаў. Даўней ён колькі разоў спрабаваў высока ўзнесціся над сваімі лясамі, глядзеў туды, дзе ляжала суседская неабсяжная пушча, ды амаль нічога не заўважаў. Бліжэйшыя да яго лясы ў ёй былі высокія, сасновыя, зрэдку яны расступаліся — сярод іх ляжалі гарадкі і вёскі, віліся дарогі. Усё было амаль гэтак жа, як у яго, больш, на жаль, не бачылася. Там, мусіць, таксама быў лесавік, аднак вядома, што адзін лесавік побач з другім ніколі не акажацца. Побач яны не жывуць. Тая заходняя пушча нават і цяперашнім часам была цалейшая за ягоную, гэта яго надзвычай здзіўляла. Лесавік ведаў, што чалавек паўсюль адзін і той жа, ён будаваў, сек, капаў, раўняў і падвышаў, чалавек ні на момант не супакойваўся, заўсёды штосьці даводзіў, парадкаваў, паляпшаў — чалавек усюды і заўсёды паляпшаў навакольнае для сябе, на сваю карысць, лесавік гэта ведаў добра. А тая пушча тым не менш была, з цягам часу яна, канечне, меншала, але не гэтак імкліва, як ягоная. Лесавік заўсёды прыслухоўваўся да людзей у лесе, калі яны гаварылі пра лес — і найбольш звяртаў увагу на гаворку пра заходнія лясы. Бывала, людзі пра іх і гаварылі, і зусім нядаўна лесавік пачуў — запаведнік. Там на захадзе людзі стварылі, пабудавалі нейкі запаведнік, і зрабілі яго яны якраз у лесе. Як зразумеў лесавік — запаведнікам для іх было месца, куды тыя ж людзі з іхнімі машынамі дапускаліся вельмі рэдка. Аднак запаведнік быў не тут, а там, у заходніх лясах, лесавік пра гэта больш не думаў. Ды і ён бачыў, як драбнела, рассыпалася і знікала другая, паўночная пушча, на месцы якой зараз поле. Пушча знікла вельмі даўно, аднак ён ніколі не забываўся на гэта, бо ўжо тады перад ім прачынілася заслона, што закрывае невядомае — і ён убачыў за ёй свой канец, будучы далёкі канец.

Аднак усё гэта — рэкі на поўдні і на ўсходзе, поле на поўначы, другая, далёкая пушча на захадзе — было колішняй мяжой лесавіковай пушчы.

Цяпер засталіся адно чатырыляскі, тры балоты, шэсць больш-менш вялікіх азёр. Усё астатняе пушчаю ўжо не было.

А нейкага дня людзям спатрэбіцца і невялічкае азярцо на імшарыне, невялічкае вадзяное люстра, у якім пакуль што адбіваюцца вяршаліны сосна ды мільгае цень кні-

гаўкі. Можа, людзі знойдуць пад ім што-небудзь для сябе карыснае.

Лесавік хоць ніколі і не гаварыў сабе, што ягоны канец ужо недалёка, але пра ўсё ведаў. Ну што ж, пажыў ён нямала, можа, і годзе. Зараз жа ён не знаходзіў сабе месца з-за іншага, з-за той самай дзяўчыны.

Ужо тое, што лесавік апошнім часам не пакідаў думаць пра яе — здзіўляла і непакоіла. Дагэтуль асобны чалавек лесавіка ніколі не цікавіў, яны былі для яго як бы на адзін твар, вось як мурашкі для тых жа людзей. Цяпер лесавік не толькі вылучыў з іх аднаго, адну — яна ўбачыла яго, яна даведалася, што ён жыве побач з ёй. І гэта нечага вымагала. Чаго? Лесавік яшчэ не ведаў. Хаця... Людзі з'явіліся недалёка ад ягонага азярца, заўтра яны проста прыйдуць да яго, як ужо аднойчы прыходзілі. Чалавек, прыйшоўшы да якога месца, ужо не забываецца на яго, а бярэ і робіць з ім, што яму трэба. І лесавік пойдзе. Ён не ведае, куды, але пойдзе.

І тым не менш з дзяўчынаю, якую звалі Святланай, ён хацеў яшчэ раз сустрэцца. Канечне, уся справа ў тым, што ён адразу, з самай першай сустрэчы адчуў да яе незразумелую прыцягальнасць. Увогуле, ён і раней не чапаў, абыходзіў людзей, што шукалі ў лесе паратунку ад сваіх ворагаў ці назаўсёды ўладкоўваліся ў ім жыць. Людзі ўцякалі ад людзей не без дай прычыны, яны, значыць, адчайваліся знайсці сярод людзей спакой — волю. Гэтыя людзі бачылі ў лесе свой дом, яны і ставіліся да яго, як да дома, бралі ад яго роўна столькі, колькі ім трэба для сённяшніх патрэб,— лесавік пра іх заўсёды ведаў. Гэтыя людзі жылі непрыкметна — іхнія хаткі хаваліся ад чужога вока, поле, калі і было, здзіўляла мізэрнасцю, у хлеўчуках рэдка калі рыкала ці бляяла быдла. Гэтыя людзі часцей трымалі маўклівых, як і самі, сабак, і да людзей у іх адносіны былі ў многім такія ж, як і ў лесавіка. Часта тыя людзі — барадатыя, каржакаватыя, нячутныя ў хадзе і пільныя вокам — жылі бабылямі. Гэта таксама мірыла лесавіка з імі.

Бывалі яшчэ гады, калі ў лесавіковай пушчы асталёўваліся, запыняліся цэлыя людскія грамады. Недзе ў далёкім, невядомым лесавіку жыцці людзей успыхвала чарговая бойка, чарговая вайна, калі адны ішлі на другіх, калі займаліся ў селішчах пажары і пачынала адсвечваць барвовым на даляглядзе неба, калі пагрымлівалі ў палях нябачныя навальніцы і нават трэслася зямля,— тады ў пуш-

чу прыходзілі грамады злых, запаленых, галодных людзей, вочы ў іх блішчэлі, як у звяроў. Лесавік адразу бачыў, што ў пушчы яны часова. Позіркі іх былі скіраваны да поля, туды імкнуліся іхнія ногі, там было нешта, чаго гэтыя часовыя прагнулі больш, чым вады і хлеба, чым спакою на адзіноце. Аддыхаўшыся, непрытульна пасоваўшыся сярод дрэў, хутка гэтыя з новай ярасцю кідаліся ў поле і бясследна ў ім знікалі. Ім лесавік таксама ніколі не паказваўся — ды яны б і не зразумелі, не здагадаліся, хто ён такі. Гэтыя вандроўныя атрады пракочваліся па пушчы не тое што часта — але перыядычна. Міналася колькі спакойных зімаў і вёснаў, і яны прыходзілі, знаходзілі прыдатнага месца, спыняліся, залізваючы раны. Часта за імі гналіся другія людскія гурмы, больш моцныя і злыя, чым гэтыя, здараліся бойкі ў лесе. Лесавік уцякаў ад іх як мага далей, ён зусім не разумеў, дзеля чаго людзі забіваюць адзін аднаго. З-за кавалка мяса? З-за жытла? Здавалася, што і з-за гэтага... Ды ўсё ж лунала над тымі ваяўнікамі нешта такое, чаго лесавік не мог уцяміць ніяк. І тыя, што ўцякалі, і тыя, што гналіся, былі апантанымі, гэта яму было ясна. Аднак што іх зводзіла і звязвала ў адзін атрад — і што разводзіла па ваюючых баках, ён не ведаў. Яму нават здавалася, што гэтага часта не ведалі самі людзі. Кожны з людзей ведаў нешта сваё — і быў перакананы, што гэта ягонае разуменне адзіна правільнае. А сабраўшыся разам, дзесятак, сотня людзей знаходзілі нейкую праўду, правільную для іх усіх — і біліся за яе. З другога ж боку ім процістаяла іншая праўда, незразумелая гэтым і адзіная для тых. І яшчэ лесавік ведаў, што людзі любілі і ўмелі выдумляць.

Аднак пакрысе з дробных, невялікіх сутычак выраста- лі магутныя і ўсеахопныя, такія, якія завалодвалі бадай усім светам, зазнаўшы іх, лесавік адразу адчуваў сваю слабасць і мізэрнасць. Ён залазіў у самую глухмень і надоўга засынаў, нічога іншага яму не заставалася. І было яшчэ прадчуванне, што новая бойка, якая паступова недзе спее, расце — нехта ж ведае, дзе?! — будзе яшчэ страшнейшая, чым папярэднія, і без таго неверагодныя і жудасныя. Але гэта было ўжо з таго, што лесавіку не дадзена. І, мусіць, не толькі лесавіку, а і мноству людзей, можа, ім усім.

Лесавік ужо не заходзіў далёка ў лес, не зашываўся ў гушчар, не хаваўся на сваім азярцы,— ён сачыў за дзяўчынай. Апошнія дні, праўда, дзяўчына не паказвалася ў

лесе, нeяк аддалялася ад яго, хадзіла з вёскі ў вёску, быццам нешта ці некага шукала. Да таго ж, цяпер побач з ёй заўсёды быў мужчына — і лесавік яго ведаў.

Гэты чалавек з'явіўся ў тутэйшых лясах тры зімы назад. Лесавік, канечне, ведаў пра лясы, якія людзі забіралі для сябе. Ведаў і не любіў у іх бываць. Там раўлі машыны, трашчалі дрэвы, мітусіліся людзі,— лесавіку ў тых лясах рабіць не было чаго. Але калі-нікалі ён усё ж падыходзіў да высечак — ужо спустошаных, закінутых, лес быў паваленыі вывезены, паўсюль тырчалі пні ды грувасціліся кучы гнілога сучча і трэсак,— і глядзеў. Чорныя, аголеныя пні зацягвала густым дзікім кустоўем, якое пераплятался, слалася па зямлі, душыла самога сябе. На парытай гусеніцамі і коламі зямлі дзе-нідзе бралася трава. Налятаў парывісты вецер, прыгінаў вярхушкі кустоў, пасвістваў у пнях-вываратнях, што задзіралі высахлыя рукі-карэнні ў неба. Людзі рэдка вярталіся на такія высечкі, яны ссякалі лес на новых дзялянках, і лесавік таксама адчуваў сябе тут лішнім. Памагаць тут ужо не было каму.

Чалавек, які з'явіўся побач з яго дзяўчынай, быў тым, хто прыходзіў на высечку першым і ішоў з яе апошнім. Сам ён пілу ці сякеру ў руках не трымаў, але яго слова было галоўным. Лесавік адразу прыкмеціў яго, бо гэты чалавек, як і ён, жыў з лесу. Увогуле, лес чалавеку патрэбен быў заўсёды, таму і прыходзілі людзі, карчавалі, секлі, выпальвалі, ставілі хаты і адгароджвалі іх ад лесу. Лесавік ведаў, што гэтыя людзі не лічылі лес нейкім сваім ворагам, яны нават высаджвалі дрэўцы, аднак часцей пасля іх усё ж заставаліся высечкі. Як і ўсе астатнія, гэты чалавек быў рашучы, умелы, адрозніваў хворае дрэва ад здаровага і спелы лес ад падросту. І ўсё ж лесавік не любіў сустракацца з гэтымі людзьмі, і не так, канечне, з імі, як з іх высечкамі.

Здаралася, лесавік наведваў і лесапасадкі, якія з'яўляліся побач з высечкамі. Людзі быццам абдумваліся, што лесу застаецца мала, і на расчышчаных дзялянках саджалі дрэўцы. Зямля густа і роўна ўтыкалася саджанцамі, яны хутка ішлі ў рост. Адзін такі ельнік, каля Гаравацiцкага балота, накрыў сабой зямлю, як коўдраю. Елкі стаялі сцяной, іх галлё цесна змыкалася, не прапускала ў сярэдзіну нікога, і калі б хто з людзей захацеў туды ўбіцца — не здолеў бы. Елкі раслі сціснутыя з бакоў, яны выдавалі пляскатымі, і іх ужо было не выправіць. Лесавік ведаў,

што дрэўцам у такой цеснаце расці нельга, яны не ўвойдуць у моц, мусіць, ведалі пра гэта і людзі — але нічога не рабілі.

Гэтыя двое людзей — жанчына, якая бачыла лесавіка, і мужчына, што нават і не здагадваўся пра яго — сустракаліся амаль штодня. Лесавік ведаў пра кожны іх крок, ён сачыў за імі, калі і не назіркам, то слыхам. Людзі гаварылі не толькі пра сябе, але і пра яго. Ва ўсякім разе, дзяўчына ніколі не забывалася пра гаспадара лесу. І яна хацела яго бачыць. Памалу лесавік усё зразумеў. Гэтыя двое сустрэліся ў яго лесе зусім нядаўна — і адразу пацягнуліся адно да аднаго. Яны ў многім былі падобныя — і столькі ж у іх было рознага. А аб'ядноўваў усе іх думкі і пачуцці лес, не толькі гэты лес, дзе яны ўбачыліся, а лес увогуле. І няхай мужчына і дзяўчына разумелі лес кожны па-свойму, але яны жылі ім. Лесавік прыслухоўваўся.

Дзяўчына распытвала мужчыну пра лесавіка — і той не разумеў яе, паціскаў плячыма, расказваў пра леснікоў, што жывуць на хутарах. Дзяўчына засмучана ўздыхала. Але так і павінна быць — далёка не кожны чалавек можа ўбачыць яго, ляснога гаспадара. У мінулыя часы гэта ўдавалася вельмі нямногім, а цяпер і гаварыць няма чаго, ён ужо і не помніць, калі такое было.

Лесавік слухаў.

«Не ведаю, як яно раней,— гаварыў мужчына,— а цяпер з лесу мала хто пражыве. Ну вось закінь чалавека ў глухамань, ды ў такую, каб чалавекам там і не пахла. Што ж ты думаеш, ён будзе ведаць, як упаляваць звера? Грыб, можа, і знойдзе, а зайца яму ні за што не злавіць. Нават стрэльбу дай, і то наўрад ці заб'е. Зайца знайсці, трэба высачыць. І птушкі на кожным дрэве не сядзяць, глушцы з рабчыкамі. Цяпер тыдзень будзеш па лесе хадзіць, пакуль глушца найдзеш. Зводзяцца».

«А чаму зводзяцца? Як ты думаеш — чаму?» — перабівала яго дзяўчына.

«Ты што, маленькая?.. Не ведаеш, што паўсюль меліярацыя ідзе, на палі ўгнаенні высыпаюць? Ты вось зайдзі каля пасёлка ў лес і паслухай. Цішыні, я табе адразу скажу, не пачуеш, а машыну — калі ласка. Твой глушэц побач з трактарам жыць не будзе. А куды мы без трактараў?»

«Так хутка лесу зусім не застанецца. Хутка ўвесь высечаш».

«Ну, мае лесасекі яшчэ далёка адсюль. Ды і мая справа

якая — глядзець, каб работа была наладжана, каб не прастойвала тэхніка, каб план, канечне, у першую чаргу з мяне план пытаюць, а не глушцоў. Для іх паляўнічыя заказнікі ёсць, няхай там разводзяць».

«А я думала, што ты таксама павінен за глушцамі глядзець, каб іх больш было. А вам план толькі па лесасеках даюць?»

«Планаў у мяне столькі, што ў шуфляды стала не ўлазяць. Не паспееш адзін прачытаць, як ужо новы шлюць. А справаздач колькі пісаць трэба!.. Але ёсць адзін галоўны план, і вось калі яго не выканаю — ніякія пасадкі не ўратуюць. Разумееш? Кубатура!»

«А я вось ведаю, што прырост драўніны за год павінен удвая перавышаць аб'ём высечак. Правільна?»

«Ды гэта кожны ведае... У некаторых лясах вунь зусім высечак няма. А ў мяне, між іншым, адзін з буйнейшых лясгасаў, і план адпаведны. Ды і не сяку я ўвесь лес пад корань. Усё робіцца па-разумнаму».

«Па-разумнаму?! І гэта ты называеш па-разумнаму?»

«Прызначылі мяне галоўным інжынерам, пачаў я знаёміцца са спісамі работнікаў. Гляджу, адзінка інжынера па ахове. Грошы, здаецца, ёсць, а чалавека, які робіць гэтым ахоўнікам, не магу знайсці. Пытаюся ў дырэктара — хто гэта? Той адмахваецца — адзінка як адзінка, інжынерская. Потым прызнаўся, што пад гэту адзінку ён таму-другому з інжынераў па эксплуатацыі зарплату дабавіў. «У мяне што,— гаворыць,— запаведнік, Белавежская пушча? Лес сячэм — і лес стаіць, нічога з ім не робіцца. На нас яшчэ хопіць». Паабяцаў, што ўзновіць адзінку, аддам, гаворыць, а то вы мяне з'ясце, бухгалтар такі ж уедлівы, як і ты. Так што можаш афармляцца да нас на работу, вазьму. Якраз для цябе — інжынер па ахове...»

«Так, усё робім па-разумнаму,— стаяла на сваім дзяўчына,— а Чырвоная кніга ўсё дапісваецца. Нават першацветы, пралескі з званочкамі, туды запісалі, не тое што зубра ці беркута. Між іншым, там, дзе жыве вельмі рэдкі від, хоць той жа беркут, трэба забараняць гаспадарчую дзейнасць. А я ўчора чорнага бусла бачыла. Ён таксама рэдкі, у Чырвонай кнізе».

«Забараняюць, і без цябе ёсць каму забараняць... Слухай, а вось рашылі мы пажаніцца... Ну, я гэта проста так, для прыкладу. Трэба нам пабудаваць хату. Дык яе з дрэва давядзецца ставіць, і з добрага дрэва, каб яна стаяла, як звон! Кожнай сям'і патрэбна такая хата, што ж мы, горш

за нашых дзядоў? У хаце з бярвенняў самыя здаровыя дзеці нараджаюцца, гэта табе любая бабуля скажа. І дровы ў лесе ўзяць трэба, чым печ паліць будзеш? Людзі заўсёды з лесу жылі».

«Жылі, ды не так, як зараз. Я запомніла — за апошнія сто гадоў зніклі семдзесят відаў раслін, зусім зніклі, бясследна. З другой паловы нашага стагоддзя вымірае адзін від у год. А дыназаўры выміралі цэлую тысячу гадоў...»

«Ну во, ужо і дыназаўры пайшлі,— смяяўся мужчына.— Нічога, мой дзед гаварыў: жылі і жыць будам. Чорныя буслы яшчэ лётаюць? Лётаюць. Вунь у суседнім раёне, мне на нарадзе расказвалі, зубра выпадкова стрэльнулі. Дык адсюль да Белавежы дзвесце кіламетраў. Што ж ён, спецыяльна сюды прыбег, каб на кулю нарвацца? Рассяляюцца, значыць, жывуць, дарма што ў Чырвонай кнізе».

Яны спрачаліся аб лесе, і іхняя спрэчка лесавіку была зразумелая. Людзі таксама бачылі, што ўсё меншаюць лясы, іх ужо не хапае. І некаторых з людзей, тую ж дзяўчыну, гэта не толькі здзіўляла, а і трывожыла. Лесавік адчуваў розніцу паміж гэтымі дваімі і яшчэ ўважлівей прыглядаўся і прыслухоўваўся да іх, асабліва да яе, дзяўчыны. Ён бачыў, як яна рвалася ў лес, і не проста ў лес, а да яго. Аднак пакуль што не ішла, нешта ёй замінала, нешта затрымлівала.

Сёння дзяўчына раптам накіравалася ў вёску, якую лесавік добра ведаў, таму што яна была самая блізкая ад цяперашняй яго схованкі. І лесавік без сваёй ахвоты, быццам яго хто пагнаў, паваloкся следам, не пайшоў, а якраз паваloкся. Ён быў ужо не вольны выбіраць сабе дарогу. Дзяўчына ішла ў вёску, следам цягнуўся лесавік. Ён стараўся трымацца падалей, дзяўчына яго не павінна была адчуваць — і ўсё ж азіралася. Можа, ён перастаў ужо разумець людзей? Людзі ж не адчувалі і не бачылі яго, калі ён не хацеў гэтага,— дзяўчына азіралася.

Лесавік уладзіўся на старым дубе недалёка ад вёскі. Сярэдзінаю дня вёска выдавала прыснулай, хаты моўчкі глядзелі пустымі вокнамі, застаўленымі вазонамі, сярод іх амаль не мільгалі твары дзяцей ці старых. Дзяўчына спынілася каля студні з жураўлём, напілася з прычэпленага вядра вады — і тады толькі ўбачыла старую, якая выйшла з недалёкай хаты. Яны загаварылі — і лесавік зразумеў, чаму дзяўчына прыйшла ў вёску. Як гэта ні дзіўна, але яна тут шукала яго, лесавіка.

«Цудоўны тут у вас лес»,— сказала маладая.

«Харошы лес, спелы,— ахвотна падхапіла бабуля.— А быў найсамы. З небам гаварыў, во які быў лес! Зойдзеш, бывала, і не знаеш, як выйсці. Куды ні кінешся, усюды лес. А там, за рэчкаю, балоты былі. Увесну ці ўвосень і не думай туды патыкацца. Людзей, якія на балотах жылі, у нас махавікамі звалі. Дык ужо ні балот, ні махавікоў няма. Раней туды па журавіны хадзілі...»

«Паглядзець бы на той даўнейшы лес...»

«Ай, дзетачка, і зараз як зайдзеш, то ўсяго пабачыш. Лес ён заўсёды лес. А знаеш, чаго ў лесе ніхто не бачыў?»

«Што?!»

«Як папараць-кветка цвіце і як арэх! Колькі ні будзеш шукаць, а іхнія кветкі не найдзеш. Хавае іх ён. Калі папараць-кветку раскапаеш, то лес ужо не будзе лесам. Вунь і зараз у ім многа чаго няма. Русалкі звяліся. Даўней, як людзей мала было, яны скрозь па лесе бегалі, толькі чутна: гу ды гу! Адзін і не выйдзеш з лесу — зашлакочуць! Іх многа было, бо зямля была нямераная. А русалка ж цераз мяжу перайсці не можа. Зараз вунь усюды межы, таму і звяліся. Як зямля перамераная, то яны не жывуць».

«Папараць-кветку ўсё роўна ўбачыць хочацца...»

«Яно так. Ты, можа, і ўбачыш, а я ўжо не. Кажуць: думы за морам, а яна за плячыма. Прыйдзе той нявеглас ды скажа — хадзі! І мусіш пайсці, не ўцячэш».

«Бабуля... а вы калі-небудзь бачылі ляснога?.. Таго, што ў лесе жыве?»

«Каго?..— разгубілася старая.— У лесе?.. У лесе многа каго ўбачыць можна... Неяк, даўно ўжо, яшчэ як дзеўкай была, хадзілі ў маліны, во сюды, у Тамашэўскі лес. Збірайма, я адышла трохі далей, раптам чую — нехта ў кустах трашчыць ды смокча. Глянула — ды як рыну наўцекача!.. Крычу: «Дзеўкі, мядзведзь!..» Яны ад мяне, ды пішчаць, ды вішчаць! Во як пералякаліся!»

«Не, я не пра мядзведзя. Вы ведаеце, пра каго... Ён у лесе жыве».

«У нас тут адзін жыве, дык пра яго і гаварыць не хачу. Паганы чалавек, супраць ночы лепш не памінаць... З нашай вёскі, але такі, што нават свае дзеці адвярнуліся. Я яшчэ малая была, калі ён тут з людзей здзекаваўся. Паставілі яго старшым — а гэта так даўно было, што мала хто памятае ўжо,— і ён так пачаў да людзей настырацца, з хат выганяў, во як! Ды пасля і на яго ўправу знайшлі,

самога скінулі, і ўсё, што пахапаў, забралі. І доўга потым не было яго, ужо і забыліся. А ён нядаўна прыехаў і не пайшоў на вёску, да людзей, а ў дубах за гаццю абсеўся, зрабіў нару сабе і жыве. Людзі туды і хадзіць баяцца. Нелюдзь, як ёсць нелюдзь! Кудлаты ўвесь, вочы страшныя, агнём гараць. Ведама, добры чалавек у лесе жыць не будзе. А гэты і да сваіх дзяцей ніколі не зайдзе, толькі іншы раз у краму».

«Як гэта чалавек у лесе адзін жыве? Быццам пустэльнік... Можа, які святы?..»

«Святы?! — аж заплявалася старая.— Ён з такіх святых, што пад зямлю правальваюцца. Раней гаварылі, што ўсякае паганства з гэтага свету сыходзіць у Ерафееў дзень, як змеі. Вось і ў гэтага душа, мусіць, пайшла... Яйбогу, яго і нявеглас забіраць не хоча, жыве, і нічога з ім не робіцца... Ён чалавека забіў!..»

«Чалавека?!»

«Не, і гаварыць не хачу пра гэтага нелюдзя. Не хадзі да яго, не трэба. Яшчэ наўрабляе чаго, гаварылі ж, што ў яго вока паганае».

«А я і не ведала, што ў лесе калдун жыве».

«От дурная, нашто я сказала!.. — забедавала старая.— Не хадзі, у мяне сэрца неспакойнае будзе. Плюнь на яго, нашто табе, маладой, красівай, да таго хлуда... Як ёсць вядзьмак, карачун... Я і дарогі не скажу!»

«Найду! — засмяялася дзяўчына.— У дубах, за гаццю».

«Я лепей табе пра ляснога дзеда скажу,— рашылася старая, азірнулася па баках.— Зараз пра іх і не ўспамінаюць, а калісьці многа гаварылі. Мне бацька расказваў, я малая была, а помню. Пагнаў бацька з чалавекам адным тавар пасці... тавар, гэта каровы, як па-правільнаму. Стаміліся ўжо, за полудзень было, лёг пад кустом — і раптам чалавек той бяжыць. «Хадзі,— крычыць,— паглядзі, што робіцца!» Выбеглі яны, аж бачаць — ідзе па бары лясны, галавой вышэй над соснамі, а перад ім выскокваюць на паляну вавёркі, зайцы, сарны і ўсякія другія звяры, ды так багата, аж у вачах мігціць. І птушкі розныя ляцяць, як хмара! Лясны гэты выходзіць так во з лесу, меншае ў малога карлу, і адразу з поля і з лугоў падымаюцца матылі ўсякія, і як бы цемра закрыла ўсю ваколіцу! Дык во гэта ён быў, ніхто яго не бачыў, а бацьку давялося. Такі во лясны гаспадар».

«А цяпер яго ніхто не бачыў?»

«Не, цяпер ніхто. Можа, пайшоў ён. Цяпер у лесе не

так многа звяроў, дык яму глядзець няма каго. А можа, дзе і ёсць... Увесь свет-мір не пройдзеш, не пабачыш».

Лесавік варухнуўся, дуб затросся, зарыпеў — аказваецца, людзі ўсё яшчэ помнілі пра лесавіка. Ён у яму-прорву сабраўся, а яны помнілі... Значыць, не зусім пайшоў ён з іх жыцця, і справа не толькі ў тым, што сам лесавік перастаў паказвацца ім на вочы. Людзі даўно не бачылі яго — а помнілі. Няхай не ўсе, няхай толькі гэтая старая, але раз ёсць яна, ёсць і другія. Канечне, усе гэтыя расказы пра сябе лесавік успрымаў як гісторыі пра некага іншага, ён проста не пазнаваў сябе ў іх. Але гісторыі хадзілі па вёсках — і сёння ён пачуў яшчэ адну. Можа, хаваючыся, уцякаючы ад людзей, ён не заўважыў у іх новага, таго, чаго раней не было? Можа, чалавек раптам зірнуў на лес зусім другімі вачыма?.. Праўда, лес як ссякаўся, так і сячэцца. Але вось з'явілася ж у ім дзяўчына, якая не хоча, каб яго секлі...

Зараз лесавік не пайшоў за ёй, ён ведаў, што дзяўчына накіравалася дахаты. Лесавік зноў успомніў, што праз два дні купала.

Перадкупальскай парою лесавік заўсёды адчуваў, як у яго з'яўляюцца новыя сілы, у гэтыя дні ён мог больш, чым заўсёды. Зараз яму таксама захацелася зрабіць штосьці незвычайнае, і нават зрабіць не для сябе. У яго ўжо не-не ды мільгала думка пра тое, каб дзяўчына, што завалодала ім, не проста яго аднойчы ўбачыла, а і запомніла назаўсёды. Думка мільгала спачатку прывідам, потым пачала акрэслівацца, набываць больш выразныя абрысы — і вось паўстала. Ён даўно, вельмі даўно ўжо не бачыў купальскіх каменняў, запаленых магічным святлом месяца ў адну-адзіную летнюю ноч. І ён пройдзе па сваіх уладаннях, рэштках сваіх уладанняў, магчыма, апошні раз паглядзіць на тыя непаўторныя каменні — і адзін з іх падорыць той, што яго бачыла. Думка набыла плоць.

А пачалася ўжо ноч, і заставалася яму яшчэ адна ноч да той, калі павінны запаліцца ўздоўж ягоных рэк вогнішчы, павінны выбухнуць у зорнае неба мірыяды вогненных парушынак, павінны зачапіць іх на імгненне, працяць целы сыноў і дачок купалы, што скачуць вакол вогнішчаў, бо пакуль ёсць гэтая зямля — ёсць і купала з дзецьмі. Так яму здавалася, хаця купальскія вогнішчы ў пушчы ўжо амаль не запальваліся.

Спярша лесавік завітаў да Касцерскага балота, вялікай нізіны, парослай чэзлым, нягеглым кустоўем. У чаратах і

трыснягу на гэтым балоце заўсёды вяліся плоймы кулікоў, чаек, качак-свіязяў, лысух, крыжанак, шылахвосцяў, ныр-цоў, крычалі кнігаўкі, бугаі, удоды, раскланьваліся ў перададлётных скоках журавы, самотна горбіліся на чыстай і плыткай вадзе чубатыя чаплі — і панавалі ў гэтым птушыным княстве белыя буслы. Сярод буслоў вельмі рэдка сустракаліся чорныя, як вугаль — гэтыя тут лічыліся за вялікіх князёў. Балота сваю назву ў людзей атрымала ад касцера — так гаварылі пра хмары мошак, што з цяплом абляплялі ўсё жывое з адным толькі намерам — піць кроў. Мошкі залазілі ў валасы, рот, нос, вочы, вушы, даймалі аднолькава людзей і звяроў. Звяры ратаваліся ад іх у вадзе, заходзілі ў яе па самыя вушы, людзі, што жылі ў рэдкіх вёсках ускрай усяго балота, разводзілі дымы. Дымелі сырыя вогнішчы, курэлі бляшанкі з анучамі — мошкі ўсё адно заядалі. Наогул, людзі тут жылі як на нейкіх астравах, самым неабходным былі ў іх чаўны і лодкі. Але і рыбы ў балотных жыхароў было таксама, як мошак у вільготным і цяжкім паветры. Рыба скакала па паверхні старыкаў, захрасала ў сетках і шчамілася ў нераты, зашывалася ў кошыкі з сенам, кішма кішэла ў ямках і канаўках, што заставаліся па веснавой паводцы, шмат яе было і ў місках на стале. Рыбу парылі, запякалі, смажылі, варылі, сушылі, вэндзілі, пясок у дварах быў папалам перамешаны з рыбнай лусткой. З гэтай лускі варылі клей, з яе ж рабілі жамчужны пат, якім фарбавалі пацеркі і пярсцёнкі. На пясчаных мелінах невялікіх рэчак, што выцякалі з балота, сёй-той з мясцовых майстроў збіраў ракавінак-жамчужніц; тутэйшыя гузікі з маціцы былі вядомы далёка па-за межамі Касцерскага балота. Адным словам, вада і толькі вада вызначала жыццё балотных людзей. Аднак галоўнага багацця Касцерскага балота людзі пакуль не ведалі. Пад дрыгвой было каменнае дно, і не проста каменнае — з граніту. Тоўсты гранітны пласт цягнуўся далёка, займаў ладны кавалак пушчы, і каб над ім не разлягалася багна, людзі яго даўно знайшлі б. Лесавік ведаў, што з гэтай знаходкаю пушча пачала б чэзнуць намнога хутчэй, чым зараз, і баяўся, вельмі баяўся чужых людзей на балоце. Пакуль ратавала толькі тое, што граніт нідзе не выходзіў да сонца, яго яшчэ ніхто не бачыў. Лесавік і раней прыходзіў да невялічкага астраўка на балоце. Тут гранітная парода была зусім блізкая да паверхні. На паўночным баку астраўка адзін з берагоў прасядаў ніжэй, чым усюды, улетку вада падсыхала — да каменнай тоўшчы можна

было лёгка дабрацца. Лесавік, як заўсёды, крыху адагнаў ваду, затрымаў яе запрудаю, адсунуў крыху зямлю — і спыніўся перад суцэльнай шызай сцяной, што ішла глыбока і далёка. Каменнае зерне было аднародным, таму, мусіць, камень уражваў сваёй шчыльнасцю. На сонцы сцяна паблісквала, патыхала ад яе холадам абыякавасці і магутнасцю, яна зачароўвала. Лесавік перад ёй мог сядзець доўга, аднак сёння не захацеў. Ён акуратна закідаў гэты выхад зямнога касцяку торфам, пачакаў, пакуль набяжыць вада, агледзеўся — астравок па-ранейшаму выдаваў звычайным, на ім не было нават дрэўцаў, раслі толькі рэдкія вербалозы. І добра. Чалавек сюды не прыйдзе. Няма чаго яму тут рабіць.

На поўначы, там, дзе калісь была другая пушча, а цяпер ляжала поле, людзі таксама знайшлі падземны гранітны пас. Яны адразу раскалупалі вялізны кар'ер, некалькі кар'ераў, пачалі высякаць са сцяны камлыгі і некуды вывозіць іх. Але высякаць вялікія кавалкі было, мусіць, цяжка, гэта займала шмат часу, хуткацечнае ж жыццё людзей вымагала паспеху — цяпер там грымелі частыя выбухі. Людзі драбілі, трушчылі камень, зграбалі шчабёнку, што рассыпалася пасля выбухаў, везлі і высыпалі яе на дарогі. Дарогі для людзей былі намнога важнейшыя, чым палацы і будынкі з гранітных камлыг. Амаль усе дарогі, што праціналі лесавіковую пушчу і аблямоўвалі яе, былі з гранітнай крошкі, лесавік, выходзячы да іх, не мог надзівіцца чалавечай учэпістасці і ўмельству.

Лесавік мог паказаць гранітную сцяну дзяўчыне, мог завесці яе да вострава і паставіць перад шызай стромай, што падала далёка пад зямлю — але ці здолела б яна пабудаваць з гэтага каменя сабе хату? Мусіць — не. Былі б, мусіць, кар'еры, былі б выбухі, шчабёнка, машыны, людзі, зноў выбухі і шчабёнка,— не засталося б Касцерскага балота і самога касцера.

З балота лесавік пайшоў. Ён узяў накірунак на ўсход і памчаў так хутка, як толькі мог. Ісці, бегчы, ляцець — ніводнае з гэтых слоў лесавіку не падыходзіла, дакладней, ён мог і прабегчы, і праляцець, але было і яшчэ нешта, чаго б ні людзі, ні ён не растлумачылі — трэба было далёка. На адным з узлескаў, нават ужо не пры лесе, а ў полі, бо лес і тут паволі адступаў, на чыстай прасторы гарбаціўся ланцуг грудоў. Груды былі надзвычай даўнія, старыя, іх абгладзілі вятры, абмылі дажджы, высушыла сонца, груды ўжо не па-маладому вытыркаліся з зямлі,

рэзка і з выклікам, а як бы выраслалі з яе, плаўна ўзвышаліся і гэтак жа плаўна ссоўваліся. На вяршынях яны былі лысыя, за скамянелую зямлю амаль не чапляліся трава і дрэўцы, ля падножжаў кашлаціліся вузластыя і надзіва моцныя, хаця і невысокія, кусты. Час як бы сцёр гэтыя груды, ад іх засталіся адно няпэўныя абрысы. Пад самым вялікім з грудоў, сярэднім у ланцугу, лесавік ведаў камяня, якога людзі называлі алмазам. Алмаз гэты быў не адзін, струменьчык такіх каменьчыкаў, праўда, драбнейшых за гэты, як бы цёк з зямных глыбіняў. Алмаз даўно быў заўважаны лесавіком як самы вялікі. Маленькія каменьчыкі-кропачкі быццам выштурхоўвалі свайго большага і прыгажэйшага брата да зямной паверхні, быццам хацелі пахваліцца — вось ён, князь каменняў, глядзіце, кленчыце, ніцма падайце перад ім, узносьце хвалу і славу яму, дзівіцеся і запамінайце, каб расказваць пра яго пекнасць па ўсім свеце. І пакуль што, дзякаваць богу, ніхто не застываў перад ім, не камянеў, ніхто не шклянеў вачыма і не засынаў розумам, ніхто не закрываўся сэрцам да ўсяго свету, таму што камень гэты якраз і быў той звадаю, за якой чалавек часта ідзе і нікуды не прыходзіць. Камень як бы зводзіць большасць людзей, якія ім валодаюць, у іншы свет, робіць іх незразумелымі і чужымі для астатніх — і яны знікаюць. Моц у каменя была таямнічая і вялізная. Праўда, людзі, знайшоўшы гэтага каменя, ніколі не пакідалі яго такім, як ёсць — яны навучыліся аграньваць яго такім чынам, што камень адразу пераражаўся, пачынаў «гуляць». Прамень святла, трапіўшы на адну з граней брыльянта — а было іх трыццаць дзве на каронцы, зверху, і дваццаць чатыры на павільёне, у дольнай частцы, раптам востра калоў вока, і ўспышка магла быць ад нябесна-блакітнай да палымяна-чырвонай. Здавалася, што камень гарэў дзівосным агнём, і глядзець на яго было цяжка, хацелася заплюшчыць вочы ці закрыць іх рукой — і зрабіць гэта было нельга. Стагоддзямі чалавек шукаў камені, стагоддзямі вучыўся іх граніць, ён купляў іх і прадаваў, хаваў, краў, насіў, упрыгожваў імі самае дарагое, што ў яго было — святыя абразы, жанчын, вопратку, зброю, забіваў за іх і быў забіты,— і шчасця гэты камень амаль нікому не даваў. Ён мог ахоўваць і бараніць чалавека толькі тады, калі яго дарылі, не прагнучы ўзамен ніякіх выгод; такое здаралася вельмі рэдка. Лесавік гэта ведаў добра — усё ж побач з людзьмі ён жыве, не з імі, але побач.

Лесавік, здаралася, знаходзіў у пушчы такія апрацаваныя чалавечай рукой камені, знаходзіў на забітых ці побач з забітымі, але ніколі іх не чапаў. Чалавечае — чалавеку.

Выклікаць з зямлі камень, звычайны камень, не крануты нікім і нічым, справа была няпростая. Але зараз усё гэтаму спрыяла — ляжала месячная ноч, блізка зусім нікога не было, і лесавік адчуваў лёгкае паколванне ў пальцах рук і ног і ў скронях, мурашкі беглі нават па ўсёй скуры. Камень адразу пайшоў да яго рук, як бы чакаў поклічу. Але цяжкасць была ў тым, што камень сядзеў у кавалку горнай пароды, людзі яе звалі кімберлітам, і лесавік ніколі не спрабаваў адкалоць яго, алмаз з кімберлітам як бы зросся. Лесавік адчуваў, як падавалася пад яго націскам глеба, рассоўвалася — і вось пясок пад нагамі заварушыўся, з невялікай варонкі, як жывы, вылез не надта вялікі, з лесавікоў кулак, кавалак пароды. У чорным з сіняватым і зеленаватым адценнем абломку свяцілася дзівоснае вока. Лесавік нейкі час паўглядаўся. Зараз камень падаўся яму часткаю празрыстага дню, дню, які вечна стаяў над гэтай зямлёю. А раней ён бачыўся яму месячнай ноччу. І безданню нябёсаў. І рачной вадой. І промнем сонца на зялёным лісці. І першай краскаю ў халоднай свежасці вясны... Але зараз яму здалося, што гэта якраз самы чысты з восеньскіх дзён зменшыўся да памераў зоркі на небе і схаваўся ў зямлі, каб ніхто і нішто ўжо не магло яго запэцкаць.

Лесавік узяў абломак з алмазам у рукі. Так, гэты празрысты камень быў неверагоднай рэдкасцю. Людзі, якія жылі тут, якія праходзілі праз лесавіковую пушчу, не маглі нават і падумаць, што ў гэтай зямлі ёсць алмазы. Яны ёсць у Індыі і Бразіліі, у Афрыцы і Сібіры — тут іх быць не магло. Людзі, на лесавіковае шчасце, ведалі яшчэ вельмі мала. Яны не здагадваліся пра застылую белую і жоўтую смалу, бурштын, яны верылі, што смалу можна знайсці толькі на берагах салёнага мора. У пушчанскай зямлі бурштыну ж было вельмі шмат, бо калісьці над ёй спявала мора. Людзі не ведалі пра сінюю, як хвалі далёкіх цёплых мораў, бірузу — яна была. І было яшчэ шмат. Лесавік трымаў у руках камень, за валоданне якім людзі маглі б аддаць палову свайго жыцця і шмат чужых жыццяў, не такіх каштоўных. Гэты камень рабіў шчаслівым і адначасна няшчасным. Лесавік ведаў, што многія людзі, завалодаўшы гэтым каменем, хутка гінулі.

І ён усё ж хацеў падарыць яго светлавокай дзяўчыне. Чаму? Гэтага ён зараз не ведаў.

Камень пакуль што не гарэў — проста зацягваў у сваю бяздонную і прахалодную глыбіню.

Дарога назад заняла многа больш часу, чым дарога сюды. Але ў гэтым не было нічога дзіўнага — лесавік стаміўся. Ён наогул стамляўся пасля такіх вось вандровак, і асабліва апошнімі часамі. Ды і то сказаць — не маладзён ужо. Зноў жа, абыходзячы людскія дарогі, вёскі і гарады, так накруцішся, што неаднойчы адпачыць сядзеш. Тут і малады язык высуне. Лесавік ішоў і яшчэ раз адзначаў — шмат у якіх месцах былая ягоная пушча выдавала суцэльнай вёскаю, маленькія вёскі неўпрыкмет пераходзілі ў вялікія, тыя ў сваіх суседак, і так аж да горада; канец іх быў далёка. І гледзячы на гэтыя вёскі, ён зноў падумаў, што і сам чалавек вельмі памяняўся разам са сваім жытлом, чалавек быў ужо вельмі мала падобны да таго, якога лесавік ведаў раней. Як жыў той, знаёмы лесавіку чалавек? Першыя пеўні — поўнач, другія пеўні — пара ўставаць, трэція пеўні — пярэдсвет. Дзе тыя пеўні, дзе той чалавек? Так, нават пеўні скруціліся і крычалі не ў час, яны ленаваліся крычаць, бо мала хто іх слухаў. Той, ранейшы чалавек, верыў у нябесныя і зямныя прыкметы, верыў у сонца і месяц, у вецер і дождж. Маладзік рогі задраў — на пагоду. Маладзік умываецца — то будзе негадзь. Жаўранак прылятае на прataліну, шпак на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом. Калі зязюля закуе на голае дрэва — то будзе голад. Зіма — ліха, а без зімы яшчэ горш. Для таго чалавека амаль усе гэтыя прыкметы спраўджваліся, цяпер жа было не тое. Цяпер па старых прыкметах рэдка калі можна было ўгадаць надвор'е ці прадказаць ураджай, ды і прыкметы гэтыя ўжо мала хто ведаў. Людзі пазіралі толькі наперад, у іх не было часу паглядзець на тое, што ляжала пад нагамі — і яны лёгка пераступалі. Людзі ў сваёй большасці ляцелі вобцас, забыўшыся, што кажан ведае, калі выбіраецца, ды не ведае, калі вернецца. А яшчэ бацькі цяперашніх маладых гаварылі: чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу. І шмат каму з тых, хто бег, быў самы час спыніцца і паглядзець — а ці застаўся іхні Нёман? Бо і Нёман мог знікнуць, як тая пушча.

Мінаючы Дрыгавіцкі лес, лесавік не ўтрываў, завярнуў да адной з ямаў-прорваў, якая хавалася ў такой непралазнай глухмені, што чалавечае вока ніколі ў яе не за-

зірала. Пра гэтую яму лесавік успамінаў, калі людзі з асаблівым імпэтам накідваліся на пушчанскія лясы і балоты, калі зганялі яго чарговы раз з абжытага месца. Уволуле, лесавік трымаў гэтую схованку на самы крайні выпадак — і не любіў яе. Чорная, затхлая вада, якую вартавалі таксама чорныя, напаўмёртвыя дрэвы, яго не вабіла, ён думаў пра гэтую яму-прорву як пра нешта вельмі далёкае. Самае галоўнае — тут не патыхала жывым. І лесавік мясціўся на азярцы, да якога ў любую хвіліну маглі прыйсці людзі, драмаў на дрэве, таксама адкрытым любому воку, і не ішоў да ямы, хаця якраз тут ніхто б яго не патрывожыў. Калі на тое — гэта быў лесавікоў капрыз. Ён праціснуўся паміж аслізлых зеленавата-чорных дрэў, асцярожна ступіў на некранутыя гразкія берагі ямы, зазірнуў уніз. Яма маўчала, адно ледзь улоўна пакалыхваўся над вадой, тоўста засыпанай парахнёвым пылам, прыцемак. Шэрая бясколерная плеўка не прапускала ніякага бляску, і не верылася, што пад ёй можа быць жывая вада.

Не, хоць і надзейна схаванае гэта месца, хоць чалавекам тут не пахла ніколі — заставацца на ім не хацелася. Лесавік выбраўся да святла, абтросся, быццам штосьці да яго прычапілася — ці парахня, ці бросня, ці павуцінне,— і з палёгкай пашыбаваў далей. Лесавік асцярожна нёс абломак з алмазам і раз-пораз падносіў яго да вачэй. Празрысты камень, неверагодна цвёрды і халаднаваты, нагадваў шчыліну-вочка, праз якую можна было зазірнуць у невядомы свет. Лесавік думаў пра тое, што людзі, сутыкнуўшыся з гэтым каштоўным каменем, па-рознаму, мусіць, убачаць яго і па-рознаму да яго пастаяцца. Так было заўсёды. Некаму ён раптам убачыцца каменем, які нарадзіўся ў зямлі толькі для яго і ні для каго больш, толькі ён, сын адной жанчыны і аднаго мужчыны, варты гэтага каменя, толькі ён бачыць і разумее яго прыгажосць, яго бляск, яго гульню; усім жа астатнім гэты камень здаецца нейкім кавалкам шкла без усякай адметнасці, астатнія сляпыя і дурні, таму іх можна адштурхнуць, ашукаць, стукнуць, забіць. А нехта, зірнуўшы на каменя, раптам зразумее, што ў зямлі, на якой ён нарадзіўся, да якой прывык і якую, здавалася яму, ведаў, як свой уласны твар, хаваюцца невядомыя дасюль багацці, і багацці гэтыя могуць прынесці зямлі і людзям яе сусветную славу. Тады па лясах, па абалонах рэк і балотах пройдуць спачатку адны машыны, разведчыкі, за імі з'явяцца дру-

гія. І зноў будзе ссякацца лес, будуць спрамляцца рэчкі і асушацца балоты, зноў утыркнуцца ў неба трубы гарадоў і пасёлкаў. Лесавік спыніўся, узважыў у руцэ кавалак зямлі. Зрэшты, можна ўсё зрабіць па-ранейшаму — камень пойдзе ў зямлю, і ніхто з людзей ні аб чым не даведаецца. Але... Лесавік пайшоў далей. Лесавік даўно ведаў: як бы там ні было, а толькі ад чалавека залежыць, ці застанецца пушча і ўсё, што ў ёй ёсць, ён вырашыць, ці заставацца лесавіку. Правільна, вось і паказаўся лесавік дзяўчыне ў лесе, і нясе ён гэты камень для таго, каб людзі ўсё ж успомнілі, што былі калісь лесавікі, і сёй-той з тых лесавікоў застаўся нават цяпер. Разумны, як той казаў, зразумее. Дурань жа і ёсць дурань. Быў час, што чалавечае заставалася чалавеку, лесавіковае — лесавіку, і тыя часы мінуліся. Лесавік паглядзеў аднойчы на сябе, на тое, што засталося ад ягонае пушчы, і вырашыў — мінуліся.

Канечне, лесавік не ведаў, не мог ведаць, што атрымаецца з усяго гэтага, як успрыме яго чалавек, вось тая ж дзяўчына, але першы крок ён ужо зрабіў, і цяпер заставалася толькі пачакаць і ўбачыць. Увогуле, невыпадковым было і тое, што лесавік паказаўся на чалавечыя вочы якраз напярэдадні галоўнага свайго свята ў годзе — купалы. Як і не выпадкова ўбачыла яго дзяўчына. Да жанчын у лесавіка здаўна быў давер, якога ён не мог растлумачыць ні сабе, ні каму іншаму, але ў якім ён нікольні не сумняваўся. Давер, мусіць, ішоў ад таго, што жанчына — маці, што яна не розумам, а сэрцам разумела жывое, што на звярыных дзяцей яна часта глядзела як на сваіх. І лесавік не бачыў жанчыну ў пушчы з сякерай ці стрэльбай у руках. А можа, у яго адносінах да жанчын увогуле, і адной з іх у прыватнасці, было і яшчэ што іншае. Аднак вось пра гэта ён стараўся не думаць, тым больш што каля людзей яму было няўтульна, ён як бы стаяў перад парогам, за якім чужы і невядомы свет, і ў тым свеце ягоныя моц і ўмельства знікаюць. Але зайсці ўсё ж страшэнна хацелася...

Дзень, апошні перадкупальскі дзень, стаяў высокі і чысты, дрэвы, кусты і травы ў ім разгарнуліся ва ўсю сваю моц, з прагаю пілі ваду і сонца. Панадрэчнымі кустамі лесавік падабраўся да таго месца, дзе на лузе завіхаліся людзі, што прыйшлі ў ягоныя мясціны. Луг ужо ляжаў голы і роўны, на ім часта вытыркаліся стагі, і людзі, заўважыў лесавік, працавалі спрытней, чым у той раз,

калі ён убачыў іх упершыню. Сярод тых, што падграбалі сена, ён заўважыў і сваю абранніцу. Але да кустоў, дзе ён хаваўся, пайшла не яна, а двое другіх, хлопец і дзяўчына, таксама яму знаёмыя, гэта яны аднойчы выгналі яго са стога. Двое падышлі да рэчкі, і хлопец адразу захацеў скокнуць ад сваёй дзяўчыны ў ваду, але тая яго не пусціла, затрымала. Лесавік адразу заўважыў, што паміж гэтымі дваімі ўжо вырасла нябачная сцяна, прабіць якую ніхто з іх не здолее. Дакладней, на гэтую сцяну кідалася толькі адна душа, дзявочая, душа ж хлопца як бы спала, і ён нудзіўся ад таго, што дзяўчына ідзе побач, што яна гаворыць з ім, лашчыцца, што яна спрабуе зазірнуць яму ў вочы, а ад гэтага толькі засціць свет. Хлопец крывіўся і адварочваўся, адбурквaўся, вырываў руку з другой, вузкай і гарачай, хацеў ці залезці ў кусты, ці скочыць у ваду, ці проста заплюшчыць вочы і задрамаць. Дзяўчына гарнулася да яго, нешта тлумачыла, у вачах яе была трывога, бо яна ўжо здагадвалася аб тым, што з ёй здарылася — і хлопец, таксама здагадваючыся, пазіраў скрозь яе і думаў, куды б уцячы. Лесавік хоць і не прыслухоўваўся да таго, што гаварылі гэтыя двое, ужо ўсё ведаў. «Слухай,— урэшце сказаў хлопец,— што ты да мяне прычапілася? У цябе ж галава ёсць, сама разблытвайся. Увогуле, яшчэ ж нічога не позна. За тры дні ўсё зробяць — і будзеш, як новенькая. Не панікуй». І ён разагнаўся і скочыў у халаднаватую, прыемную ваду.

Тут лесавік не вытрымаў. Як ён ні грэбаваў вадой — усё ж залез у яе, праўда, зусім недалёка, і тыцнуў кончыкам свае барады проста ў твар хлопцу, які скакаў у вадзе, як дурное ласяня. Увогуле, лесавіковая барада ў лесе мала каму падабалася, яна нават выклікала, калі на тое, лёгкае шаленства ў любога, хто з ёй знаёміўся, а тут лесавік даў яе панюхаць. Неяк мядзведзь, што здуру ўспёрся на дуб, дзе адпачываў лесавік, таксама адчуў яе казытанне. Не, ён не здурнеў, той мядзведзь, але лупіў па пушчы без перадыху гадзіны са дзве, аж пакуль не паваліўся ў ручай, дзе крыху астудзіўся нос. І сляды мядзведзя амаль на ўсім працягу былі пазначаны спецыфічнымі прыкметамі вялікага перапуду, вострый пах тых кучак-палосак мог лёгка прывесці любога паляўнічага да дурнога звера, ды паляўнічых у пушчы тады не здарылася. Зараз хлопец спярша раўнуў з такой сілаю, што пачуў яго адзін лесавік, чалавечае ж вуха гэты тонкі віск-вой успрыняць не магло. Затым ён ледзь не выскачыў з вады і не

пабег па яе паверхні, як вадзяны клоп-вадамер, але тут жа праваліўся і, праз які час зноў паказаўшыся, закрычаў ужо звычайным енкам, чалавечым, хаця і немым. На высакаваты бераг яго быццам выкінуў нехта, і па лузе ўжо ён паджгаў, як спуджаны заяц, высока падкідаючы цыбатымі нагамі. Дзяўчына, напалоханая яго белымі вачыма і апырсканая з ног да галавы, таксама віскнула, схапіла вопратку сябра і паляцела наўздагон. Ад бліжэйшых стагоў, перапалоханыя незразумелым воем, насустрач ім беглі людзі. І лесавік, які звычайна дапамагаў бегчы тым, хто ўцякае, галасіў ім услед і шпурляў усё, што траплялася пад руку, зараз чамусьці сагнуўся, што называецца, падцяў хвост і шуснуў назад у кусты. Але крыху адбегшыся, ён выпрастаўся і пайшоў да свайго азярка весела, з годнасцю. Ён нават паспрабаваў засмяяцца, аднак замест смеху атрымаўся нейкі рып, мала падобны да якога знаёмага яму гуку, і ён сціх.

Лесавік ведаў, што хутка ў лесе з'явіцца тая, каго ён чакаў.

А дзень быў сапраўдным перадкупальскім днём. Сонца перайшло ўжо сваю вышэйшую кропку на небе, крыху знізілася, і, як бывае заўсёды па сыходзе найбольшай спёкі, памацнелі гукі і фарбы, зрабіліся больш выразнымі і яркімі. Закувала дзесьці далёка зязюля, была яна калісьці, верылі людзі, жанчынай-маці, а цяпер плакала-гаравала па сваіх дзетках, якіх звяла ў сырую зямлю злая мачаха. Дружна ўзяліся свідраваць празрыстую цішыню ўпартыя конікі. Ачуўся дзяцел і далёка раскаціў па лесе дробны пошчак. Сарока, кажучы пра хуткую госцю, замільгала між дрэў чорна-белаю плямаю. Заварушыліся, затрэслі крыху завялым лісцем дрэвы, радуючыся надыходзячай свежасці, і над імі павольна, амаль без узмахаў крылаў, плылі белыя буслы, выглядваючы ў зямлі пад імі, у неабсяжнасці неба чорнага бусла, свайго сабрата. Вось-вось павінен быў ступіць на гэтую зямлю купала.

Лесавік чакаў нядоўга. Дзяўчына, як ён і думаў, адразу накіравалася да таго месца, дзе ўбачыла яго, і лесавік, канечне, быў там. Дзяўчына прыйшла адна, і ён таксама чакаў гэтага. Дзяўчына павінна была зразумець, што лесавік апрача яе нікога не захоча бачыць. Так яно і было. Дзяўчына спяшалася, спатыкалася аб ламачча, але ішла правільна, дакладна, быццам між ёй і патрэбным месцам быў нацягнуты шнурок. Так, лес не быў гэтай дзяўчыне чужым. Хоць яна сама аказвалася ў лесе нячаста — уво-

гуле, чалавеку з тым жыццём, якое ён наладзіў сабе ў вялікіх гарадах, трапляць у лес здаралася ўжо надзвычай рэдка, у гэтым і не было нічога дзіўнага,— але бацькі яе, мусіць, не толькі заходзілі ў яго, а і жылі там. Таму і не круціла яна ў разгубленасці галавой, не палохалася, не кідалася па баках. У лесе яна пачувалася гэтак жа зручна, як у полі, можа, нават і лепей. Лесавік сышоў з яліны, на якой чакаў сваю госцю, і перастрэў яе адразу на ўваходзе ў малады бярэзнік — у ім было чыста, ціха, прасторна. Сярод гэтых рэдкіх бярозак дзяўчына абавязкова павінна была ўбачыць ягоны падарунак — камень у кавалку цвёрдай пароды, што яго ахоўвала. І дзяўчына, канечне, убачыла. Яна ціха ахнула, схапіўшыся рукамі за шчокі, і на момант знерухомела. Але тут жа скокнула, укленчыла, нахілілася над абломкам з незвычайнай кропляю ў ім так нізка, што ён нават знік пад яе валасамі. Яна асцярожна ўстала з падарункам у руках, і лесавік убачыў, як зачырванеліся яе твар і шыя, як дрыжэлі вусны, як вейкі трымцелі, быццам вачам балюча было глядзець. І ён задаволена ўздыхнуў.

І тут раптам дзяўчына павярнулася проста тварам да лесавіка, да звычайнага невялікага барбарысавага куста, і сказала гучным, але крыху хрыплаватым голасам: «Кажыся не воўкам-зверам, не воранам-птахам, не дрэвам іглістым, а такім, як я сама!.. Як я сама!»

Ад нечаканасці лесавік спачатку нічога не зразумеў — і потым яго як працяла маланка. Дзяўчына, што стаяла перад ім, імгненнем раней прамовіла замову, якой лесавік не чуў каля дзвюх соцен чалавечых гадоў. Ён ажно страсянуў вушамі, быццам стараючыся выкінуць з іх тое, што ўжо заляцела, і расплюшчыў вочы так шырока, як не рабіў гэтага ніколі. Вочы яго не падманвалі, бо бачылі і зямлю, і неба, і дрэвы, і дзяўчыну сярод іх, і вушы, мусіць, таксама пачулі тое, што сказалася. Лесавік разгубіўся папраўднаму. Замова, якая абрынулася на яго, была з такога даўняга мінулага, што яно памяталася толькі абрыўкамі, кавалкамі, яно прыгадвалася ўжо як сон-летуценне, дзе зямля адначасна была небам, а лес адной вялікай хатай, па якой лесавік плыў, як па сінім моры, якога ніколі не бачыў, але пра якога вельмі добра ведаў, бо некалі ляжаў у ім, густым і цёплым, адчуваў яго вачыма і скурай, усёй сваёю істотаю — і ці не было гэта адчуванне з яшчэ даўнейшага, ужо зусім забытага сну?.. Так, успаміналася тое мінулае па частках, і ўспаміны былі ня-

пэўнымі — але замова, якую сказала дзяўчына, была сапраўдная, як удар. Ён мо і чуў яе за ўсё сваё жыццё толькі аднойчы, аднак добра ведаў, бо замова была разам з ім ад моманту яго нараджэння. Тады, у той адзіны раз, гэтую замову сказаў стары палясоўшчык. За доўгія вусы і бараду, за выключную маўклівасць і пранізлівы позірк, за жалезныя рукі і нястомныя ногі, а таксама за ваўкаватасць да астатніх людзі звалі яго лесавіком, хаця на лесавіка, канечне, ён не быў падобны. Той чалавек прыйшоў у лес ужо немаладым — мусіць, не знайшоў сярод сабе падобных свайго маленькага шчасця, не знайшоў у тым жыцці згоды і ладу, падаўся ў лес — і застаўся ў ім да канца. Лесавік ведаў яго маленькую хатку пры балоце, падыходзіў да яе так блізка, як ні да якога іншага чалавечага жытла, нават зазіраў у яе. Па думках яе гаспадара, па размовах яго з рэдкімі госцямі лесавік зразумеў такіх людзей, як палясоўшчык. Гэтыя людзі лесу і самому лесавіку былі зусім нястрашныя, таму што яны хаваліся ў гушчарах, таму што зло яны чакалі ад іншых людзей, тых, што жылі па гарадах і вёсках. Сутыкнуўшыся з няпраўдаю, з сілаю, якую ўмее прыдбаць для сваёй абароны любая няпраўда, яны мусілі ўцякаць, і лес рабіўся іх хатаю, іх вёскаю. З такіх, як гэты палясоўшчык, складваліся невялікія ўзброеныя атрады, што час ад часу пачыналі туляцца лясамі і балотамі, яны былі выгнаннікамі, але надзвычай зацятымі выгнаннікамі, і ў пушчы яны не затрымліваліся, ішлі да замкаў і гарадоў, каб загінуць. У лесе прыжываліся толькі адзінкі, вось як гэты палясоўшчык.

Чалавек вельмі доўга не здагадваўся, што ў пушчы ёсць лесавік, чалавек не думаў пра гэта, бо верыў толькі ўласным вачам і рукам. Але здарылася, што лесавік быў вымушаны сказаць пра сябе — спачатку ён збіў са следу вялікае паляванне, каля дзесятка людзей на добрых, злых конях, гэтае паляванне забіла ўжо многа казуль і дзікоў, якіх падбіралі падручныя, што ехалі ззаду на фурманках, і цяпер паляўнічыя гналіся за невялікім статкам аленяў з каронамі рагоў на галовах. Самец і тры самкі ўцякалі з апошніх сіл, але паляўнічыя былі ўмелыя і ўпартыя, яны даганялі, і алені хутка павінны былі паваліцца пад конскія капыты, гэтых аленяў памочнікі паляўнічых ганялі ўжо два дні, і заставалася апошняе — дагнаць і забіць. Лесавік ўратаваў статак, завярнуў яго ўправа за ручай, у густое кустоўе, затаптаў сляды, засыпаў травой, ад якой

сабакі паляўнічых заскавыталі і закруціліся на месцы, быццам узяла іх хвароба-матыліца, а сам зрабіўся як бы аленем, ва ўсякім выпадку, паляўнічыя на запененых конях раптам убачылі, як нешта замільгала, затрашчала ў недалёкім ельніку, што цягнуўся ўлева ад ручая, потым над невысокімі елачкамі паказаліся быццам рогі. Ужо недзе пад вечар раззлаваныя, стомленыя паляўнічыя выбіліся да палясоўшчыкавай хаткі, запаленыя коні ўсхрапвалі і дрыжэлі, людзі хісталіся на напаўсагнутых нагах, у іх нават не было сіл лаяцца. Яны прагна пілі ваду, потым упокат пападалі на траву і на які час сціхлі. Палясоўшчык глядзеў на іх варожа, спадылба, але маўчаў, не пытаўся і не адказваў, толькі слухаў, калі няпрошаныя госці пачалі паміж сабой сварыцца. Чалавек заўсёды хоча знайсці вінаватага там, дзе яму не пашэнціла, гэтым таксама карцела на кім-небудзь адмсціцца, але ўсе бачылі і чулі аленя ў ельніку, перад вачыма кожнага з іх скакалі ягоныя рогі. «Лесавік, пэўне,— урэшце сказаў пажылы, з брытай галавой і вусаты чалавек, няйначай, галоўны тут, бо ўсе яго слухаліся,— алень хоць які б след, ды пакінуў. А тут як у паветры растаў. І сабакі збіліся, на адным месцы таўкліся. Мае ганчакі без дай прычыны ніколі са следа не сыдуць. Лесавік, нячыстая». Усе захрысціліся, заварушылі вуснамі. «У цябе, дзед, хоць абраз ёсць? Ці паганцам жывеш?» — гыркнуў брыты да палясоўшчыка. «Лес мой абраз»,— не менш змрочна вуркнуў той. «А можа, ты і ёсць лесавік? Вунь зарос, вачэй не відно. Чаму адзін жывеш?» — «Аднаму, васпане, ямчэй. Ніхто з-за вугла не ўпляжыць... А лесавік не чалавек, з ім можна дамовіцца».— «Збег адкуль? Бачу, што збег. Супраць улады, мусіць, ваяваў, за справядлівасць? Гэта таксама адразу відаць, што шыбеніца па табе плача».— «На ўсіх шыбеніц не хапіла, то во і жыву. Хачу толькі сказаць: насіў воўк, панясуць і воўка». На гэтым яны разышліся-раз'ехаліся, а палясоўшчык пра лесавіка запомніў і пачаў прыглядацца. Убачыў, што быццам сам сабой патух пажар у вялікую спёку, што выскачыў з пасткі, ім наладжанай, лось, што расчысціліся некалькі даўніх завалаў, што ажывіўся ў самую сухмень раўчук, які ўжо зусім быў перасох,— і што яму самому перастала шанцаваць не толькі на паляванні, а і на невялікіх лапіках засеянай зямлі каля хаткі. Вось тады палясоўшчык неяк падчакаў лесавіка, выйшаў да яго і сказаў замову. Лесавік не паказаўся яму ўвесь, толькі на імгненне гайдануўся перад вачыма палясоўшчыка, аднак

выслухаў усё, што той яму сказаў. І згадзіўся. Так, палясоўшчык у ягоныя справы не лез, лішняга ў лесе не браў, без патрэбы не забіваў і не шкодзіў парубкамі. Ён прасіў, каб лесавік ад яго адкаснуўся і не чапаў. Лесавік не падаў ніякага знаку, што зразумеў гэтага чалавека, аднак неўзабаве пайшоў далеў па сваёй пушчы, бо справы ў ёй былі ва ўсіх кутках. Ужо колькі часу пазней ён зноў апынуўся ў тых мясцінах — і завітаў да знаёмае хаткі. Яна стаяла пахілая, без дзвярэй і з пустымі вокнамі, саламяная страха яе зеўрала вялізнымі дзіркамі, і дух чалавека з яе даўно ўжо выветрыўся. Недалёка ад хаткі вытыркаўся з зямлі нягеглы, абымшэлы крыж, таксама пахілы. Лесавік паглядзеў на яго, успамінаючы палясоўшчыка, але аблічча яго так і не ўсплыло. І тады лесавіку раптам захацелася ўбачыць яшчэ таго галоўнага брытагаловага паляўнічага, што прыляцеў аднойчы да вось гэтай хаткі, плюючы і лаючыся, і што пазіраў на гаспадара хаткі, як на дзічыну, якую абавязкова трэба ўпаляваць. Лесавік напяўся і сягнуў далёка, вельмі далёка, толькі раз ён дакрануўся да думак таго паляўнічага, што быў яшчэ жывы — і адразу вярнуўся назад. Тады такія скачкі ён мог яшчэ досыць лёгка. Былы паляўнічы паміраў далёка адсюль у вялікім палацы над возерам, вантробы яму рвала хвароба, пра якую людзі нічога не ведалі, бо шукалі яе ў чалавечым целе, а прыходзіла яна ад чалавечых думак і ўчынкаў супраць другіх людзей, і самае дзіўнае — той чалавек памятаў пра палясоўшчыка, які даўно ляжаў у зямлі, і памятаў яшчэ пра многіх такіх жа, як палясоўшчык. Ён паміраў вельмі пакутліва, бо людзі тыя, і палясоўшчыкі, і сяляне, і гарадскія простыя людзі, забітыя ім, упаляваныя з-за грошай, з-за зямлі, з-за дачок іхніх і сясцёр, а найбольш забітыя за думкі і перакананні, якія заўсёды былі незалежнымі, былі шкоднымі для ягонага жыцця, для жыцця такіх, як гэты паляўнічы, таму ўсе паляўнічыя вымушаны былі абараняць яго, забіваючы і гонячы ў балоты і лясы,— гэтыя людзі зараз пазіралі яму ў вочы, і ён не мог яшчэ раз забіць іх, ён мусіў глядзець і пакутаваць. Лесавік успомніў: насіў воўк, панеслі і воўка. Ён падумаў тады, што людзі, прыкрываючыся справядлівасцю, прыкрываючыся клопатамі аб шчасці для ўсіх, часта якраз дбаюць толькі аб сваім маленькім, якраз моляцца па-свойму, нячутна для астатніх — дай божа мне і нікому не. Аднак прычакоўваюць і яны, і становяцца, як гэты былы паляўнічы, перад вачыма пакрыўджаных, глядзяць у іх, не зна-

ходзячы лiтасцi, крычаць, завучы смерць, i не могуць дакрычацца, бо голасу iхняга ўжо не чуе нават яна. Лесавiк добра ведаў — гнiлое дрэва доўга жыве. Як ведаў i тое, што ў багача багата багацця, ды шчасця няма. I лiха больш на свеце, як дабра. Палясоўшчык, адзiн з людзей, што пайшоў ад людзей жа ў лес, памёр, знiк з зямлi, i лесавiк мог думаць, што з iм знiкла i тая адзiная жылачка, якая звязвала чалавека з гаспадаром лесу, магла iх нават звесцi разам.

I вось замова чалавека да лесавiка прагучала зноў. Тым больш гэта было неверагодна, што сказала яе маладзенькае дзяўчо, якое не магло ведаць лесу i лесавiка, якое не павiнна было памятаць старых замоў, бо чалавек, ведаў лесавiк, лiчыць за лепшае глядзець наперад, а не назад. Але ж як бы там нi было — замова ляснула, як удар грому сярод чыстага неба. Лесавiк разгубiўся, i ад разгубленасцi з iм пачало рабiцца незразумелае. Спачатку ён як быў — гэтым вось барбарысавым кустом — скокнуў на колькi крокаў убок. Але апамятаўся, не пабег далей, а з барбарысавага куста памяняўся ў ядлоўцавага — i пачаў меншаць, як бы збiраючыся знiкнуць. Затым куст затрымцеў, з яго пасыпалiся голкi i вецце, ён сiгануў на ранейшае месца — i нарэшце паказаўся ўвесь лесавiк з барадой, з рукамi i нагамi, з тварам, падобным на чалавечы i ў той жа час зусiм iншым, i поўсць на iм выдавала адзеннем. Лесавiк ведаў, што чалавек бачыў у iм i звера, i дрэва, i сабе падобнага, найбольш шукаючы ў яго постацi якраз сабе падобнага i амаль не знаходзячы патрэбнага падабенства,— такiм бачыла яго зараз дзяўчына. Увогуле, нiякай гэтай мiтуснi лесавiка яна не заўважыла, яна ўбачыла толькi, як з барбарысавага куста нехта выйшаў i загайдаўся ў паветры. Гэты нехта быў не вялiкi i не маленькi, яго ахiнала нейкая смуга, i ён увесь час пакалыхваўся за гэтай заслонай, як бы наблiжаючыся i аддаляючыся — разгледзець што-небудзь канкрэтнае было вельмi цяжка.

Дзяўчына яшчэ раз цiха войкнула, але не скранулася з месца — гэтага лесавiк не хацеў. Увогуле, стаўшы перад чалавекам, ён зусiм не ведаў, што ж рабiць далей. Падысцi i дакрануцца да дзяўчыны? Проста засцiць ёй святло? Паспрабаваць неяк гаварыць з ёй? Усё гэта было не ў лесавiковых звычках — i ён зноў схаваўся, знiк. Дзяўчына тут жа — быццам што ў ёй адпусцiла — здолела варухнуцца i перавесцi дыханне. Яна ўжо магла гаварыць. Але гаварыць проста ў паветра, невядома куды i каму — гэта

было ўжо не ў чалавечых звычках, таму яна тупала на месцы, круціла ў адчаі галавой, забылася нават пра камення, што быў у яе руках. Яна хацела гаварыць з лесавіком — і толькі з ім. Але што б яны адно аднаму сказалі? Лесавік ведаў, што ніякай гаворкі не будзе, не можа быць, таму ціхенька пасунуўся прэч. Зноў перад ім паўстала пытанне: а ці можа чалавек зразумець лесавіка, а лесавік — яго?.. Пытанне гэтае існавала спрадвеку, існавала нават у тыя часы, калі чалавек жыў зусім не так, як зараз. Яны, тыя людзі, былі многа бліжэйшыя лесавіку, ён шмат у чым іх разумеў — і тым не менш гэтае пытанне было. Цяперашнія ж людзі... Калі чалавек з мінулага ў сваіх пошуках і пакутах, звязаных з пошукамі, найчасцей звяртаўся да прыроды, толькі ад яе чакаў падказкі і ў ёй бачыў дасканаласць — паглядзець хаця б на даўнейшыя яго пабудовы, на храмы, у абрысах якіх ён увасабляў паднябесны свет, паслухаць хаця б размовы таго чалавека пра жыццё і пра свет,— то цяперашнія людзі дасканаласць свайго жыцця шукалі ўжо не ў акаляючым іх, не ў полі і не ў лесе, не ў звыклых усходах і захадах сонца, што вызначалі нячутны і нябачны рытм іхняга жыцця, а ў саміх сабе, дакладней, у створаных імі самімі рэчах. Чалавек за найвышэйшае ў свеце палічыў свой уласны розум, з яго стварыў бога і ў ім пачаў шукаць адзінае, што было праўдай. Стварыўшы машыны, чалавек у свой далейшы і, здавалася яму, бясконцы шлях паўшоў ужо разам з імі, і гэтыя машыны, зноў здавалася чалавеку, хутчэй і дакладней прывядуць яго да таго моманту, калі яму раптоўна і адразу адкрыецца гармонія ўсяго існага. Мноства людзей ў гэта паверылі і ўзялі за сваіх спадарожнікаў машыны. І вось падышоў момант жаданага раптоўнага асвятлення, і чалавек убачыў, што ён наблізіўся да мяжы, за якой ужо — нічога.

Лесавік хоць і назіраў за чалавекам толькі здаля, вось гэта ўсё ж пра яго ведаў. Чалавек ніколі не быў на зямлі адным-адзіным чалавечкам, як адно дрэва ніколі не было лесам. Чалавек быў розны ў кожным сваім асобным праяўленні, і ён быў адным чалавекам вось для таго ж лесавіка. Зразумела, што людзей лесавік ведаў такіх і гэтых. Адны з людзей навучыліся гаварыць, каб гаварыць, прыкрывацца словамі, па справе робячы зусім іншае. Другія, іхнія ворагі, чорнае бачылі чорным, а белае — белым, гаварылі пра тое, што бачылі, і не разумелі, чаму гэтую праўду нельга расказваць іншым. Ім было цяжэй, чым пер-

шым, але яны не зводзіліся. Лесавік даўно заўважыў, што людзей далёка разводзяць аднаго ад другога розныя мовы. Людзі гаварылі на адной, чалавечай мове, аднак па-рознаму. Тутэйшыя людзі, людзі з ягонай пушчы, мелі сваю мову, яна адрозпівалася ад мовы тых, што жылі на поўдзень адсюль, адно і тое ж дрэва яны называлі рознымі словамі, і так было паўсюль на зямлі. Але гэтыя мовы ўсё ж не разыходзіліся так далёка, як мовы, на якіх людзі гаварылі пра чорнае і пра белае. Ва ўсякім выпадку, галоўныя чалавечыя словы, хай іх і было вельмі няшмат, ішлі з аднаго кораня, яны былі аднолькавымі на вялізных прасторах, іх разумелі людзі з рознымі адценнямі скуры. Горш было з той мовай, на якой людзі расказвалі пра сваю, патрэбную ім у гэты вось момант, праўду. І тут ужо было няважна, як гучала тое ці іншае слова. Галоўнае хавалася ў тым, што адны з людзей у балотах, якія сямтам пракідаліся паміж іхнімі вёскамі, бачылі толькі гразь, твань і гніллё, другія ж лічылі іх сховішчам для звера, рыбы і птушкі, што разам з чалавекам таксама павінны жыць, і жыць не для чалавека, а проста самі для сябе. Адны казалі, што воля толькі тады воля, калі дазволена рабіць, што зажадаецца, калі, як сказаў нейкі з тутэйшых, «куды хачу, туды вярну», а другі пра гэта ж дадаў — «зажадалася, як кабыле воцату, і пагатоў». Другія ў волі бачылі адно забарону і дазвол, сувязь таго з гэтым, яны даводзілі — «хто прасціпуе, той дома не начуе». І на тое ж балота — як і на лес, поле, раку, як на ўсю зямлю,— тыя і гэтыя глядзелі рознымі вачыма і гаварылі пра іх рознымі мовамі. Яны часта паміж сабой спрачаліся, і гэтай спрэчцы, здавалася лесавіку, ніколі не прычакаць супынку. Паміж першымі і другімі, таксама ведаў лесавік, былі і трэція, якія, паварочваючыся да адных, гаварылі: «хто казаў, то казаў, абы добра», і тут жа супакойвалі, суцяшалі ворагаў першых: «заедзем не за дзень, дык за тыдзень, спакайней, браткі!» Аднак усё гэта былі людскія справы, лесавік пра іх ведаў, ды яго яны, бадай, не тычыліся. Хіба што некаторыя з людзей, якім зараз верылі многія, у лесе ўжо не бачылі лесу...

Лесавік раптам нечакана для сябе павярнуў да Ляхаўскага балота. Апошнім часам ён ужо шмат што рабіў нечакана для сябе, пра Ляхаўскае балота ён таксама ўспомніў знянацку. У яго памяці, глыбокай, як начное зорнае неба, прамільгнуў даўні ўспамін пра сустрэчу з тым, хто, па сваёй сутнасці падобны да лесавіка, жыў у зусім іншым

асяроддзі — у балоце. Людзі, таксама здагадваючыся, як і пра лесавіка, пра таго другога, называлі яго балацянікам. Не, яны не бачыліся тады, лесавік з балацянікам, ім і не трэба было бачыць адно аднаго, але яны тады на які момант спыніліся, знерухомелі, адчуўшы істоту, падобную да сябе. Перад лесавіком разлягалася вялікая прастора рэдкай гразі, звонку яе хаваў ад староннягa вока зялёны дыван, спярэшчаны незабудкамі, сіўцом, белакапытнікам, казяльцом, мятаю, а пад ім... пад ім была такая апраметная глыбіня, што лесавік ажно адступіўся крыху назад. Абсяг перад лесавіком ляжаў вабны і страшны, нават варона старалася абмінуць гэтую роўнядзь, не зважала на высны з тонкімі хвоямі і бярозкамі. Далей, дзе балота ўжо не хавалася, дзе яно кідала гуляцца з тымі, хто прывык жыць на зямлі, пачыналіся вокны чыстае вады, спачатку невялікія, потым шырокія як азёры. Чыстая вада пераходзіла ў плаўні, з іх вытыркаліся парослыя брусніцамі выспачкі, потым зноў падманліва раскашаваў страшны ў сваёй прыгажосці дыван. Здаралася, гэты дыван трэскаўся, з-пад яго выціскалася рудая вада, залівала траву і краскі, на роўным абшары як бы ўтвараліся вялізныя квітнеючыя крыгі, з сухім трэскам лопаліся на разводдзях бурбалкі, крыгі калываліся, як жывыя,— затым зноў усё супакойвалася. Лесавік убачыў усю гэтую прастору, усё гэта чужое княства цалкам — і спыніўся, крыху застрашаны, бо невядомае, не сваё заўсёды палохае. Адчуў лесавіка і балацянік, які гэтым разам падышоў зусім блізка да краю сваіх уладанняў, ці проста надакучыла яму сядзець у глыбіні, ці таксама вырашыў паглядзець на чужое княства, ці выгнала якая патрэба. Яны, не паказваючыся на вочы, некаторы час паўзіраліся адно ў аднаго, разумеючы, мусіць, што другое такое сустрэчы не будзе, ні адзін, ні другі нават не паспрабавалі неяк абазвацца, проста на імгненне прыпыніліся — і пайшлі сваёй дарогай. Тады ім не было чаго сказаць адзін аднаму. А цяпер?.. Лесавік павярнуў на Ляхаўскае балота, бо, сустрэўшыся з чалавекам, захацеў яшчэ ўбачыць і балацяніка. Ён ведаў, што як не атрымалася ў яго гаворкі з чалавекам — ды і дзе ёй было атрымацца? — так і не будзе нічога паміж ім і балацянікам. Але тым не менш яму важна было калі не ўбачыць, то хаця б пераканацца, што балацянік — таксама не чалавек і не звер — яшчэ жыве, яшчэ гаспадарыць на сваіх балотах.

На Ляхаўскім балоце лесавік не стыкаўся ўжо даўна-

вата, бо час любіў перакройваць не толькі межы паміж людскімі дзяржавамі, але і межы пушчаў з краінамі балот. Зараз, калі і пушчы лесавіковай ужо не было, засталіся адно яе рэшткі, Ляхаўскае балота адсунулася ад лесавіка далёка на захад, ён на яго не тое што забыўся — а проста не даходзіла да яго ніводная з нябачных лясных дарог. Што ж, тое даўнейшае бясконцае балота так і засталося ў мінулым, цяпер на яго месцы былі тры невялікіх балотцы. І да іх цягнуліся роўныя, па шнурку, канавы, на дне гэтых канаў квола цурчэла вада, і паабапал іх скрозь бялеўся пясок. Пясок быў мёртвы, трава на ім амаль не бралася, зелянеліся яшчэ толькі гурбы з выцерабленых хмызнякоў. Гурбы гэтага ламачча роўна цягнуліся праз палі, з іх бязладна вытыркаліся ствалы, карэнні, веткі, і ўсё гэта напаўспарахнела. Гэтыя пясчаныя палі з доўгімі валамі-брустверамі нагадвалі шырокую зімовую прастору, па якой каціліся бясконцыя сумёты. Гурбы з пяску ішлі ў атаку на вузкія канаўкі, і канец іх ужо быў відзён. Прастора была сухая, лесавіку ажно захацелася нахіліцца да вады.

Лесавік мінуў адно балотца, другое, спыніўся каля трэцяга, большага. Тут яшчэ патыхала збольшага цвіллю, яшчэ крумкалі жабы, шамацелі ў трыснягу качкі, пасвіствалі кулічкі, і кусты тут не стаялі трывала, не трымаліся моцна за зямлю, а брылі-плылі некуды сярод вады і гразі, спыняліся, у непаразуменні азіраючыся наўкола, і зноў брылі далей, да яшчэ большай багны. Лесавік пастаяў, паўслухоўваўся, нават праскакаў трохі па купінах, але недалёка, акунацца ў ваду ці гразь яму было брыдка. Так, нідзе нічога не гаварыла пра вадзяніка. Балота ціхенька булькацела, цмокала, уздыхала, але гэта была не балацяніковая мова. Лесавік вылез назад на сухое, выдзер з зямлі ладнаватага карча, шпурнуў яго бадай не ў самую сярэдзіну балота. Не, і цяпер ніхто не абазваўся на такую абразу, адно мітуслівa пырснулі ў бакі качкі, памчалі, ледзь не збіваючы макаўкі трыснягоў. Балацяніка ў балоце не было — і лесавік добра ведаў, што не было ўжо даўно.

Пайшоў балацянік, пойдзе лесавік — а што ж застанецца? Што будзе з лесам? Самае дзіўнае, гэты ж лес патрэбен быў і чалавеку, і чалавек, здаецца, ведае пра гэта. Лесавік успомніў недзе падслуханыя чалавечыя словы: «Пакуль здзіўляецца, будзе жыць». Ці будзе?

Лесавік раптам адчуў, што ягоная дзяўчына зноў з'яві-

лася ў лесе, і яму захацелася яшчэ раз убачыць яе, можа — у апошні раз.

Дзяўчына была не адна, цяпер яе амаль заўсёды суправаджаў малады мужчына, які выбіраў у тутэйшых лясах спелыя дрэвы і ссякаў іх. Дрэвы падалі, іх агалялі, абцярэблівалі голле і суччa, грузілі на машыны і некуды везлі. Лесавік не цікавіўся, куды вывозілі гэтыя бярвенні. Тое, што падала, ссечанае ці спілаванае чалавекам, было ўжо не ягонае. Праўда, іншы раз ён пазнаваў былыя свае дрэвы, асабліва шмат іх ляжала на чыгунцы пад рэйкамі. Дрэвы, роўна распілаваныя і ўмела абчасаныя людзьмі, трымалі на сабе жалезныя палоскі, па якіх імчалі цяжкія машыны, і дрэвы было б не пазнаць, каб не слабы пах. Гэты пах доўга жыў яшчэ і пасля смерці дрэў. Ён заставаўся і ў шпалах, і ў бёрнах хат, і ў дошках платоў, якімі людзі адгароджваліся ад лесу, і трэба было вельмі шмат залеў і завірух, каб ён зусім растварыўся ў паветры.

Лесавік прыпаў да зямлі, прыслухаўся — і адразу зразумеў, куды кіраваліся дзяўчына і яе спадарожнік. Увогуле, лесавік ведаў, што дзяўчына прыйдзе ў дубовы гай, ён гэта зразумеў яшчэ з яе размовы са старой жанчынай.

Чалавек, які жыў у дубах, лесавіку быў вядомы. Стары паказаўся ў лесе зім пяць назад, і жыў ён ціха, амаль нікуды не хадзіў, і найбольш пазбягаў людскіх селішчаў. Ніхто з людзей яму быў не патрэбен — але не патрэбен быў і лес. Лесавік двойчы падыходзіў да будана старога, глядзеў. Дзед нагадваў яму даўняга палясоўшчыка, які некалі бачыў яго, ляснога гаспадара, нагадваў зарослым тварам і маўклівасцю. Аднак палясоўшчык усё ж паставіў сабе хатку, узараў поле,— гэты стары замест хаты прыставіў да засохлага дуба некалькі жэрдак, накідаў на іх саломы, уваход закрыў анучай з тоўстай тканіны. Зараз ануча была адхінута. У паўзмроку будана бачыліся вялікія нары з сеннікам, у галавах кажух з доўгай поўсцю. Каля нараў стол на ўкапаным у зямлю слупку, два цурбаны.

Лесавік паспеў да будана амаль адначасова з людзьмі. Не хаваючыся, падышоў да бліжэйшага дрэва, ускочыў на яго.

Дзед корпаўся каля вогнішча, варыў есці, і калі да яго наблізіліся незнаёмыя людзі, не звярнуў на іх увагі. Адно, што ўразіла — ён быў намнога большы за другіх людзей. Высокі, як вялікае каравае дрэва, што перажыло ўжо сваіх аднагодкаў, жылісты, з вялізнымі чырвонымі ступакамі.

На зарослым ускудлачанымі сівымі валасамі твары блішчалі глыбока схаваныя вочы, раз-пораз яны зусім хаваліся пад густымі бровамі.

Лесавік разумеў, што дзяўчына прыйшла да гэтага старога не проста так, а шукаючы яго, і глядзеў на дзеда як бы яе вачыма. Не, гэты дзед быў мала падобны нават на таго даўняга палясоўшчыка. Людзі гаварылі паміж сабой, а лесавік думаў, што галоўнае, мусіць, не тое, што дзяўчына ўбачыла ляснога гаспадара. Важней, што сам лесавік пачаў прыглядацца да яе, пачаў слухаць. Дзяўчына хацела бачыць лес з ім, лесавіком, і яна разумела, што лес павінен быць не высаджаным чалавекам, а тым спрадвечным, незразумелым лесам, які і нарадзіў лесавіка, яна патрабавала, каб побач з высечкамі зелянелі саджанцы. Аднак акрамя яе ці разумее яшчэ хто-небудзь, што адных саджанцаў мала? Што лесавіка ў насаджаным лесе ўжо не будзе? Нездарма тыя ж людзі гавораць: што два, то не адзін. Вось лесавік ужо адзін. А людзей яшчэ шмат, побач з дзяўчынай з'явіўся хлопец, і так павінна быць. Яны выберуць, у якім лесе ім жыць,— і ці жыць у ім наогул. Таму і гавораць зараз з дзедам, якога ў суседніх вёсках завуць Лешуком.

«Чаму вы, дзед, тут жывеце? Чаму не ў вёсцы?» — пытаўся хлопец.

«Людзі сабе, а я сабе,— адказваў дзед.— Яны ў граху жывуць, на бога забыліся. А я біблію пра іх пішу».

«А-а, дык вы, значыць, тут з богам! Ясна,— з дзедам гаварыў хлопец, дзяўчына маўчала.— Я думаю — што гэта чалавек, як пустэльнік. Цяпер ясна. А біблія, значыць, пра тое, як грэх светам завалодаў. Не пакажаце нам сваю біблію?»

«Пакажу»,— згадзіўся дзед.

Ён знік у будане, доўга поркаўся, выйшаў, трымаючы ў руках два тоўстыя сшыткі.

«Вось, глядзіце»,— адзін аддаў хлопцу, другі дзяўчыне.

Святлана адгарнула, уголас прачытала:

«Чалавек пайшоў ад звера мартышкі. Чалавек быў спачатку зверам, пакуль на яго не зірнуў бог...»

«Гэты год такое расло жыта, аж з поля лезла,— таксама ўголас прачытаў хлопец.— А потым голас сказаў: кепска, небажаты, будзе вайна — пацы пааб'ядалі і лазу, і дуба...»

«Калі рэкі і здзелаюцца прамымі,— падхапіла дзяўчына,— ужо нельга будзе напіцца вады».

«Вы толькі пра гэтыя мясціны пішаце? — загарнуў спытак хлопец.— Ці ўсю зямлю бачыце?»
«Біблія для ўсіх»,— сказаў дзед.
«А чым вы корміцеся? Есці ж кожны дзень трэба».
«Я многа не ем. На зямлі ўсё расце, каб чалавеку пракарміцца. А калі ў краму схаджу, куплю цукру, крупаў...»
«А мяса ядзіце?»
«Чаму, ем, як пападзецца. Вунь, бачыш, торкала ляжыць? Наставіш, дык што-небудзь ускочыць,— дзед памаўчаў.— У мяне борць і тры калоды е. Такога мёду, як з борці, нідзе не пакаштуеце. Няма ўжо борцяў, рэдкія...»
«Да вас хто-небудзь прыходзіць сюды?»
«Да мяне?..— хмыкнуў дзед, вочы яго раптам схаваліся.— Прыходзіў адзін. Украў калоду з мёдам. Я ў лесе быў, то дагнаў, па слядах знайшоў. Не ўцёк ён. Па галаве я не біў, а па спіне. Калоду ён украў. То я — каб ён памучыўся...»
«Ну і што з ім было?..»
«Не ведаю, усякае казалі...» — дзед быццам згубіў да гасцей цікавасць, пайшоў да вогнішча. Ён раптам вырашыў паесці ўжо астылага куляшу, чэрпаў у кацялку драўлянай лыжкай, жаваў. Тоўстыя сшыткі ляжалі на зямлі, ветрык спрабаваў пагартаць іх, але не мог.
«А як вы зімой жывеце?» — спыталася дзяўчына.
«Як зараз».
«Босы?!»
«Яны ў мяне не баяцца! — засмяяўся, як закашляў, дзед.— А як зусім халадно зробіцца, спляту лапці. Я не для сябе жыву, можна і босым. А як прыйду ў краму — людзі з яе, як пацукі, бягуць. Ведаюць!..»
«Навошта ж вы біблію пішаце?»
«Каб засталася. Каб праўду пра гэты свет ведалі. Я раней кнігі чытаў, цяпер сам пішу».
Лесавік, увогуле, ведаў, што з бегам часу змяніўся не толькі лес, але і людзі, якія ў ім хаваліся. Гэты стары быў чужы ў лесе, і тым не менш лесавік не збіраўся яго чапаць. Дарэмна ён і за дзяўчынаю ходзіць. Што два — то не адзін...
Дзяўчына з хлопцам пайшлі сцежкай, і дзяўчына ўсё азіралася. Лесавік выйшаў з дуба, спыніўся ў роздуме. Вось і ўсё. Жанчына і мужчына ішлі ад яго, мусіць, ішлі назаўсёды. Што ж, у дзяўчыны застаўся лесавікоў падарунак, камень, ні на што не падобны, і яна ўжо не забудзе гэтага лесу. А лесавік... Пра лесавіка ёй, можа, і не аба-

вязкова помніць. Ён, відаць, нават пастараецца зрабіць так, каб яна забылася пра яго. Лесавік, канечне, ужо не той, не ранейшы, але сёе-тое яшчэ ўмее. Падарунак жа, празрыстая кропля, цяпер не адпусціць дзяўчыну, праз яго ўся зямля з лясамі і водамі будзе гаварыць з дачкой чалавечай, будзе слухаць яе і расказваць. Чалавек заўсёды хадзіў лесам, і не будзе нічога дзіўнага, калі яшчэ адна з людзей увойдзе пад яго шаты, агледзіцца і не спалохаецца, а наадварот — узрадуецца старым абымшэлым дрэвам, непралазнай гушчыні кустоў, глухой цішыні балота, крыку не толькі зязюлі, а і пугача.

Яны ішлі, і мужчына гаварыў пра хату ў лесе — якая яна павінна быць вялікая, утульная, цёплая, і пра гаспадыню ў ёй, самую-самую. Дзяўчына слухала і ўсміхалася.

Дзяўчына, якую лесавік сустрэў у лесе, прымусіла яго зноў успомніць, колькі ж на ягонай зямлі было лясоў і звяроў у іх — і колькі знікла. Ён на многае забыўся, а дзяўчына напомніла, бо ў кнігах, якія яна прачытала, усё было запісана Так, у ягонай пушчы чалавек раней паляваў на тура, зубра, аленя, лася, мядзве́дзя, дзіка, бабра, норыцу, куніцу, выдру, лісіцу, зайца,— усяго і не пералічыць. Паляваў — і запісваў, дзе бачылі апошняга звера, дзе ён быў забіты. Чалавек жыў з лесу, адваёўваў у яго ляды, браў паташ, смалу-жывіцу, дзёгаць, выпальваў вугаль для кузняў і рудняў. І ўсё гэта было немагчыма без высечак лесу. Звяры мусілі сыходзіць з нажытых месцаў, яны прападалі. Чалавек запісваў: у пачатку семнаццатага стагоддзя знішчаны еўрапейскія туры. Апошні з іх забіты ў 1627 годзе ў Янтраўскім лесе; у сярэдзіне васемнаццатага стагоддзя зніклі тарпаны — шэравата-гнедыя, з чорным пасам уздоўж спіны, лясныя коні, якіх лавілі для конніцы вялікага княства Літоўскага; у пачатку дзевятнаццатага стагоддзя быў забіты апошні высакародны алень. Не стала собаля, мядзведзя-мурашкаеда, расамахі, чорнага зайца, крохвы. І ўжо на пачатку гэтага стагоддзя паляўнічыя забілі апошняга зубра — і гэта таксама было запісана. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя амаль палова гэтай зямлі была ўкрытая лясамі, але дзве апошнія вайны, што прагрымелі над ёй, зменшылі гэтыя лясы ўдвая. Вораг ваяваў не толькі з людзьмі, а і з лесам. Паабапал чыгунак і шасейных дарог дрэвы высякаліся на сотні метраў. Разам з вёскамі гарэлі хмызнякі ўскрай іх.

Толькі Палессе з яго непралазнымі балотамі і змрочнай глухменню ратавала звяроў. Людзі не маглі дабрацца да

зарослых хмызнякамі выспаў сярод балот. Пакуль не маглі. Але і балота апошнім часам імкліва меншала...

Ці трэба было помніць пра ўсе гэтыя лясы і балоты, якія зніклі, пра ўсіх гэтых тураў і тарпанаў лесавікоў з чалавекам? Лесавік не ведаў.

Лесавіку трэба было вяртацца дахаты, да свайго азярца на былой імшарыне. Лесавік падумаў пра гэтую сваю няблізкую дарогу назад — і адчуў, што страшэнна стаміўся. Так, ён стаміўся, і нічога дзіўнага, зрэшты, у гэтым не было. Перадкупальскай парою ён заўсёды рухаўся менш, бо за год, зразумела, растрачвалася ўсё, што назапашваў ён у купальскую ноч. Але купальская ноч была ўжо зусім блізенька, і ён, успомніўшы пра гэта, заспяшаўся. Як бы ні хацелася прыхінуцца да якога дрэва і заснуць, на купалле ён усё ж павінен быў быць каля цяперашняга свайго жытла. Гэта ўжо была не звычка, а нават закон. Там чакалі яго дрэвы, якіх прыгледзеў ён для пачастунку, там спадзяваўся ён убачыць хаця б адно начное вогнішча, што ўзнясецца сваім зіхатлівым святлом да месяца, там, можа, залунае над прыціхлай прасторай чалавечая песня, якая хаця б на імгненне злучыць іх, чалавека з лесавіком...

Ён заспяшаўся, пабег, месцамі нават спрабуючы падляцець, хаця з кожным годам імчаць над лесам яму было ўсё цяжэй. Яго падтрымлівалі, падкідвалі ў вышыню і неслі над сабой толькі густыя лясы, гушчары, а іх на зямлі траплялася ўсё меней. Зараз перад якім чыстым месцам лесавік з усяе моцы разганяўся па вяршалінах дрэў — і скакаў. Дзе ўдавалася пераляцець поле ці поплаў, дзе сілы на гэта не ставала, але адлегласць да азярца ўсё меншала, і нарэшце — знікла. Ён паспеў у час. Зямля толькі-толькі звечаравала, густое ацяжэлае паветра знерухомела, і на яшчэ светлым небе праявіўся празрысты месяц. Гэта ўжо быў Купала. Лесавік з палёгкай уздыхнуў, агледзеўся.

Ягоная досыць вялікая зямля ўся ляжала перад ім — і як бы глядзела на яго і пыталася. Для лесавіка гэтая зямля, зямля ў атачэнні рэк і балотаў, зямля з дубовымі гаямі і сасновымі барамі, з чыстымі бярэзнікамі і шапатлівымі ельнікамі, з паплавамі пры рэках і ўдзірванелымі палянамі была найлепшая, хаця іншай зямлі ён і не ведаў. Дакладней, ведаў, што іншыя землі ёсць, аднак бачыў ён іх толькі здаля і ніколі не бачыў зблізку. І лесавік вельмі добра ведаў, што ён жыў, што ён валодаў гэтай зямлёй разам з людзьмі. Як бы ён ні ўнікаў людзей, як бы ні выганяў іх са сваіх лясоў, за доўгі цяг часу чалавек зра-

біўся яму вядомы да драбніц, самі людзі столькі ўжо і не памяталі пра сябе, колькі было вядома лесавіку. Людзі, добра ведаючы пра свой жыццёвы тэрмін на зямлі, так і гаварылі — чалавек як муха: тут е, а тут няма. І яны дзе помнілі сваіх продкаў, іхнія добрыя справы, а дзе і забываліся. Чалавек мог паваліцца якраз на тым месцы, дзе разбівалі насы ягоныя бацькі ці дзяды. Лесавік жа помніў усё. Таму чалавек стаяў перад ім не цяперашні, не імгненны, а чалавек усечасовы і ўсеагульны, ва ўсякім разе, за ўсё сваё доўгае існаванне лесавік бачыў толькі аднаго чалавека — чалавека, які гаварыў: грошы згубіў — нічога не згубіў, здароўе згубіў — палавіну згубіў, розум згубіў — усё згубіў. Вось гэты розум і быў чалавекам. Лесавіку заставалася адно ўбачыць, ці гэты розум існаваў,— альбо з ім здарылася ўжо тое ж, што і з мноствам жывым і нежывым на зямлі, з мноствам звяроў, птушак, раслін, рэчак, балотаў, якія зніклі. Зараз надышоў такі час, калі чалавек спыніўся перад дзвюма дарогамі, на скрыжаванні тых дарог ляжаў камень, на ім было напісана, што адна дарога вядзе Далей, другая — Нікуды. Тая дарога, па якой можна было ісці Далей, была пакручастая, не надта шырокая, часта траляліся на ёй выбоіны, ямы, каменні, нават расколіны-бездані разразалі яе, і трэба было доўга думаць, перш чым злаўчыцца перакінуць праз яе мост, і ўжо за першай жа паваротканю гэта дарога знікала з вачэй, невядома было, якая яна і ці ацалее на ёй той, хто пойдзе. Гэта была страшэнна цяжкая дарога, па ёй трэба было ісці толькі сваімі ўласнымі нагамі, на ёй можна было спадзявацца толькі на сябе, кволага целам і босага. Другая дарога, Нікуды, ляжала роўная, нават крыху з горкі, ногі пераступалі па ёй самі, і не было ім на ёй аб што спатыкнуцца, за што зачапіцца, і калі яны разбягаліся ў лёгкім, імклівым бегу, не сцішыць іх ужо было, не спыніць, ногі беглі ўсё хутчэй і хутчэй, аж да канца, якога ніхто не бачыў, бо ён быў непрыкметным, як пастка, а калі ён і паўставаў перад нагамі, то ногі яго не баяліся — канец быў зусім нястрашным. Другая дарога была дужа лёгкая, і адзінае, чаго яна патрабавала — гэта каб не было галавы, каб яе ці згубілі, ці завярнулі назад, ці — на апошні выпадак — надзелі па яе які мяшок. Вось такія ляжалі перад чалавекам дарогі, лесавік іх бачыў, па адной з іх ён мусіў ісці ці бегчы разам з чалавекам. Так яму было наканавана.

Аднак пакуль што лесавіка чакаў Купала. Як і лю-

дзям, лесавіку для ягонага аднаго-адзінага свята былі аддадзены самыя кароткія хвіліны. Купальская ноч была найкарацейшая ў годзе, і таму, мусіць, яна паўставала такой чорнай і цёплай, такой глыбокай і ўладнай. І гэтая ноч была адзінай, калі чалавечая песня была і ягонай. Мільгнула дзесьці далёка дзяўчына, яна трымала ў руках камень і яшчэ не здагадвалася аб яго чароўнасці і непаўторнасці, на момант пачулася песня, але адразу перарвалася...

Лесавіку заставалася зрабіць толькі адзін крок, каб увайсці ў ноч, у свята. І перад гэтым крокам ён раптам пранізліва ўбачыў усе ямы-прорвы, што хаваліся па яго лясах, і пачуў чалавечыя словы, якія былі сказаны калісьці даўно: надвое бабка варожа — альбо памрэ, альбо жыць будзе.

## КРОКІ

У кожнага чалавека дарога ў вялікі свет — свая. Ці правільную ён выбраў, ці туды ідзе, ці тых людзей узяў за спадарожнікаў — не заўсёды яму дадзена ведаць, і бывае, што толькі на схіле тае дарогі, у яе канцы ў чалавека раптам праясняюцца вочы, раптам бачыць ён, што зусім не гэтага шукаў,— ды позна. А бывае, што чалавек збочвае з бальшака, па якім ідуць, едуць, сунуцца многія і многія, бальшак той добра ўтаптаны і ўезджаны, але падарожнік усё ж збочвае і прастуе паплавамі і лесам, бо бачыць на даляглядзе тое, чаго не бачаць іншыя. І знікае ён часта, назусім знікае, пра яго забываюцца. Ды гэтыя адзіночкі былі і ёсць, як былі і ёсць тыя, пра каго кажуць: ні ў горадзе парука, ні ў дарозе таварыш, ні ў вёсцы сусед.

І ідуць людзі ў свет, а свет вялікі, і ў свеце людзі.

Міхась Вайткевіч часта думае пра тое, што раней большасць людзей вялікі свет спазнавала адно праз свае родныя мясціны — часцей праз вёску, мястэчка, радзей — праз горад. Чалавек нараджаўся, рос, вучыўся працаваць — і працаваў, карміў сям'ю, якая, вядома, з'яўлялася; чалавек жыў там, дзе жылі яго бацькі і дзяды. Ён быў як звяно ў адзіным моцным ланцугу, які называўся родам, сям'ёй. А потым вёскі зрушыліся з месца, скрануліся, дзве сусветныя вайны наогул у сваіх выбухах змяшалі, параскідвалі-параднілі вяскоўцаў з гараджанамі — паразрывалася карэнне, паадразаліся пупавіны. Выраслі з зямлі, як вялікія грыбы пасля спорных дажджоў, мільённыя гарады, у якіх ужо не было родаў і кланаў, у якіх чалавек жыў проста сам. Вызначальная прыкмета дваццатага стагоддзя — якраз гэтыя мільённыя гарады з тысячамі сваіх праблем.

Але ў вялікія гарады мільёнам людзей трэба было прыйсці. Вось чаму Вайткевіч і думаў пра дарогі, пра цалікі, якія ляжаць паабапал дарог, пра тых, хто гэтымі дарогамі тупае і хто пракладвае па цаліку сцяжынкі.

Як і ў ягоных вельмі многіх землякоў, у Вайткевіча шмат было гарадкоў і гарадоў, куды вялі ягоныя дарожкі, дарогі.

Ці многа ў вялікіх гарадах жыве людзей, якія нарадзіліся ў маленькіх гарадках, мястэчках, гарадскіх пасёлках? Мусіць, нямала. І ўспамінаюцца ўсім ім вуліцы, якія забудоўваліся іх бацькамі па-вясковаму — каб хаты акружаліся садамі і агародамі, каб выцягваліся хаты шнурком, каб было ім няцесна, каб стаялі пры іх калі не пуні, гумны і клеці з варыўнямі, то хаця б хлеўчукі. Бо не маглі яшчэ іх бацькі жыць, не чуючы парсюковага рохкання, рыкання каровы, не чуючы, як дзярэ горла, узбіўшыся на плот, певень, як сакочуць куры. Усё зразумела. Але такія вуліцы не абавязкова ўжо і вясковыя. Бо не ківаюцца над студнямі вочапы жураўлёў, а стаяць на рагу вуліц і завулкаў калонкі, з якіх б'е, калі націснуць на рычаг, моцны струмень вады. Бо кожную хату ўпрыгожвае невялікі гародчык, з яго вытыркаюцца галоўкі каралеўскіх лілей, півоняў, вяргінь, дзе-нідзе ружаў, астраў, ківаюцца суквецці флёксаў, касачоў — усё ў залежнасці ад таго, пачатак лета ці ўжо канец яго,— і кветкі весяляць чалавечае вока, лагодзяць сэрца. І доўгія вуліцы мястэчка ці гарадка не выбягаюць урэшце да поплава ці лесу, а заканчваюцца — ці пачынаюцца — плошчаю. Пры брукаванай плошчы лепяцца крамы, чайныя, найбольш значныя ўстановы, калі гарадок райцэнтр, недзе недалёка і вакзал — чыгуначны або аўтобусны. Тут жа можа быць і цэнтральны сквер з калісьці фарбаванымі лавачкамі, помнікам, тапалёвымі — часцей чамусьці тапалёвымі — прысадамі. І амаль усе ўсіх ведаюць, бо дзе ж ты не будзеш ведаць, калі жыхароў тут тысяча, сама болей — дзве.

Вось такою вуліцаю першы раз прабегся і Вайткевіч, спыніўся перад вялізнай лужынаю, збаяўся яе і кінуўся назад, да знаёмага ганка, з якога ўжо адважыўся спаўзці. Што для Вайткевіча быў невялічачкі гарадок, гарадскі пасёлак? Ды якраз вялікім светам, у які ён прыйшоў, каб жыць, каб вучыцца, думаць, рабіць і адказваць за тое, што зрабіў. Свет быў — чарада старых бяроз пры іхнім доме — яны засталіся яшчэ з тых часоў, калі ў гэтым доме жыў панскі падлоўчы,— у траве пад бярозамі Міхась гуляў у паляўнічага на сланоў і насарогаў, ляжаў пад бярозамі і стараўся разгледзець, з чаго робяць свае гнёзды вароны, ранняй вясной лавіў ротам халодныя, нават пякучыя кроплі першага капяжу — бярозавы капеж, далібог, быў

салодкі, там жа пільнаваў, калі выспеюць яблыкі-мядоўкі. Пад бярозамі, раскінуўшыся, як прыціскаючыся да зямлі, расла яблыня, на якой выспявалі даўгаватыя, бурштынавыя і дужа смачныя яблыкі. Міхась не ведаў, што гэта быў за сорт, аднак запомнілася яна яму як яблыня-мядоўка. Бадай штодня прыбягаў ён пад яе, тыцкаў пальцам у яблыкі, прыглядаўся, ці не відаць цьмянай сярэдзіны. Спелыя яблыкі былі ледзь не празрыстыя. Гэтак жа чакалі спеласці яблыкаў і ўсе ягоныя сябры, і адзін перад адным яны не дазвалялі нікому сарваць да часу яблык, бо было іх да засмучэння мала. Свет быў — і дарослыя, дзядзькі з цёткамі, знаёмыя і незнаёмыя. Міхась спасцігаў гэты свет, глядзеў на ўсе вочы, слухаў на ўсе чатыры бакі, стараўся ўсё зразумець, крыху нахіляючы набок галаву — зусім як іхні сабака Дружок, калі той бачыў нешта незнаёмае і цікавае. А дарослыя ж павінны былі быць разумнымі, як іхняя суседка-настаўніца, іншага ад іх не чакалася. Ды гэта хутка прайшло, бо з дня ў дзень вытрымліваць званне дарослага людзям было надзвычай цяжка — то возьме ў губы лішку гарэлкі, то жонку паганяе, то проста падзеліцца з людзьмі некалькімі моцнымі слоўцамі, для экспрэсіі. Людзі пакрысе рабіліся звычайнымі, і Міхась ужо ведаў, што чакаць ад іх можна ўсякага.

А наўкола гарадка разлягаліся палі, балоцістыя тарфянікі, якія пазней асушылі, побач цякла праз гэтыя тарфянікі рэчка, недалёка стаяў і Тамашэўскі лес, тады вялікі, сапраўдны, а на самай справе зусім малы. Але тым не менш было ў ім і квітнеючых ландышаў, і сунічных палян, і грыбы сякія-такія траплялі — і ўсё гэта Міхась сам мацаў, нюхаў, спрабаваў на зуб. Лес, здаля сіне-шызы, зубчасты, зблізку праясняўся шматколернай палітраю фарбаў — урачыста-зялёнымі, заўсёды маўклівымі елкамі, вясёлай жаўтлявасцю перадвосеньскіх маладзенькіх бярозак, залатымі паходнямі клянкоў, што раптам успыхвалі ранняй восенню, сінімі кроплямі красавіцкай сон-травы — кроплі ляжалі на грудках, абгладжаных сонцам, і былі калмаценькімі і цёплымі. Міхась акунаўся ў гэтыя колеры, пахі, акунаўся ў лясныя гукі — трывожныя крыкі соек, тужліва-прыцягальныя — зязюль, свіст, ценьканне, шчоўканне, крумканне, трашчанне іншага нябачнага птаства — і не звяртаў на гэта ўвагі, бо цаляў з лука ў ворага і пераможна гарлаў. Поле бачыць, а лес чуе — гэта яму было зразумела, як дзень і ноч.

Так, раней людзі спазнавалі свет адно праз свае родныя мясціны, і толькі нямногіх лёс зносіў з тых мясцін, закідваў чортведама куды, вучыў іншым мовам і звычкам, прымушаў мірыцца з нязвыкла пякучым сонцам ці такімі ж нязвыкла пякучымі маразамі. А цяпер на зямлі ёсць мільённыя гарады, і ў гэтыя гарады едуць з самых розных канцоў краіны і нават планеты, і гарадоў гэтых шмат. Адкуль і як апынуліся ў іх гэтыя мільёны? Вайткевіч яшчэ і яшчэ думаў пра тую адзіную, сваю дарогу чалавека ў жыццё, у свет.

Наступныя два ягоныя гарады былі не такімі маленькімі, як Ліскавічы, але далёка яшчэ і не мільённымі. Гэта былі сярэднія, у многім тыпова беларускія — адзін усходнебеларускі, другі заходні: Рэчыца і Навагрудак. Адзін стаіць на найбольшай беларускай рацэ — Дняпры, каля другога ніякай ракі не цячэ зусім. Рака, як часта заўважаў Міхась, і асабліва вялікая, на ўсякае паселішча накладвае свой адбітак, усе яны ў нечым робяцца падобнымі. Можа, той асаблівай прастораю, якая адкрываецца над вадой, магутным рухам рачное плыні, нерухлівымі фігурамі рыбакоў на адхонах і ў лодках, прыстанямі, рэзкімі крыкамі чаек, шматлюднымі стракатымі пляжамі? Над рачным горадам асаблівы прысмак паветра, бо ў ім і гаркавы пах высушаных сонцам лазнякоў, што шчыльна ўкрываюць берагі, і пах аеру, з якога хлапчукі вяжуць даволі-такі ўстойлівыя плоцікі, падмешваецца да ўсяго гэтага смурод тоўчаных ракавінак-спіралек, што кучкамі ляжаць каля лодачных прыстаней — рыбакі рыхтавалі прынаду перад выправай на досвітку і ці то забыліся на яе, ці то зашмат зрабілі. Рачны горад — значыць, і шмат рыбакоў. А гэта — таксама свой пах. Добрых паўгода Міхась і ўсе хлопцы з ягонай і суседніх вуліц жылі з вадою — купаліся, лавілі рыбу, плавалі ў лодках і чоўніках, на цеплаходзе. Пачыналі купацца недзе ў маі, а заканчвалі ледзь не ў кастрычніку. У тым рачным горадзе Міхась давучыўся да восьмага класа. Які гэта быў час? Свет рассунуў свае межы ў недасягальныя далячыні, у ім ішло складанае, часта незразумелае, прыцягальнае жыццё мноства людзей, сярод якіх былі бацькі, сваякі, суседзі, сябры, аднакласнікі. Ты раптам адчуў сваю псіхалагічную непадобнасць да дзяўчынак — і разгубіўся спачатку, стараўся зразумець гэта, ды пакуль не мог. І ў тым часе ўжо быў першы зімовы вечар, калі мяккая густая цемра схавала ў сабе хаты, двары, іншых людзей і пакінула адно

яе — аднакласніцу, з якой ты ішоў, гаварыў, слухаў, баяўся на яе зірнуць — і глядзеў, адкрываючы ў быццам і знаёмым твары хараство, ад якога сціскалася сэрца: мілую ўсмешку, мяккасць падчырвоненых марозікам шчок, вільготны бляск чорна-глыбокіх вачэй. Ты рос і адчуваў гэта па тым, як мяняліся адносіны да цябе дарослых, як усё больш уважлівымі рабіліся іх позіркі, як з'яўлялася — хоць бы і рэдка — да цябе павага.

Пасля сёмага класа амаль увесь іхні клас пайшоў у краязнаўчы паход — спачатку ў Светлагорск, а потым уніз па Бярозе да Дняпра. Ад вусця Бярозы да Рэчыцы было ўжо ўсяго кіламетраў дваццаць пяць. Настаўніца геаграфіі дазволіла ім усё рабіць самім — выбіраць маршрут, гатаваць есці, спыняцца там, дзе падабалася. Агульныя грошы яны падлічвалі таксама самі, і, далібог, гэта аказалася не зусім лёгкай справай. За два дні да канца паходу яны наогул скончыліся, тыя грошы, і два іхнія бухгалтары-касіры Віцька — па вулічнаму Шлёп — і Толік — Блэк — доўга трэслі кішэні, чухалі патыліцы, пазіралі ў далечыню, быццам у ёй, далёкай і загадкавай, зніклі ўсе іхнія грошы, растварыліся там, і касіры зараз вось пабягуць, знойдуць, прынясуць. Як тут не ўспомніць: як не знае, дык на зоры пазірае. Вольга Пятроўна, настаўніца, пашкадавала касіраў і дастала сваіх грошай: купіць хлеба, кансерваў — прадукты, аказалася, таксама з'еліся дачасна,— білеты на аўтобус, бо нешта не адчувалася ўжо энтузіязму перад апошнім марш-кідком. Шлёп, Блэк і Міхась вінаваты — Міхась таксама адчуваў сябе вінаватым, бо быў сябра касіраў — пасунуліся да Бярозы, дасталі свае жылкі з кручкамі, а гэта вядома кожнаму, што ў кішэні дняпроўскага хлапчука, пацана, як тут кажуць, заўсёды хаваюцца жылкі, кручкі, грузілы, нават чарвякі ў бляшанцы, парабілі вуды і паныла каля іх знерухомелі. І трэба ж такому здарыцца — рыба пачала брацца як шалёная! Ніколі потым не бачыў Міхась такога рыбацтва. Праўда, і адвячорак быў — мяккі, цёплы, самую крышачку вільготны, недзе за тутэйшым лесам варочаліся, вуркаталі грамы, пахі кветак, дрэў, траў, ракі прыціснуліся да самае зямлі, былі цяжкімі. Камары звінелі ў самых вушах, лезлі ў вочы, у рот, кусаліся, заразы,— і бралася рыба. Як яна бралася! Плоткі, гусцёркі, падлешчыкі, акуні, краснапёркі, пад'язкі адны перад аднымі хапалі чарвяка, задушыцца былі гатовы — так часта казалі дарослыя,— і так марудна капаліся чарвякі, так глыбока яны ў зямлю

залазілі, што зла не хапала. Гушчэла паветра, наплаў ужо ледзь бачыўся на вадзе, а хлопцы, не звяртаючы ўвагі ні на камароў, ні на цемру, цягалі рыбінак, кідалі іх проста ў траву, не было нават часу, каб глытнуць вады, асушыць перасохлае ад хвалявання горла. Урэшце наплавы зусім зніклі з вачэй, але Шлёп здагадаўся лавіць на пальца — па торганні наматанай на палец жылкі лёгка ўгадвалася, што на кручку нешта сядзіць. Ды ўсё ж здаволіліся, сяк-так пазбіралі ўлоў, тры добрыя нізалкі атрымалася, і шчаслівыя пабеглі ў лагер. Што і казаць. Пасля ўсё лета, аж да школы, касірам і іх бліжэйшаму сябру можна было надзімацца ад важнасці, нібы якім-небудзь царкам. Што яны і рабілі.

Аднак галоўнае, чаму Міхася вучыў, што паказваў, да чаго падводзіў гэты горад, былі ўсё ж не ягоная рака, не рыбацтвы, галоўным была вуліца. Самая звычайная вуліца горада, на якой большасцю стаялі прыватныя хаты і зрэдку пракідаліся двухпавярховыя дамы. Гэта была вуліца такіх, як ён, хлопцаў, крыху меншых, трохі большых, зусім вялікіх, якія ўжо курылі, стаялі па вечарах з дзеўкамі, маглі выпіць,— вуліца падлеткаў са сваімі законамі, гульнямі, забавамі, жартамі, справамі. Няпісаныя вулічныя законы былі цвёрдыя і няўмольныя, жорсткія і справядлівыя. У спрэчцы са сваімі аднагодкамі ты павінен стаяць за сябе толькі сам, без дапамогі большых. Цябе пакрыўдзіў мацнейшы Гірла, прапанаваў, зразумела, пабіцца — і крый божа збаяцца яго, адступіць, уцячы, паклікаць бацьку. Няхай лепш з носа юшка. Бо назаўтра твае сябры паглядзяць на цябе зусім па-іншаму, не так, з пагардлівай усмешкаю, наогул будуць смяяцца. Праз гэтую юшку, праз боль, пераадольванне страху вуліца навучыць цябе адстойваць сваё месца ў суполцы. Яна навучыць цябе адказваць за тое, што зрабіў. І, далібог, гэта зусім не апошняя справа. Ты не стрымаў языка, звягнуў там, дзе не трэба? Адказвай. Трывай, атрымлівай, запамінай. Несумленнасці, подласці вуліца не даруе. Але ты заслужыў давер, і пэўнага разу суполка цябе ў крыўду не дасць. Хаця, калі па шчырасці, вулічным законам да справядлівых далекавата. Ты і твае сябры разумелі яшчэ толькі сябе, не ўмелі думаць, не ўмелі ўбачыць памылкі і даравать яе. Таму вуліца была жорсткай, і часта залішне. І ўжо дарослым Міхась зрэдку чуў голас тае вуліцы — і памыляўся, бо рабіўся сляпым. Ці не з-за тых вуліц, двароў, суполак, кампаній чалавеку заўсёды хочацца як мага

болей дабрыні? Чалавек нават думае, што дабрыні ў гэтым жыцці не так і многа. І вось чалавек ідзе сваёй дарогай у вялікі свет, шукае, і многа, вельмі многа залежыць ад таго, што ён будзе шукаць — дабро ці зло. Мусіць, адзін з людзей падумаў пра гэта і сказаў: «З людзьмі трэба жыць, не ўсё людзям шкодзіць...»

І вось што цікава — Вайткевічу заўсёды здавалася, што ў чалавека, які прайшоў праз вуліцу, заўсёды больш сяброў. Ён умее, яго навучылі іх цаніць, не раскідвацца імі, як цацкамі, якіх зашмат і якія збрыдзелі. Бо вуліца біла, але ўсё ж адкрывала вочы на сапраўднае. Той, хто рос, гадаваўся толькі з бацькамі ды нянькамі, каму ў дзяцінстве дазвалялі сустракацца, гуляць адно з сынам прыстойных бацькоў, каго амаль не выпускалі з кватэры ці дома,— той любіць рабіць і не любіць адказваць. Я сёння падвёў сябра, паабяцаў дапамагчы яму — грашыма, словам, справай, няважна чым,— і махнуў рукой, забыўся на яго? Нічога, калі ён сябра — пераджыве, зразумее, як тут не зразумець, калі ёсць і іншыя справы, мае, не такія важныя, як у сябра, ды мае, кроўныя. Не зразумее? Няхай, будуць у мяне іншыя сябры, лепшыя. Вайткевіч быў цвёрда перакананы — не будуць. Горшыя будуць, лепшыя — ніколі. Чалавек заўсёды мае тых сяброў, якіх заслугоўвае. Вуліца ж вучыць за сяброў змагацца і іх шанаваць.

Але Вайткевіч ведаў і тое, што ты ёсць толькі ты, а вялікі чалавек, як вядома,— грамада.

З Рэчыцы, з яе вуліц Міхась пайшоў у іншыя гарады, у гарады, у якія можна пайсці толькі ў дваццатым стагоддзі — стагоддзі вялікага руху.

Навагрудак, даўней Наваградак, стары горад на груду...

Неяк Вайткевічу пашанцавала пабыць у Балгарыі, паглядзець на яе горы і мора, пагаварыць з яе людзьмі, адным словам, пазнаёміцца са старой і гордай зямлёй. Яны шмат ездзілі, аднойчы іх аўтобус каціўся па славутым балгарскім узбярэжжы, з дынамікаў выляталі рытмы сучаснай рок-музыкі, нейкіх «бонікаў-эмікаў», Міхась зірнуў у акно — і ледзь не ўскрыкнуў. Сціснулася сэрца, востра захацелася выскачыць з аўтобуса, застацца аднаму і зайсці ў горад, які ён убачыў. Вачам усіх, хто быў у аўтобусе, адкрылася панарама Сазопаля, і людзі абыякава глядзелі, праўда, адна дама праспявала нешта пра «слаўненькі гарадок». Міхась глядзеў на чырвоную чарапіцу

дахаў сазопальскіх дамоў — адзіны суцэльны дах, так шчыльна стаялі дамы, на глыбокую сінечу мора і чырвань горада — і бачыў Навагрудак, у якім ён не быў ужо гадоў дзесяць, стары Навагрудак, горад, дзе ён скончыў школу. Вось гэты суцэльны дах горада быў навагрудскі, не такі яркі, толькі крышачку чырванаваты, але навагрудскі. І яшчэ нешта няўлоўнае, але зразумелае яму, лунала над Сазопалем — бачнае не воку, а сэрцу водгулле багатай гісторыі. Так Вайткевічу тады падалося. І хаця некаторыя пасля не згаджаліся з гэтым, Міхась быў цвёрда ўпэўнены — калі горад прайшоў праз стагоддзі, не знік у іх, не згарэў у пажарах войнаў, народжаных амбіцыямі некаторых сыноў чалавечых,— гэты горад набывае асаблівую высакароднасць свайго аблічча, і гэтая высакароднасць вылучае яго з шэрагу астатніх і аб'ядноўвае з сабе роўнымі.

Міхась гаварыў знаёмым, што той, хто хоць раз бачыў дасюль велічныя рэшткі колішніх муроў Навагрудскага замка, роў, што акружае Замкавую гару, хто сам спрабаваў узлезці на гэтую гару, хто хадзіў брукаванымі вуліцамі і вулачкамі, якія паўзуць-круцяцца на вялізным грудзе,— той гэтага горада не забудзе. Як не забудзе возера Свіцязі, неаддзельнага ад Навагрудка, ад яго гісторыі. Як не забудзе імёнаў Міндоўга, Вітаўта, Міцкевіча, Марысі. Як заўсёды будзе памятаць пра тых, хто аж у трынаццатым стагоддзі цягаў на гару вялізныя камяні, валуны, клаў з іх на вапне вежы — Навагрудскі замак быў шматвежавы,— паглыбляў вакол гары роў і пабудаваў урэшце магутны замак. Міхась з сябрамі лазілі вакол дзвюх вежаў, што засталіся ад замка — Шчытоўкі і Касцельнай,— дзівіліся на памеры камення ў іх падмурках — да аднаго метра і болей, прыкідвалі, якая ж вышыня Шчытоўкі. Ім здавалася, метраў трыццаць, не меней. Пазней ужо, далёка ад Навагрудка, Міхась прачытаў, што вышыня Шчытоўкі — дваццаць пяць метраў. І прачытаў яшчэ, што ў трынаццатым і чатырнаццатым стагоддзях ворагі ні разу не захапілі Навагрудскага замка. Ні валынскія, ні татарскія войскі, ні атрады крыжакоў на чале з магістрамі ордэна фон Плоцке і Конрадам Валенродам не здолелі ўзяць яго. Крыху пагрызлі яго вежы, браму, пааббломвалі зубы і ўцяклі.

А тады яны проста дзівіліся на ягоныя рэшткі, як на прывідаў, што паўсталі з зусім невядомай мінуўшчыны, задзіралі галовы, спрабавалі ўявіць, колькі ж вады было

ў рове вакол замка... Мусіць, якраз тады адзін з аднакласнікаў Міхася вырашыў стаць гісторыкам — і стаў ім.

З Навагрудка Міхась пайшоў у свет, які завецца дарослым. Значыць, тры ягоныя гарадкі і гарады навучылі бачыць і думаць, падрыхтавалі да сустрэч з радасцямі і няўдачамі, з каханнем і стратай яго, падрыхтавалі да вызначэння сябе і свайго месца сярод людзей. Але ўга колькі было яшчэ наперадзе! Зусім яшчэ не ведаў, што чаго добрага, а ворагаў будзе. І што яшчэ той не нарадзіўся, каб усяму свету дагадзіў. І што не трэба шукаць гора: яно само цябе знойдзе. Ды і ці толькі гэтага...

І яшчэ Міхасю раз-пораз здавалася, што людзі даволі-ткі мала думаюць пра тое, як шанцуе ім з іх радзімай, з іх зямлёй. Ёсць і ёсць. Думаць трэба, як лепей уладкавацца, як больш атрымліваць, як лягчэй ісці. І жыць трэба толькі там, дзе ўсё лягчэй і лепш, хоць на поўдні, хоць на поўначы, нават у іншай краіне. Сустракаліся яму такія людзі, ён спрачаўся, злаваў, не мог зразумець, чаму яны ёсць. Няхай іх мала, але яны ёсць. І незразумелым было яшчэ, што ў асноўным гэта былі маладыя, маладзейшыя ад яго хлопцы і дзяўчаты.

Жыццё прымусіла адных Міхасёвых сваякоў з'ехаць з Беларусі на поўдзень краіны. З-за хваробы трэба было памяняць клімат, яны паехалі на Паўночны Каўказ, амаль на ўзбярэжжа Чорнага мора. Так у Вайткевіча з'явіўся яшчэ адзін горад, зусім непадобны да беларускіх — Хадыжанск. Міхась тады быў студэнтам і, зразумела, амаль на ўсё лета прыязджаў да сваякоў, нават зімовымі вакацыямі бываў у іх, адным словам, з усім імпэтам маладосці кінуўся ў падарожжы. Краснадар, Беларэчанск, Сочы, Джубга, Дагамыс, Гарачы Ключ, Сухумі, Туапсе — вось далёка не поўны пералік гарадоў і пасёлкаў, у якіх ён быў, затрымліваўся на некалькі тыдняў, убіраў у сябе, дыхаў неабсяжнасцю зялёна-блакітна-чорнага мора, ледзь бачна асмужанага, густымі пахамі поўдня — квітнеючых магнолій, гартэнзій, алеандраў, нагрэтай галькі з налётам марское солі, шматлікіх «шашлычных», «хінкальных», кавярняў, глухнуў ад неверагоднае цемры паўднёвай начы — яна накідвалася на горы, мора і гарады бязгучна і маланкава, як пантэра, і сціскала свет, душыла яго, падсвечваючы сабе адно мігценнем россыпу буйных, нават калматых зорак. У цемры панавалі пахі і звон цыкадаў. Поўдзень быў і неабсяжнай бахчой аднаго з кубанскіх калгасаў, на якой Міхась разам са станічнікамі збіраў ка-

вуны, грузіў іх у машыны. Жанчыны, вясёлыя, смуглявыя, востраязыкія, падбіралі кавуны з зямлі і кідалі іх у кузаў машыны, а Міхась з напарнікам лавіў іх і складваў. Спярша, убачыўшы на машыне незнаёмага хлопца, маладога і светлавалосага, жанчыны па камандзе самай вясёлай і галасістай з іх, Тані, усе кавуны пачалі кідаць Міхасю, і толькі яму. А было жанчын не менш як дзесяць. Кавуны ляцелі, як ядры. Першага-другога Міхась злавіў і паклаў, трэцяга ўжо кінуў, ад чацвёртага паспеў-такі, малайчына, ухіліцца, а астатнія праляцелі над галавой, бо Міхась ужо ляжаў пад бортам, і адзін з тых астатніх кавуноў са смачным храскам уляпіўся ў борт і «ахрысціў» Міхася. Рогату было на добрых дваццаць мінут. Поўднем былі і стромыя марскія берагі пад Джубгай, з берагоў тых збягалі да вады, да вузкіх пляжаў рэдкія і непрыкметныя сцежачкі, прабітыя раўчакамі — іх нараджалі залевы. Людзей тут было зусім мала, бо ў моры далёка, на сотню метраў ад берага, часта вытыркаліся вострыя вяршкі камення і скал, купацца было небяспечна. І ад гэтага вада тут высвечвала дзіўнай чысцінёй, мела нават свой, незвычайны, не такі салёны смак. Міхась заплываў-заходзіў далёка ў мора, ныраў, збіраючы рапанаў і палохаючы маленькіх, але даволі ваяўнічых крабікаў. Ныраць было лёгка, таму што падводныя скалы былі густа зарослыя карычняватымі доўгімі водарасцямі, Міхась чапляўся за іх і ішоў да самага дна, да гладзенькага пясочка. Зрэдку трапляліся напаўпячоры, заплываць у іх было вусцішна, але ўсё ж заплываў, абмацваючы сцены і напружана ўглядаючыся ў цемрадзь марское глыбіні. Аднойчы сярод гэтых скал ён трапіў у шторм — і ўпершыню адчуў, якой мізэрнай трэсачкаю можа быць чалавек у абдымках моцна дыхаючага мора. Чатырох-пяцібальныя хвалі лёгенька ўздымалі яго, як на арэлях, і забываліся гушкаць далей, кідалі на скалы; Міхась спаўзаў з іх, але шторм забаўляўся далей, не выпускаў, як дзіця не выпускае любімую цацку. Да берага Міхась усё ж дабраўся, і добра, што ніхто тады не бачыў яго — адлупцаванага, падрапанага, аглухлага і сляпога. А яшчэ былі горы, шчыльна ўкрытыя нізкім і, у параўнанні з беларускім, калючым лесам. У гарах імчалі дзікія, злыя, пенныя рэчкі, яны сварыліся, нават біліся з камянямі, спрабавалі іх разбіць, падаючы з вышыні некалькіх метраў. У адным з такіх вадаспадаў Міхасю вельмі падабалася круціцца ў густым патоку вады, на імгненне спыніцца, замерці над абрывам — і пра-

валіцца разам з ракою ў бездань, глыбока ўвайсці ў прабіты сярод скал калодзеж і вылецець да святла, да паветра, да жыцця. Па берагах такіх рэк рэдка рос самшыт, вузлаваты, абымшэлы, страшэнна цвёрды — мусіць, ад таго, што вылазіў, выдзіраўся ён з камення, рассоўваў яго, драбіў.

Вайткевічу заўсёды здавалася і здаецца зараз, што на поўдні ўсё больш раскрытае, больш аголенае — фарбы дня, смак ежы, пахі кветак і траў... і пачуцці. Можа, менавіта таму сваю першую жанчыну — аж да болю хацелася, каб яна была ягонай,— ён убачыў якраз на поўдні? Пірамідальныя таполі роўнымі радамі ахоўвалі пыльныя дарогі і ішлі разам з імі ў горы, рэчка Пшыш некуды спяшалася, каламутная і ад ёду — вада пахла ёдам — зялёная, і вочы дваццацідвухгадовай дзяўчыны таксама былі зялёныя, з жоўтымі крапінкамі, Вайткевіч ад іх ашалеў і на ўсё забыўся.

Дарэчы, ужо тады перад Міхасём паўстала — ці ёсць мяжа паміж каханнем і пачуццём? Ці ёсць наогул межы ў адносінах паміж людзьмі? Мусіць, шмат што ў гэтых адносінах, у каханні адбываецца на тым няўлоўным узроўні, зруху, паўтоне, якія і акрэсліць цяжка, а між тым часта якраз яны — галоўнае ў тым, што завецца жыццём, чалавечым існаваннем? І не заўсёды людзі заўважаюць гэтыя паўтоны, дробязі — і расплачваюцца.

Але ж было яму тады ўсяго — семнаццаць.

Міхасёвы сваякі ўсё ж не прыжыліся на поўдні, праз пяць гадоў вярнуліся на радзіму. І Вайткевічу гэта было вельмі зразумела, таму што са сваіх бадзянняў па стэпах, узбярэжжы і гарах ён заўсёды ехаў на Беларусь з палёгкай. Як жа яшчэ едуць дахаты? А пазней ужо, у наступных гадах, калі яму давялося хадзіць і па вузкіх вулачках старога Таліна, і па прасторных праспектах белага Ташкента, і па Кіеве, Кішынёве, Рызе, Тбілісі, домам быў толькі Мінск — горад, які сабраў, прыняў тых, хто вырас у маленькіх гарадках і вёсках Беларусі і хто мусіў пайсці ў мільённыя гарады. Такая ўжо адзнака гэтага стагоддзя — вялізныя гарады, і людзі ў іх апынуліся. Так, Вайткевіч крочыў у свет, былі ў яго гарады — але, здаецца, прыйшоў. Гэтыя гарадкі і гарады яго ўзгадавалі, і, відаць, пабываць у тых гарадках дзяцінства і юнацтва яму ўжо не давядзецца. Аднак жа ён добра ведаў, што без іх не было б яго. Значыць, яны заўсёды з ім.

Праўда, адзін з яго знаёмых неяк усміхнуўся і нагадаў

прыказку: «Чаго, чорце, у балоце сядзіш?» — «Бо прывык». І Вайткевіч засмяяўся і сказаў, што да гумару яго землякоў таксама трэба прывыкнуць.

Наперадзе ж у яго былі яшчэ дарогі, жыццё, а пакуль чалавек жыве — то ўсяго можна спадзявацца.

## ВАЛЮХІ, КРАСАВІК, 46-ты

Клеіць бахілы Макар сеў сёння з самага ранку.

Ён даўно прывык да цішыні свае хаты, да доўгіх гадзін, калі не трэба было спяшацца выпаліць у печы і згатаваць есці перад тым як бегчы на работу ў калгас ці ў школу. І хаця Макар днямі сядзеў дома, прывычка рана ўставаць усё ж засталася, яна жыла ў ім з таго моманту, калі ён адчуў, усвядоміў сябе на зямлі, і ён прачынаўся разам з усімі вяскоўцамі і рабіў зранку тое ж, што і яны. Ужо як не паўгода Макар жыў адзін — у лістападзе памёр бацька, пайшоў услед за маці. Пасля гэтага Макар быў паехаў жыць да цёткі Хадоскі ў Рэчыцу, але доўга там не вытрымаў і вярнуўся назад.

І пакрысе цішыня хаты перастала яго гнясці.

У тым жа лістападзе Макар, якому ішоў пятнаццаты год, кінуў хадзіць у школу. У Рэчыцы дзядзька Яўхім навучыў яго клеіць бахілы, і Макар, вярнуўшыся ў Валюхі, пачаў займацца толькі гэтым — купляў у шафёраў камеры з колаў, націраў гуму таркаю і клеіў бахілы. Акрамя яго, у Валюхах бахілы ніхто не рабіў, таму пакупнікоў заўсёды хапала. З адной камеры атрымлівалася трое бахілаў, нават яшчэ заставалася гума. За камеру Макар плаціў дзвесце рублёў, бахілы каштавалі чатырыста — капейка ў Макара была. Адзінае — яму цяжка было націраць гуму. Макар не выдаваў на свае чатырнаццаць год — малы, худы, з тонкай косцю. Ды і ззаду была вайна. Адно пра многае гаварылі глыбока запалыя вочы — уважлівыя, насцярожаныя, вострыя.

Але памочнікі яму знайшліся.

Неяк у лютым, калі з нізкага неба з ледзяным посвістам і дробным сухім снегам часта нарываліся завеі, калі проста страшна было выходзіць на двор па ваду ці дровы, у хату з грукатам і маладым моцным рогатам зайшлі Пятро Кошаль і Іван Майсеенка. Яны нядаўна дэмабілізава-

ліся з арміі і не вырашылі яшчэ, ці то падавацца ў горад, на дубільны або метызны заводы, што ўжо аднаўляліся, ці то заставацца ў калгасе.

— Зірні, шархае, што той рымар,— яшчэ з парога паказаў на Макара Кошаль.

— Ды не, ён бахілы клеіць,— сказаў Майсеенка.— Колькі зарабляеш, хлопец?

— Пачакай, пачакай,— спыніў яго Пятро,— нўжна з дыпламатыяй. Табе памочнікі не нужны? Мы мужыкі здаровыя, што хош зробім. Можам і кола прыкаціць, і гуму нацерці.

— А што вы за гэта хочаце? — Макар, які спачатку зусім быў разгубіўся, урэшце дапяў, што да чаго.

— Ды нам многа не трэба,— заспяшаўся Майсеенка,— каб было што выпіць і чым закусіць. Разумееш?

— Ты нам ставіш — мы табе робім,— прыйшоў на дапамогу сябру Пятро.— Палюбоўнае саглашэнне, так сказаць. Мануфактуру адкрыеш!

Хлопцы зарагаталі.

— Дык дзе я вам вазьму...— паціснуў плячыма Макар, хаця сам ужо разумеў, што прапанова яму вельмі выгадная — дужыя хлопцы ўмомант націралі б яму гуму, а ён бы толькі клеіў.— Гэта ж недзе купляць трэба...

— Ты, галоўнае, давай грошы,— не супыняўся, напіраў Пятро,— а мы табе той сырэц вёдрамі цягаць будзем. Не прападзеш! Будзеш наймальнікам рабочай сілы, так сказаць, эксплуататарам.

І зноў зарагаталі, задаволены сваім жартам.

І сапраўды, ужо на наступны дзень у Макаравай хаце стаяла вядро сырцу, гарэлкі, па дзевяноста дзевяць рублёў літр. Найміты і ладны шматок сала прывалаклі, усё чэсна аддалі гаспадару і шчыра ўзяліся за працу. Макар спачатку дзівіўся — седзячы побач з ім, яны самі лёгка маглі навучыцца клеіць бахілы. Аднак Кошаля з Майсеенкам цалкам задавальнялі тарка ды конаўка з лустай сала. І, надзівіўшыся, Макар прывык.

Але найміты, бывала, на які час знікалі, і тады Макар корпаўся з гумаю сам, не чакаў, пакуль напоўняць хату сваімі пахавамі і галасамі добраахвотныя памочнікі. Зрэшты, ён ужо і прывык да таго, што яны ёсць недзе побач, а асабліва радаваўся якраз у лютым, калі яны ўпершыню з'явіліся ў хаце.

Макар застаўся ў Валюхах без сваякоў — адзіная цётка Хадоска жыла ў Рэчыцы, але яе мужык, Яўхім, не ду-

жа любіў Макара, ён наогул быў ваўкаватым чалавекам, і Макар там амаль не паказваўся. Тут, у Валюхах, да яго часта падходжвала бабка Дзянісіха, варыла есці, мыла бялізну, не абміналі яго і суседзі Бацянавы. Самі яны жылі вялікай сям'ёй, аж пяцёра дзяцей, увесь час даводзілася думаць пра кавалак хлеба — і ўсё ж цётка Тацяна ніколі не забывалася на Макара, шкадавала хлопца, які застаўся бязбацькавічам. Увогуле, пасля смерці бацькоў дзяржава ўзяла Макара на забеспячэнне — штомесяц яму давалі пяцьдзесят рублёў, кілаграм дзвесце грамаў тлушчу, дванаццаць яек, пяць метраў матэрыі.

Ну і бахілы, і разам з імі Кошаль з Майсеенкам. Так што ў школе асаблівай патрэбы Макар не бачыў.

Пасля доўгага сядзення Макар кінуў гуму, разагнуў спіну, зірнуў у акно — і аж закрыў вочы рукой, зажмурыўся. Пацяклі слёзы, у чарнаце запульсавалі markalярозныя кругі, і яшчэ мінут дзесяць мігцелі ў вачах вострыя, нават калючыя іскрынкі.

За акном было сонца.

І Макара адразу пацягнула на вуліцу — да святла, шырокага блякла-сіняга неба, да паветра і сонца. Ён выйшаў на гарод. Яшчэ ляжаў у разорынах і пад плятнём учарнелы снег, але большасцю зямля ўжо была гразкая і тлустая, мякка паддавалася пад нагой. Іхні гарод шырокім пасам цягнуўся да абрыву колішняга дняпроўскага рэчышча, і пад тым абрывам былі вада, чарада старых карабатых вязаў з буслянкаю на адным з іх, стрыжань Дняпра, голыя дубцы лазнякоў, якія вось-вось павінны былі апушыцца жаўтлявенькімі і мяккімі, як шэрстка кацяняці, каташкамі. І яшчэ панавала, уладарыла над усім вясна. Гладзіла твар сонца, лёгенькі ветрык кудлаціў валасы, ад рэзкага паветра ажно балела ў грудзях. Вочы, і скура, і душа ўбіралі ў сябе ўсё гэта, што ляжала перад ім, дыхала, мігцела срабрыстай лускай на плыні, звінела. Макар раптам пачуў пеначку, што ценькала незвычайна чыста і звонка.

І ці не ўпершыню пасля смерці бацькі сэрца сціснулася ад прадчування блізкае, светлае радасці. Макар раптам успомніў, як яшчэ малымі, да вайны, у такі вось сонечны ясны дзень яны збіраліся вялікім гуртам і ішлі гуляць у Чорны лес. Да лесу трэба было ісці гадзіны паўтары, і кожны браў з сабою сала з хлебам, цыбуліну,

слоікі пад бярозавік. Лес хаця і называўся Чорным, але быў зусім не чорны. Гэта толькі здаля ён аддзяляў зямлю ад неба пагрозлівай чорна-шызай сцяной, памалу насоўваўся, утыркаўся ў неба вострымі вяршалінамі ялін. А зблізку сцяна раптам раскідалася — і ў лес можна было заходзіць, як у сваю хату. Яны звычайна ішлі да бярэзніку на вялікім грудзе. Тут, як бабы сярод малечы, стаялі, паблажліва пазіралі на свет старыя, з тоўстымі нарасцямі гадоў на парэпанай кары бярэзіны, глядзелі, каб далёка не адбягалася ад іх гонкая і светлая дзятва. А бярозкі тоўпіліся вясёлымі табункамі, каторая з іх забягала ў гушчэчу бухматых ялінак, у кампанію асінак з вольхамі — і палахліва замірала там, з дрыготкім лісцем азіралася, прывыкала, гукала сяброўак да сябе. Ды тыя ўсё ж баяліся збегчы з груда, адно пазіралі і размахвалі тонкім веццем з тоўсценькімі пупышачкамі. Любімай гульнёй хлапчукоў было гушкацца на гэтых маладых бярозках — залазілі на самыя вяршаліны і разгойдваліся, адчуваючы пругкасць маладога дрэўца, да абмірання сэрца. Зямля раскручвалася, ляцела, неба раптам аказвалася побач.

У слоікі капаў, струменіў сок, на агні сквірчэла насаджанае на дубчыкі сала, ягоны тук ашчадна абмаквалі хлебам, тут жа, каля слоікаў, ляжалі букецікі калматых, цёплых навобмацак кветак сон-травы...

На худым, бледным твары Макара свяцілася зараз усмешка, і вочы ўжо не зажмурваліся ад сляпучага сонца. Здавалася, ён бачыў само дыханне вясны — з зямлі ў неба ішлі дрыготкія струмені паветра, разліваліся над ёй блакітам, у дняпроўскай плыні смяялася сонца, крыху набухала зямля, рыхтуючыся раджаць, карміць, лілася музыка нячутнае людское песні.

Ён павярнуўся і як бы чужым вокам паглядзеў на сваю хату — невялікая, вокны як не над самай прызбаю, старыя сенцы ўжо крыху і пахіліліся. Хата нагадвала стомленую бабулю ў зношанай дзіравай вопратцы. У хлява быў яшчэ больш гаротны выгляд. Абымшэлая салома на страсе ў некаторых месцах паабдзіралася, зеўралі некалькі дзірак, відаць былі закоцвіна і кручча, на якія некалі была накатаная цвёрдая, хрусткая салома; добра, хоць трывала стаялі сохі. Макар падумаў, што трэба папрасіць дзядзьку Ігнася Будніка памагчы паправіць гэтую страху на сохах. «А дровы яшчэ засталіся»,— мільганула ў галаве. У кастры, складзеным яшчэ бацькам, дроў было месяцы на два.

Макар глыбока ўздыхнуў і пакіраваўся ў хату — чакалі гума, тарка, клей, чакалі бахілы.

Недзе пад абед у сенцах затупаў нехта чужы — нязвычна рыпнулі дзверы сенцаў, дзынкнула вядро на ўслоне, няўпэўнена намацала клямку рука — і толькі тады пастукаліся.

— Заходзьце! — крыкнуў Макар.

У хату павольна зайшоў чалавек у армейскім шынялі і афіцэрскіх ботах, нерашуча спыніўся каля парога — пасля вулічнага святла вочы, мусіць, мала што бачылі, і чалавек пакуль прывыкаў, аглядаўся.

«Пакупнік, пэўна,— падумаў Макар,— бахілы трэба. А боты ў яго харошыя, амаль новыя».

— Добры дзень. Ці можна вады папіць? — нарэшце вымавіў госць, і адразу стала зразумела, што чалавек нядаўна толькі дэмабілізаваўся з арміі — надта ж камандзірскі быў ягоны голас, ды і рэзкія, кароткія рухі паказвалі на прывычку камандаваць.

— Піце,— Макар кіўнуў на ўслон, дзе стаялі два амаль поўныя вядры, а сам адклаў убок гуму і крадком цікаваў: з якога вядра будзе чэрпаць?

У адным вядры была вада, у другім — сырэц.

Чалавек узяў з падваконня конаўку, зачэрпаў адкуль трэба, прыклаўся — і вочы яго вырачыліся, дыханне перанялося, вольная рука бязладна матлянулася ў паветры. Але ўсё ж выправіўся, выцягнуў з конаўкі да канца, хукнуў у рукаў.

— Н-нічога... н-няблага жывеш...

Макар не ўтрываў, засмяяўся, бо з твару дзядзькі ўсё не сыходзіў пакрыўджаны выраз. Але ўжо ў наступны момант зморшчыны разгладзіліся — і дзядзька засмяяўся таксама.

— Закусіць хоць у цябе ёсць? — ужо неяк па-свойску спытаўся ён, выцягнуў з-пад стала табурэтку, сеў.

— А як жа! — Макар хуценька палез пад ложак, вывалак адтуль мех, дастаў з яго хлеб, сала.

— Ого, як у цябе! — здзівіўся дзядзька.— І хлеб, і да хлеба.

— Ёсць трохі,— сціпла, па-даросламу сказаў Макар, адкроіў ладную лусту хлеба, тоўста парэзаў сала.— Яшчэ вып'еце?

— Хіба толькі з табой,— усміхнуўся дзядзька.

— Я не люблю.

— Дык навошта тады гарэлка стаіць?! Цэлае вядро! — зноў здзівіўся госць.

— Трэба.

Памаўчалі. Дзядзька ў ахвотку жаваў, Макар спаласнуў конаўку, паставіў яе на падваконне. Падумаў трохі — і адставіў вядро з сырцом падалей ад вады.

— Пад'елі — і самы час пазнаёміцца,— чалавек устаў, звычным армейскім рухам абцягнуў шынель, ледзь не стаў па стойцы «смірна» і не ўзяў пад казырок.— Дырэктар Левашоўскай няпоўнай сярэдняй школы Кавалёў.— І працягнуў для поціску руку.

— Макар... Макар Бянчук.

— Ведаю,— Кавалёў яшчэ раз уважліва абвёў позіркам хату, паглядзеў Макару проста ў вочы.— Адзін жывеш?

— Адзін... з лістапада.

— А чым займаешся?

— Бахілы клею,— паціснуў плячыма Макар.— Для гэтага і сырэц стаіць. Для памочнікаў.

— А-а...— разумеючы, працягваў Кавалёў.— Цяпер ясна. Колькі табе гадоў?

— У тым месяцы чатырнаццаць было. А ў школу я толькі да вайны хадзіў... І гэтай восенню трохі. Але потым бацька...

— Ясна... І цяпер, канечне, ісці ў школу не хочаш. Бахілы трэба клеіць, так?

— Чаму... цэлы дзень я ж іх не клею. Бацька перад смерцю гаварыў, каб я вучыўся...

— Правільна гаварыў, разумны, значыць, чалавек быў,— і раптам скіраваў гаворку ў зусім іншы бок: — Курыш, мусіць? Сырэц ёсць, і папяросы павінны быць, правільна я гавару?

— Ёсць...— ад нечаканасці іншых слоў у Макара не знайшлося.

Ён пацягнуў шуфлядку стала, і Кавалёў убачыў ладную кучку чырвоненькіх трыццатак — Макараў заробак за бахілы,— два пачкі папярос, «Беламор» і «Дэлі», па сто штук у кожным пачку.

— Якія будзеце курыць?

— Што ж, давай пашыкуем,— Кавалёў узяў з пачка «Дэлі» папяросу, размяў яе, дастаў запалкі.

Што было рабіць Макару? Закурыў таксама.

— А цяпер паслухай, хлопец, мяне...— Кавалёў крыху памаўчаў, збіраючыся з думкамі.— Табе вось толькі

чатырнаццаць. Зразумела, жывеш адзін... Вайна, гары яна агарам... На добры розум, цябе трэба б у дзіцячы дом аддаць. Ды бачу, ты і сам... не зломак? А і правільна. Калі сам сябе ў рукі не возьмеш, ніхто цябе не навучыць. І вось жывеш ты, значыць, адзін, клеіш бахілы, сырэц з папяросамі ў цябе ёсць, памочнікі... О, дарэчы, хто яны такія?

— Ды хлопцы... дарослыя. Майсеенка з Кошалем. Не, яны нічога,— Макар заспяшаўся, баючыся, што Кавалёў блага падумае пра ягоных памочнікаў,— гуму націраюць добра, вясёлыя. Вып'юць, закусяць і дахаты пойдуць. Адзін я так не ўпраўляўся б...

— Ну так, адзін ты пакруціўся б, асабліва не пашыкаваў бы. Але справа не ў гэтым... Табе, браце, яшчэ жыць ды жыць. Знаеш, вайна скончылася, жыццё хутка пойдзе новае. І без навукі цяжка будзе. У цябе, пэўна, чатыры класы ёсць?

— Ёсць.

— Ну во, чатыры класы. А што такое чатыры класы? Што яны такое для новага жыцця? Так, распісацца ды два плюс два раўно чатыры. А жыццё, знаеш, пойдзе будзь здароў якое. Усюды машыны, разлік, індустрыялізацыя, адным словам. Ты і сам павінен ведаць. А бахіламі сваімі ты ўвесь час жыць не будзеш. Гэта я табе точна кажу — не будзеш.

— Ды я пакуль толькі...

— Во-во, пакуль. А там уцягнешся — і ўсё. Не, браце, бахілы, канечне, клей — але ў школу хадзіць трэба. Вось так. Заўтра прыходзь — і адразу да мяне.

— А ў які клас возьмеце?

— Не пакрыўдзім! — усміхнуўся Кавалёў.— Ты ж яшчэ не ўсё забыўся?

— Не-а. Усе кніжкі перачытаў, што ў нас і ў суседзяў былі, мусіць, ніводнай на вёсцы не засталося, каб не прачытаў.

— То я і сам бачу, што хлопец ты з галавой. Відаць, у пяты клас і пойдзеш. А як будзеш добра вучыцца, экзамены можна здаваць экстэрнам. Самому ўсё вучыць — і здаваць. Гады губляць няма сэнсу, разумей.

Кавалёў устаў, даючы зразумець, што размова скончана. Яшчэ раз абвёў позіркам хату, падышоў да вядра з сырцом, усміхнуўся, пахітаў галавой, зноў узяў з падваконня конаўку — але чарпануў ужо з вядра з вадой, выпіў.

— А ты што, адзін у бацькоў быў? — нечакана спытаўся ён.

— Чаму, не адзін. Нас тры браты, я малодшы. Васіль яшчэ да вайны ў армію пайшоў, цяпер недзе ў Германіі даслужвае. Сярэдні, Змітрок, у Прусіі загінуў. Спачатку яго немцы забралі, павезлі ў Германію, дык ён з эшалона ўцёк. Бамбёжка была, ён і ўцёк. А як прыйшлі нашы — пайшоў ваяваць. Пахаронку прынеслі, ужо як маці не было.

— Ясна... Не нудна аднаму ў хаце?

— Да мяне Дзянісіха заходзіць, калі есці зварыць, кашулі памые. Я ёй казаў, каб да мяне жыць пераходзіла. У яе хата ўжо зусім старая, дзіравая. Сказала, што пералетуе — тады пяройдзе. А так нічога.

Кавалёў пайшоў быў да дзвярэй — і спыніўся:

— Слухай, а сырэц ты аддай гэтым сваім памочнікам. Так усё вядро і аддай. Хай п'юць дзе хочуць. Знайшлі, панімаеш, карчму. Скажы, што прыходзіў чалавек з раёна — і забараніў. Маўляў, прыйдзе правяраць і ўсё такое. Ты цяпер пад апекай дзяржавы, а дзяржава супраць, каб яны ў цябе пілі. Ясна?

Макар кіўнуў галавой. Ён адразу паверыў гэтаму чалавеку. У яготых словах, ва ўсёй яго ўпэўненай паставе былі пераконанасць, цвёрдасць, моц — тое, чаму адразу хочацца верыць. Гэты чалавек ведаў, што яму трэба, за што і супраць чаго ён ідзе. Ведаў, што праўда на яго баку. А таму і меў права вучыць, паказваць, патрабаваць.

— І вось што...— Кавалёў ужо трымаўся за ручку дзвярэй і ўсё не мог іх адчыніць,— калі я яшчэ ўбачу цябе з папяросай у зубах... Лепей мне гэта не бачыць. Зразумеў? Дальбог, губы папухнуць. А я жартаваць не ўмею. Так што — да заўтра.

Грукнулі дзверы — і зноў хату агарнула ціша. Але ціша гэтая ўжо была не заўсёдная, прывычная — не ранішняя. Перад вачыма паўсталі дняпроўская прастора, блакітная вышыня неба, пачуўся спеў пеначкі — Макар яшчэ раз адчуў вясну, радасць.

Кошаль з Майсеенкам прыйшлі пад вечар. Па тым, што апрануты яны былі ў лепшае, Макар зразумеў — сябры ездзілі ў Рэчыцу. Пра гэта гаварылі і іх узбуджанасць, іх спрэчка паміж сабой.

— Не, на дубільны нам няма чаго савацца,— даказваў Кошаль, які адразу накіраваўся да вядра з сырцом.—

А вось з метызным яшчэ трэба паглядзець. Сам жа чуў, што капейка там большая. Завод будзе расшырацца, будуць набіраць новых рабочых. Спакойна можна ў брыгадзіры выбіцца і нават вышэй. Яшчэ крышку пачакаем, тады і рошым.

З іх двух амаль заўсёды гаварыў адзін Кошаль, Майсеенка толькі агакаў і некаў.

— Давай, Макар, закусь,— Пятро стаяў ужо з поўнай конаўкай.

Макар не надта спяшаючыся палез пад ложак, павярушыўся там — і раптам сціх.

— Сёння прыходзілі... з раёна,— голас з-пад ложка гучаў, як са склепа,— сказалі, каб я вам сырэц аддаў. Сказалі, каб ішоў у школу, а то забяруць у дзіцячы дом.

І Макар з палёгкаю вылез.

— Што-што?! — Кошаль стаяў з конаўкаю, высока падняўшы локаць, у непаразуменні глядзеў на Макара.

— Сказалі, што, калі яшчэ знойдуць у мяне сырэц,— забяруць. Начальнік з раёна прыязджаў.

— От бляха-муха! — Кошаль грукнуў конаўкаю аб стол, ажно трохі і выплюхнулася з яе.— Данёс нехта! Празналі, ты ж панімаеш... Усё, спакойнага жыцця ўжо не будзе. Трэба, Іван, у Рэчыцу матаць. А то пачнецца звяга — не разблытаемся.

— То паедзем.

Іван быў і спакайнейшы, і больш мэтанакіраваны — узяў са стала конаўку, выпіў, закусіў.

— Не, гэта ўсё бабы,— не мог супакоіцца Кошаль,— толькі яны здагадаюцца чалавеку жыццё спаскудзіць. То маці піліла, то гэтая пачала голас падаваць... «На работу трэба ісці, людзі пальцамі паказваюць...» Сваё адпрацуем, хай не баяцца. Анічога больш не пыталіся... пра нас?

— Не,— Макар ніякавата паціснуў плячыма,— сказалі толькі, каб у мяне больш ніхто не піў.

— Ну ясна... Папераджальны стрэл, так сказаць. Трэба ехаць, у горадзе вальней будзе. Жонцы скажу, што спачатку ўладкуюся, пасля яе забяру. Табе, Ваня, добра, ты нежанаты.

— Жанюся,— Іван лена жаваў хлеб.— Дзе я дзенуся?

— Ну а ты што? — Пятро павярнуўся да Макара.

— Нічога... заўтра ў школу пайду.

— А бахілы?

— Памалу буду рабіць. Гэта ж ніхто не забараняе.

— Та-ак... вытворчасць, значыць, закрываецца, і дом

вясёлых сустрэч таксама. А ты, значыць, у вучоныя надасіся?

— Чаму, хоць сем класаў скончу. Кажуць, што зараз усюды машыны будуць. І ў вёсцы.

— Ну ладна. Пайшлі, Іван,— Кошаль падаўся да дзвярэй.

— Сырэц забярыце,— напомніў Макар.— Дзе я яго схаваю?

Кошаль, нічога не кажучы, рашуча падышоў да ўслона, узяў вядро, гэтак жа рашуча выйшаў з хаты. Але на двары ён ужо не спяшаўся, пачакаў Івана.

— Ну і куды мы з ім?..— ягоны голас з-за акна чуваць быў даволі выразна.— Як свіння з апельсінам у зубах...

— Схаваць трэба.

— Не, лепш у лужыну выліць!..— зазлаваў Пятро.— Ты кажы — дзе схаваць? У мяне ж нельга, твая старая таксама адразу ўсё расшалэпае. Потым не дапросішся.

Памаўчалі.

— Так, давай пакуль у Макаравым склепе паставім. Знойдзем месца — і заўтра забяром. От не было ліха!..— Кошаль сплюнуў.

Галасы сціхлі.

«Хай,— падумаў Макар,— канечне, забяруць заўтра, нідзе не дзенуцца. А з вёскі не з'едуць, пакуль не вып'юць, ведаю я іх».

Ён зноў быў узяўся за тарку — але аднастайнае шарханне было зараз зусім не на радасць. Тады ён дастаў свой нож- разак, які спецыяльна для яго зрабіў мясцовы каваль Міканор Савасейка, пачаў яго правіць. З усяе гэтае работы — клеіць бахілы — яму больш за ўсё падабалася якраз кроіць і рэзаць гуму. Вострае лязо акуратна рэзала яе, і ў асобных лапінах ужо ўгадваліся абрысы будучых бахілаў. Яго часта здзіўляла, што бачыў гэтыя будучыя бахілы толькі ён, а ўсе астатнія няўцямна круцілі кавалкі гумы ў руках і паціскалі плячыма.

Ён асцярожна вадзіў па бруску лязом нажа, кратаў пальцам, ці вострае, зноў тачыў. Нож у яго быў сапраўды трохі незвычайны — хоць і з ручкай, але трымаць яго трэба было за лязо зверху, і таму верхняя частка нажа была тоўстая, як спіна якога галаўня, а ніжняя вострая, як брытва.

І раптам Макар убачыў увесь свой сёнечны сённяшні дзень — і здзівіўся, як многа ўсяго ў гэтым дні было.

У Валюхах быў красавік, год ішоў сорак шосты.

# НА ВОСЕНЬСКАЙ РАЦЭ

І вось тут сябры — Базыль Пеўнік, Змітро Дзяга і Рыгор Шкель — вырашылі пагуляць.

Пагуляць, з'ездзіць на лодцы ў вёску Церабеі на процілеглым прыпяцкім беразе, думалі яны, ужо было можна. Так атрымалася, што сябры гэты золкі лістападаўскі адвячорак сустрэлі як мае быць. Ды і што ж тут дзіўнага, калі лістапад ёсць лістапад, і ватоўка, заўсёды такая надзейная, такая зручная, раптам здаецца залёгкаю і кароценькаю, і неба, роднае палескае неба, таксама раптам дзіравее, нехта там наверсе пачынае бязлітасна мыць, паласкаць зямельку і поўніць балоты, якія і без таго ніколі не былі сухімі,— адным словам, лістападаўскае Палессе падказвала сваім сынам, што нялішне паказаць сябе ініцыятыўнымі людзьмі. А сябры нашы, амаль аднагодкі, і так ніколі не былі зломкамі, тым больш аднаго з трох — Пеўніка — напаткала, як бы гэта сказаць... няшчасце. Базылёва каханая Марыйка сёння адштурхнула яго, скоса зірнуўшы блакітным гнеўным — гнеўным! — вокам, і сказала, што Базыль ёй зусім не патрэбен. Аказваецца, Базыль яе не любіць і ніколі не любіў, бо працуе не ў вёсцы, а на сваёй землечарпалцы, на бруднай баржы. «Можаш не прыязджаць зусім!» — горда сказала Марыйка. Базыля ўсё гэта ўразіла да глыбіні душы, асабліва гнеўнае блакітнае вока, бо ён дагэтуль проста не мог паверыць, што блакітныя вочы могуць гневацца, і таму адно здолеў выціснуць з сябе, што земснарад іхні не брудны і не баржа. Але Марыйка не звярнула на гэтыя яго словы аніякай увагі і пайшла — стрункая, напятая, яшчэ прыгажэйшая, як заўсёды. Базыль прысунуўся на земснарад не падобны да сябе, ні пра што не захацеў гаварыць, адно курыў, седзячы на канатнай тумбе. Змітро з Рыгорам спачатку хадзілі кругом яго, спрабавалі чапляцца — што ды чаго, ды бяда якая, потым кінулі: Базыль маўчаў як сцяна. І сядзеў ён гэтак мо гадзіну. Можа, і не было б нічога, каб яшчэ зранку Рыгор не з'ездзіў у бліжэйшую краму і не прывёз. А так і халадэча гэтая, і разбітае сэрца такі звялі хлопцаў разам, прымусілі іх патрымацца за шклянкі, крыху пагаманіць, наракаючы на тое і гэтае,— урэшце ўсё павярнулася так, што абысціся без Церабеяў ім было нельга.

— Наплюй! — падміргнуў Базылю Дзяга, лепшы яго сябра і заўсёдны завадатар у іхняй кампаніі.— Бабы і

ёсць бабы, не звяртай увагі. От зараз паедзем у Церабеі, у клуб зойдзем, полечку збацаем... А там і з дзеўкай можна будзе прайсціся. Гэта самая патрэбная справа — з дзеўкай. Назаўтра твая Маруська даведаецца, што ты гуляў з церабееўскай дзеўкай,— і кошачкай каля цябе затрэцца.

— Ды дзе яна даведаецца...— махнуў рукой Базыль.

— А я табе кажу — даведаецца. Не было яшчэ, каб бабскі тэлефон заела. Паміж Вярхіннем і Церабеямі восем кіламетраў, а калі і як хто чхнуў, яны ведаюць праз мінуту!..

Хлопцы зарагаталі, нават Базыль не ўтрываў, усміхнуўся. На земснарадзе яму сапраўды зрабілася неяк лягчэй — пацвельванні сяброў, як ні дзіўна, супакоілі, адцягнулі ад Марыйчыных вачэй, што смяяліся з яго, здзекаваліся. Правільна, у клуб трэба, з якой-небудзь і пайсці аж да раніцы, хай ведае, цаца блакітнавокая... І зноў сціснулася сэрца, бо блакітныя вочы яшчэ раз зірнулі на яго, усміхнуліся. Базыль замітусіўся, скокнуў у кубрык, памахаў грабеньчыкам перад люстрам, яшчэ і світэр паддзеў пад пінжак — лістапад дык лістапад, нішто, паглядзім, хто шкадаваць будзе.

А Дзяга са Шкелем ужо наладзілі кацярок з невялікай рубкаю, не кацярок нават, а звычайную лодку з надбудоваю, чакалі яго, прыспешвалі, і крыкі іх весела перакатваліся над свінцовай прыпяцкай стынню. Рака нават жывой зрабілася — быццам закачаліся на ёй чайкі, пачалі крычаць, дзяўбці яе плынь, калі пырскала па паверхні чародка вузенькіх сібількоў. Так, рэзкія крыкі хлопцаў чамусьці нагадалі яму чайчыны.

Раўнуў матор, пацягнула сіняватым дымком, вінт сярдзіта ўзбіў ваду — і ў вушах засвістаў вецер. Земснарад са шнурком агеньчыкаў, што ўжо запаліліся, апаясваючы ўсё яго доўгае цела, пачаў памалу адсоўвацца. На земснарадзе заставаўся механік Пятрэнка, «дзед», ён нічога не сказаў, калі хлопцы пачалі збірацца, і таму яны рванулі гуляць са спакойнай душой. Базыль крыху здзіўлена паглядаў на сваіх сяброў — тыя парасшпільваліся, старанна, ажно надзімаліся жылы на горле, крычалі нейкую песню, хаця за ровам матора яны, мусіць, не чулі нават самі сябе. У рубку ніхто з іх не захацеў лезці, цесна сядзелі ў кокпіце. Дзіўна, але гарэлка Базыля сёння не ўзяла зусім, і зараз, побач са спевакамі, яму зноў зрабілася нямілa. Зноў смяялася з яго яна, роспач яго і згуба, радасць яго і адчай, каханне яго і боль. За што яна з ім так? Хіба

можна біць таго, хто любіць? Няўжо заўсёды паміж людзьмі такое?

Надрэчная прастора гушчэла, неба прыціснулася ледзь не да самае зямлі, у яго шэрані раптам бліснула дрыготкая зорка. Бліснула і знікла. І ад гэтага раптоўнага і імалётнага яе бляску яшчэ больш зашчымела сэрца, ён аж зморшчыўся.

Нават рака сёння была Базылю чужая, халодная. Пеўнік на Прыпяці нарадзіўся, на ёй вырас, у ёй ахрысціўся, з яе прычашчаўся — для яго рака была ўсім. На многія кіламетры ведаў ён яе берагі, ведаў яе характар і моц, ведаў рыбу, мог паказаць, дзе якая любіць стаяць, дзе яе трэба лавіць. Канечне, з гадамі рака мянялася, дзесьці падмываліся стромы з векавечнымі дубамі на іх, дзесьці намываліся доўгія і небяспечныя меліны, каторым годам шалёная вада залівала вёскі, у якіх людзям пра такое раней не магло і прысніцца,— але ён усё ж яе ведаў. Адно — паменела рыбы. Можа, ва ўсёй рэчцы яе і не паменела, можа, яна проста сышла да якіх іншых віроў і перакатаў, але ў многіх месцах, добра знаёмых яму з дзяцінства, яна знікла. Знікла бадай уся, не лічачы якой малечы. Ды, зрэшты, у ягоныя дваццаць з лішкам чалавек ужо мала калі гуляецца з вудамі і донкамі. А трэба рыба на якое свята — ёсць лодкі, ёсць сваякі з сеткамі, ёсць мясціны, у якіх тыя сеткі можна закідваць, не баючыся. Хоць у запаведніку. Таму і ўспамінаў ён пра свае змаганні з кілаграмовымі ляшчамі ўжо толькі зрэдку. Ды і то без тужлівых уздыхаў.

Рака была, ён на ёй жыў і не думаў, канечне, пра тое, колькі шмат яна для яго значыць. Але вось аднаго разу, яшчэ да арміі, Базыль усё ж адважыўся кінуць гэтыя берагі, парослыя кучаравымі лазнякамі, лазнякамі, гаркавы пах якіх хвалямі накочваецца на палескія вёскі — наляціць і знікне, абдасць хаты, хлявы, вуліцы, агароды з садамі, і растворыцца ў бляклым шырокім небе. Для Базыля гэты гаркавы пах быў пахам ракі, пра гэта ён не задумваўся, а проста ведаў. Базылёў дзядзька Антон, які жыў у Маскве, угаварыў пляменніка прыехаць пагасцяваць да яго. Там, у Маскве, Базыль не асабліва і разгубіўся, хутка прызвычаіўся да метро і тралейбусаў, хутка вывучыў, як зручней дабрацца з цэнтра да дзядзькавага дома, з павагай і здзіўленнем ён пахадзіў па Крамлі, пабыў і ў музеях. І аднойчы страшэнна здзівіў дзядзьку — электрычка імчала па чорным тунелі, зрэдку паміргвала святло, аб'-

яўляліся прыпынкі і пераходы на другія станцыі метро. Базыль і дзядзька моўчкі трымаліся за парэнчы, толькі што не чыталі кніжкі, як сапраўдныя масквічы, і раптам Базыль мармытнуў нешта незразумелае і выскачыў з электрычкі на станцыі «Ленінскія горы». Дзядзька дык не паспеў і выскачыць. А Базыль некаторы час нерухома стаяў перад шкляною сцяной станцыі, глядзеў — так, перад ім была рака. Не Прыпяць, канечне, многа меншая, без берагавога кустоўя, без стромаў з дубамі і шырокага неба, але рака. Сціснутая каменнымі берагамі, будынкамі, што падступалі ледзь не да самае вады, Масква-рака. Уявілася, што ў цёмнай і тлустай вадзе таўкуцца катэры, буксіры, цеплаходзікі, перакатваюцца над ёй гудкі. І Базыль адчуў, што ягоная Прыпяць будзе з ім заўсёды. І адчуўшы гэта — ён глыбока і шчасліва ўздыхнуў і ўсміхнуўся дзвюм дзяўчынам, што запыніліся каля яго. Але дзяўчаты ўсмешкі не ўбачылі — масквічы ніколі не разглядаюць сваіх выпадковых суседзяў, яны занятыя толькі сабой.

Пасля арміі Базыль сапраўды вярнуўся дахаты, хаця многія яго саслужыўцы падаліся па камсамольскіх пуцёўках на будоўлі Сібіры і Поўначы, агітавалі і яго, белявага палешука, бяскрыўднага маўчуна і добрага хлопца,— ды дарэмна. Дома ён спачатку працаваў механізатарам у калгасе, але гэтым летам Змітро Дзяга падгаварыў яго перайсці на земснарад. Сам Змітро — высачэзны, здаровы хлопец з шырокай ніжняй сківіцай і вачамі, як жалуды,— у арміі ўсё яшчэ не служыў. Спачатку ён вучыўся ў СПТВ, потым год у тэхнікуме, адтуль, не вытрымаўшы змагання з таўшчынёй падручнікаў, перасеў за штурвал «Беларуса» ў сваім калгасе — і прыбіўся да ракі. Чаму ўвесь гэты час на яго не звяртала ўвагі прызыўная камісія, ніхто не ведаў. А тое, што ён прыбіўся да ракі, было натуральна: з сёмага класа Змітро хадзіў у цяльняшцы, не здымаў яе, мусіць, і ноччу. Цяльняшкі яму прысылаў з Балтыкі брат, які працаваў рыбаком. «Порт прыпіскі Клайпеда» — любіў гаварыць Змітро. Некаторы час у яго і мянушка была — Марачок, яе Дзяга прыдумаў сам і праз вернага свайго ад'ютанта Рыгора Шкеля «пусціў у масы». Ды тайпае амаль заўсёды робіцца відавочным — хлопцы разабраліся, што да чаго, мянушка не прыжылася. На вёсцы і ўсюды, дзе Змітро аб'яўляўся — у вучылішчы, тэхнікуме і на тым жа земснарадзе,— яго, як ні дзіўна, звалі толькі па прозвішчу. «Дзяга, зноў фокусы? От будзе яшчэ табе дзягі...»

Земснарад Дзяга знайшоў сам — той і працаваў не так далёка ад іхняй Вярхіні,— уладкаваўся на яго механікам-машыністам, пасля прыйшоў да Базыля. «Кідай,— сказаў,— свайго трактара, пайшлі на раку. Тут і зарплата нічога, і на адным месцы не сядзіш. І мала начальнікаў». Базыль супраць ракі нічога не меў. «Чаму Шкеля не клічаш?» — толькі спытаўся ён. «Даўно ўжо каля мяне,— бупадміргнуў Дзяга,— памочнік машыніста. Усе ўтрох будзем!» Са Змітром Базыль вучыўся ў адным класе, а Шкель, які канчаў школу на год раней, заўсёды быў з імі ў адной кампаніі. Ён быў малы, многа слабейшы за Змітра, яго нават і ў армію не бралі з-за хваробы — Рыгор маўчаў, з-за якой менавіта,— Дзяга любіў ім камандаваць. На земснарадзе Базыль уладкаваўся электрыкам. І вось Марыйка сказала, што ён ёй зусім не патрэбен... Базыль ажно скрыгатнуў зубамі і халадзеннай вадой пырснуў сабе ў твар.

Усюды, як кінуць вокам, была цёмна-шэрая вада, усё мацней нарываўся вецер, сціхлі спевакі, пазашпільваліся. Пад берагамі варушыўся, клубіўся прыцемак, выпаўзаў на чыстую ваду, але недалёка: яшчэ бачныя былі бакены і вехі.

— Глядзі, глядзі, плыве!..— раптам загарлаў Дзяга, Базыль з Рыгорам знячэўку ажно падскочылі, закруцілі галовамі.— Вунь, вунь, лявей!

Дзяга, які кіраваў лодкаю, скінуў газ, лодка пайшла паўкругам. Цяпер і хлопцы ўбачылі цёмную пляму, быццам корч, за ім ішлі дзве касыя дарожкі — нехта сапраўды плыў цераз раку, нехта вялікі і моцны.

— Няйначай, лось! — узбуджаны Дзяга махнуў Шкелю, каб той перасеў на руля.— От зараз я яму ўрэжу!

— Навошта,— паспрабаваў спыніць яго Базыль.— Хай плыве.

— Сядзі давай, толькі пад руку не лезь...— Дзяга выхапіў прымацаваны ўздоўж борта багор, узважыў у руках, перахапіў як зручней.— Павольней, яшчэ... Самы малы! Падыходзь левым бортам... вось так!

Базыль адсунуўся ад яго як падалей — яшчэ зачэпіць, боўдзіла, зараз яму на дарозе не станавіся: шалёныя вочы, сціснутыя сківіцы, нават валасы дыбам. Ён прысеў, трымаючыся абедзвюма рукамі за борт, пачаў углядацца. Гэтак жа нерухома выцягваў шыю Шкель, ажно высунуў кончык языка і прыжмурыў адно вока — так стараўся як мага дакладней падвесці да лася катэр. «Нешта на лася не

падобна...» — мільганула ў Базылёвай галаве, ды было позна.

Дзяга шырока, быццам калоў дровы, размахнуўся і гахнуў па тым, што плыло; ад стараннасці ён ледзьве не выкуліўся за борт. І тут раптам багор, што тая лёгенькая трэсачка, вырваўся з ягоных рук і адляцеў далёка ўбок. Раўнуў і заглух матор, застыла, як антычная скульптура, фігура Змітра, гайдануўся і выправіўся катэр, патыхнула сырой свежасцю ракі — і толькі пасля ўсяго гэтага Базыль пачуў нейчы рык. Пазней Пеўніку ўспаміналася, што ён, той рык, быў не такі ўжо і моцны, ён быў нават звычайны — вельмі звычайны рык раззлаванага звера,— але на людзей, на ўсіх трох сяброў, ён падзейнічаў так, што параўнаць гэта проста няма з чым. Рыгорка Шкель, слабейшы ў іхняй кампаніі, нават не піскнуўшы, як лёгкая птушка верабей, пырхнуў, пераляцеў цераз Пеўнікаву галаву і знік, растварыўся ў рубцы. «Ратуймася!..» — толькі і здолеў выціснуць з сябе Базыль і кулём пакаціўся следам. Менавіта пакаціўся, бо пасля з тыдзень балелі не толькі рукі і ногі, а і галава, і шыя, і грудзі, і твар, нават мяккае месца балела, як гэта ні дзіўна. А атлетычная фігура Дзягі па-ранейшаму нерухома ўзвышалася над усёй гэтай панікай, быццам акамянеў чалавек, быццам ператварыўся ў нейкага там слупа. І акамянеласць гэтая, гэты алімпійскі спакой, замешаны на пагардлівай абыякавасці да мітусні, маглі скончыцца для яго невядома чым. Бо мядзведзь — так, мядзведзь, такі знаёмы ўсім людзям сімпатычны звер, колішні цар тутэйшых лясоў, якога ўсе бачылі ў цырку на каньках ці на ровары, звер, які ўмеў рабіць кніксен і гуляць у хакей, нават на матацыкле ўмеў ездзіць,— гэтая сімпатычная звяруга ўжо ўлазіла ў катэр, галава яе з ашчэранай пашчаю ўжо ледзь не збіралася лізнуць, а можа, і неяк папракнуць таго, хто захацеў з ёю пагуляцца, пажартаваць. Тут ужо Базыль, не зважаючы ні на што, высунуўся з рубкі і таргануў акамянеласць заватоўку, паваліў на сябе, перакаціў, запхнуў як падалей яе, дрыготкімі рукамі намацаў засаўку, яшчэ і наваліўся на яе, каб было надзейней. У рубцы зрабілася ціха, як у склепе. За тонкімі ж яе сценачкамі, адчувалася, збіраўся крыху пагаспадарыць, пазнаёміцца з катэрам, а галоўнае — з трыма яго ўладальнікамі, мядзведзь. І быў ён, мусіць, вельмі пакрыўджаны. Рык рабіўся то грамчэйшы, то цішэйшы, але не сціхаў ні на хвіліну. Мішка — не дурань жа ён — адразу пачаў грукацца ў дзверы, драпаць, ірваць,

грызці. Хлопцы стаіліся, як мышы пад венікам, рабілі выгляд, што іх у рубцы зусім і няма. Тады Мішка цяжка — катэр, што павольненька плыў сабе па рацэ, пачаў моцна разгойдвацца — затупаў на карме. Рык прыцішыўся, і выразна быў чуцен скрогат па железе, потым затрашчала дрэва — і нешта з плёскатам боўтнулася ў ваду.

— Матор!..— піскнуў Шкель, аж захліпнуўся.

Мядзведзь больш нічога цікавага на карме не знайшоў, проста па рубцы — тонкае жалеза загрымела над галовамі, зайграла, але вытрымала — перайшоў на нос, паглядзеў, як там. Базыль жыва ўявіў, як чорненькі нос новага гаспадара прынюхваецца да жалеза, да чалавечых статантаў — пакулля, вядра з мазутам, пустых бутэлек, старых ботаў. Сапраўды, яшчэ нешта пялёснулася ў ваду, але ніхто ўжо не абазваўся на гэта, усе маўчалі, думалі сваё, лічылі за лепшае нават не варушыцца. Мядзведзь яшчэ раз прагрымеў па рубцы, зноў спыніўся каля дзвярэй. Зразумела, з іх пахла двухногай істотай, той, што перашкодзіла плысці цераз раку, што нават напала на яго — а цяпер вось хаваецца, не вылазіць. Успомніўшы крыўду, мядзведзь яшчэ раз раўнуў, шкрэбнуў лапай па дзверцах. Тыя, на шчасце, ізноў вытрымалі. Тады мядзведзь быццам пайшоў у скокі — катэр пачаў разгойдвацца, круціцца, задзіраць нос,— хлопцы перакочваліся ў рубцы, як цурбаны. І, качаючыся ў цемры, то навальваючыся на мяккага суседа, то стукаючыся лбом у борт, кожны думаў сваё. «Каб ты здох, валацуга лясны, выкапень, нячысцік балотны, пачвара з брыдотаю, падла ты хадзячая, каб табе кол у пуза, каб табе куля ў лоб, каб ты ўтапіўся хаця б, калі цябе багор не бярэ... Бач, і сапраўды яго не ўпляжыць багром. А чаму багром? Віламі б якімі-небудзь. Ці сякерай! Вось тады б паплаваў...— тут нячутныя галашэнні Рыгоркі Шкеля раптам перапыніліся, абсекліся.— А навошта было біць?!..» Рыгор Шкель узвіўся — у думках узвіўся, бо чалавек ён быў асцярожны і разважлівы, нераўня некаторым сваім сябрам, якія ўцялі па галаве не парсюка суседскага, а...— Рыгор асцярожна прыўзняўся на локцях, выпрастаўся, з храбусценнем у шыйных пазванках павярнуў галаву і пачаў свідраваць гнеўнымі вачыма той кут, дзе ляжаў былы сябра, так, былы сябра і боўдзіла!

«Матор, трасцу цяпер яго знойдзеш, у Прыпяці калі баржа патопіцца — ніякай мачты не ўбачыш... Харошы быў матор, новенькі... бач ты, разгойдвае як, паскуда, за-

раз зачэрпаем некалькі разоў бортам — і хана, субмарына, ляжам на дно, як падводная лодка... Так, вось пачынае з дзірак вада... бр-р... калі, напрыклад, вада, застаюцца толькі галовы... тады хуценька торгаю засаўку, наверх-наверх, можа, глыбіня не такая ўжо і вялікая, метры тры. А там ён. Прывітанне, я вас чакаю, давайце абдымацца, даўно ж не бачыліся. І пацалунак каханай... Можа, пашанцуе яшчэ, і не ты першы трапішся. Можа, вось гэты якраз і ўсплыве, па справядлівасці. Што, урэзаў, ёлупень? Ляжыш цяпер? Ляжы-ляжы... О, той, здаецца, супакоіўся? Не, скача, гад, здзекуецца! Не, трэба было б не цягнуць цябе. Хай бы заставаўся там. Пагаварыў бы, усё б растлумачыў. А так, канечне, ляжыць і не дыхае...» — Пеўнік таксама павярнуў галаву і паглядзеў туды, дзе ляжаў трэці.

А трэці нічога і не думаў. Ён толькі здзіўляўся, што багор дужа лёгка, як тая запалачка, вышмаргнуўся з рук і паляцеў далёка-далёка, у ваду. «Раз, два, тры, чатыры... Спакойна, салагі!.. Во смеху, га?!»

Трое ляжалі ціха — быццам усё жыццё памяталі пра тое, што трэба прыкідвацца мёртвым, калі на цябе нападае мядзведзь.

Сваімі скокамі ўтапіць кацярок мядзведь не здолеў і, стомлены, сціх, стаіўся, ляжаў недзе на карме, адпачываў.

Хлопцы маўчалі мо паўгадзіны — і гэта аказалася дужа цяжка. Ніводзін з іх і не ўяўляў сабе, што патрэбна неверагодная вытрымка, каб вось так нерухліва ляжаць, сапці ў дзве дзірачкі — і не мець магчымасці шапнуць нават слова. А словы, круцячыся ў галаве, не-не ды падкочвалі да вуснаў, спрабавалі іх расціснуць і вырвацца на волю, у свет. Але ж няможна было! Маўчалі.

Ужо і добра звечарэла, пэўна, цемра навалілася не толькі на рубку, а і на раку, на ўсю тутэйшую зямлю, тры сыны якой, лежачы, зараз думалі думу, асцярожна ўздыхалі, паторгваліся, не могучы стрымаць дрыготку ў мышцах. Моцная прыпяцкая плынь ціхенька булькатала пад вухам, лізала дошкі, шапацела, пыталася пра нешта ў хлопцаў, гулліва смяялася, не чуючы адказаў. Кацярок з трыма вязнямі ўсё плыў і плыў. Яго разварочвала то бокам, то кармой, ён ледзь-ледзь пагойдваўся — і кожны з хлопцаў ужо не тое што задумваўся, а з усё большай трывогай думаў пра гэтае плаванне. Дрэнь былі справы, гэта разумеў кожны, Рыгорка Шкель нават падумаў, што

яны могуць заплысці куды на Украіну... І ён не вытрываў першы.

— Што рабіць будам?..— свісцячы шэпт быў дужа моцны.

— Маўчы!..— з палёгкаю выдыхнуў Пеўнік.

— А што маўчы? Вось заплывём у Дняпро — тады памаўчымся!

— Д-да, без матора храновыя нашы справы. Ён жа скінуў матор, чулі, як пляснула?

— Канечне, скінуў. Добра, мы яшчэ жывыя. І ўсё з-за гэтага... Эй, Дзяга, навошта ты мядзведзя чапаў?

Дзяга не абазваўся.

А Шкель зараз быў зусім не падобны да сябе. Раней ён не тое што не аскрыжаўся з Дзягам — у рот яму глядзеў. Бегаў за ім, як сабачка, смяяўся, калі той смяяўся, выконваў любы загад, без дазволу не раскрываў рот і не выпіваў першым чарку. А тут яго панесла, як спуджанага коніка. Ён нават абазваў Дзягу дурнем. На поўны голас.

Дзіўна, канечне, што Дзяга змоўчаў і зараз, але Пеўнік здзівіўся не гэтаму — ніяк не прарэагаваў на Шкелевага дыскантавага «дурня» і мядзведзь. Быццам не ляжаў ён за тоненькай сценачкаю і не пільнаваў жывых людзей. А тут і кацярок раптам наткнуўся на нейкую перашкоду, два разы тыцнуўся ў яе і спыніўся.

Усе змоўклі, навастрылі вушы, стараліся нават не дыхаць.

Цішыня аж звінела.

— Можа, пайшоў?..— зноў не вытрываў Шкель.

— Можа...

— Гэй, прыяцель, тут ты ці не? — Рыгор яшчэ і пастукаў нагою ў сценку, прыслухаўся.

З таго боку было ціха, як у Дзягавым куце. Але цішыня якраз і непакоіла. Ты павeрыш гэтаму зверу, паспадзяешся на тое, што пайшоў ён, няма ў яго ўжо спраў да сяброў-чалавекаў, ты даверліва адчыніш дзверы і высунеш галаву на свежае паветра, на волю... і ўсё. Канечне, можна паспрабаваць уявіць, што будзе далей. Мядзведзь, зразумела, страшэнна ўзрадуецца, падскочыць да цябе, пачне лізацца. У цырку яны дужа паслухмяныя і рахманыя, гэтыя мядзведзі. Т-так, вось ты вылез — і сустрэўся... Пеўнік аж сцепануў плячыма. Па нагах, па ўсім ужо целе бегалі мурашкі, думкі ў галаве таўкліся, быццам мошкі ў ціхі адвячорак; зрабілася млосна.

А Шкель ужо нават не пытаўся ў Дзягі, не разважаў — ён загадваў.

— Хопіць прыкідвацца, чуеш?! — ледзь не крычаў ён.— Вылазь давай, чаго ляжыш? Бач, як багром махаць, то ён герой, а як вылезці — то няма яго. Лезь!

І Дзяга варухнуўся, перакаціўся на жывот, прыўстаў на каленях.

— А як выкіну? — спытаўся ён і зноў лёг.

Шкель, мусіць, праглынуў язык.

Сяк-так уладкаваўшыся, скурчыўшыся, адсунуўшы ад твару чужыя ногі і паклаўшы на суседзяў свае, хлопцы перадрамалі да раніцы. Пры святле кожны з іх пачуваўся многа смялей — яны хутка ўпэўніліся, што мядзведзя на катэры не было. І ўбачылі яны яшчэ, што катэр засеў у паўзатопленых кустах. Далёка, як сягала вока, блішчэла вада, на ўсе чатыры бакі блішчэла, зрэдку на яе паверхні вытыркаліся дубцы вербалозаў і тонкія ствалы вольхаў, за паўкіламетра невыразна цямнелася палоска ці то берага, ці то вострава, над вадой вецер гнаў ірваныя аблокі — малюнак быў, што і казаць, бязрадасны. Хлопцы зажурыліся, звесілі насы, нават адзін на аднаго глядзець не захацелі. Толькі Шкель — вось дзе ягоны характар выявіўся! — пачаў нудзіць: «Жраць хочацца, матор утапілі, вады ў катэры поўна, недзе дзірка, хто цяпер плавае па Прыпяці, можа, праз месяц толькі знойдуць...» Пеўнік не вытрымаў і паабяцаў высадзіць Шкеля на якое далёкае дрэва. Той сціх, але пачаў поўзаць па катэры. «Во тута матор выдзіраў,— мармытаў ён як сам сабе,— бач, якія драпіны глыбокія... Захацеў бы, і дошкі пашчэпаў... Та-ак, а тута дзверцы на зуб спрабаваў. Добра, не было за што зачапіцца. От бы паскакалі, га?!.. Здаравенны мядзведзь, сапраўдны. Пакулле пераварушыў... А як назад у рэчку скочыў — то і не пачуў ніхто!» На гэтае мармытанне Пеўнік з Дзягам увагі ўжо не звярталі — хай поўзае, прынюхваецца, разважае, хай. Прыдумаць бы — як уратавацца...

Хлопцам пашанцавала — недзе перад абедам іх заўважыў егер Ладуцька, які плыў на маторцы ў мястэчка. Гэтай парою нават прыпяцкія палешукі плаваюць па вадзе гады ў рады — няйпачай, Ладуцьку пасадзіла ў маторку невядомая сіла. Ён сядзеў на карме, курчыўся пад ветрам, лаяў сябе апошнімі словамі — пяблізкая ж дарога была, дваццаць з гакам кіламетраў — і раптам убачыў катэр. Спачатку падумаў, што гэта кінутая лодка, ламачча, якое спіхнулі ў раку, каб плыло з воч далоў, але на

гук матора вырасла над бортам адна фігура, другая, трэцяя... Фігуры, добра ўбачылася — чалавечыя постаці, пасцягвалі з сябе ватоўкі, замахалі імі, заскакалі, як малпы ў клетцы. Пазней Ладуцька смехам расказваў, што, каб не збіўся ён з фарватэра, каб не заехаў у самыя кусты — катэра ён не ўбачыў бы. «Дальбог, гэта не я кіраваў маторкаю, а невядома хто. Можа, вадзянік ці балацянік які-небудзь. Дагэтуль жа я ніколі не блудзіў на рацэ, нават засну — і то правільна кірую. А тут у кусты заехаў. Еду, значыць, пятляю, як тыя лыжнікі, што па тэлевізары з горак лётаюць. Ці як п'яны заяц. А тута катэр, і арлы на ім. Пад'язджаю, глушу матор — а яны і ахрыплі ўжо, небаракі. Толькі раты разяўляюць, а гуку няма, так, кеўканне адно. І ў адзін голас: «Мядзведзь!..» — «Што, які мядзведзь,— пытаюся,— менш піць трэба».— «Мядзведзь,— стаяць на сваім,— улез на катэр і матора скінуў».— «Ды пайшлі вы,— кажу ім,— у нас пра мядзведзяў даўно забыліся. За пяцьдзесят гадоў не зарэгістравана ніводнага. Ваўкі завяліся — мядзведзяў няма».— «Не,— круцяць галовамі,— здаровы і злы, сапраўдны людаед». Плюнуў я, прычапіў катэр да лодкі, павалок да бліжэйшае крамы. Але і пасля крамы стаяць на сваім — мядзведзь!»

З гэтым сваім расказам Ладуцька ў адзін момант зрабіўся вядомым чалавекам — гісторыя пра трох герояў і мядзведзя разляцелася з маланкавай хуткасцю і вельмі далёка. Ладуцька хадзіў важны, як індык надзьмуты, людзі рагаталі, Дзяга, Шкель і Пеўнік з земснарада не паказвалі носа.

Зразумела, іхняе начальства ў гісторыі не знайшло нічога смешнага.

— Мядзведзь?..— з сарданічнай усмешкаю спытаўся механік Пятрэнка.— Пайшлі да капітана, ён таксама пра мядзведзя пачуць хоча.

— Значыць, так,— сказаў капітан, Іван Канстанцінавіч, чалавек пажылы і сур'ёзны,— кошт матора вылічым з зарплаты, раздзелім на трох пароўну, па справядлівасці. Гэта раз. Другое. Дзяга — суровая вымова, Шкель і Пеўнік — па вымове.

— А...— заікнуўся Шкель і махнуў рукой.

— За прагул у кожнага з зарплаты будзе вылічана таксама,— працягваў Іван Канстанцінавіч,— гэта ўжо трэцяе. Як там катэр, Пятрэнка, цэлы, рамонт яму не патрэбен?

— Ды нічога,— сказаў Пятрэнка,— усё нармальна —

трэба пару дзірак зашпакляваць, у рубцы прыбраць, пачысціць усё, памыць. Думаю, справяцца.

— Згодзен. І апошняе — таго, хто яшчэ раз будзе заўважаны ў распіцці спіртнога, звольню па параграфу. Абяцаю. Гэта ж трэба — так напіліся, што матор згубілі!..— шчыра здзівіўся ён.— А наконт мядзведзя... Граматныя хлопцы, панімаеш, армію адслужылі, вучыліся. А выдумалі... Што-небудзь арыгінальненькае можна было б прыдумаць, галава ж ёсць.

Земснарад працягваў работу. Ён поўз па рацэ павольна, але ўпарта, угрызаўся ў дно, як нейкі рачны крот. Моцная прыпяцкая плынь шмат у якіх месцах заносіла фарватэр, утварала намывы, на якіх маглі засесці буксіры з гружанымі баржамі, дзе-нідзе рака нават спрабавала прабіць новае рэчышча, падмываючы вышэйшы бераг з дрэвамі на ім і вёскамі,— работы ў рачнікоў хапала. Рака не спала, не спалі і яны. Часам нават здавалася, што ім не хапае сіл, каб утаймаваць раку, стрымаць яе, не даць нарабіць бяды. Гулі маторы, высмоктваўся з вадою грунт, помпы выкідвалі яго з плёханнем і чваканнем. Хацелася верыць, што нават адзін гэты земснарад зробіць на рацэ парадак, вычысціць яе, прывабіць да чыстае вады рыбу, якая ўцякла, сплыла, пайшла, што называецца, у прочкі.

Хлопцы жылі і працавалі быццам па-ранейшаму — і ўсё ж не так, нешта няўлоўна змянілася ў іхнім дзённым раскладзе, у іхніх размовах паміж сабой — і ў іхніх думках. Найбольш здзіўляў Рыгор, Рыгорка Шкель, з якога можна было і пасмяяцца, і нацягнуць шапку на нос, і ў любую хвіліну выправіць у краму па цыгарэты ці што іншае. У Рыгоркі, як той казаў, выскачылі з рота цуглі. На любое слова Дзягі ён цяпер адказваў трыма, а то і чатырма і катэгарычна адмаўляўся ездзіць у краму. Ён згодны быў ступіць нагой у лодку толькі каб ехаць дахаты. Яго не смяшылі Змітравы жарты. Яму не падабаліся надвор'е і рака. Двойчы Пеўнік убачыў яго са старым часопісам «Работніца і сялянка» ў руках. Гэта гаварыла толькі пра адно — Рыгор моцна засумаваў, і думкі ягоныя адляталі далёка ад земснарада, магчыма — лунаді яны над роднай Вярхінню.

Пеўнік, хлопец хаця і маўклівы, але тым не менш упарты, з тыдзень думаў толькі пра адно — пра мядзведзя. Мядзведзь гэты аказаўся той самаю цаглінаю, што хоць раз ды падае на галаву чалавека. Чалавек жыве, займаецца справамі, ладзіць сям'ю, да нечага імкнецца, спа-

дзяецца на ўдачу і шчасце, радуецца і смуткуе — і раптам ляціць цагліна. Тады многае ў ягоным жыцці мяняецца, у лепшы ці горшы бок, але мяняецца. Цэлы тыдзень Базыль хадзіў у задуменні — потым паехаў у бліжэйшую вёску на пошту. Там ён доўга гартаў раённую тэлефонную кнігу, выпісваў нейкія нумары, але папрасіць тэлефона ў дзяўчыны, што сядзела за перагародкаю, усё не адважваўся.

— Вам што? — нарэшце запыталася яна сама, зірнула на яго і ўсміхнулася.

— Пазваніць мне...— сумеўся ён і адзначыў сам сабе, што вочы ў дзяўчыны жоўтыя ў крапінку, зусім не такія, як у ягонай Марыйкі. Былой Марыйкі.

— Званіце,— дзяўчына пераставіла тэлефон са свайго стала на перагародку.

Базыль набраў нумар. На тым канцы адразу знялі трубку, энергічны мужчынскі голас запытаўся:

— Алё?

— Гэта запаведнік? Дзень добры. Я хацеў бы даведацца... Колькі мядзведзяў у вашым запаведніку? — і Пеўніку чамусьці зрабілася горача, ён адчуў, што чырванее.

— Мядзведзяў?..— здзівіліся на тым канцы, нават усміхнуліся.— Аніводнага. Няма ў нас мядзведзяў. Апошні быў зафіксаваны недзе перад вайной. Пры стварэнні запаведніка не было ўжо ніводнага. А хто пытаецца?

— Ды гэта... з газеты, з раённай газеты. Дайшлі чуткі, што мядзведзь з'явіўся.

— Лухта,— упэўнена сказаў голас,— самая звычайная лухта. Некаму з п'яных вачэй падалося, і калі ласка — мядзведзь. Не верце вы ўсім гэтым чуткам. Верагодней было б, што тыгр да нас на Палессе прыйшоў. Ці слон. Разумееце, у нас рысяў на пальцах пералічыць можна, а тут цэлы мядзведзь. Так і напішыце ў газеце — лухта. А з ваўкамі ў нас паспяхова, адстрэльваем, вывадкі знішчаем. Адным словам, пагалоўе ваўкоў у дапушчальных межах. Пра гэта абавязкова напішыце — у дапушчальных. А што пагалоскі ходзяць... самі ведаеце, са страху кот рыссю падасца.

— Значыць, ніводнага?..— выціснуў з сябе Базыль.— Ну дзякую вам. Усяго добрага.

— А вы праўда з газеты? — жоўтыя вочы дзяўчыны пазіралі з цікавасцю.— Наконт мядзведзяў да нас прыехалі? Не, тут не водзяцца мядзведзі... Нейкія п'яніцы раз выдумалі, што на іх мядзведзь напаў, то ўсе і смяяліся.

А вы фотакарткі ў газету робіце? Так добра было б сябе ў газеце пабачыць...

Пеўнік выскачыў з пошты, быццам за ім хто гнаўся. Некаторы час подбегам кіраваўся да ракі, потым прыцішыў хаду, зусім спыніўся.

Дык што ж — калматага, цёмна-рудога, здаравеннага мядзведзя не было зусім?! І не ляжаў ён, Пеўнік, склаўшы рукі на грудзях у кубрыку? Не меў вымовы? І зараз у яго поўныя кішэні грошай?!

Восеньская Прыпяць жартавала, гуляла з людзьмі, як свавольнае дзіця з цацкамі. Некаторы час Пеўнік стаяў на беразе ракі, глядзеў на яе. Вада мкнула моцна і абыякава, ад яе востра даваў холад, дзесьці далёка чакала гэтую чорную і ледзяную ваду вялізнае, як свет, мора.

Чалавек стаяў на беразе і злаваўся. Часцей за ўсё гэтак і бывае. Чалавек не ведае, у чым справа, і не знаходзіць нічога лепшага, акрамя як злавацца.

Але насоўваўся вечар, і злосць мусіла ўсё ж саступіць перад клопатам пра заўтрашняе, зашыцца куды падалей.

Шкеля навіна страшэнна ўразіла, ён не верыў Пеўніку, патрабаваў чэснага слова, круціў галавой — а Дзяга не звярнуў на яе ніякае ўвагі. Пра Дзягу, канечне, даўно было вядома, што ён нічога не бярэ да галавы. Але каб вось гэтак...

— Слухай,— з цікавасцю паглядзеў на яго Пеўнік,— а вось каб мы зноў плылі па рацэ і зноў убачылі б таго мядзведзя, мядзведзя-лася? Што б ты зрабіў? Ізноў з багром?..

— Ды адчапіцеся вы! — махнуў рукой Дзяга.— Мядзведзь, лось... Ну памыліўся аднаго разу, ну не таго ляснуў. Дык што? Нейкія вы нервовыя, браткі! Даўно пара забыцца. І ў краму злётаць, га, Шкель? Пару пляшачак, гурочкаў, у мяне ёсць, хар-рошыя!

— Другога пашукай!..— незалежна сплюнуў Рыгор.— Як толькі ў порт вернемся — напішу заяву. Збрыдзела мне тут. А ты,— павярнуўся ён да Пеўніка,— вярнуцца да сваёй... не хочаш?

Вось гэтага пытання Базыль баяўся. Зразумела, што пасля сустрэчы з тым праклятым мядзведзем у Вярхіні ён не паказваўся. Нават калі ён пачынаў думаць пра тое, як паглядзіць, як здзекліва ўсміхнецца Марыйка, убачыўшы яго,— твар успыхваў чырванню. Не, лягчэй памерці, чым з'явіцца на вочы гэтай блакітнавокай... пакуты. Балючай і страшэнна жаданай пакуты. Лёс смяяўся з яго,

здзекаваўся, расстаўляў на яго дарозе не тое што недарэчныя — неверагодна смешныя перашкоды. Вось той жа мядзведзь... Ён моцна заплюшчыў вочы, затрос галавой, бо зашчыпала ў носе і ў вачах.

Марыйка, гнуткая, доўгенькая, гладкая, ты горнеш яе да сябе — а яна адхіляецца, адхіляецца, ніяк не абхапіць, не прытуліць яе... Сапраўдная лазінка на прыпяцкім беразе. Лазінка з блакітнымі вачыма.

— Не,— сказаў Пеўнік.— Не вярнуся. І земснарад кіну. Можа, куды на будоўлю падамся, у нафтавікі ці геолагі...

— Там плацяць добра, — адобрыў Дзяга, — але ж і ўкалываць трэба, пахаць. Я от у горад перабяруся. Даўно хацеў. Заробіць, скажам, Пеўнік у сваёй тайзе тышчы, прыедзе сюды з пузатай кішэнню — і ў рэстаран. А там Змітро, у чорным касцюмчыку, з «бабачкай», з бутэлькамі ў руках. Га, Базыль? Ты падыходзіш, я табе лепшае месца, каньячку і ўсё такое, абслуга, адным словам, на вышэйшым узроўні. Ну і ў маю кішэнь што-якое прыплыве, правільна? Дурны я быў, што адразу пасля тэхнікума не пайшоў у афіцыянты. Сёга, мой кораш, гаварыў — жыццё трэба рабіць. Ён хлопец з галавой. Два курсы адвучыўся — і годзе. У Калінінград паехаў, у марскі рэстаран афіцыянтам, у яго там знаёмыя былі. І мне гаварыў, каб кідаў. Фактура, кажа, дазваляе, выгляд у цябе ёсць. Здаля заўважаць. Не паслухаўся, дурань, збаяўся, сюды вось прыехаў.

— Давай-давай,— зноў плюнуў Шкель,— якраз у рэстаране цябе і не хапае. Пакуль які мядзведзь не з'явіцца... А я да сваіх. На земснарад ісці працаваць во гэты падбіў...— ён аж не хацеў глядзець на былога сябра, адно кіўнуў у яго бок галавой.

— Паеду куды вочы глядзяць, хай яно лясне...

— Рэстаран — гэта па-сучаснаму!

Хлопцы амаль не слухалі адзін аднаго, нават пазіралі ў розныя бакі. Іх вочы зараз не бачылі ракі, што з заўсёднай сваёю моцаю несла палескую рудаватую, пад колер зямлі, ваду ў далёкае сіняе мора. Праз раўчакі, што выбіваліся на паверхню вочкамі-крыніцамі, бруіліся ў каранях кустоў, працісказіся ў лугавых травах, праз рэчкі, што каснікамі абкручвалі невялікія дубровы, звязвалі вёскі ў адну нізку. Палессе давала сваю кроў вялікаму целу Зямлі. Вада цякла тысячагоддзямі, замест высахлых рэчак з зямных нетраў выбіваліся новыя — нельга было,

каб гэтыя рэкі знікалі бясследна, назусім. І не дзіўна, што неба раз-пораз абрыньвалася на зямлю апраметнымі залевамі — быццам наверсе пераварочвалася вялізная бочка, і цяпер заставалася толькі трываць і чакаць. Значыць — недзе знікла лугавая рачулка, увайшла, усмакталася ў сухую зямлю, прапала. Значыць, Палессе залізвала ранку — і трэба было цярпець.

Пеўнік быццам новымі вачамі глядзеў на Прыпяць і загадзя ведаў, як яму яе не будзе хапаць. Але і заставацца на ёй не мог. Яму здавалася — добрага на ёй ужо не напаткаць, не ўбачыць шанцунку, не знайсці шчасця. Ён ажно з'ехаў з твару, змізарнеў за гэтыя апошнія дні, усё яму было няміла, смылела нешта, не ішоў па начах сон. І так цягнула ў Вярхінь, пад хату ля старое таполі, хату, у двары якой мільгала лёгкая постаць Марыйкі, так хацелася яшчэ раз зазірнуць у глыбіню яе незразумелых — зусім незразумелых яму — вачэй, што пачынала часта стукацца сэрца і цямнела ўваччу. Налятала гэтая тугая і душная хваля раптоўна, знянацку, і кожнага разу ён быццам вынырваў з яе, а вырваўшыся — трос галавой, у непаразуменні азіраўся наўкруг, здзіўляўся знаёмым і звыклым рэчам. Ён ніколі не хварэў — і гэта была хвароба. Моцная і цяжкая хвароба.

— Паеду. Куды падалей паеду. Назаўсёды.

— Механізатары зарабляюць добра. І з бацькамі разам.

— У рэстаран без грошай не ідуць, гэта дурню ясна.

І адкуль толькі гэты мядзведзь прыцёгся? Ішоў-ішоў, валацуга, па зямлі, выкопваў карэньчыкі, варочаў калоды, абіраючы лічынак, раскідваў мурашнікі, а то і траву скуб, ішоў да якой бязлюднай глухмені, каб залезці пад карча, закапацца ў жухлае лісце і заснуць, аж да ракі прыблукаў, тлусты і калматы,— і напароўся на сяброў. Ці яны на яго напароліся. А зараз во кожны з іх ехаць хоча... Дарэчы, дзе гэты мядзведзь зараз? Пеўнік у нейкай даўняй кніжцы чытаў пра мядзведзяў, пра тое, як жывуць яны, што ядуць, але помніў тую кніжку слабавата. І зараз яму чамусьці захацелася ведаць, куды далей пайшоў звер, што ён робіць у пустым лесе, дзе спыніцца. Звер перайшоў яму дарогу — і не толькі тым, што ўлез, раз'юшаны, на катэр, звярнуў матор, загнаў іх у рубку, прымусіў сядзець у ёй усю ноч. Звер зароў, разявіў ашчэраную пашчу — і Пеўнік раптам апынуўся далёка ад Марыйкі, так далёка, што ўжо ледзь бачылася яна. Звер пайшоў.

Пеўнік на земснарадзе. Марыйка далёка. «Гад! — аблаяў Пеўнік мядзведзя.— Знайсці б цябе, гада, ды з дубальтоўкі! Каб у зямлю мордай!..»

Нарэшце земснарад пайшоў у порт, на зімовую стаянку. У падсушаным паветры закруціліся сняжынкі, зазвінеў, захрабусцеў лядок, у порце апошні раз раўнула сірэна буксіра, Дзяга, Пеўнік і Шкель усе разам атрымалі разлік. Базыль з Рыгорам збіраліся ехаць у вёску, а Зміт-ро заставаўся ў горадзе, думаў уладкоўвацца афіцыянтам. Хлопцы збіралі свае рэчы, хаця тых рэчаў было — як кашэчых слёз. У Рыгора маленькі чамаданчык, у Базыля саквояж, Зміцер з сумкаю. І не надта пузатая атрымалася іхняя паклажа.

— Ну што, на развітанне, можа?..— прапанаваў Дзяга.

Але хлопцы не падтрымалі. Не захацелі.

— На станцыю пойдзем,— сказаў Базыль,— калі ўдасца — раней заедзем.

У Вярхінь ён ехаў увогуле без асаблівай ахвоты. Ведаў, што будзе сядзець дома, корпацца ў двары, глядзець вечарамі тэлевізар. На людзі яго не цягнула. Ён, як той казаў, яшчэ не перахварэў на сваю хваробу. Яшчэ баяўся кепікаў пра мядзведзя. Усё яшчэ помніў Марыйку, яе аблічча, яе вочы, а значыць — і баяўся блакітнай усмешкі. Усмешкі, што апякае сэрца. Так, Базыль пабудзе трохі ў бацькоў, возьме на першы час грошай — і на Поўнач. Адрасы ёсць. Былыя саслужыўцы пісалі яму, хваліліся, клікалі да сябе. Базыль трохі пабудзе і паедзе.

Рыгор накупіў сяго-таго ў вёску, як і Базыль, зрэшты, зараз спрабаваў загарнуць цукеркі, крупы і кавалак каўбасы ў адзін пакунак, але раённая газета была для такога намеру замалая. Рыгор стараўся, высалопліваў язык — газета рвалася.

— Гары ты гарам! — нарэшце адступіўся ён, пачаў круціць газету ў руках.— Большай газеты ні ў кога няма? Што тут можна напісаць, на такіх маленькіх лістках... Зіма стукаецца ў дзверы... Дзень сённяшні... Клопат аб дабрабыце... Мядзведзь-бадзяга... Спартыўная старонка... Пра ўсё патроху, адным словам, і ні пра што.

— Стой-стой! — падскочыў да яго Пеўнік.— Ану дай сюды!

Ён выхапіў з рук Шкеля газету, утаропіўся ў яе, ледзь не носам пачаў вадзіць па радках.

— Ну вось! — нарэшце адарваўся ад газеты, паглядзеў на хлопцаў.— Наш мядзведзь знайшоўся.

— Дзе, дзе...— пачаў вырываць з яго рук газету Рыгор.— Дзе напісана, пакаж!

— Можна радавацца,— не даваў газеты Базыль, глядзеў чамусьці на Дзягу,— у запаведніку знайшлі дохлага мядзведзя. Палез наш знаёмы па мёд на дрэва, круціў-круціў калоду, сарваўся — і капцы! Калода здаравенная была, так ляснула па галаве, што забіла. Ляснік знайшоў. Ляжыць мядзведзь пад дрэвам, побач калода. Усё ясна. А ты багром махаў... Калода на яго патрэбна была.

— Во, так яму і трэба! — радаваўся Шкель.— Далазіўся, сволач. А то прывык на людзей кідацца. Хай вось цяпер пакідаецца.

— На, пачытай,— працягнуў Дзягу газету Базыль.

— А! — махнуў рукою Дзяга.— Не трэба. Забіла і забіла. Правільна. Як той казаў — бог не фраер. А што ж ты думаеш, не зляцеў бы з дрэва — на кулю б нарваўся. Стрэльбы ў людзей для таго і ёсць. І выжываюць жа яшчэ мядзведзі гэтыя! — пацiснуў ён плячыма.— Адкуль бяруцца толькі... І што вы ўсё з гэтым мядзведзем. Напалохаліся, быццам танк на іх папёр. Я ўжо забыўся даўно.

— Напалохаліся?! — аж захліпнуўся ад абурэння Шкель.— Мы напалохаліся! Сам не мог слова сказаць — а мы, значыць, баяліся! Ну дае дык дае. Шкада, што не дабраўся ён да цябе. Хай бы пагладзіў трохі...

— Заткніся, шчаўлік. Нешта ты гаварыць многа стаў. Магу і ўрэзаць...

— Ды хто баіцца цябе, хто?! Толькі падыдзі — бутэлькай улуплю.

— У запаведнік прыйшоў...— Пеўнік не слухаў, невідушчымі вачыма глядзеў перад сабою, бачыў.

...Мядзведзь ішоў, прынюхваўся да сырога, волкага паветра позневосеньскага лесу, спыняўся каля палеглых, напаўструхлелых ужо дрэў, разварочваў іх, зарываўся носам у рудую труху, нешта раскусваў, чмакаў, пасля ішоў далей. На вільготным вецці набрынялі, большалі вялікія і чыстыя кроплі, зрываліся, стукаліся аб учарнелае лісце, і гэты рэдкі перастук быў, бадай, адзіным гукам на ўвесь лес, мядзведзь на яго не зважаў. Сярод голых дрэў нават не мільгаў чырвоным, не барабаніў дзяцел, недзе зашыўся ў дупле, галадаў, ды не вылазіў. Не віселі над зямлёй і жывыя пахі, казытала ў носе ад сапрэлага лісця, расцякалася холадам вільгаць, адно звыкла гарчыў, крыху супакойваў настой хвоі. З-пад хвояў ледзь улоўна патыхала прэлым цяплом, клікала ўтульная цемната — але пад ніз-

кімі лапамі змяшчаліся хіба што толькі галава і лапы. Мядзведзь ішоў да вялізнага карча, вываратня, які павінен быць у любым лесе, корч гэты чакаў, задраўшы голае карэнне з прысохлай зямлёй на ім, пад ім была глыбокая і вялікая яма, у ёй можна было прытуліцца бокам да сцяны і заснуць. Мядзведзь шукаў карча і пакуль не знаходзіў. Раптам зверху, з вяршаліны высачэзнага дуба, пацягнула спакуслівым, смачным, ні да чаго не падобным пахам. Мядзведзь спыніўся, задраў уверх галаву, абапёрся пярэдняй лапай на дрэва. Наверсе быў мёд, пах сплываў з вяршаліны, слабы, але выразны. Мядзведзь лёгка, нават грацыёзна ўскінуўся, папоўз да першых сукоў, а там як бы і пайшоў па ствале да калоды. Калода была замацаваная высока, але мядзведзя вышыня не палохала. Ад узбуджанасці з горла вырваўся сіп, нос паторгваўся, трапятаў, між клыкоў паказаўся ружовы язык, пацякла сліна. Вялізная калода ўжо была перад ім, мядзведзь абшчапіў яе, пачаў трэсці, лізаць шчыліну. Калода была старая і моцная, мядзведзь злаваў, моцна і бязладна торгаў, ірваў, прагнучы ўсунуцца мордаю ў падатлівую вязкасць сотаў, набраць поўную пашчу салодкай гушчэчы, захлынуцца ёю... І вось нешта трэснула, дрэва страсянулася, калода — незразумела цяжка — абсунулася і штурханула ў грудзі,— вяршаліны суседніх дрэў крутнуліся, быццам зямля перавярнулася. Мядзведзь, усё яшчэ ашчаперыўшы калоду, не расціснуўшы абдымкаў, каменем праткнуў кволую сетку голля. Цяжкі ўдар аб зямлю...

Пеўнік здрыгануўся, у непаразуменні паглядзеў на сяброў, быццам убачыў іх упершыню.

— Адзін завёўся мядзведзь — і той не выжыў,— сказаў ён.— Было б больш зразумела, каб застрэлілі. Справядлівей было б.

— Што? — глядзелі на яго Шкель з Дзягам.

— Кажу, завёўся на Палессі адзін мядзведзь — дык калодай забіла... Мусіць, ніколі ўжо мядзведзяў тут не будзе. Нават не застрэлілі — сам забіўся.

— І добра, што не будзе,— сказаў Шкель, запіхваючы каўбасу з цукеркамі ў чамаданчык.— Адзін быў — і то ледзь не загрыз. Як успомню яго морду паскудную — адразу ўцякаць хочацца. Не, хай яны ў заапарках сядзяць, у цырку. Краты, клеткі — якраз добра.

— А куды шкуру падзелі — не напісана? — спытаўся Дзяга.

— Якую шкуру? — не зразумеў Пеўнік.

— Ну яго ж яшчэ свежага знайшлі, у лесе снег даўно ляжыць. Хто сабе шкуру забраў? Сабе б такую... Арыгінальна.

— Ладна, пайшлі,— уздыхнуў Пеўнік.— Можа, калінебудзь гэтаму мядзведзю помнік паставяць. «Апошні,— напішуць,— палескі мядзведзь, які загінуў пасля зверскага нападу на палешукоў Шкеля, Дзягу і Пеўніка».

— Ідзі ты! — пакрыўдзіўся Шкель.— Помнік, апошні... Можа, табе змяі ў ложку не хапае? Любіцель прыроды...

Яны выйшлі на палубу. Прыпяць цякла, як і імгненнем раней, як яна цякла ўчора і заўчора, як тысячу гадоў таму. Рака моршчылася, на паверхні яе разбягаліся светлаватыя дарожкі, быццам завучы за сабою, дзе-нідзе ўспеньваліся грабеньчыкі дробных хваляў. Дальні бераг хаваўся ў сіняватай смузе, ізноў пакручваліся ў паветры сняжынкі, цёпла дакраналіся да шчакі. Ад вялікай абыякавай вады ўздымалася ўгору стылая халадэча.

— Пайсці ў егеры, ці што? — павярнуўся Пеўнік да Шкеля.— У мяне ў лясніцтве дзядзька працуе. Ці ў запаведнік папрашуся. Мядзведзь, мусіць, не дарэмна на Палессе прыцёгся. Ён у запаведнік ішоў.

Шкель адмахнуўся.

На паверхні ракі чарціліся дарожкі, знікалі, з'яўляліся на самай быстрыні. «У егеры пайсці?..» — зачароўвалі дарожкі Пеўніка.

Недзе па лесе няспешна брыў, спыняючыся ля паваленых дрэў, тоўсты мядзведзь, прынюхваўся, углядаўся ў той бок, дзе стаяў чалавек.

## ВАЎКАЛАКІ

Вяселле імчала, здавалася, акурат па цаліку, бо снежная бель хавала ад вачэй уезджаную дарогу на роўным полі. Ды і імчаць гэтая святочна апранутая моладзь — з-пад кажушкоў і жупаноў чырванелася вышыўка кашуль, стракацелі ўваччу вясёлкавых колераў каснікі, ледзь трымаліся на галовах надта ж зухавата збітыя набок магеркі, грывы коней былі старанна заплецены і перасыпаныя чырвона-белымі кветкамі, відаць, з анучак,— імчаць гэтая

моладзь магла толькі таму, што была вяселлем. Дакладней, не вяселлем, а дружынай жаніха, якая імчала па маладую, каб адбіць яе, выкупіць, вымаліць, праўдамі і няпраўдамі забраць і павезці, ахоўваючы пільней за самую вялікую каштоўнасць, у новую хату, дзе цяпер жыць маладой, гаспадарыць, падтрымліваць цяпельца шчасця. Пасярод шнурка конных падскокваў таксама святочна ўпрыгожаны вазок — палазы спераду загнутыя паўкругам, кузаў аздоблены разьбой, размаляваны, у яго накідана розных футраў. Адно толькі замест маладых сядзеў у ім дзядзька ў гадах, і ягоны бурнос, накінуты на кажух, амаль не варушыўся — дзядзька пабачыў, пэўна, ужо не адно вяселле і весяліцца пакуль што лічыў за глупства.

Коні з храпам задзіралі галовы, у чыстым паветры далёка разносіліся выкрыкі хлопцаў, стралялі з-пад капытоў камякі снегу. Дружына ляцела.

Аднак за невялікай завонькаю ўжо блізка бачыўся цёмна-шызы лес, насоўваўся, памалу расступаліся выносістыя сосны, паказваючы ніжэйшае драбналессе — ялінкі, бярэзінкі, ядловец з ляшчынаю,— і тут ужо коннікі мусілі перайсці на рысь, хаця галасы іх пры гэтым не сцішыліся, а, наадварот, памацнелі. Рэха заскакала ў вяршалінах дрэў, замітусілася ў кустоўі, зашархацела ў цяжкіх, аснежаных галінах старых соснаў. Здавалася чамусьці — рэха напалохала лес, прымусіла яго нават сцяцца, стаіцца. Ды дружыне ўсё адно было тут вольна і лёгка, як і ў полі. А жаніх і паміж дрэў круціўся чортам, кідаў каня з галавы ў хвост дружыны, трухаў побач з вазком, чапляўся з жарцікамі да дзядзькі — ад весялосці, ад радасці, што распірала грудзі, ад сваіх дваццаці з невялікім гадкоў.

— Што, дзядзька Мікіта, сычом сядзіш? — крычаў малады, Змітрок.— Надзьмуўся як мыш на крупы! Спявай, весяліся, як забяром маладую — і брага будзе, і да брагі, музыкаў учуеш... Гэх, воўча мяса, пакруціся шчэ! — і цуглі ўпіліся ў конскія губы, ажно выціснулася пена.

— Ды вось еду,— усё яшчэ сонна, як не дрэмлючы, адказваў дзядзька.

— Не абы ж куды едзеш!..

— Лепш па сена ехаць, чым на вяселле.

— Во сказануў! Хіба маладым не быў? Хіба радасці... шчасця не бачыў?

— Было шчасця. З жабіны прыгаршчы.

Бліжэйшыя хлопцы, што прыслухоўваліся да размовы, не хацелі прапусціць ніводнага слова, зарагаталі.

— Гэта, мусіць, ты сабе такую жонку ўзяў,— не здаваўся малады,— што жыццё нямілае. А з выгляду ж спраўная яна, твая цётка Васіліса, і не дурная.

— Жаніцеся, панічы, ды знайце скутку: тры дні вяселля, а цэлы век смутку! — як ні круці, а старэйшы перамагаў у жартаўлівай спрэчцы, ніяк маладому не ўдавалася збіць яго, трапіць не ў брыво, а ў вока. Ды ці ж дзіўна гэта?

— Эт! — махнуў рукой Змітрок.— Не тое дабро, што дабро, але тое, што каму даспадобы. Мне жаніцца даспадобы!

— Правільна! — нечакана згадзіўся Мікіта, засмяяўся.— Ажаніся — кепска, не жаніся — кепска. Старыя казалі — што два, то не адзін. Н-но! Паганяй, малойчыкі, дружына едзе, хто супраць такой устоіць!

Хлопцы загарлалі, засвісталі, пачалі падварушваць коней.

...Яны здаля пачулі, нават не пачулі — адчулі вяселле, і цяпер цяжкімі скачкамі, бо снег у лесе ляжаў глыбокімі сумётамі, спяшаліся да дарогі, каб перастрэць тых святочна выстраеных коннікаў і коней, фасоністы вазок. Яны як не слаліся над снегам, і не чуваць было іх лёту, ніводная галінка не дрыжала, закранутая поўсцю моцнай, шырокай спіны, не рассыпаўся лёгкім воблачкам сняжок-пудра ад ледзь чутнага павеву паветра, калі іх постаці рассякалі яго пры самых яловых лапках. Нават сойкі, якіх не магла ўтаймаваць, сцішыць самая лютая зіма, не ўздымалі вэрхал, калі пад імі праслізгвалі шэрыя постаці, не гналіся за імі з сакатаннем і лямантам. Ценяў было тры, яны беглі след у след, як не датыкаючыся да хваста пярэдняга. Самае дзіўнае, на снезе не заставалася слядоў. Зусім не заставалася, хаця яны павінны былі заставацца — вялікія, з ямінкаю, аблямаванаю дзіркамі ад кіпцюроў. Тры цені імчалі да вяселля. Яны мкнулі так упарта, упэўнена, пагрозліва, што той, хто б іх убачыў, да супынку сэрца спалохаўся б за тых, каго мусілі хутка дагнаць, спыніць гэтыя цені.

Яны ляцелі, бо не маглі не перастрэць вяселле; для іх гэта значыла тое ж, што і жыццё. Сэнс жыцця трох вялікіх шэрых зданяў якраз і быў у сустрэчы з вяселлем. Любым вяселлем. Чым весялейшае спяшалася ім насустрач вяселле, з рыпаннем скрыпак, бубненнем бубнаў, крыкамі і пошчакам капытоў — тым было лепш. Гэта ведаў кожны з трох, і таму кожны прагнуў сустрэчы з упарта-

сцю, апантанасцю, няўмольнасцю, якія могуць быць толькі пры дасягненні найвялікшай мэты.

З кожным скачком іх бег неверагодна паскараўся.

Здані сустрэлі дружыну перад самаю Вялікай палянаю, пасярод якой, бы вялізазная саха студні-кайдуба, стаяў сухі дуб, спалены маланкаю яшчэ ў невядома якія часы; ад паляны да лясной вёскі, у якой расцвіла Змітракова кветка-дзяўчына, была ўжо толькі гадзіна язды, і не шалёнай, на злом галавы, а звычайнай, рыссю. Першы дружок, Антось, згледзеўшы трох вялікіх ваўчынаў — пасярэдзіне, на самай дарозе, стаяў большы, па баках, трохі ззаду, два астатнія,— у першае імгненне інстынктыўна нацягнуў павады, і конь, збіўшыся з рысі, стаў бокам, загарадзіў дарогу.

— Ваўкі!

Вокліч зусім не напалохаў дружкоў, а, наадварот, яшчэ больш наддаў імпэту. Пакуль адны паказвалі на ваўкоў, узбуджана крычалі, размахвалі рукамі, з'язджаліся ў гурт, два хлопцы — зразумела, самыя маладыя — ужо і памкнуліся былі скакаць, гнацца, калі і не ўпаляваць, бо не было зброі, то хаця б проста патрэсціся ў сядле, пагалёкаць, адным словам — напалохаць гэтых лясных прывідаў, валацугаў. Ды ваўкі не зрушыліся з месца, нават не параварушыліся, і постаці іх — наструненыя, з высока ўзнятымі галовамі, незразумела ўпэўненыя — насцярожылі старэйшых, і перш Мікіту.

— Стой, маладзёны! — устаў ён у вазку, і голас яго — нечакана рэзкі, уладны — астудзіў усіх, спыніў; нават узялася цішыня.

А тыя двое самых маладых ужо ўзялі разгон, падскоквалі ў сёдлах, нічога не бачачы і не чуючы.

Самае дзіўнае — коні, якія пры ваўчыным з'яўленні заўсёды храплі, круціліся, прысядаючы на заднія ногі, стрыглі вушамі, дзіка выкочвалі бялкі вачэй,— коні іх зараз ахвотна скакалі да ваўкоў, быццам бачылі перад сабой якіх зайцоў, зусім не баяліся. Наогул усе коні стаялі спакойна, пафырквалі, пераступалі. І ўжо нават маладзейшыя ў нерухлівасці ваўкоў адчулі нешта не тое, ухапіліся за павады, вернучы галовы коней убок, а тыя ўсё не хацелі паварочваць, скакалі, і з кожным такім скачком бялелі перакошаныя твары хлопцаў, дранцвелі рукі і ногі, спыняў кроў жах. Нават тым, хто моўчкі на ўсё гэта гля-

дзеў, было вусцішна. Урэшце коні ўсё ж перад самымі мордамі ваўкоў завярнулі і лёгка памчалі назад, і хлопцы на іх драўляна падскоквалі, усё не маглі ачомацца.

— Не баяцца!..— здаўленым голасам сказаў нехта ў дружыне, і адказам гэтаму голасу былі толькі пафыркванне і мяккі перастук капытоў.

— Вось я і кажу,— сказаў дзядзька Мікіта,— што коні іх баяцца не будуць. І яны нікога не баяцца. Ні страла іх не возьме, ні дзіда, ні самы востры корд. А вяселле яны, калі могуць, перастрэнуць заўсёды. Во так пастануць — і стаяць. Не варушацца, не дыхаюць нават. Усё жыццё ўспамінаць будзеце, хлопчыкі, усё жыццё... Мала каму выпадае пабачыць. Можа, раз у сто гадоў. А мы з вамі бачым.

— Дзядзька, і што яны ўвесь час так стаяць будуць?...— у дрыготкім голасе быў непрыхаваны жах.

— Ды не. Пастаяць і пойдуць. Яны чакаюць зараз.

— Каго чакаюць?!

— Не каго,— усміхнуўся дзядзька.— Замовы чакаюць. І шкада ж іх... З чалавека ў звера перавярнуцца — не дай божа.

— А я чуў,— распіхваючы ўсіх, да вазка пад'ехаў Антось,— што раней можна было назад у чалавека перавярнуцца. Нават адзін князь быў... Мне Ігнась Забалоцкі — са збяднелых Забалоцкіх, не з тых, у каго маёнтак,— Ігнась расказваў пра Усяслава Чарадзея. Сёння воўк — заўтра чалавек. Адсюль у Кіеў воўкам бегаў.

— Гэтыя назад у людзей самі не могуць,— сказаў Мікіта.— У даўнейшыя часы, можа, і ўмелі, а тут ці забыліся, ці праклён які над імі. Раз вяселле шукаюць — не могуць. Іх людзьмі толькі такія, як мы, могуць зрабіць.

— Як?! — слова вырвалася ва ўсіх, і дружкі, нязвыкла ціхія, уважлівыя да дзядзькавых слоў, збіліся яшчэ шчыльней.

— Яно і проста, ды... Ат! — дзядзька махнуў рукой.— Бачыце, заўсёды да вяселля, заўсёды. Зразумела, зрэшты — вяселле ж самая што ні на ёсць чалавечая справа. Сям'я ладзіцца, гаспадарка, людзі ладзяцца! Вось як у цябе,— Мікіта павярнуўся да Змітрака.

— Дзядзька!..— зазвінеў голас малалога.— Кажы, дзядзька, як іх у людзей перавярнуць! А то пра мяне ён!..

— І правільна, пра цябе. А ім мы не дапаможам. Шкада іх, бачыш, чакаюць?

Мікіта раптам выскачыў з вазка і прайшоў колькі крокаў да тых, што чакалі.

— Няма ў нас нявесты, чуеце? — гукнуў ён.— І скрыпкі няма! Не дапаможа вам мая замова. Не верыце? То слухайце! І вы слухайце,— павярнуўся ён да дружыны.

Мікіта набраў поўныя грудзі паветра і закрычаў:

— Ці не досыць жа вам хадзіць, людзей смяшыць, сабак дражніць?! Ідзіце лепш дамоў!

Рэха ўзляцела да вяршалін соснаў, палунала там, дробненька паскакала ў кустах — і знікла ў гушчары. І ўсім здалося, што тых, каму рэха прызначалася, яно абмінула. Бо тыя стаялі ў каменнай маўклівасці, па-ранейшаму чакалі.

— Казаў жа я...— павярнуўся і пайшоў да вазка дзядзька.— Не пайшоў туды голас, не захацеў у бок паляны ісці. А пасля замовы трэба было на скрыпцы зайграць. Ні маладой, ні скрыпкі...

— Зараз!..— устаў у сядле Змітрок, і як не пазнаць было яго — рашучага, злога, прыгожага.— Зараз, дзядзька, і маладая будзе, і скрыпку ў рукі возьмеш! Чакайце, хлопцы, тут чакайце!

І ён сцебануў каня і памчаў проста на тых, што павінны былі таксама чакаць, мусілі чакаць, бо зараз ён не збіраўся шкадаваць ні сябе, ні каня, ні сваю маладую, каханую. Не шкадаваць дзеля іх. Дзеля будучых людзей.

— Стой!..— крыкнуў наўздагон дзядзька Мікіта, але дарэмна.

Тыя, на каго ляцеў Змітрок, ажылі, усе ўтрох адбегліся ўлева, зноў спыніліся. Пошчак слабеў, глухнуў, урэшце зусім сціх. Дружына маўчала, бо гаварыць не было чаго.

І тут тыя, шэрыя, маўклівыя, незямныя, раптам лёгка і бязгучна зрушылі з месцаў, выцягнуліся ў шнурок — морда да хваста — і слізганулі ў гушчар, зліліся з ім, растварыліся.

— Сто-ой!..— высокім, не голасам, падгалоскам закрычаў-заплакаў самы маладзенькі з дружыны, малодшы брат Змітрака Васілька, прымусіў здрыгануцца людзей, коней, дрэвы.— Сто-о-ой!..

І захвастаў свайго коніка, зусім спудзіў яго, сялянскага коніка, паскакаў у дрэвы, у гушчар з кустамі, засталася ад яго адно магерка, збітая суччам. Ды недалёка праскакаў Васілька, спыніўся, не ведаючы, у які бок гнацца за тымі, і заплакаў, па-дзіцячы, няўцешна.

Пяць машын вяселля, пяць «Жыгулёў», убраных каляровымі стужкамі, папяровымі кветкамі, паветранымі шарамі, гэтае зімовае поле, на якім павівалася лёгенькая замець і каціліся доўгія, абгладжаныя вятрамі сумёты, пераскочылі даволі хутка і толькі ў пералесачку, што застаўся, як невялікі востраў пасярод мора, ад колішняга Тамашэўскага лесу, прыцішылі хуткасць — дарога тут круцілася, як той вуж, што ўцякае ў хмызняк. Але ад гэтага ляска не ляска — купкі ялін ды бяроз — да вёскі, куды кіравалася вяселле, было ўжо ўсяго пятнаццаць — дваццаць мінут язды. У першай машыне, дзе на пярэднім сядзенні шчасліва ўсміхалася маладая з шасцігадовай дзяўчынкаю на руках, пляменніцаю, а ззаду надзвычай сур'ёзна глядзеў перад сабой і нічога не бачыў малады, было цёпла, утульна, з радыёпрыёмніка ляцелі рытмы сучаснай рок-музыкі,— у машыне панавалі радасць, свята. Малады, Дзіма, з усяе моцы стараўся прывесці да ладу свае думкі, хаця б падумаць аб нечым канкрэтным і абавязковым — і не мог. Маладая, Ірына, проста бяздумна ўсміхалася і прымала гэты дзень — з усмешкамі, віншаваннямі, пацалункамі, жывымі кветкамі — лёгка і вольна, такім, які ён ёсць. Яна была жанчынай, таму і не старалася думаць, ёй хапала таго, што яна ўмела адчуваць.

І тут гэтую заспакоенасць, што лягла перад новым выбухам віншаванняў і абавязковай мітусні, парушыў крык дзяўчынкі на руках маладой:

— Сабака, сабака!

Малая паказвала пальцам у акенца, і ўсе сапраўды ўбачылі метраў за пяцьдзесят, якраз пасярод дарогі, вялікага сабаку. Нават дужа вялікага сабаку — шэрага, з лабастай галавой, густой сівой поўсцю, тоўстым хвастом. Сабака стаяў, высока ўзняўшы прыгожую галаву, і глядзеў на машыны. І па нерухлівай, упэўненай постаці яго адразу адчувалася, што ён гэтых машын не баіцца. Ён нават чакае, каб яны пад'ехалі да яго як мага бліжэй. І ад таго, што ён вось гэтак чакаў, вадзіцель першай машыны адразу ж націснуў на тормаз і нават заглушыў матор. Пасталі, зразумела, і астатнія.

— Што гэта за сабака такі... дурны? — няўпэўнена спытаўся вадзіцель, дзядзька маладога — Мікола.— Стаіць як слуп. Га, Дзіма?

Малады не адказаў нічога, адчыніў дзверцы, вылез з машыны на дарогу, і хутка каля яго апынулася амаль усё вяселле. І амаль ніхто не ведаў, у чым справа, таму гала-

сы гучалі моцна і бязладна, кожны перабіваў суседа, смех і крыкі былі як на кірмашы. І, мусіць, доўга не маглі б маладыя з дзядзькам увесці ў вушы вяселлю пра дзіўнага сабаку, каб не малая, Святланка, тая, што першай убачыла яго — незразумелага і вялікага. Пакуль сваякі з гасцямі спрабавалі давесці адно аднаму і ўсяму свету нешта вельмі важнае, пакуль таўкліся, некаторыя нават спрабавалі пайсці ў скок, бо ўсё ж вырываліся з агульнай гаманы слабенькія гукі музыкі з радыёпрыёмніка,— Святланка адразу пабегла проста да сабакі. І ніхто спачатку не заўважыў гэтага, нават дзядзька з маладымі, бо іх штурхалі, распытвалі, не пакідалі ў спакоі, і малая ўжо ладна адбеглася, калі закрычала Ірына, будучая Дзімава жонка. І тады ўсе ўбачылі, што малая каля сабакі зусім блізенька. Вось тут прыціснула ўсіх да зямлі цішыня, якая раптам аказалася неверагодна цяжкай.

— Святланачка, стой! — звінеў крык маладой, але малая быццам і не чула.

А сабака стаяў зусім нерухліва, і Мікола, дзядзька, ужо ўскочыў у «Жыгулі», і ляснуў дзверцамі, каб газануць і паляцець ратаваць малую,— ды тая, бы ў нечым пераканаўшыся, павярнула назад сама. Яна бегла і нешта крычала, і сабака за ёй не гнаўся, не варушыўся, таму Мікола зноў заглушыў матор і выскачыў з машыны на дарогу. І толькі як малая падбегла да людзей, усе ўрэшце зразумелі, пра што крычала яна:

— Зусім не страшны!.. Харошы! Давайце з сабой яго возьмем!..

— Ды што гэта стаіць ён! — раззлавана закрычаў тады Мікола.— Дубальтоўкі няма, так бы пастаяў ён у мяне!

— Можа, воўк?..— сказаў нехта з натоўпу, і ўсе ўтаропіліся на таго, што стаяў перад вяселлем на дарозе як прывід.

— І праўду воўк!

— Здаравенны які!..

— Бачыце, не звяліся яшчэ...

А той стаяў.

— От халера! — пашкадаваў малады.— Сапраўды, ружжа няма... Адсюль абавязкова б пацэліў. Стаіць — як мішэнь.

І тут заплакала Святланка:

— Ён харошы, не злы!.. Ён не воўк!

Ніхто з натоўпу не чуў, зусім не зважаў на музыку, што лілася зараз з першых «Жыгулёў» — чыстыя гукі

скрыпкі ляцелі над зямлёй, ляцелі ў неба і ў поле, ляцелі да таго, што стаяў на дарозе. Ён слухаў іх, убіраў у сябе, стаяў. Ён глядзеў на людзей.

І вяселле не ведала, што рабіць.

Тады той вялікі, шэры, сівы ажыў, цяжка павярнуўся і пайшоў у лес. Не пабег — пайшоў.

Ён быў апошні. Спачатку, у той напаўзабытай, асмужанай лётам часу даўніне, якая была ўжо быццам і не явай, а трызненнем, іх было некалькі. Яны блукалі па вялізнай зямлі, сустракаліся ў лясных гушчарах, у палях і на балотах, сустракаліся каля людскіх паселішчаў — і заставаліся адно пры адным, бо былі аднародцамі. Можа, не аднародцамі — аднолькава народжанымі невядомымі людзям сіламі. Народжанымі незразумелым. Потым іх аказалася трое. Астатнія зніклі незаўважна, не пакінулі пасля сябе ніякага следу, і так павінна было быць.

А цяпер ён застаўся адзін. Дзесяцігоддзі зліліся ў адну нізку, нізку пакутлівых бадзянняў у сутоннях туманных імшараў, зрэдку — па ўскраінах вёсак, дзе вішчэлі, скавыталі, забіўшыся ў будкі ці пад ганкі, сабакі, дзе выскоквалі з хат людзі і, калі бачылі яго — вялікага, моцнага, здавалася ім — нахабнага,— стралялі. Ды дзе ім было ведаць, што кулі не бралі яго, як і даўнейшыя стрэлы. Як і смерць у звычным яе выглядзе.

Ён быў апошні.

І ён яшчэ зрэдку сустракаў якое-небудзь вяселле. Сустракаў, бо ведаў, што трэба сустрэць, трэба ўбачыць маладых і пачуць скрыпку. Але ж навошта трэба было сустракаць гаманлівае вяселле, ён даўно забыўся.

І яны сустракаліся, і ў вачах яго здранцвела стаяла цьмяна-глыбокая туга стагоддзяў.

...Ён, апошні, павярнуўся і пайшоў у лес.

## МАЕ РЭКІ

Даўно хацелася мне напісаць апавяданне не апавяданне, эсэ не эсэ, не проста звычайныя ўспаміны,— хацелася напісаць пра сваю першую раку, пра ўсе мае рэкі, па якіх я плаваў, на якіх лавіў рыбу, проста берагамі якіх я тупаў, шукаючы ўдачы і раўнавагі ў гэтым не заўсё-

ды ўладкаваным жыцці. У кожнага чалавека першыя ўспаміны заўсёды свае; яны, зразумела, розныя, часта дзіўныя,— але яны ёсць. Хтосьці запомніў сваю першую вуліцу з пыльнымі ясакарамі, з пахам нядаўна прайшоўшага статка, з бліжэйшаю лужынаю — у ёй першай давялося пабоўтацца,— і гэтая вуліца праз усё жыццё будзе стаяць уваччу, да яе будзеш цягнуцца, каб яшчэ раз адчуць босай нагой мяккі і цёплы пыл, але так і не трапіш на яе, застанецца яна шчаслівым і прыемным сном. А нехта ў хвіліны душэўнай расчуленасці будзе расказваць толькі пра лес — як ён пачынаўся адразу за вёскаю, спачатку малады ельнічак, потым бярэзіны з вольхамі і дубамі, там і балота, якое лепш абысці, чым перціся наўпрост, бо не такое яно ўжо і малое. І ў лесе тым чаго толькі не было — сунічныя паляны з маліннікамі, плантацыі ляшчыны, дзікія парэчкі, ад усяго гэтага патыхала грыбной сырасцю, і было там адно месцейка, дзе дакладна можна было ўзяць дзесятак-другі крэпенькіх, брылястых дзядкоў-дабрачкоў. Трэцім найдаражэй засаджаны бэзам і акацыямі двор звычайнага пяціпавярховага дома, у далёкім кутку яго хавалася альтанка, у якой аднойчы твая рука дакранулася да другой, вузкай і гарачай, і сэрца раптам спынілася і потым так закалацілася, што перад вачыма ўсё паплыло, перахапіла дыханне, пачырванелі не толькі вушы, шчокі, шыя, а і спіна. У кожнага ёсць сваё.

Дык вось я хачу пагаварыць пра рэкі. Рачулкі, рэчачкі, рэчкі. Ці пашанцавала мне, ці наадварот — згубіў я нешта, а лёс не прывязваў мяне да якой адной ракі — як і да вёскі, гарадка, горада. Мусіць, такім прыйшоў я на гэтую зямлю, што з шаснаццаці гадоў нават бацькоў пачаў бачыць на паўгода раз. Недзе нешта крутнулася, і перакаці-поле рушыла ў свой шлях, там-сям спыняючыся, аднак толькі да наступнага подыху ветру; другім разам нават зачэпіцца яно за якога куста, ужо і прывыкне да яго, як не зрасцецца з ім,— ды пакрысе аслабнуць яго сцяблінкі-рукі, як нежывымі зробяцца, абвіснуць, і не ўтрымае ўжо іх пругкасць гнуткага веццяя — жывое нежывому не патрэбна. А дзе спынішся, дзе апошні прытулак знойдзеш... ці ёсць сэнс ведаць гэта?

Мая першая рачулка была якраз для шасцігадовага малога, каб той мог у ёй пакупацца, пахадзіць, шукаючы на роўным пясчаным дне каменьчыкаў, нават злавіць рыбіну. Рачулка бегла па поплаве, ціха пазвоньвала, не вель-

мі круцілася, бо не надта каб было дзе схавацца,— яна была рачулкаю для малых. Мы і сядзелі на ёй усё палескае лета, як вядома — не зусім кароткае, плёхаліся, качаліся ў пяску, баяліся конскага воласу, там жа і біліся, вызначаючы сваё месца сярод сяброў. Там мне далі ў рукі дубец з жылкаю, начапілі на кручка — не менш як нумара шостага — муху, і сказалі, што, калі паплавок знікне — трэба торгаць. Я тады рыбаловам быў ніякім. Характар меў спакойны, насіў на рэчку з сабой кніжку — боўдзіла несусветнае,— і за дубца ўзяўся толькі з-за боязі, што Мішка, на два гады старэйшы ад мяне, дасць пстрычку ці нават пендаля. Мішка, чалавек разумны і вопытны, у мае рыбацкія здольнасці не верыў абсалютна, таму адразу адвярнуўся і забыўся на мяне. Я ж, махнуўшы вудаю, доўга бегаў па беразе за мухай, але яны лавіліся не гэтак лёгка, як тая рыбка, якую я вышмаргнуў. Тады я пайшоў прасіць мухі ў Мішкі. Той, гледзячы на паплавок, выцягнуў з кішэні запалкавы пачак з мухамі і махнуў рукою, каб я не блытаўся пад нагамі. Што-што, а старэйшых разумець чалавек умее яшчэ да таго, як пачынае гаварыць, таму я на ўсякі выпадак адбегся метраў на трыццаць. Мухі, гадаўкі такія, скончыліся вельмі хутка, ды і стаміўся я, увесь час бегаючы і збіраючы рыбінак у адну кучу. Рыбінкі падскоквалі, распаўзаліся, у траве ім не падабалася.

Урэшце я занудзіўся, сабраў тыя дзесяткі два рыбінак у кашульку і пайшоў да Мішкі.

— Хадзем дахаты,— сказаў я Мішку.

— Хто даў? — спытаўся ён, касавурачыся на рыбінак.

— Злавіў,— уздыхнуў я.— Мухі пакапчаліся.

— Хто злавіў, ты?! — разявіў рот Мішка.— Ану пакаж!

І сам начапіў муху на кручка. Паплавок адразу ўтапіўся, я тарганўў, рыбінка пераляцела цераз нашы галовы і мякенька цюпнулася ў траву.

Вось тут Мішка даў мне выспятка і забраў палову рыбінак, бо ў яго самога былі толькі дзве.

І пасля выспятка я адразу стаў рыбаловам. Чаму, я не ведаю, аднак пасля выспятка я раптам паказаў усе свае зубы, што там-сям пракідаліся ў роце, загыгыкаў і пару разоў скокнуў. Мяне падхапіла і загушкала вялікая і мяккая, магутная і рознакаляровая хваля шчасця.

А на цяперашні мой розум усё было даволі звычайна: тады я проста не ведаў, як гэта цяжка — лавіць рыбу.

А вось ужо як уведаў, то зрабіўся сапраўдным, шматпакутным, дзівакаватым і шчаслівейшым за многіх.

Мне здаецца, налавіў я тады сібількоў, ці верхаводак — вузкіх, невялічкіх, порсткіх рыбінак, што палююць на паверхні вады за мухай і мошкай. Асаблівы смак сібількоў і цяпер яшчэ бачу я ў тым, што падсмажаных іх можна есці з косткамі, выкідаючы адно галаву, хаця і тую, шчыра кажучы, выкідаць не абавязкова.

З тае пары і пачалося, што пад павеццю заўсёды напагатове была ў мяне вуда, у кішэнях як найвялікшыя каштоўнасці бераглiся жылка, кручкі, грузілы, і на ўвесь дзень я пачаў знікаць з хаты, што вельмі непакоіла маці — яна прывыкла, што дзіця хоць якую гадзінку сядзела з кнігаю, а тут яно ўсё пахавала і пачало ўцякаць, калі не пускалі. Дзякуй богу, мой бацька выхаваўчую работу вышэй за ўсё іншае не ставіў,— у асноўным я рос нармальна. Ну а маці на тое і маці, каб забараняць і не пускаць, а кожны хлапчук усе матчыны забароны абыходзіць спакойна і лёгка. Хочаш выжыць, будзеш змагацца.

На сваёй Цне мы, трое смаркатых кандыдатаў у першакляшкі, злавілі трохкілаграмовага шчупака. Пра гэта пісалася ўжо, скажу толькі, што шчупак той, пэўна, ці спаў пад карчом, ці быў такі дурны, што сам ускочыў у каша і сядзеў у ім, пакуль мы не выцягнулі яго на бераг. Калі б ён добра даў хвастом, то любы з нас не толькі паляцеў бы носам долу, а яшчэ б і вады наглытаўся. Але тым не менш шчупак апынуўся на беразе, мы поўзалі вакол яго на ўколенцах, Ванька ўсунуў яму ў пашчу руку і потым ледзь вызваліў яе— мы былі як шчанюкі, якім трапілася надзіва вялікая костка і якія не ведалі, што з ёй рабіць.

На Цне, акрамя сібількоў, я злавіў першую плотачку, першага акунька, ну і, як вядома, першага шчупака.

І сваім дзіцячым розумам я ўспрымаў усё прыблізна так — раз ёсць рэчачка, значыць, у ёй ёсць рыба. А паколькі яна там жыве, то зразумела, што ў кожнага хлопца павінна быць вуда, і таму хлопцу нічога не застаецца, акрамя як лавіць рыбу, аддаваць маці, каб яна яе смажыла, а таксама карміць кошку. У нас была сібірская кошка, якая пражыла з намі гадоў дзесяць, і рыбу яна не тое што любіла, а магла з'есці. Кошка была вельмі самастойная, у хаце амаль не жыла, так, заходзіла ў госці, і кожны год яна прыносіла тры-пяць кацянят. Кацілася наша Дуська заўсёды ў хляве, у кутку на гары, дзе стаяла для гэтай мэты скрыня з анучамі. Паглядзець на кацянят я прыво-

дзіў сваіх найбольш блізкіх сяброў. Дусьцы гэта надта не падабалася. Наогул з нашага сямейства Дуська паважала толькі маці, а бацька, я і меншая сястра Галька былі для яе пустым месцам. Як і наш сабака Дружок, які катоў не цярпеў, але Дуська яго не заўважала; таму Дружку нічога не заставалася, як адварочвацца ад яе і са стогнам пазяхаць.

Але пішу я пра рыбу.

Людзі часта спяшаюцца жыць. Гэта маё такое назіранне, ну і некаторы вопыт. Гарадок, у якім мы жылі, нейкага дня перастаў быць раённым цэнтрам, ён стаў проста гарадскім пасёлкам. І бацька заспяшаўся, таму што сапраўднае жыццё, на яго думку, можа ісці толькі ў горадзе, калі і не ў вялікім, то хаця б сярэднім. Там людзі, машыны, новая работа, невядомае, адным словам, а значыць, прывабнае. Дарэчы, так думаў не толькі бацька, а і многія людзі; думаюць яны і зараз, я таксама. Бацька вярнуўся ў родныя свае мясціны, у горад на Дняпры. Новая ў мяне рака, і адразу — Дняпро!

З палескай невялікай рэчачкі не мог я проста вось так лёгка і смела прыбегчы да Дняпра і ўвайсці ў яго, прыняць яго з вялікай прасторай вады і неба, з белымі і чырвонымі кручамі, з доўгімі плёсамі, бакенамі, ластаўкамі-берагавушкамі, лодачнымі прыстанямі, катэрамі і баржамі,— з яго велічынёй і моцаю. Я падабраўся да Дняпра па невялікай, хаця і большай за Цну, рэчцы Ведрыч.

Плаваць у той час я не тое што не ўмеў, а проста не думаў, што ёсць большыя і глыбейшыя за Цну рэчкі. Навошта мне было пра гэта думаць? У Цне плыві хоць гадзіну, а як захацеў стаць, то станавіся, калі ласка, і ідзі далей. Так што плаваць было не зусім і цікава.

Дзякуй богу, амаль у першы ж дзень мае новыя вулічныя сябры павялі мяне не на Дняпро, а на Ведрыч. Я і думаць баюся, што было б, калі б дняпроўскія хлапчукі, большасць з якіх плавалі, як рыбкі, убачылі мой страх перад вялікай вадой. А страх быў, вядома, як не быць. І хлапчукі пачалі б смяяцца, паказваць пальцам, здзекавацца. Мусіць, шмат хто ведае, як цяжка, крыўдна, страшна, пакутліва быць слабейшым у хлапечай камандзе. Дзеці шкадаваць, а тым больш разумець, амаль не ўмеюць.

Мы прыбеглі да Ведрычы, паскідалі штаны і кашулькі, памкнуліся да вады.

— Айда на той бок! — крыкнуў нехта, і ўсе з гвалтам, крыкам, піскам пападалі ў ваду.

Я быў спыніўся на імгненне перад утрая шырэйшай за Цну рэчкаю,— ды толькі матнуў галавой і таксама паплыў. Ніхто і не заўважыў мае затрымкі. Дарэчы, у некаторых людзей ёсць гэтая рыса — ці талент? — заплюшчыць вочы і кінуцца на злом галавы; рэзка памяняць сваё жыццё; закахацца з першага погляду; у першым класе ўбачыць сябе вучоным-фізікам (касманаўтам, футбалістам, пісьменнікам) і стаць ім. Мусіць, такія людзі ёсць. Я ж за сваё жыццё боўтнуўся плысці, амаль не ўмеючы плаваць, толькі разы два ці тры. А хочацца, каб здаралася такое шмат часцей. Ну ці не праўда, што рашучы чалавек жыве лепш і лягчэй? І, можа, тая жанчына, якую ты кахаў і кахаеш, адхінулася ад цябе, бо адчула твае ваганні, нерашучасць, няўпэўненасць? Хаця, з другога боку, чалавек не заўсёды ведае, ці правільна ён выбраў. І добра, калі ты ўведаеш, што выбраў няправільна. А як уведаеш? Супакоім сябе думкай: што ні робіцца — усё на лепшае.

А Ведрыч я пераплыў, упэўніўся, што на вадзе сяк-так трымаюся, і прыняў гэта як належнае. Наогул, гэта мая якасць — я не здзіўляўся, калі знаходзіў рубля, калі ў вялікай чарзе апошняя дэфіцытная рэч даставалася не жанчыне, якая без гэтай рэчы не магла жыць, а мне, нахабнаму тыпу, што, можа, і без чаргі ўлез,— вось гэта мая якасць асабіста мне не падабаецца. Я ўпэўнены, што калі табе замест вымовы, якую ты, як і кожны чалавек, заслугоўваеш, накідваюць лішнюю дзесятку ў зарплаце — трэба радавацца. У гэтым маім спакоі мне бачыцца некаторая непаўнацэннасць. У глыбіні душы я вельмі перажываю, нервуюся, і ў выніку радуюся не там, дзе трэба. Вось і атрымліваецца, што замест адпачынку, замест нармальнага дзевяцігадзіннага сну я ціснуся ў аўтобус, доўга еду, доўга іду з рукзаком,— і радуюся лясной рэчцы, на якой, можа, злаўлю галаўня. Ну, а як злаўлю...

З другога боку, не такі я дурны, каб не разумець, хто я ў вачах большасці людзей.

Ведрыч, пакруціўшыся кіламетраў пяць сярод дубоў і сосен, упадала ў Дняпро недалёка ад горада, дзе я жыў. Адлегласць зусім невялікая, я хутка прыйшоў, прыплыў да Дняпра. Але перад тым, як расказаць пра свайго Дняпра, хачу запэўніць, што рыбы ў той час у Ведрычы хапала, мы цягалі яе вудамі, вымалі з таптух і жакоў, лавілі, як умелі. А кажу я гэта для таго, каб вярнуцца да рэчкі Цны. Няма ўжо рыбы ні ў Цне, ні ў Ведрычы. Зразумела, не наогул у рэчках, а ў тых мясцінах, дзе я хадзіў з ву-

дай. Цна дык зусім зараз меліярацыйная канава, берагі яе голыя, вада брудная. Ну ды яна маленькая, Цна, скажа каторы, як-небудзь абыдзецца. Больш крыўдна за чысцюткую Ведрыч, вакол якой няма вялікіх балот, а значыць, і вялікага асушэння. Рыбу ў ёй атруціў спіртзавод, што стаіць на беразе рэчкі і раз-пораз спускае ў яе брагу ці нейкія іншыя адходы. У адзін з такіх вялікіх спускаў амаль уся наша частка горада бегла да Ведрычы, хапала прыснулых шчупакоў, плотак, ментузоў, язёў, і пра аднаго найбольш увішнага дзядзьку расказвалі, што прывёз ён на матацыкле аж тры мяхі рыбы. Я пра навіну дачуўся пазнавата, ледзь не заплакаў ад крыўды, але паспеў усё ж ухапіць ладнага мянька. І хаця сярод малькоў, што боўталіся дохлыя пры беразе, больш нічога вартага не знайшлося, я радаваўся.

Як заўсёды, я радаваўся не там, дзе трэба.

У той час такое мне было гора, што ў Ведрычы няма рыбы. У нас быў Дняпро.

Чамусьці я бегаў да Дняпра з бітончыкам. Можа, што гэта была самая зручная для мяне ёмістасць? Якраз для якога кілаграмчыка плотак ды акунькоў. Бяжыш па поплаве дахаты, гадзін ужо шэсць-сем вечара, а сышоў ты з самага ранку, і дзе-небудзь ля Палучэнкі — так называлася азярцо — цябе супыняе дзядзька.

— Ну пакаж, што насцёбаў?..

Прыўзнімаеш траву, дзядзька перабірае не надта вялікіх рыбін, падміргвае:

— На адзін зуб хопіць!..

Чырванееш. Гаворыш, што ўчора цэлых трыццаць плотак злавіў, за акном вісяць.

— Во, правільна! — хваліць дзядзька.— Самы сапраўдны рыбак. Ну пакаж, як ты рукамі ўмееш разводзіць. Больш, больш разводзь! Не навучышся паказваць — не навучышся лавіць.

Але бывае, што зробіш з жылкі нізалку і стараешся не бегчы, а ісці. Каб людзі лепей разгледзелі тваіх дзесяткі чатыры гусцёрак, срабрыстых, шырокіх, адна ў адну. Сёння пашанцавала на лодачнай прыстані. Якраз узяў з сабой цеста, рашыў палавіць з лодак, на глыбіні — і вось, калі ласка.

Мая рака Дняпро — цэлы свет з дзядзькамі ў саламяных брылях, якія сядзяць у сваіх чоўніках быццам і нерухліва, але досыць часта ходзіць у іх на жылцы, паказвае срабрысты бок язь: са шчыльнай сцяной лазнякоў на тым

баку ракі, вельмі прывабнай, прыцягальнай сцяной, бо заўсёды здавалася, што рыба там бярэцца многа лепей; з высокімі глеістымі кручамі, над якімі з піскам чэрцяць паветра ластаўкі; з сірэнамі катэраў і барж, што плывуць, здаецца, у невядома якія, а таму надта ж загадкавыя краіны; з хатамі на стромых берагах, у якіх жывуць сваякі і ў якіх ты часта п'еш прыцемкам толькі-толькі з-пад каровы сырадой; з такімі ж белагаловымі, загарэлымі, крышку канапатымі, як і сам, хлапчукамі, што золкам, удзень, адвячоркам нястомна тупаюць па траве і на глізах, напружана глядзяць на паплаўкі, ныраюць у вадзе, не баючыся ні плыні, ні віроў, ні лодак і цеплаходаў. З гэтых берагоў як не ўсе мае продкі, яны ляжаць пад драўлянымі і жалезнымі крыжамі на маленькіх могілках, і той пясчаны груд усаджаны бярозкамі і клёнамі, з яго бачыцца рака, суседнія вёскі, вялікія, як сягнуць вокам, паплавы, ссінявшызая палоска далёкага, які і паказвае рысу далягляду, лесу. А Дняпро цёк, мкнуў, жыў пад вёскамі, як і сотні, тысячы гадоў таму; ён як бы і нарадзіў, узняў гэтыя вёскі на свае берагі-плечы, а цяпер пазіраў на іх, як бацька, карміў, вёў у далёкі свет, калі чалавек нудзіўся на гэтым вось беразе, сох душой, трывожна сачыў за перадвосеньскім кружэннем буслоў, сам як не узмахваў рукамі. Тады Дняпро браў гэтае сваё дзіця, немаўля ў параўнанні з ім, і заносіў куды далёка, а на самой справе — зусім блізенька, каб гэты чалавек уволю нашукаўся, натупаўся, сцерся ў жыццёвых жорнах — і зразумеў, што жар-птушкі, увогуле, і няма, а калі і ёсць, то толькі на радзіме, на тым беразе, з якога сплыў.

Дняпро — той самы бог, якога чалавек выдумваў, надзяляў тым, чаго сам не меў — бессмяротнасцю, і адводзіў яму месца дзе-небудзь далёка, на небе, напрыклад, баючыся расчаравацца. І кідаўся ад веры да расчаравання, не знаходзіў сабе месца, мітусіўся, упарта не жадаў убачыць сапраўднага свайго бога, бо ён быў побач. Чалавек і глядзеў на Дняпро, як глядзяць часта дзеці-падлеткі на свайго бацьку — з паблажлівай нецярплівасцю, фанабэрыстасцю зялёнай маладосці, усмешачкаю; маўляў, што вы такое са сваімі старэчымі звычкамі і думкамі, са сваёй адсталасцю, вы ўжо ўчарашні дзень, а вось мы... мы сучасныя, разумныя, мы ведаем тое, да чаго вы не дайшлі; і таму мы будзем жыць сваім жыццём, а вы дажываць сваім, мы нават не будзем спрачацца з вамі і што-небудзь даказваць, бо мы ўсё разумеем. Ці ёсць сэнс упэўненай маладо-

сці звяртаць увагу на старое? Няма. Дняпро забруджаны, пабяднеў рыбаю, апусцела, пахілілася бацькоўская хата на яго беразе? Не бяды, Дняпро быў, і Дняпро будзе, а калі нават і знікне ён — зробім новую канаву, канал, магістральную артэрыю, якая з поспехам яго заменіць.

Мне б вельмі хацелася, каб гэтыя думкі засталіся толькі на паперы, але, на жаль — некаторыя так думаюць.

Пасля Дняпра, з якога і я з'ехаў, быў досыць доўгі час, калі ракі ў мяне не было. Канечне, здаралася, што вуду я закідваў, але было тое выпадкова і зрэдку. Вучыўся, працаваў, улетку ездзіў да мора, у горы, нават хадзіў на крэйсерскіх яхтах, пакуль адзін з сяброў не ўзяў мяне з сабой на рэчку Мочадзь. І хаця за год да гэтага ў Мочадзь выцекла бочка аміяку ці аміячнага раствору, пра што пісалася ў газеце, я са здзіўленнем знайшоў — рыба ў рэчцы жыве. І не абы-якая рыба, а харыус, па-мясцоваму — ліпень. Не трэба, мусіць, тлумачыць, што гэтым наша Мочадзь адрозніваецца ад іншых беларускіх рэчак і што менавіта з-за гэтага яна назаўсёды стала маёй ракой.

Пэўна, вельмі нямногія ведаюць пра ліпеня, таму паспрабую. Яго цяжка параўнаць з вядомымі нам плоткамі, карасямі, шчупакамі. Доўгі, моцны, з вялікім вясёлкавым плаўнікам на спіне і тлушчавым каля хваста, які і ёсць вызначальнай прыкметай ліпеня, з роўненькай і шчыльнай луской, вельмі непадобнай да лускі любой іншай рыбы. Пашча досыць вялікая, бо ліпень драпежнік. І ў яго амаль няма костак — адзін хрыбет — і зусім няма плавальнага пузыра. Толькі-толькі выцягнуты з вады ліпень моцна і рэзка пахне свежасцю ракі, а ў адной кнізе нават напісана — маладым гурком, хаця асабіста мне такое параўнанне здаецца даволі смелым. На кручку ліпень ідзе цяжка, калі зазяваешся і дасі слабіну — сыходзіць. Досыць вялікія чорныя і нейкія вельмі нярыбныя яго вочы часта глядзяць разумна. Асцярожны, хітры і нахабнаваты ліпень любіць паздзекавацца з рыбалова: ты стаяў, стаяў на быстрыні, кідаў пад берагі, мяняў чарвякоў на шыцікаў, шыцікаў на скачкоў і наадварот,— урэшце не вытрываў, вылез на бераг і выпадкова зірнуў у чыстую ваду Мочадзі. Адтуль на цябе глядзяць, варушаць плаўнікамі, крышку і падскокваюць два-тры ліпені, спачуваюць. А з берага яго не зловіш — усюды кусты і дрэвы, толькі заблытаеш жылку, ды і ліпень усё бачыць і калі трэба ўцячэ.

Ранак, дыміцца рака, ад вады ў ногі востра ідзе холад, шум хуткай вады запаўняе ўсё наўкол, нават глушыць ценькание птушак. За дзесятак гадоў, што ты пратупаў на Мочадзі, ведаеш: ліпеня можна злавіць толькі з вады, спускаючыся ўніз па рацэ. Асцярожна ідзеш сярэдзінаю ракі, кідаеш у ямы пад берагі, пускаеш жылку метраў на дваццаць — трыццаць, чакаеш. Урэшце, каля паваленага дрэва, што кракадзілам тырчыць з вады, паплавок рэзка топіцца. Падсёк, паспеў. Павольна, без рыўкоў вядзеш рыбіну да берага, выкідваеш. У руках ліпень выгінаецца, папісквае, шырока разяўляе рот, але любавацца ім няма калі. Ізноў брыдзеш, кідаеш, раз-пораз увальваешся ў ямкі, якіх яшчэ летась тут не было — рака не спіць, заносіць пяском старыя ямы, намывае новыя, нясе і нясе веткі, трэскі, кавалкі кары, траву. За чатыры кіламетры табе ўжо тры разы трапіліся дзікі, што захлынуліся ў паводку. Адзін ляжыць на астраўку, насаджаны на востры кол, другі на беразе ў высокай траве, трэці толькі ўгадваецца з вады, бачыцца адно рудая шчэць. Сонечныя праменні прабіваюцца скрозь гушчыню дрэў, запальваюць быстрыні, разганяюць туман, і разам з імі пачынае гуляць ліпень. Па ўсёй рацэ — на перакатах, пад берагамі, на меліне і ля самых ног выскакваюць з вады жывыя кавалкі срэбра, усплёскі амаль не сціхаюць. Толькі цяпер бачыш, колькі ў рацэ ліпеня, што ў гэтыя ранішнія хвіліны палюе за мухай. Хуценька здымаеш грузіла, чапляеш скачка — і адразу ўдар, наструненая жылка, супраціўленне моцнай рыбы. Заўважаеш, што на кусце ляшчыны, які звісае з чырванаватае стромы, шамаціць, сноўдае, працуе вавёрка. Падкрадваешся, закідваеш, яшчэ адзін ліпень варушыцца, б'ецца ў садку, за ім і другі. З удзячнасцю глядзіш на вавёрку, што прынадзіла сюды рыбін. А яна і не заўважае цябе, скубе арэхі, працуе.

Незаўважна ідуць гадзіны, наліваецца стомай рука, што трымае вудзільна, у высокіх паляўнічых ботах хлюпае вада, але ты ўсё не можаш вылезці на бераг і рушыць да палаткі.

Пра ліпеня я мог бы расказваць доўга. Што лавіць мы яго пачынаем з вясны. Што аднойчы — празрыстай сярэдзінаю восені — нас, трох рыбаловаў, праводзілі каля сотні ліпеняў; мы пераходзілі па паваленай бярэзіне раку, і пад бярозай стаялі, махалі на развітанне хвастамі каля сотні ліпеняў; у нас аж адняло мову, і мы доўга не маглі зрушыць з месца. Што самы вялікі ліпень, якога мы зла-

вілі за ўсе гады — сорак два сантыметры. Што ёсць у нас адзін чалавек, які ўжо тры гады рэгулярна прыязджае на Мочадзь, дастае адмысловую снасць, ловіць; гэты чалавек рыбалоў, яшчэ не злавіў ніводнага ліпеня. Што многія мае знаёмыя вельмі весяляцца, калі чуюць пра ліпеня.

Ды і хіба мала пра што можна выдумаць, ці не праўда?

Былі рэчкі Цна і Ведрыч, ёсць Дняпро і Мочадзь, ёсць многія іншыя,— ёсць рэкі. Адзінае, на што мне яшчэ хочацца звярнуць увагу, гэта на тое, што мае Цна і Ведрыч існавалі не некалі вельмі даўно, не «за польскім часам», калі і вада была макрэйшая, і паветра чысцейшае, і лясы гусцейшыя, а людзі вышэйшыя,— Цна і Ведрыч існавалі на маёй памяці, памяці даволі маладога чалавека.

І ўсё ж ёсць яшчэ мая Мочадзь, яна мяне чакае, наступнымі выхаднымі я выйду да яе з рукзаком і вудай.

ЗМЕСТ

АПОВЕСЦІ



АПАВЯДАННІ

**Кажадуб А.**

К 13 Лесавік: Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 221 с.: іл.

Новая кніга празаіка ўключае аповесці «Высока сонейка, высока», «Лесавік» і апавяданні. Аповесць «Высока сонейка, высока» прысвечана жыццю сучаснай вёскі — любові людзей да зямлі, каханню, вернасці хлебаробскім традыцыям. У аповесці «Лесавік» ажыццяўляецца спроба рэканструяваць адзін са старажытных пластоў народнай міфалогіі.

У апавяданнях пісьменнік стварыў яркія, запамінальныя вобразы маладых сучаснікаў, аналізуе праблемы бацькоў і дзяцей, узаемаадносіны чалавека з прыродай.

К $\frac{4702120200-034}{М 302(05)-87}$ 16—87 **ББК 84Бел7**

Александр Константинович КОЖЕДУБ



ЛЕСОВИК
Повести и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *І. І. Кананові*ч.
Мастак *В. В. Альшэўскі*.
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*.
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*.
Карэктар *Л. П. Бялова*.

ІБ № 2670
Здадзена ў набор 09.06.86. Падп. да друку 13.01.87. АТ 07520. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,76. Ум. фарб.-адб. 11,76. Ул.-выд. арк. 12,86. Тыраж 6500 экз. Зак. 2592. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

---

**НАБЫВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ
НОВЫЯ ТВОРЫ
БЕЛАРУСКІХ ПРАЗАІКАЎ**

---

*В. Адамчык*
І СКАЖА ТОЙ, ХТО НАРОДЗІЦЦА
*Раман*

*А. Асіпенка*
СВЯТЫЯ ГРЭШНІКІ
*Раман, аповесць*

*В. Быкаў*
КАР'ЕР
*Раман*

*В. Казько*
ХРОНІКА ДЗЕТДОМАЎСКАГА САДА
*Раман*